

Бухгалтар калгаса імя Жданава Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці Марыя Снігірова рыхтуецца да заняткаў па палітвучобе. (Да нарыса «Навейшая гісторыя»).
Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

У НУМАРЫ:



**11** (69)

Лістапад.

1958.

Год выдання VI.

Газетна-часопіснае выдавецтва
Галоўвыдата Міністэрства
культуры БССР.
Мінск.

Мастацкі рэдактар В. Грамыка. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость».**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон — 93-854.

Фармат паперы 70×108 1/16. Друк. арк. 10. Вуч.-выд. арк. 12. Тыраж 12.000 экз. Цана 4 руб.

АТ 04764. Здадзена ў набор 1.X.58 г. Падпісана да друку 1.XI.58 г. Заказ. 554.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.




М. ЯРАВЫ

# НА КАМСАМОЛЬСКІХ БУДОЎЛЯХ

З кожным годам мяняецца аблічча Савецкай Беларусі. Растуць новыя фабрыкі, заводы, узнікаюць пасёлкі, пракладваюцца новыя дарогі...

Улетку непадалёк ад Полацка на левым беразе Заходняй Дзвіны разгарнулася будаўніцтва буйнейшага ў краіне нафтаперапрацоўчага завода. Ля вёскі Чыжэвічы, пад Старобінам, будуецца калійны камбінат. Пад Брэстам засноўваецца электрагорад — Бярозаўская ДРЭС.

Гэта — ударныя, камсамольскія будоўлі. Як баявое, канкрэтнае заданне ўспрыняла беларуская моладзь рашэнне аб шэфстве над імі. З розных куткоў рэспублікі па камсамольскіх пуцёўках юнакі і дзяўчаты едуць на новабудоўлі.

Што сёння новае на ўдарных камсамольскіх будоўлях, як моладзь выконвае баявое заданне Радзімы?

**Выпускнікі сярэдніх школ Ніна Казленка, Валя Таміла і Галя Маголіна прышлі на будоўлю Старобінскага калійнага камбіната рознарабочымі.**



### У Чыжэвічах, пад Старобінам

Торф, гліна, пясок... Такі адказ звычайна раней даваўся на пытанні, што ёсць з карысных выкапняў у Беларусі. Гэта сцвярджалі і ста-

рыя даведнікі. Настойлівая работа савецкіх геолагаў, іх пошукі змянілі гэтую думку, змянілі такое ўяўленне аб нетрах зямлі беларускай. На Палессі знойдзена нафта. Непадалёк ад вёскі Чыжэвічы выяўлена вялікае месцанараджэнне калійнай солі.

І калі стала вядома, што над будаўніцтвам калійнага камбіната бярэ шэфства камсамол, у Чыжэвічы па камсамольскіх пуцёўках рушылі маладыя патрыёты. У ліку першых сюды прыбылі выпускнікі Мінскай будаўнічай школы, а таксама юнакі і дзяўчаты з іншых месц. Кемал Гурбаліеў прыехаў з Азербайджана, Ульяна Гармідзер — з Архангельска, Мікалай Жартун — з Рыгі, Мікалай Цемнікаў і Аляксандр Мехнік — з Салікамска, Іван Падлубіцкі — з Таліна, Міхаіл Пракаповіч — з Карэльскай АССР.

З прыездам маладых энтузіястаў закіпела работа. Бясконцым патокам ідуць аўтамашыны з рознымі будаўнічымі матэрыяламі, неабходнымі агрэгатамі, канструкцыямі. Ужо знайшліся справы для бетоншчыкаў, муляраў, цесляроў. Яны будуюць жыллё і вытворчыя памяшканні. Дзень 10 жніўня стаў днём нараджэння камбіната. З хваляваннем некалі людзі будуць чытать надпіс на масіўнай пліце: «10.VIII.1958 года тут закладзен горад Нова-Старобінск». Гэта будзе горад хімікаў і шахцёраў, ён зойме прыкладна 270 гектараў. Тут вырастуць стадыён, кінатэатры, школы, дзіцячыя сады, яслі, гасцініца. Побач раскінецца мора.

Сёння поўным ходам ідзе будаўніцтва завода жалезабетонных канструкцый, бетоннага завода і інш.

Сярод маладых будаўнікоў, якія спаборнічаюць за дастойную сустрэчу 40-годдзя БССР, вылучаецца брыгада Вольгі Жарскай. Дзяўчына скончыла дзесяцігодку, папрацавала ў канцылярыі бухгалтарам, але ўпэўнілася, што не тут яе прызванне, і прыехала на будоўлю. З ёю прыехалі Роза Усовіч і Марыя Русак. За кароткі час сяброўкі авалодалі будаўнічымі



Адзін з лепшых шафёраў на будаўніцтве Бярозаўскай ДРЭС Мікалай Сідарук.

спецыяльнасцямі і выйшлі ў рады перадавікоў будоўлі.

Такіх людзей на новабудоўлі шмат.

І брыгада Івана Сергіені, і Мікалая Сячко, і Аляксандра Прахорыка, — усе яны стараюцца, усе з гонарам нясуць ударную вахту напярэдадні 40-годдзя БССР, змагаюцца за першынство.

У жылым гарадку Нова-Старобінска вырас новы дом. У ім размясціўся маладзёжны інтэрнат. Да канца года будзе здадзена ў эксплуатацыю 15 такіх дамоў плошчай звыш 4000 квадратных метраў.

Хутка будуецца 32-кіламетровая чыгунка, якая злучыць новабудоўлю са Слуцкам.

На новабудоўлі створан камсамольскі штаб. У яго складзе — прынцыповыя таварышы: тэхнік-будаўнік Тамара Курбыка, эканаміст Тамара Заяц, старшы прараб Мікалай Канопка. Камсамольцы-актывісты выпускаюць баявыя



лісткі, насценныя газеты, змагаюцца з недахопамі на ўчастках.

Ажывілася дзейнасць камсамольскай арганізацыі. Нядаўна камітэт камсамола выступіў з прапановай: два разы ў тыдзень папрацаваць па адной лішняй гадзіне на рахунак камсамольскай скарбонкі. Усе ахвотна прынялі гэтую прапанову. Падлікі паказалі, што да канца года ў камсамольскай скарбонцы будзе звыш 50 тысяч рублёў! Гэта — падарунак будаўнікоў слаўнаму юбілею БССР.

Камсамольцы рашылі весці летапіс будаўніцтва камбіната і расказваць у ім аб росце прадпрыемства і яго людзях — будаўніках.

Каб будаваць, трэба шмат ведаць, трэба вучыцца. Разумеючы гэта, стваральнікі новага камбіната павышаюць свае веды. Каля 300 юнакоў і дзяўчат вучыцца ў Чыжэвіцкай вячэрняй школе. Многія паедуць у хуткім часе на буйнейшыя хімічныя камбінаты, каб стаць аўтаклаўшчыкамі, апаратчыкамі і іншымі спецыялістамі будучага беларускага гіганта. Неўзабаве на прадпрыемстве адкрываюцца курсы, дзе пачнецца падрыхтоўка рабочых розных спецыяльнасцей.

Першая чарга хімічнага камбіната будзе пушчана ў 1961 годзе. Тут запрацуюць некалькі шахтаў, узбагачальныя, памольныя і перапрацоўчыя фабрыкі. Камбінат забяспечыць калійнымі ўгнаеннямі Беларусь і Прыбалтыку.

Маладыя патрыёты, смелыя, моцныя духам людзі, працуюць на новабудоўлі самааддана, з агеньком, памнажаюць намаганні ў спаборніцтве за дастойную сустрэчу XXI з'езда КПСС і 40-годдзя БССР.

## Паблізу Броннай Гары

У красавіку 1958 года экспедыцыя пасля настойлівай працы дала заключэнне: «Падыходзячае месца для магутнай ДРЭС. Работы можна пачынаць».

Неўзабаве ля станцыі Бронная Гара ўзнікла перавалачная база Бярозаўскай электрастанцыі, якая будзе самай буйнай фабрыкай электрычнасці ў рэспубліцы. Вялікі ўчастак занялі склады і гараж. З розных канцоў краіны сюды прыбывае абсталяванне. Дзесяткі прадпрыемстваў выконваюць заказы ўдарнай камсамольскай будоўлі.

Ідуць вагоны з цэментам, цэглай, з машынамі.

Разгарнуліся будаўнічыя работы. Завіхаюцца экскаватары, няспынна гудуць самазвалы. Самае галоўнае сёння для будоўлі — пад'язныя пуці, дарогі ад станцыі ў раён будучай электрастанцыі. Гэтую работу даручана весці пятаму брэсцкаму будаўнічаму ўчастку трэста «Белтрансбуд». Калектыў дружны, зладжаны. Яму трэба будзе пабудаваць 20-кіламетровую трасу, пуцепровад, штучныя збудаванні, жыллё. Работа цяжкая, аб'ём яе вялікі, але гэта не палохае будаўнікоў.

На будоўлі ўжо выраслі майстры сваёй справы. Усім тут добра вядома імя экскаватаршчыка Аляксандра Рыбака. Складаная гэта прафесія. Спачатку не ладзілася з работай у хлопца — ледзь норму выцягваў. Яму на дапамогу

Брыгадзір па будаўніцтву чыгункі з Броннай Гары да будаўнічай пляцоўкі Бярозаўскай ДРЭС Аляксей Цюленеў і ўчотчыца Марыя Гусачок.



прышоў вопытны экскаватаршчык Задруцкі, і Аляксандр павесялеў. У хуткім часе знайшоў «сакрэт» і амаль што дагнаў свайго настаўніка — даў 125 працэнтаў нормы.

Гэта быў поспех. Але камсамолец не спыніўся на дасягнутым. Настойліва шукаючы новыя рэзервы для павышэння выпрацоўкі, ён прышоў да думкі: на цяжкім грунце трэба паварот на выгрузку рабіць толькі з напоўненым каўшом. Аказалася, што лепш напаўняць коўш у два прыёмы, чым траціць час на паварот з незапоўненым каўшом. Экскаватаршчыку ўдалося зменшыць затраты часу на адзін цыкл у сваім вытворчым працэсе.

Экскаватаршчыка часта затрымлівалі шаферы. Аляксандр надумаў, каб пры экскаватары былі пастаянныя шаферы. Параіўся з сябрамі і са сваёй прапановай пайшоў да начальніка будоўлі.

Цяпер экскаватаршчыкі працуюць без затрымак. Аляксандр Рыбак выконвае заданне на 250—300 працэнтаў.

Выдатна працуе і Аляксандр Кулінковіч. У яго ўвесь цыкл работы экскаватара займае лічаныя секунды.

Сярод вадзіцеляў самазвалаў асабліва добра вядома імя Мікалая Сідарука. Паўтары — дзве нормы за змену — вось яго вытворчы паказчык. Нягледзячы на бездарожжа, хлопец дамагаецца вялікай эканоміі паліва. Гэта ж можна сказаць і пра Анатоля Кушнярука, Паўла Ігнацюка, Сцяпана Ленскага. Яны нясуць цяпер увесь цяжар працы на будоўлі.

На будоўлі вопытныя кіруючыя кадры. Многія з інжынерна-тэхнічных работнікаў раней будавалі вядомыя ў краіне электрастанцыі. Інжынер-электратэхнік Яўген Селівончык прыехаў з Куйбышаўскай ГЭС. Ёсць тут інжынеры і тэхнікі, якія будавалі Смалявіцкую ДРЭС, БелДРЭС.

Хутка будуць гатовы пад'язныя пуці. На чарзе — будаўніцтва энергавузла. Работы ўперадзе многа. Маладым будаўнікам прадстаіць: выкапаць 7 мільёнаў кубаметраў зямлі, сабраць 40 тысяч квадратных метраў драўляных канструкцый, зманціраваць 150 тон металу...

— Каб паскорыць тэмпы работ, — расказвае начальнік электрастанцыі Уладзімір Міхайлавіч Глінскі, — мы рашылі завозіць жалезабетонныя канструкцыі з Мінска. У выніку адпадзе неабходнасць мець свой бетонны і механічны заводы. Выгада ад гэтага вялікая: па-першае, работы будуць весціся хутчэй, па-другое, вызваляецца вялікая колькасць рабочай сілы і тэхнікі. Магутныя механізмы заменяць сотні мантажнікаў, бетоншчыкаў, арматуршчыкаў...

Шырыцца размах работ на ўдарнай будоўлі. Расце лік пасланцоў камсамола, якія па камсамольскіх пуцёўках прыбываюць сюды. Ва ўсіх адно імкненне: хутчэй закончыць падрыхтоўчыя работы і выйсці на бераг Белага возера, дзе з жалезабетону вырасце будынак Бярозаўскай ДРЭС. Гэта будзе самая магутная з раённых электрастанцый Беларусі. Па яе правадах ток пойдзе ў Мінск, Баранавічы, Пінск, Брэст і многія іншыя гарады і вёскі рэспублікі.

Пройдзе час, і заззяюць агні новага электрагорада. Ажыве, стане непазнавальным наваколле па-над Бярозай.

## Нафтабуд бярэ разгон

Ужо сёння вырысоўваюцца контуры гарадка будаўнікоў нафтаперапрацоўчага завода пад Полацкам. За некалькі месяцаў зроблена многа. Заканчваецца зборка 32 дамоў-інтэрнатаў. Як і раней, на будоўлі вызначаюцца комплексныя камсамольска-маладзёжныя брыгады Аляксея Гугалінскага, Ніны Кузняцовай, Леаніда Чудакова. Тут працуе шмат нядаўніх дзесяцікласнікаў. Гарачае змаганне за першынство ў спаборніцтве ідзе паміж брыгадамі Кузняцовай і Чудакова. Як адна, так і другая кожны дзень выконваюць зменныя заданні на 140 — 150 працэнтаў. Час пакажа, хто заваюе сцяг пераможцы ў гонар XXI з'езда КПСС і юбілею рэспублікі.



У будаўнікоў залатое правіла — пачаў аб'ект, не пакідай яго, пакуль не закончыш. Ім нялёгка ў працы. Як і цаліннікі, яны пачалі справу з першай тычкі на неабжытым месцы. Але юнакоў і дзяўчат гэта не палохае.

На нафтабуд прыбываюць усё новыя атрады маладых патрыётаў. Спачатку ім прыходзіцца працаваць рознарабочымі. Але ж гэта не бяда — сталь не адразу гартуецца. Пройдзе час, і яны стануць мулярамі, бетоншчыкамі, майстрамі.

Часам не ўсё ідзе гладка ў рабоце. Нафтабудаўцаў затрымліваюць праектыроўшчыкі з высылкай чарцяжоў, несвоечасова пастаўляюць цэмент Ваўкавыскі і Крычаўскі заводы, у даўгу перад імі і Аршанскі сілікатны завод. Камсамольцы будоўлі звярнуліся з пісьмом праз газету да моладзі гэтых прадпрыемстваў, каб яна ўзяла пад свой камсамольскі кантроль выкананне заказаў ударнай будоўлі. Ганаровы абавязак — дапамагчы сябрам, якія нясуць камсамольскую вахту на пярэднім краі.

Нафтабудаўцы выклікалі на сацыялістычнае спаборніцтва маладых будаўнікоў Старобінскага калійнага камбіната.

Усе, як адзін, маладыя будаўнікі нафтабуда сталі на ўдарную вахту ў гонар XXI з'езда КПСС. Яны ўзялі на сябе павышаныя абавязацельствы, далі слова выканаць гадавы план будаўніча-мантажных работ да 1 снежня; да 40-й гадавіны БССР здаць у эксплуатацыю 7,5 тысячы квадратных метраў жылля, а таксама сталовую, лазню, кінатэатр, палігон жалезабетонных вырабаў.



**Каця Ніколіна прыехала з Ленінградскай вобласці, каб удзельнічаць у будаўніцтве Полацкага нафтаперапрацоўчага завода.**

Нафтабуд бярэ разгон. Метр за метрам адступае пад націскам камсамольцаў сасновы лес, а на яго месцы кладуцца траншэі, падмуркі, расце гарадок. Расце і мужная армія яго стваральнікаў. Многа слаўных спраў зроблена, а яшчэ больш наперадзе, вялікіх, важных, сапраўды рамантычных.

**Марыя МАРЫНА**

# СОНЦА ЎЗЫШЛО

Гэта было ў 1917 годзе. Мінская турма была перапоўнена. Тут апынуўся ўвесь актыў салдат. Ваеннаму ўрачу Аляксандры Мікалаеўне Цярэнцевай, як члену Мінскага гарадскога Камітэта РСДРП(б), даручылі весці ў турме арганізацыйную і прапагандысцкую работу.

У турму Аляксандра Мікалаеўна прабіралася ноччу. Яна ішла, злуючыся на свае боты, якія моцна грукалі па каменнях, а па баках вуліцы туліліся крывыя хаткі тагачаснага Мінска. Турма ўзвышалася цёмным гмахам.

Звычайна пры апісаннях турмы ўпамінаюцца моцныя краты, злавесны лязгат жалезных затвораў, змрок каменных скляпенняў, які гняце душу чалавека. Яна ж уздыхала з палёгкай, калі за яе спіною зачыняліся цяжкія турэмныя вароты. Тут яе ўжо не дастануць начныя эсэраўскія патрулі, што шныраць па ўсяму гораду.

Уменне падыходзіць да людзей, разумець самую сутнасць іх душы дапамаглі ёй і тут. Яна знайшла сумленных людзей нават сярод турэмных наглядчыкаў. Яны згадзіліся дапамагаць ёй і дапамагалі сумленна. Паведамлялі паролі, прызначалі час для прыходу. Адчынялі камеры, дзе сядзелі патрэбныя ёй людзі, выпускалі іх у калідор. Тут і праводзілася работа: сходы, мітынгі, гутаркі.

І тут спатрэбіўся «акопны» вопыт з «дзесяткамі». З іх фармаваліся ўзводы і роты Першага Рэвалюцыйнага Мінскага палка. Вайсковай справай займаўся зняволены прапаршчык, бальшавік Рамнёў. Старасты «дзесяткаў» пасылаліся ў горад «за харчамі». Там яны бывалі на партыйных сходах, бачыліся з патрэбнымі людзьмі і разам з бульбай прыносілі ў турму газеты, бальшавіцкія лістоўкі, брашуры. А потым, ноччу, расказвалі пра ўсё, што бачылі і чулі ў горадзе.

Яны тут нават спявалі рэвалюцыйныя песні. Вывучылі «Інтэрнацыянал». Спявалі: «Это есть наш последний и решительный бой...» і рыхтаваліся да гэтага бою.

Няма сумнення ў тым, што турэмнае начальства ўсё гэта бачыла і чула. Але яно рабіла выгляд, што не заўважае. Гэта было вельмі паказальна: нават турэмнае начальства не верыла ў даўгавечнасць Часовага ўрада.

* * *

І вось ён надышоў, цудоўны час! Рэвалюцыя рабочых, салдат



і сялян перамагла! Усюды, ва ўсіх часцях гучна, урачыста і радасна чыталі ленінскія словы, якія гаварылі людзям аб надыходзе новай эры ў жыцці ўсяго чалавецтва.

Улада ў арміі перайшла да салдацкіх камітэтаў. У горадзе Мінску ствараліся рабочыя камітэты.

Аляксандру Мікалаеўну Цярэнцеву выбралі ў члены Прэзідыума Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, а таксама ў склад Ваеннага Рэвалюцыйнага Камітэта. Яна была камісарам Чырвонага Крыжа Заходняга фронта. І яшчэ — галоўным урачом Мінскага псіхіятрычнага шпіталю.

Першым клопатам Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў было вызваліць з турмы палітычных вязняў і ваенных бальшавікоў. Полк, сфармаваны ў турме Цярэнцевай і Рамнёвым, ужо быў пастроены ля дома № 6 па Петраградскай вуліцы. Ён быў забяспечаны па ўсіх правілах — зброяю і абмундзіраванне забралі з ваенных складаў.

Аляксандры Мікалаеўне спатрэбілася і яе ўменне валодаць зброяй. Яно спатрэбілася ў барацьбе з контррэвалюцыяй. Ёй даручалі такія аперацыі, калі аднаго ваеннага ўмення было недастаткова, а патрабаваўся яшчэ і «асаблівы» падыход да справы.

Недалёка ад Баранавіч быў выяўлены атрад «Ударнага батальёна смерці». Складаўся гэты батальён з выхаванак інстытута «шляхетных дзяўчат», гімназістак, што заседзеліся ў старэйшых класах, і ўсялякіх іншых экзальтаваных асоб, якія далі прысягу свайму куміру — Сашы Керанскаму «не здавацца да самай смерці».

Было іх сотні дзве. Пазіцыю яны займалі для абароны зручную, але для атакуючых дрэнную. Дабірацца да іх даводзілася амаль па голым месцы.

З Цярэнцевай ішло паўроты чырвонагвардзейцаў. Яна спыніла байцоў, каб растлумачыць задачу.

— Праціўніка абяззброіць і ўзяць у палон. Пастарацца абысціся без страт, — праціўнік жа ўсё ж... жанчыны. Галоўная зброя ў гэтай аперацыі — раптоўнасць налёту. Максімальна ўзмацніць псіхічны момант, а гаворачы проста — узяць на перапуд!

Ёсць у Аляксандры Мікалаеўны асобая струнка: нават у самай небяспечнай і сур'ёзнай справе раптам праскочыць у яе такі ўдалы, вясёлы агеньчык. Праскочыць гэты агеньчык і ўсіх запаліць, і разам з ёю ўжо ніхто не сумняваецца ў шчаслівым зыходзе справы.

Падзелены на-двое, атрад падышоў да «батальёна смерці» адразу з двух бакоў і абрушыўся на іх акопы маланкава, з ходу, з крыкам на ўсе мужчынскія галасы адначасова: «Здавайцеся-а-а. Контра! Рукі ўгору!»

У акопах — віск, паніка! Камандзір Маруся страціла прытомнасць. Давялося ўзяць яе ў шпіталь на лячэнне. А ўсіх «ваяк» абяззброілі і ўзялі ў палон. Задача была выканана па ўсіх пунктах: страт не было ні з аднаго боку. Зброі ўзялі шмат, і аказалася яна цудоўнай: англійскіх марак і навейшых узораў.

... Калі ў Мінску сабраўся Другі Ваенны з'езд Заходняга фронта, у горад з'явілася польская дывізія, пад камандаваннем графа Доўбар-Мусніцкага. Гэтае імя стала потым па-свойму «славутым» — ён спецыялізаваўся на падаўленні рэвалюцыйных сіл. Пра мэты гэтага нападу думаць не прыходзілася: часці дывізіі ўжо набліжаліся да памяшкання, дзе працаваў з'езд.

На экстраным пасяджэнні Ваенна-Рэвалюцыйнага Камітэта дамовіліся зараз жа, неадкладна, прыступіць да абяззбройвання дывізіі, арыштаваць афіцэраў. Вось тут і паказаў сябе Першы Рэвалюцыйны полк імя Мінскага Савета.

Забраць жа самога генерала і даставіць яго ў Ваенна-Рэвалюцыйны Камітэт даручылі Цярэнцевай. Ну, што ж! Даўно яна не сустракалася ні з кім з сапраўды арыстакратычнага асяроддзя! Яна толькі патрабавала, каб да яе прыходу знялі знадворную варту дома, дзе знаходзіўся генерал.

У дом яна ўвайшла ў суправаджэнні двух сваіх салдат. У пярэднім пакоі на варце стаяў польскі легіянер. Убачыўшы чырвонагвардзейцаў з вінтоўкамі, ён хутка скеміў, у чым справа, аддаў зброю і падняў рукі.

Гэты дзень пачаўся ў графа даволі непрыемна. Не паспеў ён расплюшчыць вочы, як убачыў перад сабою дула рэвальвера. А звонкі жаночы голас на выдатнай французскай мове загадаў:

— Калі ласка, мой генерал, рукі ўгору!

І рукі мужчыны, якія ўсё жыццё трымалі зброю, падняліся.

— Узяць зброю! Узяць рэвальвер пад падушкай! — Другая каманда прагучала па-руску і датычылася чырвонагвардзейцаў. Зброі забралі многа: ёю была завешана ўся сцяна. І зброя ўся адмысловая, асабліва адна шабля, з сярэбраным эфэсам чаканнай старадаўняй работы.

* * *

«Не прызнаваць самазванай улады бальшавікоў, не працаваць у шпіталях, знішчаць усю шпітальную маёмасць і медыкаменты, каб нічога не засталося бальшавікам», — такі быў кароткі змест рэзалюцыі, прынятай з'ездам урачоў Чырвонага Крыжа Заходняга фронта, які, як даведалася Цярэнцава, праходзіў нелегальна ў вялікай зале ўпраўлення Чырвонага Крыжа ў Мінску.

Калі, яшчэ на самым заранку свайго юнацтва, яна ўпершыню ў жыцці зразумела, што сям'я, у якой яна нарадзілася, дом, дзе яна вырасла, ёй чужыя, яна парвала з усім, да чаго прывыкае чалавек з дзяцінства. Яна добраахвотна адмовілася ад «высокага» дваранскага звання. Яна не толькі парвала са сваім саслоуем, — яна пачала барацьбу супраць яго. І барацьба гэтая стала галоўнай справай усяго яе жыцця. Цяпер яна зноў ідзе супраць усіх «сваіх». Цяпер ужо супраць калег урачоў. Не ісці супраць іх яна не можа, таму што яны занялі ганебную пазіцыю.

Таропка крочыла яна па вуліцы і на хаду абдумвала: што ж ім сказаць? Як пераканаць іх?

«Так і скажу, — вырашыла яна, — адумайцеся! Успомніце пра абавязак урача перад народам. Мы — урачы Чырвонага Крыжа. Чырвоны Крыж — гэта эмблема міласэрнасці. А ў чым зараз можа праявіцца вышэйшая міласэрнасць, калі не ў тым, каб спыніць вайну? І ці ж не за гэта змагаемся мы, бальшавікі?»

Яна была гатова сказаць ім усё гэта. Але яны не захацелі слухаць бальшавіцкага камісара. Як толькі яна з'явілася на трыбуне, яны пачалі крычаць, грукаць нагамі, а потым усталі і заспявалі: «Боже, царя храни!»

Побач з ёю аказаўся тады толькі адзін чалавек — доктар Стратонаў. Што было рабіць? Давялося прыняць крутыя меры.

— Самі вінаватыя, — сказала Аляксандра Мікалаеўна. — Не хацелі слухаць голас чалавечага сумлення і розуму, слухайце каманду штыка!

Імем Ваенна-Рэвалюцыйнага Камітэта з'езд быў разагнаны. У залу ўвайшлі дзесяць чырвонагвардзейцаў.

...«Помста» была жорсткай. Урачу Цярэнцевай і ўрачу Стратонаву быў абвешчаны бязлітасны байкот. Байкот за разгон з'езда, за «штыкі, якія накіраваў урач на ўрача, чаго не было яшчэ ва ўсёй гісторыі шматпакутнай рускай інтэлігенцыі...» Так пісалі рэакцыйныя газеты Чырвонага Крыжа, — яны тады выходзілі ў Мінску і Петраградзе.

... Першым крокам маладой Савецкай улады на шляху, які яна пракладала для ўсяго чалавецтва, быў крок да міру. Дэкрэт аб міры — першы яе дэкрэт. І хоць Брэсцкі мір быў «няшчасны» і невыносна цяжкі мір, усё ж гэта быў мір, канец вайне, канец пакутам салдат у акопах. Франты ліквідаваліся, і салдат адпраўлялі на радзіму, дадому. Але пускаць у тыл такую колькасць узброеных людзей — небяспечна. Зброя магла трапіць у рукі ворагаў рэвалюцыі. Гэтую справу ўзяла на сябе франтавая партыйная арганізацыя. З салдатамі гаварылі на мове сумленных грамадзян Савецкай дзяржавы, — яны здавалі вінтоўкі. А на чыгунцы іх ужо чакалі цяплушкі.



Праводзячы салдат, развітваючыся з імі, Аляксандра Мікалаеўна вельмі добра разумела іх нецярплівасць. А ці ж не хацелася і ёй самой вярнуцца да любімай справы? Да пакінутай навуковай работы? Але цяпер у яе была справа яшчэ больш дарагая, — барацьба толькі яшчэ пачыналася...

* * *

Грукоча па рэйках цягнік. У шчыліны вагонных дзвярэй урываецца струменьчык ветру і сухога снегу. Аляксандра Мікалаеўна едзе ў Петраград. Яе і таварыша Трапалава, які едзе з ёю, выбралі дэлегатамі на Усерасійскі з'езд работнікаў Чырвонага Крыжа Заходняга фронта. З'езд, на якім іх абралі, ворагі пагардліва ахрысцілі «з'ездам санітараў». Урачоў на ім сапраўды былі толькі адзінкі. Прадстаўнікі «шматпакутнай рускай інтэлігенцыі», якіх аб'ядноўваў Чырвоны Крыж, усё яшчэ ўпіраліся і сабатажнічалі.

Цягнік ішоў з вялікімі прыпынкамі. А недзе, не даязджаючы да станцыі Вялікія Лукі, і зусім спыніўся. Было загадана ўсім выходзіць і збіраць у лесе дровы — не было чым паліць у паравозе.

Студзеньскі мароз не жартаваў, хоць ружовы на сонцы снег здаваўся цёплым. Але на яго ніхто не звярнуў асаблівай увагі. У лесе весела і дзелавіта заспявала піла, — машыніст цяпер без яе ніколі не ездзіў. Гучна, як стрэлы, ляскалі на марозе галіны. Кожны шукаў у лесе і цягнуў да паравоза што-небудзь на паліва: корч, сухую бярозавую дравіну, рыжую елку. Памочнік машыніста і качагар, чорныя, быццам вылезлі з самога пекла, секлі дровы і кідалі іх у адкрыты тэндар.

Неўзабаве хрыплы гудок склікаў усіх у дарогу. Але паехаць паравозу ўдалося не хутка. Цяжка было яму крануць з месца прымёрзшыя да рэек колы. Нарэшце ён усё-такі пайшоў, выкідаючы густыя хмары дыму і клубы буйных іскраў.

А людзі, забраўшыся зноў у вагоны, вытрасалі снег з парваных, залапленых валёнак, з падвязаных вяроўкамі ботаў.

Гора з ім, з гэтым палівам. І ўсюды яго столькі трэба! Каб не мерзлі дзеці ў дзіцячых садах і хворыя і раненыя ў бальніцах і шпіталях, — усе хадзілі на суботнікі і нядзельнікі.

Аляксандра Мікалаеўна расцірала замёрзшыя, паабдзіраныя голлем рукі і глядзела на схуднелыя, з вялікімі вачыма твары. Ёй здавалася, што многіх яна недзе ўжо бачыла, яны былі знаёмыя ёй. З ёю ў адным вагоне ехала рамонтная брыгада чыгуначнікаў. І з імі яна ніколі не сустракалася...

Але ці ж не такім, як яны, аказвала яна першую дапамогу пасля бою? Ці ж не з такімі, як яны, размаўляла яна, прабіраючыся ў акопы? Ці ж не да такіх, як яны, прыходзіла яна ноччу ў турму?

...У Петраградзе іх з Трапалавым чакала велізарная, неспадзяваная радасць: дэлегатаў з'езда Чырвонага Крыжа ад Заходняга фронта выклікаў да сябе Уладзімір Ільіч Ленін.

* * *

Хто б гэта мог не хвалявацца?.. Яны ішлі да чалавека, вобраз якога асветлены святлом любві мільёнаў людзей, іх надзей, іх гонару. Аляксандра Мікалаеўна ніколі потым не магла ўспомніць падрабязнасці першых хвілін сустрэчы і таго, што было наўкол. Яна глядзела толькі на яго. Слухала яго голас. І з цяжкасцю пераводзіла дыханне. А ён так проста і так сардэчна павёў размову і пра такое самае будзённае: — як даехалі? як усталяваліся? ці не маюць у чым патрэбы?

Ён так проста і ветліва глядзеў на яе, што сэрца зноў стала на сваё месца і дыхаць стала лёгка.

У Трапалава Уладзімір Ільіч спытаўся, чым ён займаўся да фронта.

— Рабочы-пуцілавец.

— Значыцца, на радзіму прыехалі,— усміхнуўся Ленін.

І вось позірк на яе.

— Ваша прозвішча Цярэнцева? — І ён спытаўся з усмешкай: — Гэта вам паны-ўрачы байкот абвясцілі? Чытаў у «Известиях Красного Креста».

І столькі было цеплыні ў адной яго ўсмешцы! Яна была з'едлівай для «паноў-урачоў» і ў той жа час — ласкавай для яе.

І ў гэтую хвіліну Аляксандра Мікалаеўна зразумела, што ён ведае яе даўно. Таксама, як яна ведала тых чыгуначнікаў, з якімі ехала ў адным вагоне. Але ён ведаў больш. Ён ведаў пра яе самае галоўнае: ці можна ёй верыць, ці можна на яе спадзявацца? І ён ёй верыў, спадзяваўся на яе!

І далей яны ўжо гаварылі ўсе трое, як людзі, натхнёныя адной ідэяй, адным клопатам...

Ён ведаў і пра тое, што салдат, якія вярталіся дадому, яны праводзілі з фронта без зброі, і адобрыў гэта. Потым пытаў, як ідуць справы на Заходнім фронце. Якія там ёсць чырвонагвардзейскія часці.

Яны расказвалі яму пра Першы Рэвалюцыйны полк, створаны ў турме. Ён цікавіўся ўзбраеннем палка, яго абмундзіраваннем.

Ён гаварыў ім пра тое, што Усерасійскае таварыства Чырвонага Крыжа ўзначальвалі варожыя, чужыя Савецкай уладзе людзі. І што само таварыства засмечана рэакцыйнымі элементамі. Нам жа патрэбен такі Чырвоны Крыж, які верай і праўдай служыў бы дзяржаве рабочых і сялян. Магчыма, што рэакцыянеры прыкладуць усе намаганні, каб і гэты з'езд накіраваць супраць Савецкай улады.

Калі будзе так, дык працей за ўсё — разагнаць з'езд. Але бальшавікам-дэлегатам трэба ўзяць ініцыятыву ў свае рукі.

Развітваючыся, ён пажадаў ім поспеху. І ў поціску яго рукі яны адчулі, што ён верыць ім, верыць, што яны зробяць усё, што будзе неабходна.

Так яно і было. Яны і іншыя бальшавікі, якія прымалі ўдзел у рабоце Усерасійскага з'езда Чырвонага Крыжа, павялі яго за сабою.

... Калі Аляксандра Мікалаеўна Цярэнцева ехала ў Петраград, яна не ведала, што яе чакала сустрэча з Уладзімірам Ільічом Леніным. Але потым, вяртаючыся ад яго, яна зразумела, што ўжо многа год чакала гэтай сустрэчы, марыла пра яе, рыхтавалася да яе... І ўсё пачалося з той летняй раніцы, на ўзлессі, калі яна ўпершыню ў жыцці чакала ўзыход сонца. Таму што з той самай раніцы яна і пацягнулася да святла, неабходнага для свабоднага чалавечага жыцця.

**Пятрусь МАКАЛЬ**

# МАЙГО МАЛЕНСТВА ДРУЖБАКІ



Калісь
Яшчэ на школьнай лаве
І ля начлежнага кастра
Упарта марыў ты аб славе,
Аб звонкай славе песняра.

І вось —
Зубчастых колаў шыны
Друкуюць на зямлі радкі.
На камні, ў кузаве машыны,
Нібыта з бронзы, юнакі.

Падпудраныя пылам бровы.
Шурпатыя далоні рук,
Што камні звонкія,
Як словы,
Кладуць на вуліцах у брук.

Глядзіць задумна позірк строгі
У далеч, што не знае меж....
Якія новыя дарогі
Для ног людскіх ты пракладзеш?..

Дрыжаць барты ў жалезным кузаве,
А ты нібыта ўрос, як дуб.
Рукой нябачнай вецер тузае
Непаслухмяных пасмаў чуб.

Галіны дрэў,
Што ўзбоч пасталі,
Без пошты шлюць табе лісты...
На камні,
Як на п'едэстале,
Узвысіўся над светам ты!



Мал. Г. Барэйкі.

Мікола Гарулёў нарадзіўся ў 1919 годзе ў вёсцы Белва Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. Пачаў друкавацца ў рэспубліканскіх газетах і часопісах у 1939 годзе. За гэты час выдадзены кнігі вершаў «Раеснікі», «У дарозе», аповесць «Сябры-таварышы».

Зараз Мікола Гарулёў працуе ў часопісе «Советская Отчизна».





Мікола Алтухоў нарадзіўся ў 1924 годзе на Чэрнігаўшчыне. Дзяцінства і юнацкія гады правёў у г. Оршы. Друкавацца ў газетах і часопісах пачаў з 1952 года. Першая п'еса «Родная маці» пастаўлена на сцэне Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Я. Коласа і Харкаўскага драматычнага тэатра імя А. С. Пушкіна.

**М. ГАРУЛЁЎ, М. АЛТУХОЎ**

# ВЫБУХ

*Драма ў 3-х дзеях*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

Вера Грынько.
Ніна Пашэнная.
Кліменка — камандзір партызанскага атрада.
Віктар Манькоўскі.
Макар — камандзір узвода партызанскага атрада.

Цёця Даша — цётка Ніны.
Эрнст Кох — оберлейтэнант, камендант.
Зайцаў — начальнік паліцыі.
Групенфюрэр.
Машыністка гестапа.
Першы салдат.
Другі салдат.
Першы хлопец.
Другі хлопец.
Партызаны, нямецкія салдаты, камсамольцы-падпольшчыкі.

Падзеі адбываюцца ўлетку і ўвосень 1941 года.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### Карціна першая

Невялікі, сціпла прыбраны пакой. Вокны заклеены стужкамі паперы. Адны дзверы ў калідор, другія — у сумежны вялікі пакой. Стол, крэслы, этажэрка з кнігамі, канапа, ложак ля глухой сцяны.
Ніна Пашэнная і Вера Грынько сядзяць на канапе.

Вера. Што ж, па-твойму, калі вайна, дык і пажартаваць нельга? Калі немцы прышлі, дык мне і пець няможна? Не, дух з іх вон! І спяваць буду, і скакаць!..

Ніна. Навокал гора, а табе спяваць карціць...

Вера. Таму што інакш звар'яцееш... Чаго ты сядзіш, як на пахаванні? Ну, давай паплачам, пагалосім — лягчэй будзе!

Ніна. Слёз няма, Верачка. Не плакаць — змагацца неяк трэба.

Вера. Змагацца?

Ніна *(збянтэжана)*. Ну, так...

Вера. Што ты адна зможаш? Што? Яны цябе вось так пасадзяць на далонь, дзьмухнуць — і следу не застанецца.

Ніна. Гэта — калі адну...

Вера. Вось і я кажу пра гэта. Пакінулі нас ім на расправу.

Ніна. Няпраўда, не кінулі. Я, напрыклад, сама засталася.

Вера *(уражаная)*. Сама?..

Ніна. Так, сама. Бо трэба было, Верачка... А што забыліся на нас — праўда... Вось мы з табой, здаецца, удзвюх, а ўсёроўна адзінокія... Таму, можа, што жыццё міма нас ідзе, а мы за яго ніяк не зачэпімся...

Вера. Можа, успомняць...

Ніна. Успомняць, вядома. *(Паўза.)* А калі ўспомняць пра нас, ты знойдзеш у сабе сілы змагацца? З гэтымі...

Вера. Ды я... Хоць зараз!

Ніна. Не будзь ты такой паспешлівай.

Вера. Табе што, пабажыцца? Я ненавіджу іх, Ніна! Смерці не збаюся, толькі каб нашы вярнуліся. Не думай пра мяне што-небудзь такое, Ніначка! Людзі ў цемры іншы раз спяваюць, каб не страшна было. Так і я, часам смяюся, каб не плакаць... Такое іншы раз за сэрца возьме, што, здаецца, разагналася б, ды галавой аб сценку — каб па ўсяму гораду загуло!



Ніна. Я скажу табе, чаму я засталася. *(Паўза.)* Мяне пакінулі ў Баровічах для падпольнай работы... Павінен прысці чалавек і запытаць: «Ці не прадаецца ў вас буйная бульба?»

Вера. І ты маўчала!

Стук у дзверы.

Ніна. Хто там?

Вера. Некага чэрці нясуць...

Віктар *(за дзвярыма)*. Можна?

Ніна. Уваходзьце.

Віктар *(уваходзіць. Здзіўлена да Веры)*. Ты тут?..

Вера. Глядзі, Ніна, — дурнем прыкідваецца. Ходзіць за мной па пятах, а хоча паказаць, што выпадкова зайшоў. Ты што ж, па гандлёвых справах?

Віктар. Табе б, Вера, у цырульні працаваць. Язык, як брытва.

Вера. Пазнаёмцеся, калі ласка. Патрыёт Віктар Манькоўскі. З нянавісці да акупантаў гандлюе на рынку сігарэтамі.

Віктар. Не слухайце вы яе. Праўда, быў такі грэх, але...

Ніна *(суха)*. Вельмі рада, Ніна.

Вера. Як ідзе гандаль? Пачым сігарэты?

Віктар *(сцяўшы зубы)*. Чатыры маркі дзесятак.

Ніна. Рускіх грошай не бераце?

Віктар *(злосна)*. Бярэм і рускія. Сорак два рублі дзесятак.

Вера. А чаму не сорак? Немцы лічаць дзесяць рублёў за марку.

Віктар *(злосна, але стрымана)*. Чорны рынак мае свае законы.

Вера *(ціха, Ніне)*. Яшчэ два-тры пытанні — і яго ўзарве.

Віктар. А я не бомба.

Ніна *(Веры, ціхай)*. Падабрала сабе кавалера, няма чаго сказаць.

Вера. На бязрыб'і, як той казаў... Люблю пазлаваць яго. А ён добры, Ніна...

Ніна. Віншую. Гандлёвая фірма па спекуляцыі сігарэтамі: «Вера Грынько і кумпанія».

Віктар. Вы дазволіце мне заткнуць вушы?

Вера *(цырымонна)*. Зрабіце ласку, пане Манькоўскі, мы ўжо скончылі.

Ніна *(Віктару)*. Чаго ж вы стаіце? Сядайце, калі прышлі.

Віктар. Дзякую. *(Веры.)* А ты і мінуты пасядзець не можаш, каб добрага чалавека шылам у бок не ўкалоць.

Вера. Добрых людзей не існуе ў прыродзе, калі разумець пад прыродай мясцовую барахолку.

Віктар. Ці чулі вы яе!

Вера. Калі не жартаваць, людзі палезуць у пятлю ад нуды.

Віктар. Ты і ў школе была гарэзай, а зараз зусім сапсавалася.

Вера. Дыялектыка: усё цячэ, усё змяняецца.

Ніна. Вы вучыліся разам?

Віктар. У адным класе. Выдатніца Вера Грынько і яе падшэфны — троечнік Віктар Манькоўскі.

Вера. Нарэшце, цырымонія знаёмства адбылася. *(Робіць іранічны рэверанс.)* Віктар, кланяйся.

Ніна. Вы яшчэ можаце жартаваць...

Вера. Ніначка! Ну, скажы... скажы, што рабіць! Калі мы ўсе павесім насы, што тады будзе?!. Я разумею, пасля смерці тваёй мамы...

Віктар. У вас памерла маці?

Ніна. Так, яна загінула ад бомбы яшчэ да прыходу немцаў... Стрэлачніцай была... Добра, што яшчэ бацька недзе там на фронце не ведае: усё ж лягчэй яму...

Віктар. Вера, ты дурніца.

Вера. Ты думаеш, калі ў чалавека гора, дык над ім толькі войкаць трэба?.. Эх ты! Цябе і вайна нічаму не навучыла!.. Троечнік, як заўсёды... Яна ж зусім адна... Разумееш — адна!..

Ніна. Да мяне сёння пераедзе цёця Даша.

Вера. Не падабаецца яна мне.

Ніна. Бацьку яна таксама не падабалася... Ды ці мала чаго бывае! Прышла, расплакалася. Яна таксама адна, без прытулку, без капейкі грошай...

Віктар *(задумліва)*. Няхай бы лепш адна заставалася.

Вера. Канкурэнцыі на сігарэтачным фронце баішся?

Віктар. Ды ідзі ты!..

За сцэнай чутно, як пад'ехала фурманка. Голас цёці Дашы: «Прыехалі, дзякуй богу!»

Ніна. Вось і цёця Даша.

Цёця Даша *(за сцэнай)*. Асцярожней, зломіш! Не казённае!

Вера. Лёгкая на ўспамін. Пойдзем, Віктар.

Віктар *(паглядзеў у акно)*. Вароты фурманкай загарадзілі.

Ніна. Пачакайце. Я ёй аддаю пакой суседскі, а гэта — мой.

Уваходзіць цёця Даша. За ёй — Зайцаў з пісталетам на рамяні і павязкай на левым рукаве — «Орднунгдзінст».

Цёця Даша. Праходзьце, пане Зайцаў. Калі ласка. Мая пляменніца Ніна. Знаёмцеся. А гэта... гэта яе знаёмыя. Сядайце, пане Зайцаў. Малады чалавек, дайце месца паважанаму госцю.

Зайцаў. Вітаю, панове!

Цёця Даша. Ат, якія яны панове! Вось вы — пан, заступнік наш, разумны чалавек. Мы зараз прынясем пажытак, а пасля замочым наваселле. Вы паможаце мне, маладыя людзі, перанесці рэчы?

Вера. Віктар, пакажы свае галантныя манеры.

Віктар *(уздыхнуўшы)*. Прыдзецца.

Цёця Даша. Прайдзіце, пане Зайцаў, у залю. Там вам будзе спакайней.

Зайцаў выходзіць у бакавыя дзверы.

Ніна. Вы сказалі, што прыедзеце адна, а прывезлі нейкага паліцая.

Цёця Даша. Дзетухна мая, ды ён пойдзе. Вып'е і пойдзе. А ён паважны, а галоўнае — патрэбны чалавек. Пры бальшавіках у турме сядзеў.

Вера. Шпана нейкая!



Цёця Даша. Была шпана, а цяпер начальнік баровіцкай паліцыі.

Вера. Тым больш нягоднік.

Цёця Даша. Не мяркуйце па выгляду, любачка. *(Віктару.)* Малады чалавек, пачынайце пераносіць рэчы.

Віктар *(выходзячы)*. Унікальная цёця!

Цёця Даша. Мы з табой, Ніначка, сумаваць не будзем. Прыдбаем сабе ларок і зажывем як мае быць. Мне толькі для пачатку грошай трэба. Каб разгарнуцца. Ты маміна адзенне яшчэ не прадала?

Ніна. Не.

Цёця Даша. Мы яго заўтра ж і прададзім. Цяпер рыззё ў цане. А табе навошта яно? Нябожчыца не ўзлуецца. *(Пашукала вачыма абразы і, не знайшоўшы іх, перахрысцілася на Віктараву шапку, якая вісела на цвіку.)* Царства ёй нябеснае.

Віктар *(уносіць рэчы)*. Усё?

Цёця Даша. Здаецца, усё. *(Ніне.)* Гэта твой знаёмы? На чай даваць не трэба?

Вера. Не трэба, цёця Даша. Ён з чыста прыязных парыванняў памог вам.

Цёця Даша. Якіх?.. А між іншым, усёроўна. Абы не плаціць. Нам з Ніначкай справу пачынаць трэба. А капейка капейку любіць.

Ніна. Вы з мяне рынычную хаўрусніцу сабе не зробіце, цёця Даша...

Цёця Даша. Дурненькая ты! Я цябе ў рай цягну, а ты ўпіраешся.

Вера. Вам кампаньёнаў не трэба?..

Цёця Даша. З капіталам?..

Віктар *(злосна Веры)*. Ты языком мялі, ды знай меру.

Вера *(збавіўшы тон)*. Не, я пажартавала, цёця Даша.

Цёця Даша. Ой, мне ж пана Зайцава пачаставаць трэба! *(Пачала завіхацца каля карзін, выходзіць у бакавыя дзверы.)*

Вера. Пойдзем, Віктар. Дыхляцінай тхне ад гэтай цёці...

Віктар *(нерашуча)*. Мне б трэба...

Вера *(здзекліва)*. У кампаньёны запісацца?

Віктар. Добра. Пайшлі. *(Выходзіць, пакінуўшы шапку.)*

Вера *(затрымалася)*. Не бядуй, Ніначка, як-небудзь уладкуецца...

Ніна. Як-небудзь... І жывем мы не па-людску, а як-небудзь...

Вера. Як ён павінен сказаць? «Ці не прадаецца ў вас буйная бульба?» Так? Дачакаемся. І пачнем жыць не як-небудзь, а па-людску. Не забыліся на нас, Ніначка, успомняць! Пабачыш — успомняць!

Ніна. Заходзь, Вера... Толькі адна... Без гэтага... камерсанта...

Першы салдат *(уваходзіць, агледзеўшы пакой)*. Карош! Хлеў ёсць?

Ніна. Ёсць.

Першы салдат. Будзеце жыць у хляве. Гэты пакой германскае камандаванне...

Ніна. А мы?

Першы салдат. Прывыкайце жыць у хлявах.

Адчыняюцца дзверы. На парозе — Кох.

Першы салдат. Ахтунг! Камендант оберлейтэнант Кох!

Кох *(уваходзіць)*. Гутэн таг, майнэ гнедыге медхен!

Вера. Мы толькі па-руску разумеем.

Кох *(усміхнуўся)*. Можна і па-руску. *(Веры.)* Вы чароўная. Вам не пасуе грубіць велікадушнаму германскаму афіцэру.

Вера. Гэта значыць — вам?

Цёця Даша *(уваходзіць)*. Калі ласка, пане афіцэр, заходзьце!

Кох. Мне патрэбна кватэра. Я камендант вашага горада. Я маю намер памяркоўна абыходзіцца з насельніцтвам горада. Зразумела, калі яно будзе таго заслугоўваць. Мне патрэбен асобны пакой.

Цёця Даша. Калі хочаце, я ўступлю вам свой, а мы з пляменніцай уладзімся і тут.

Ніна *(ціха цётцы)*. Не паспелі пераехаць, а ўжо распараджаецеся!

Цёця Даша. Гонар жа які, дзетухна! Сам камендант! З яго ласкі выгода якая будзе!

Кох *(падыходзіць да этажэркі з кнігамі, бярэ адну з іх)*. О, Стэндаль! *(Цётцы.)* Я падумаю аб вашай прапанове. *(Чытае.)* «Чырвонае і чорнае»... Гэта цудоўная кніга, праўда? *(Глядзіць на Ніну і Веру.)*

Ніна *(не ведаючы, як адказаць)*. Гэта французская літаратура.

Вера. Кніга цудоўная.

Кох. Ці не лічыце, фрэйлен, што назва гэтай старой кнігі і сёння сімвалічная?

Ніна. Вядома, у ёй жа ідзе гаворка пра свецкае і духоўнае.

Кох. Вы не зразумелі мяне... Я... як бы гэта растлумачыць, хацеў сказаць... з пункту вашага разумення. Чырвонае... чорнае... Чырвоныя — гэта камуністы, іх называюць так ва ўсім свеце, гэта, нарэшце вы. А што ж чорнае?

Ніна. Вы памыляецеся. Калі пісаў Стэндаль, камуністаў яшчэ не было.

Вера. Стэндаль не ведаў, што за яго будуць брацца чорнымі рукамі.

Кох *(цётцы)*. Хто ёсць ваша пляменніца?

Цёця Даша *(паказвае на Ніну)*. Вось, пане афіцэр.

Кох *(паказвае на Веру)*. А гэта?

Цёця Даша. Проста так. Зайшла па справе.

Кох *(Веры)*. Мне хочацца, каб пляменніцай былі вы. Сярод рускіх я не сустракаў яшчэ такой прыгожай дзяўчыны.

Вера *(ціха)*. Ну і нахабнік!

Кох *(Веры)*. Вы жывеце ва ўласным доме?

Вера. Не, на кватэры.

Кох. Шкада... Я хацеў бы жыць па суседству з вамі.

Вера. Не раю.

Кох. Чаму?

Вера. Я ўмею па зубах заехаць.

Кох. Вы? Жартуеце, фрэйлен...

Вера. Тыя, хто паспыталі, не лічаць, што я жартую.

Кох. Усё-такі я ўпэўнены, што вы жартуеце. Я магу прапанаваць вам добрую пасаду ў мяне ў камендатуры.

Вера. Падлогу мыць?

Кох. Навошта падлогу? Вашы пальчыкі заслугоўваюць лепшага.

Зайцаў *(за сцэнай)*. Дар'я Мікітаўна!

Кох *(строга)*. Хто такі?

Цёця Даша. Знаёмы, пан афіцэр... Начальнік паліцыі Зайцаў.

Кох. А, ведаю. *(Веры.)* Дазвольце праводзіць вас.

Вера. Абыйдуся. *(Выбягае.)*

Кох. Прыгожая дзяўчына. Як яе імя?

Цёця Даша. Вера. Прозвішча Грынько.



Кох *(аглядзеўся, салдату)*. Аднак мне тут не падабаецца. *(Задумліва.)* Так, чырвонае і чорнае... Ведаю, аб чым вы думаеце. Нічога, мы пакладзем на гэтую краіну свае фарбы...

Цёця Даша. Заходзьце да нас пане афіцэр...

Кох і салдат выходзяць.

Ніна. Брыдка глядзець, як вы поўзаеце перад імі, цёця Даша.

Цёця Даша. Мая любачка, жыць жа трэба...

Зайцаў *(за сцэнай)*. Дар'я Мікітаўна!

Цёця Даша *(яна знайшла бутэльку гарэлкі і такую-сякую закусь)*. Пойдзем, дзетухна, наваселле спраўляць.

Ніна. А я даўно жыву тут, цёця. Гэта вам наваселле. Спраўляйце без мяне.

Цёця Даша. Пакрыўдзіш, дзетухна, і мяне, і пана Зайцава...

Ніна. Не магу.

Цёця Даша. Не трэба дзічкай такой быць... Час не такі. Трэба хапаць ад жыцця ўсё, што можна. Пакуль другія не перахапілі. Курыца — і тая пад сябе грабе.

Ніна. А я чалавек. Курыцай не стану.

Цёця Даша. Пойдзем, дурненькая! Ну, не хочаш — не пі. Чокніся з ім, пакажы гасціннасць, а ён цябе на калымную работу прыладзіць. Жыць жа неяк трэба. Вакол нястача, голад, а ты маладая, прыгожая... Табе ж, відаць, і пакрасавацца хочацца.

Зайцаў *(з-за дзвярэй)*. Хутчэй, гаспадынька! А то жывот падвяло!

Цёця Даша. Ой, жартаўнік, праўда? Ідзем, пане Зайцаў! *(Ніне.)* Хадзем!

Ніна. Не, цёця, я не пайду.

Цёця Даша. Ну і дурная! Я ж для цябе, каб лепш...

Ніна. Не пайду.

Цёця Даша. Ну, як хочаш. *(Ідзе з гарэлкай і закускай да Зайцава. Той адразу ж выходзіць з дзвюма чаркамі.)*

Зайцаў. Вып'ем, паненка!

Ніна. Якая я вам паненка?

Зайцаў. А то як жа? Паненка і ёсць. Гэта пры бальшавіках усе былі таварышы, а зараз, хто з галавой, той і панам будзе, а хто дурань ці бальшавіцкай пароды, таму каюк. Аўтарытэтна кажу вам. Я пры Саветах быў нішто, а цяпер я — Зайцаў!.. Ведай нашых! Сам Кох мяне панам называе. Адчуваеце, які давер?

Ніна. Адчуваю. Але піць не буду. Ідзіце да цёці Дашы.

Зайцаў. Яна галавастая ў вас. Чокнемся, любая!

Ніна. Не хачу.

Зайцаў. Цаню вашу сціпласць. Прыгубце толькі. Хочаце — прыладжу вас у камендатуру? Торты з афіцэрамі есці будзеце.

Цёця Даша *(выглядае з-за дзвярэй)*. Не ўгаворвайце вы яе, пане Зайцаў. Дзіцё яна яшчэ дзікае...

Зайцаў. Я да яе з пашанай, а яна... Ат, няхай!.. Пойдзем. *(Выходзіць.)*

Ніна. Торты з афіцэрамі... Эх, і накарміла б я вас, на тым свеце не забыліся б!..

Віктар *(уваходзіць)*. Прабачце, шапку забыўся...

Ніна *(рэзка)*. Рассеянасць для гандлю — дрэнны спадарожнік.

Віктар *(агледзеўся)*. Нікога няма? Я хацеў спытаць у вас...
Ніна. Вы не маглі спытаць пры Веры?
Віктар. Не. Я хацеў спытаць: ці не прадаецца ў вас буйная бульба?
Ніна *(уражаная)*. Вы? *(Амаль задыхаецца ад радасці.)* Няўжо вы?.. *(Шэптам.)* Не, ужо ўсю прадала на рынку...
Віктар. Вось цяпер дзень добры, таварыш Ніна Пашэнная!..
Ніна. Віктар!.. Каб я ведала!.. Я так чакала вас»... Я вас... *(Ніна, радасная, шчаслівая, парывіста цалуе Віктара ў шчаку. Адчыняюцца дзверы. Вера бачыць Віктара і Ніну. Прыкусіла губу.)*

Заслона.

## Карціна другая

Ясны сонечны дзень. Лес. На пярэднім плане — уваход у камандзірскую зямлянку. Амаль у цэнтры сцэны за сталом, зробленым з жэрдак, сядзіць камандзір партызанскага атрада Кліменка. Каля яго стаіць Макар. Апрануты ён своеасабліва: афіцэрскі нямецкі мундзір без пагонаў і нашывак, савецкая армейская шапка, даматканыя штаны і атопкі. На грудзях вісіць аўтамат. За сцэнай чутна партызанская песня. Размова Макара з камандзірам ідзе на фоне песні, якая ў паўзах гучыць больш моцна і выразна.

Макар. Так што, таварыш камандзір, спаць яны адмаўляюцца.
Кліменка. Як гэта адмаўляюцца?
Макар. Кажуць, прыгажосць у лесе такая, што не наглядзішся.
Кліменка. Глупства! Ноччу на заданне ісці, а яны носам дзяўбці будуць.
Макар. Не сумнявайцеся, таварыш камандзір! Галавой ручаюся. Моладзь у нашым атрадзе баявая. Апошнія дні лета, таварыш камандзір, трэба наглядзецца... І так за кожным з нас смерць па-пластунску поўзае... Зазяваўся — і каюк. А шты мы бачылі? Што паспелі ўбачыць? Правільна кажу?

Хор за сцэнай.

Кліменка. Яно то так, моладзь у нас зялёная...
Макар. Правільна, таварыш камандзір! Гістарычная, можна сказаць фраза!
Кліменка. Ну, ты напляцеш! Для партызанскага летапісца патрэбны подзвігі, а не фразы.
Макар. Будуць і подзвігі. За гэтым справа не стане... Існуем без году тыдзень, а ўжо тое-сёе на сваім рахунку маем... *(Марыць.)* Зялёная моладзь... Толькі не ў тым сэнсе, што, быццам, молада-зелена, а ў сэнсе — лясная... Зялёная, значыць... Калі-небудзь нас так хлапчукі называць будуць... Правільна кажу?
Кліменка. Добра, што цябе не ўбачаць такім... Штаны падцягні, камандзір узвода!
Макар. Ёсць падцягнуць, таварыш камандзір!
Кліменка. Дысцыпліна ў нас кульгае, Макар. Народ малады, не абстраляны, армейскіх парадкаў не ведае...
Макар. Затое хлопцы — агонь!



Кліменка *(з нечаканай цеплынёй у голасе)*. Слаўны вы народ, моладзь! Дружны... Усе ў вас заадно...
Макар. А як жа, таварыш камандзір!
Кліменка. Зялёная рамантыка! *(Сур'ёзна.)* Значыць, сябры, спаць!
Макар. Легчы лягуць, а каб спаць — наўрад... Правільна кажу?
Кліменка. Перадай мой загад: калі каго заўважу, што не спіць, на заданне не вазьму. Пакіну ў лагеры бульбу чысціць і бялізну мыць.
Макар *(занепакоены)*. Ёсць спаць, таварыш камандзір! *(Паспешліва выходзіць.)*

Хор за сцэнай.

Кліменка *(паглядзеў услед, усміхнуўся)*. Зялёная моладзь... Ім бы за партай сядзець, а яны смерці ў вочы глядзяць... Другі за ўсё сваё жыццё дзяўчыну не пацалаваў, а калі трэба — памірае без слёз і стогнаў... А ці ж лёгка паміраць маладым?.. Берагчы іх трэба... ой, як берагчы!..

Уваходзяць Ніна, Віктар і Макар.

Макар. З Баровіч да вас, таварыш камандзір. Пароль назвалі правільна.
Кліменка. А, Віктар! Здароў, дружа! Як жывеш?
Віктар. Дзякую, таварыш камандзір. Па ваеннаму загаду з'явіліся. Гэта — сувязная, Ніна Пашэнная.
Кліменка. Ведаю, ведаю. Ці не прадаецца ў вас буйная бульба, так?
Ніна. Я ўжо...
Кліменка. Ведаю, што прадалі на рынку. Ведаю і тое, што крыўдавала на нас: забыліся, быццам.
Ніна. Было.
Кліменка. Мы самі толькі распачынаем усё.
Макар. Дазвольце ісці, таварыш камандзір?
Кліменка. Спяць хлопцы?
Макар *(рашуча)*. Напавал.
Кліменка *(Ніне)*. Ваша адсутнасць у Баровічах падазронасці не выкліча?
Ніна. Я сказала цётцы, што пайду ў вёску па бульбу.
Кліменка *(да Макара)*. Прынясі паўмяшка бульбы.
Макар. Навошта бульбы, таварыш камандзір? Спяць яны, чэснае камсамольскае!
Кліменка. А бульбу ўсё ж прынясі.
Макар. Ёсць! *(Выходзіць.)*
Кліменка. Да справы, маладыя людзі. Праз Баровічы штодзённа едуць на ўсход нямецкія эшалоны з боепрыпасамі і тэхнікай. Глядзіце на карту: з двух бакоў заходнія лініі сыходзяцца да Баровіч, а адгэтуль адна чыгуначная лінія ідзе на Маскву. Тэхніка і боепрыпасы, якія вязуць праз наш вузел, забіваюць нашых салдат, што абараняюць Маскву. Цяпер вы разумееце, якое стратэгічнае значэнне мае вузел Баровічы?
Віктар. Наша задача — парушыць работу вузла.
Кліменка. Не толькі парушыць — паралізаваць. Мы атрымалі заданне Цэнтральнага штаба — пачаць вайну на рэйках. Чыгуначнікі

ўжо робяць сваю справу. Але і ад вас тое-сёе спатрэбіцца. Дзеля гэтага неабходна моцная, актыўная, канспіратыўная арганізацыя.

Ніна. Яна ў нас будзе.

Кліменка. Дзейнічаць трэба як мага асцярожней. Падпольшчык памыляецца толькі адзін раз. Памыліўся — і смерць.

Віктар. Мы ведаем.

Ніна. У мяне ёсць на прыкмеце некалькі чалавек.

Віктар. Хто?

Ніна. Вера Грынько, напрыклад.

Віктар. Гм... Гарэза, але падыходзіць. Калі райком зацвердзіць...

Ніна. Скажыце канкрэтна, што рабіць...

Віктар. Што ўзарваць? Давайце зброю, і мы такога наробім!..

Кліменка. Не спяшайся, Віктар. У райкоме думка такая, што табе трэба паступіць на работу ў паліцыю.

Віктар. Мне? У паліцыю?

Кліменка. Так.

Віктар. А яны часам не... таго?..

Кліменка. Барацьба з ворагам — гэта не толькі крыкі «ўра» і выбухі. Гэта — настойлівая і складаная работа. Нам патрэбны звесткі пра нямецкія і паліцэйскія карныя атрады. Працуючы ў паліцыі, ты будзеш мець усе гэтыя звесткі.

Віктар. Нацягнуць на сябе скуру паліцая? Ды як жа я людзям у вочы буду глядзець?

Кліменка. Прыдзецца пацярпець.

Віктар. А калі заб'юць? Вернецца бацька з фронта, а яго парадуюць: сын быў паліцаем, застрэлілі, як сабаку... Гандляваў сігарэтамі — маўчаў... Паліцаем стаць — не магу. Давайце другую работу.

Кліменка. Або гэта, або нічога. Калі не будзе дысцыпліны — усё прападзе пропадам.

Віктар. Парадавалі, няма чаго сказаць...

Кліменка *(мякчэй)*. Трэба, Віктар... Разумееш — трэба...

Віктар. Надоўга?

Кліменка. Калі дазнаемся, што табе пагражае хоць маленькая небяспека — зараз жа адзавем. А сам дазнаешся, што цябе падазраюць — ідзі ў лес без загаду. Толькі па-чэснаму, па-камсамольску.

Віктар *(цвёрда)*. Добра. *(Падумаўшы.)* А што я Веры скажу? Яна ж мне праходу не дасць. Жыццю рад не будзеш...

Кліменка. Гэта добра, што яна такая...

Ніна. Мы ёй раскажам, Віця... Яна ж наша...

Кліменка. Будзеш вяртацца — атрымаеш дакументы. Твой бацька быў раскулачаны і сасланы ў Сібір. Зразумела? Такіх немцы ахвотна бяруць.

Віктар. Гэтага яшчэ не хапала!

Кліменка *(строга)*. Таварыш Манькоўскі!..

Віктар *(паслухмяна)*. Слухаю, таварыш камандзір!

Кліменка. Вам, дзяўчына, прыдзецца папрацаваць у дыспетчарскай вузла. У райкоме мне сказалі, што вы да вайны займаліся на курсах замежных моваў і нядрэнна валодаеце нямецкай. Уласна кажучы, гэта быў адзін з матываў, па якому вас пакінулі ў тыле. Начальнік вузла шукае сабе перакладчыцу. Вы станеце ёй. Заданне атрымаеце пасля афармлення на работу.

Ніна. Добра. На работу паступіць мне цётка паможа.



Кліменка. Тая, што пераехала да вас?

Ніна. Так, цёця Даша. Яна з начальнікам паліцыі дружбу водзіць.

Кліменка. Якраз дарэчы!

Ніна. Не думаю, што яна спачувае немцам — які з яе палітык! Проста гандлем хоча заняцца, спекуляцыяй. Дзеля гэтага ёй і патрэбен Зайцаў.

Віктар. Сволач яна ўсё-такі!

Ніна. Не ведаю.

Віктар. Не трэба было прымаць у дом такую.

Кліменка. Такая цётка — добрая шырма для вас. Але будзьце асцярожнымі.

Ніна. Добра, таварыш камандзір.

Макар *(прыходзіць з мехам бульбы)*. Куды бульбу, таварыш камандзір?

Кліменка. Пакінь тут. Запомніце адзін аднаго, маладыя людзі. Вам прыдзецца працаваць разам.

Ніна *(да Кліменкі)*. Што новага на фронце? Нямецкія газеты паведамляюць, што Маскву вось-вось возьмуць... Няўжо возьмуць?

Кліменка. Не возьмуць. А становішча цяжкае — утойваць не буду. Немцы стаяць пад Масквой.

Ніна *(машынальна)*. I снарады, якія вязуць праз Баровічы, разбураюць нашу сталіцу...

Кліменка. Так.

Віктар. Паслухаць бы Маскву, таварыш камандзір... Ой, як хочацца паслухаць!..

Ніна. Хоць бы мінут пяць.

Кліменка. Я зараз схаджу, праверу, ці спяць хлопцы, а пасля мы з вамі пойдзем у зямлянку да радыста і паслухаем. Пасядзіце крыху. Макар, пайшлі!

Кліменка і Макар выходзяць.

Віктар. Добра тут!.. Вакол немцы, а тут — свае і ўлада родная, наша...

Ніна. Гэта мы вакол іх. Ведаеш, Віця, я заўсёды веру, ім усёроўна не пакарыць нас.

Віктар. Ты заўсёды такая сур'ёзная... Усё толькі аб справе і гаворка ў цябе... Няўжо ў цябе іншых думак няма? Паглядзі — прыгажосць якая... Вайна вайной, а людзі ўсё ж песні спяваюць, кахаюць...

Ніна *(іранічна)*. Як ты з Верай.

Віктар. Што ты, Ніна! Мы з ёй разам вучыліся. Таварышы — і толькі. Я на яе ніколі не заглядаўся. Хлапец у спадніцы і ўсё. Ды яна і дружыла заўсёды толькі з хлапчукамі, і гульні ў яе былі хлапецкія.

Ніна. А мне здаецца, яна цябе кахае... I не па-хлапецку, а па-дзявочаму, моцна...

Віктар *(сумеўся)*. Кінь ты дражніць мяне! Я, калі хочаш, пакуль цябе не сустрэў, і не ведаў, што дзяўчына — гэта не хлопец, а нешта такое асаблівае, такое, разумееш... ну, адным словам, дзявочае...

Ніна *(сумелася)*. Цяпер ты дражніш?

Віктар. Я?.. Адсохні язык, калі...

Клімeнка *(уваходзіць)*. Ну, пайшлі да радыста...

За сцэнай чуцен гул. Праз некаторы час уваходзіць Вера, яе прыводзяць Макар і два партызаны.

Ніна. Вера!
Віктар. Як ты сюды трапіла?
Клімeнка *(партызанам)*. У чым справа?
Макар. Затрымалі, таварыш камандзір. Гарадская. Пароль не ведае, а нешта выглядала.
Клімeнка *(Веры)*. Хто такая?
Віктар. Мы яе ведаем, таварыш камандзір. Гэта Вера Грынько.
Ніна. Мая сяброўка.
Вера. Добрая сяброўка!
Ніна. Вера, што з табой?
Клімeнка *(Макару)*. Чаго гэта ў цябе, Макар, адна шчака чырванейшая за другую?
Макар *(разгублена)*. Сонца прыпякло.
Клімeнка. Дзіўна! І другая пачырванела.
Партызан. Гэта ён яе абшукваць хацеў, а яна, значыць, апляухай пачаставала.
Макар *(кашляе ў руку)*. Магчыма, непаразуменне...
Клімeнка *(партызанам)*. Можаце ісці *(Партызаны выходзяць.)* Што ж, дзяўчына, растлумачце, калі ласка, як вы трапілі сюды?
Вера. Нічога я вам не скажу.
Клімeнка. Тады я загадаю арыштаваць вас.
Вера. І загадвайце. Мне цяпер усёроўна.
Ніна. Вера, што з табой?
Вера. Шпіёнкай мяне лічаць! Ну і лічыце! Лепшага не заслугоўваю!
Макар. Гэта мне з першай сустрэчы ясна. Правільна кажу?
Клімeнка. Можа быць, вы ўсё-такі скажаце, што прывяло вас сюды?
Вера. Няхай адыйдуць... Вам аднаму скажу...
Віктар. І мы?
Вера. А вы што — святыя?
Клімeнка. Ідзіце, пагуляйце, маладыя людзі.

Ніна, Віктар і Макар выходзяць.

Вера. Так, я шпіёніла... Яны пайшлі ўдваіх... Употай ад мяне... Віктар і Ніна... А я пайшла за імі ўслед... Я сачыла, таму што люблю яго, таварыш камандзір! Можаце вы гэта зразумець? *(Закрыла твар рукамі, плача.)*

Заслона.



## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### Карціна трэцяя

Дэкарацыя першай карціны. Ніна сядзіць за сталом, перабірае паперкі.

Цёця Даша *(уваходзіць)*. Хопіць табе ў паперках корпацца! Забылася папалуднаваць. Не надакучылі яны табе?
Ніна. Адчапіцеся, цётка, а то наблытаю.
Цёця Даша. Работай сваёй ці хоць задаволена?
Ніна. Задаволена.
Цёця Даша. Зойдзе пан Зайцаў — падзякуй яму. Каб не ён, не бачыць бы табе такога цёплага месцейка. Сама падумай: паёк, аклад, работа гарадская. А ўлада, усялякая ўлада — яна, любачка, ад бога...
Ніна. Выходзіць, вам, цёця Даша, усёроўна, якому богу маліцца, абы ён вас у прыбытку не пакрыўдзіў?
Цёця Даша. Я чалавек ціхі. Жыць жа трэба. Я, любачка, для нас дзвюх стараюся... Паехалі надоечы ў Забалоцце па крупы, прыхапіла тры пудзікі солі... Яна там даражэй, чым у нас. Думаю, соль з выгадай прадам і крупы схадней куплю.
Ніна. А навошта крупы? Сваіх няма куды дзяваць: на тры гады паназапасілі.
Цёця Даша. А крупы ў нас у Баровічах нарасхват. Не кожнаму дазволена ездзіць на сяло. Дзякуй богу, пан Зайцаў не забывае, прапускі выпісвае... Дык от... Ад'ехалі мы ад горада вёрст пяць — выходзяць з лесу трое з аўтаматамі. Пытаюцца: што вязеш, цётка? Нічога, кажу, не вязу. Бандыты, палезлі ў фурманку, знайшлі соль і палову забралі. Мы, кажа, партызаны, у нас цынга без солі пачынаецца... Калі пачынаецца — схадзі на рынак, купі, а то знайшлі каго крыўдзіць... Ці ж гэта парадак? Апошні даход адбіраюць... Гэта ж супраць усялякай улады. Праўда?.. Ці ўжо, нарэшце, паперку якую-небудзь далі б?!.
Ніна. Паперку? Навошта яна вам?
Цёця Даша *(пераходзячы на шэпт)*. Распісачка не пашкодзіла б, Ніначка. Можа і спатрэбілася б... Ліха яго ведае, магчыма і вернуцца бальшавікі. Я тады паказала б ім паперку: глядзіце, і я партызанам памагала. Спачувала, удзельнічала... Не думай, што твая цётка недавучак які. Я, мілая, наперад за сто гадоў бачу.
Віктар *(уваходзіць. Ён у нямецкай форме з пісталетам і кінжалам)*. Дзень добры. Даруйце, што без стуку: па статуту не паложана.
Цёця Даша. Заходзь, заходзь, галубок... Ах, як табе гэтая форма падыходзіць... Проста вачэй не адвядзеш! Зірні, Ніначка!
Віктар. Прывітанне, Ніна.
Ніна. Прывітанне.
Цёця Даша *(ціха Ніне)*. Ты больш ласкава з ім. Жаніх — анцік з мармеладам. *(Віктару.)* Сядай, мілы, не саромейся.
Віктар. Вы, цётка, хацелі ісці кудысьці?
Цёця Даша. Ага, без царквы нешта засумавала, галубок. Пайду. Грахі нашы цяжкія.
Віктар. Не спозніцеся?

Цёця Даша *(заспяшалася)*. То ж праўда! Пачаставала б, Ніначка, госця чарачкай першачку. Я зараз падам. *(Ставіць на стол гарэлку і закуску.)* Частуйцеся, а я пайду. *(Выходзячы.)* Эх, залаты зяцёк быў бы... *(Выходзіць.)*

Віктар. Да чаго дажыў: усялякая шэльма хваліць!

Ніна *(паглядзела на гадзіннік)*. Хутка пачнуць нашы збірацца. Макар прыдзе. Давай, што ў цябе ёсць.

Віктар *(падае складзеную паперку)*. Сёння зранку батальён паліцыі выступіў з горада для аховы чыгункі.

Ніна. Колькі немцаў засталося ў горадзе?

Віктар. Тры роты, калі не лічыць гестапаўцаў. Размяшчэнне іх — у плане. Момант самы зручны.

Ніна. І мне здаецца, чакаць больш нельга. Трэба ўдарыць!.. Паглядзім, якія навіны прынясе Макар.

Віктар *(памаўчаўшы)*. Ты і цяпер нічога мне не скажаш?

Ніна. А што сказаць, Віця?.. Я праз цябе пасварылася з лепшай сяброўкай.

Віктар. Вера і сёння не прыдзе...

Ніна. Дзіўная ўсё ж яна.

Віктар. Яна больш на мяне крыўдуе, чым на цябе. Я сёння заходзіў да яе... Кажа, усё, што трэба для арганізацыі, зраблю, пайду, куды загадаеце, а на зборы хадзіць не буду.

Ніна. Чаму?

Віктар *(сумеўся)*. Каб з табой не сустракацца. Кажа, не магу бачыць, як ты на яе глядзіш...

Ніна. Саперніцы мы, значыць... Ды скажы ты ёй, што гэта няпраўда, што яна памыляецца!

Віктар. Калі казаць пра мяне, дык не памыляецца. Не! І вельмі шкада, калі пра цябе памыляецца...

Ніна. Ты прыгледзься, якая яна дзяўчына!.. Ну, добра, няхай мяне яна зненавідзела. Няхай я брыдкая для яе. Але цябе, — цябе яна любіць. Яшчэ як! Калі б я была на тваім месцы і мяне пакахала такая, я засвяцілася б ад шчасця!

Віктар. А калі б ты мяне пакахала...

Ніна *(паглядзела яму ў вочы, сумна)*. Не трэба, Віця...

Віктар. Чаму? Я не ведаю, як я мог раней жыць без цябе...

Ніна. Сціхні! Ты ж ведаеш мяне без году тыдзень...

Віктар. Таму што яно прыйшло адразу, нечакана, як вясёлка ў тумане...

Ніна. Не трэба спяшацца, Віця.

Віктар. Дык вайна ж, Ніна!.. Ты можаш паручыцца, што мяне заўтра не заб'юць? Жыццё абарвецца, і горка будзе, што не паспеў выказаць...

Ніна. Калі памрэм — усёроўна.

Віктар. Не, не ўсёроўна! Калі б за мінутку да смерці ты мяне пацалавала...

Ніна. Кінь, Віця... Не трэба...

Адзін за другім уваходзяць двое хлопцаў. Апошнім уваходзіць Макар. Моўчкі здароўкаюцца, аглядаюцца, закрываюць фіранкі.



Макар. О, на стале і чарка ёсць! Добра прыдумана! За чыё здароўе па першай?

Віктар *(першаму хлопцу)*. Наглядай за вуліцай. Сядай — адгэтуль відней.

Першы хлопец *(Макару)*. Цябе за гэтым Кліменка паслаў?

Макар. Загадана дзейнічаць адпаведна з абставінамі.

Ніна. Сядзем за стол. Ненадоўга. Калі хто прыдзе чужы, скажам, што гулянка.

Макар. Гармонік ёсць?

Ніна. Акардыён.

Макар. Нясі.

Ніна прыносіць акардыён.

Віктар. Сядайце, хлопцы.

Усе садзяцца за стол. Віктар і Ніна апынуліся побач у канцы стала.

Макар *(сур'ёзна)*. Таварышы, заўтра а дзесятай гадзіне ўвечары два партызанскія атрады — наш і суседні — атакуюць Баровічы. Першы ўдарыць па нямецкаму штабу, а другі захопіць вузел. Сілы ў нас малавата. У горадзе трэба паніку падняць. Правільна кажу?

Віктар. І толькі?

Макар. Не, не толькі. Партызанскі штаб лічыць, што самае галоўнае ў аперацыі — вывесці са строю чыгуначны вузел. Яго трэба ўзарваць.

Віктар. І ўсё?

Макар. Хопіць на першы раз.

Першы хлопец. Як гэта хопіць? Мы спадзяваліся, што распачнем бой...

Макар. Бою не будзе. Будзе налёт. Таварыш Кліменка загадаў вам у перастрэлку не ўступаць. Зрабіце сваю справу — і па хатах. Каб вас ніхто не бачыў і не заўважаў. Нам Ніна графікі руху паяздоў перадае — і па тых графіках кожны дзень нямецкія эшалоны пад адхон ляцяць. Гэта важней, чым ты будзеш з аўтаматам трэск узнімаць... Правільна кажу? Паспееце — наваюецеся яшчэ.

Ніна. Загад ёсць загад.

Макар. Кліменка, між іншым, загадаў табе, Ніна, і гэтай... Веры Грынько ў аперацыі не прымаць удзелу.

Ніна. Гэта чаму?

Макар. Каб ніякай падазронасці на вас не пала...

Ніна. Вось гэта ўжо крыўдна!

Віктар. Ты ж сама сказала: загад ёсць загад.

Макар. Астатняе рашайце самі. Бомбачкі атрымалі? Дзейнічайце.

Віктар. Бомбы з заваднымі механізмамі мы размеркавалі паміж нашымі групамі. Першая група *(глядзіць на першага хлопца)* бярэ на сябе падпаліць і знішчыць эшалон з боепрыпасамі. Гэтыя трыццаць вагонаў прастаяць на вузле да дзесяці гадзін вечара. Чыгуначнікі паклапаціліся аб гэтым.

Першы хлопец. Прапускі патрэбны. Іначай да іх не прабрацца — ахову ўзмацнілі.

Ніна. Прапускі атрымаеце пад вечар. Я прынясу.

Віктар. Другая група *(гаворыць, гледзячы на другога хлопца)* зоймецца камендатурай. Такая наша думка. Давайце абмяркуем.

Макар. Пачынаць трэба роўна а дзесятай. Мінутка ў мінутку... Завадныя механізмы — усе — пастаўце на дзесяць гадзін вечара.

Віктар. Сігнал падасць Кліменка. Зялёная і чырвоная ракеты адначасова. *(Макару.)* Запомніў?

Ніна *(перадае Макару паперы)*. Аддасі таварышу Кліменку. Гэта графікі руху паяздоў, якія адпраўляюцца з Баровіч да 10 гадзін вечара. І размяшчэнне рот. Схавай.

Макар *(хавае паперы за пазуху)*. Цяпер ім крышка...

Ніна. Вера сёння аформіць прапускі для ўсіх. Я зайду да яе праз гадзіну.

Макар *(няёмка)*. Старая знаёмая...

Віктар. А ты чаго чырванееш? Аплявуху атрымаў месяц назад, а чырванееш цяпер.

Макар. Ну, ведаеш...

Усе смяюцца.

Віктар. Не злуй, Макар. Ад такой дзяўчыны сцярпець не грэх.

Першы хлопец *(паглядзеў у акно)*. Немцы!

Ніна *(налівае гарэлку ў шклянкі)*. Спакойна. Сядайце і пачынайце мастацкую самадзейнасць.

Макар *(бярэ акардыён)*. Спяваць будзем «Шумеў камыш» ці што?

Другі хлопец. Адпіце хоць па паўшклянкі. Каб дух быў.

Макар грае. Уваходзяць два немцы, салдаты. Яны, відаць, зайшлі проста ад няма чаго рабіць.

Першы салдат. Хайль Гітлер!

Другі салдат. Добры дзень!

Ніна. Вас вюншэн зі, майнэ герэн?

Другі салдат. О, шпрэхен зі дойч?

Ніна. Я. Іх бін дольментшэрын аўз дэм бангоф.

Першы салдат. Ком аўз.

Другі салдат. Найн. Гір іст зо лосціг. *(Ніне.)* У вас маленькі пікнік?

Ніна. Як бачыце. Гэта, па-мойму, не забаронена.

Другі салдат. Я. Нацюрліх.

Першы салдат. З якой прычыны? Ці не савецкае свята сёння? *(Другому салдату.)* Я быў тут. Гэта падазроныя людзі.

Другі хлопец. Не, проста так.

Макар *(нечакана)*. Вяселле ў нас. *(Грае на акардыёне.)* Правільна кажу?

Другі салдат. О! Гохцайт! *(Ніне.)* Вы — нявеста?

Ніна *(дакорліва зірнуўшы на Макара)*. Ага.

Другі салдат. О, я хацеў узняць адна чарка за рускі нявеста! *(Першаму салдату.)* Дас іст эйн русішэ шнапс... самагонка! Зэер штарк!

Першы салдат. Ком аўз! Вір зінд герэн, абер ніхт гёстэ.

Другі салдат. Ге цум тойфель! Цум тойфель!..

Ніна налівае ўсім, садзіцца каля Віктара. Усе ўзнімаюць шклянкі.

Другі салдат. Я ведаў адзін добры рускі звычай. Госці на вяселлі для лепшы апетыт крычаць: горка! Я прасіў нашых жаніх і нявеста рабіць салёдка і гаварыль: горка!



Макар *(весела засмяяўся)*. Горка!

Першы салдат *(другому салдату)*. Ком аўз. Вільст ду нах камендатур шпацырэн?

Другі салдат *(адмахнуўся)*. Горка!

Спачатку толькі Макар і адзін салдат, а пасля ўсе, захапіўшыся камізмам сітуацыі, крычаць: «Горка!» Ніна бездапаможна аглядаецца па баках. Віктар таксама адчувае сябе няёмка. Адчуваючы, што інакш нельга, Віктар і Ніна цалуюцца.

Другі салдат. Зараз усё ёсць салёдка...

Ніна *(Віктару)*. А ты і ўзрадаваўся!

Віктар. Малайчына гэты немец — звычай ведае!

Ніна. Табе толькі таго і трэба.

Макар *(Віктару)*. Квіты?

Віктар. Калі яшчэ раз крыкнеш горка — не пакрыўджуся.

Ніна. Паспрабуй толькі!

Уваходзяць цёця Даша і Зайцаў. Ён у ваеннай форме з фельдфебельскімі пагонамі. Салдаты і Віктар, убачыўшы яго, выцягваюцца.

Зайцаў. Чаго тут? Загаду не ведаеце? Оберлейтэнант Кох забараніў нямецкім салдатам самавольна хадзіць па рускіх дамах. У камендатуру захацелі!..

Другі салдат. Абер...

Першы салдат. Ком аўз!

Зайцаў. Марш адгэтуль!

Салдаты выходзяць.

Другі салдат *(выходзячы)*. Айн гунд! *(Выходзіць.)*

Зайцаў *(Ніне)*. Што ён сказаў?

Ніна. Ён сказаў: сабака, пан Зайцаў.

Зайцаў. Што? Я яму галаву адкручу!

Цёця Даша. А ці варта, пане Зайцаў! Паберажыце здароўе.

Зайцаў. І праўда. *(Віктару.)* Ты чаго тут?

Цёця Даша. Гэта да Ніначкі, пане Зайцаў. Дазвольце яму застацца.

Зайцаў *(велікадушна)*. Дазваляю.

Цёця Даша *(уважліва ўглядаючыся ў Макара і — ненатуральным, дрыжачым голасам)*. Ешце госцейкі... Не саромцеся. *(Да Зайцава.)* Пойдзем, пане Зайцаў, калі ласачка, у залю. *(Цёця Даша і Зайцаў ідуць у суседні пакой.)*

Ніна *(Макару.)* Ты цётку маю нідзе не сустракаў?

Макар. Па-мойму, не. А што?

Ніна. Нешта яна на цябе паглядзела падазрона.

Макар. Чорт яе ведае!

Віктар. Трэба разыходзіцца...

Ніна. Ідзіце, я зараз даганю вас.

Віктар, Макар і хлопцы выходзяць.

Ніна *(апранае жакетку, бярэ сумачку і хавае ў яе бланкі)*. Паспрабую памірыцца з Верай... Ці ж я вінавата перад ёй?.. Трошкі — так...

Цёця Даша *(уваходзіць)*. Ты што, з торбай па свету пусціць мяне хочаш?

Ніна. Самі гарэлку паставілі.

Цёця Даша. Гарэлкі мне не шкада. Ты з кім звязалася? Хочаш, каб немцы цябе забралі, а за табой і мяне? Я стараюся, начэй не дасыпаю, а ты ўсё на вецер хочаш пусціць?

Ніна. Чаго вы крычыцё, не разумею...

Цёця Даша. Гэты, што на гармоніку граў, — ён у мяне соль адабраў.

Ніна. Вам здалося. Вы памыліліся, цётка. Не можа быць...

Цёця Даша. Я ніколі не памыляюся. Яго сцапаюць, а за сабой ён і нас пацягне, што пакрывалі яго...

Ніна. Ён проста на кагосьці падобны...

Цёця Даша. Падобны! Збіваюць цябе спанталыку, нягоднікі! Гэта ж знайшла з кім звязацца!

Ніна. Ні з кім я не звязалася. Я працую і — ўсё.

Цёця Даша. І няма чаго валаводзіцца з рознымі. Яны табе не пара!

Ніна. Ціха. Зайцаў пачуць можа.

Цёця Даша. То-та! Сама бачыш, што супраць начальства нельга ісці. Паслухмянае цялё дзвюх матак ссе. Каб яго, гэтага, з гармонікам, больш у нас у доме не было!

Ніна. Не будзе.

Цёця Даша. *(мякчэй)*. Трэба трошкі асцярожней быць, Ніначка.

Зайцаў *(за сцэнай)*. Дар'я Мікітаўна!

Цёця Даша. Іду, іду. *(Ніне.)* Ты на работу?

Ніна. У камендатуру.

Цёця Даша. Ну, з богам. *(Выправаджвае Ніну, а сама ідзе да Зайцава. Праз некаторы час яна вяртаецца разам з Зайцавым. Падыходзячы да акна.)* Вось той... што без шапкі...

Зайцаў. Я яго зараз...

Цёця Даша. Абараніце маю пляменніцу, пане Зайцаў... Пагубяць дзеўку...

Зайцаў. Добра. *(Паспешліва выходзіць, адшпіляючы кабуру пісталета.)*

Цёця Даша. Так, дзякаваць богу, будзе лепш для мяне, а для Ніначкі тым больш.

Заслона.

## Карціна чацвёртая

Пакой нямецкай камендатуры. Некалькі сталоў і крэслаў. Цяжкія парт'еры і шторы. Вера Грынько сядзіць спіною да гледачоў і друкуе на машынцы. Оберлейтэнант Эрнст Кох дыктуе, крочачы па пакою.

Кох. «Начальніку Баровіцкай палявой друкарні зондэрфюрэру Шульцэ. Прапаную...» Напісалі «прапаную»? Не? Пішыце... «Загадваю неадкладна надрукаваць тысячу экземпляраў...» Закрэсліце «тысячу»... «Надрукаваць пяць тысяч экземпляраў наступнай аб'явы». 



Напісалі? З новага радка: «Германскае камандаванне, якое клапоціцца пра бяспеку горада і абараняе яго ад бандытаў, якія называюць сябе партызанамі, мае намер правесці рашучыя ваенныя аперацыі для ачысткі лясоў ад злачынцаў. Насельніцтва абавязана ўсямерна памагаць германскай арміі. Хто зловіць кіраўніка бандытаў Кліменку, таму камандаванне выплаціць узнагароду ў дваццаць пяць тысяч марак...» Дваццаць пяць тысяч — вялікімі літарамі, прапісам. Далей: «Акрамя таго, той, хто дапаможа злавіць Кліменку, будзе прадстаўлены да ўзнагароды бронзавым крыжам». Усё. Подпіс — мой.

Вера *(скончыла пісаць, павярнулася да Коха)*. А вы не скупы, оберлейтэнант.

Кох. За гэтага бандыта я даў бы ў пяць разоў больш. Але штаб корпуса сцвярджае, што такіх, як Кліменка, — многа. Грошай шкадуюць, ідыёты! Не разумеюць, што такі адзін варты цэлага батальёна.

Вера. Вы сёння не ў гуморы. Прайграліся?

Кох. Наадварот. Выйграў у гаўптмана Шчірцара дзвесце марак.

Вера. Дык чым вы так узрушаны?

Кох. Нервы не вытрымліваюць.

Вера. Вам па статуту не паложана нервавацца.

Кох. А чорт яго бяры, той статут!

Вера. Нават?

Кох. Вы разумная дзяўчына, фрэйлен Вера. Няўжо вы не разумееце, што атрымаць месца ў тыле, у час ваенных падзей — не вельмі простая справа? Але я атрымаў яго! Я спадзяваўся адпачыць ад вайны ў вашым ціхім гарадку, а атрымалася, што і тут, у глыбокім тыле — такая ж вайна. Нават больш жахлівая. На фронце вораг перад вачыма, а тут — усюды.

Вера. Я даўно не бачыла вас такім, пане оберлейтэнант. Што гэта, страх?

Кох. Сёння вашы кпіны недарэчы, фрэйлен Вера.

Вера. Вы проста старэеце, оберлейтэнант. Вам нестае пачуцця гумару.

Кох. Вы думаеце? Пакінем гэтую размову. Вайна надакучыла, свет ненавісны... Адгарадзіцца ад усяго, апусціць шторы...

Вера. Вы хочаце адгарадзіцца ад вайны шторамі? Жалезабетон і той не паможа.

Кох. Чаго вы смеяцеся? Можаце вы хоць раз быць сур'ёзнай?

Вера. Не спрабавала. Навучыце, пане оберлейтэнант.

Кох. І не называйце оберлейтэнантам, калі ўдваіх. У мяне ёсць імя.

Вера. Няўжо?

Кох *(ашалела)*. Не, вы ўсё-такі нервуеце мяне!..

Вера. Падаць вады?

Кох. Самі выпіце і супакойцеся.

Вера. Вада мяне ніколі не супакойвала.

Кох. Вы проста злоўжываеце маімі добрымі адносінамі да вас. Я нікому другому не даравалі бы такога абыходжання.

Вера. Вы нездаволены маёй работай? Скажыце — я пакіну. Мне прапанаваў месца Штольц. Для мяне будзе спакайней. Ён стары...

Кох. Канец глупства! Нікуды я вас не пушчу! А гэта старая галёша Штольц, калі будзе пераманьваць маіх работнікаў, загрыміць на перадавую. Варта мне толькі захацець!

Вера. Ваша ўлада вялікая.

Кох *(супакоіўся, праніклёна)*. Фрэйлен Вера, я цаню ваш розум і востры язык, але, паверце, я не заслугоўваю вашых шпілек.

Вера. Я не падколваю вас, оберлейтэнант. Я проста стараюся не сумаваць, калі вы не даеце мне работы.

Кох. Глупства работа! Можаце вы глядзець на мяне, як на мужчыну, ці не?

Вера. О, гэта ўжо нешта новае.

Кох. Вы ведаеце, што ў мяне ў Берліне ёсць нявеста. Дакладней — была нявеста. Учора я напісаў ёй *(падае Веры пісьмо)*.

Вера. Перадрукаваць?.. Колькі экземпляраў?

Кох. Кіньце жарты, фрэйлен Вера. Прачытайце. Я напісаў, што адмаўляюся ад яе, таму што сустрэў вас.

Вера. І закахаліся. Гэта я ўжо чула.

Кох. А я не стамлюся, паўтараючы.

Вера. Дарэмна.

Кох. Вера!.. Вы мне не верыце? Загадайце што-небудзь!

Вера. Загадваю: пакіньце гаварыць пошласць.

Кох. Але я люблю вас. *(Спрабуе абняць яе, але яна спрытна выкручваецца.)*

Вера *(пакрыўджана)*. Ну, што вы! Знайшлі час і месца!

Кох. Чорт яго ведае, што можа зрабіць з чалавекам сапраўдная жанчына!

Вера. Вам трэба прыняць халодны душ.

Кох *(сеў)*. Я сябе не пазнаю. Я падпісваю смяротныя прыгаворы, я магу знішчыць дзесяткі людзей, а перад прыгожай дзяўчынай гублаюся. Паслухайце, фрэйлен Вера. Я мог бы прымусіць вас... Але я гэтага не раблю. Няўжо вы не разумееце — чаму?

Вера. Таму, што вы ўсё-такі добры...

Кох выходзіць, ляснуўшы дзвярыма.

Вера *(паглядзела яму ўслед)*. Псіх! *(Села за стол і — задумёна.)* Ну і жыццё! Кажуць, што я раблю патрэбную справу — дастаю розныя дакументы, падслухоўваю размовы штабаў... Вялікая і патрэбная справа. Безумоўна. Ды гэты дурань падпіша ўсё, што ні падсуну яму! Але проста брыдка! Я прыкідваюся, прытвараюся, а навошта? Віктар, адзіны чалавек, дзеля якога варта жыць, — і той забыўся, глядзіць на мяне абыякава. *(Стук у дзверы.)* Дарайн!

Віктар *(уваходзіць)*. Ты адна?

Вера. Не рады?

Віктар. Што ты! Наадварот. Мне трэба перадаць табе загад Кліменкі.

Вера. Толькі таму?

Віктар. Вера, ты стала злоснай!

Вера. Я стала! Гэта ты зрабіў мяне такой! Ты і твая Ніна! Вы загналі мяне ў гэтае звярынае логава, а самі... *(Дрогнуўшым голасам.)* Віктар, няўжо ты нічога не заўважаеш?..

Віктар. Вера, ты цудоўная дзяўчына.

Вера. Якой можна расказаць пра свае любоўныя нелады. Зайздросная роля!

Віктар. Ты заўсёды кпіла з мяне...



Вера. Смешныя вы, хлопцы! Мы, Віктар, заўсёды былі з табой разам, прывыклі адзін да аднаго, а з'явілася трэцяя, зусім чужая — і ты забыўся на ўсё...

Віктар *(памаўчаўшы)*. Ніна тут ні пры чым. Яе ты дарэмна абвінавачваеш...

Вера. Дарэмна?.. Я ненавіджу яе!.. Чуеш? І сябе ненавіджу за тое, што нянавісць у мяне да яе, што я такая... Я не ведала, што я магу быць такой... Што ж, я не святая, мне не хапае велікадушнасці... Ідзі, перадай ёй усё гэта і пасмейцеся з такое дурніцы, як я...

Віктар. Ну, што ты, Вера! *(Памаўчаў.)* Пакінем гэтую размову... З мінуты на мінуту можа хто-небудзь увайсці. Сёння а дзесятай гадзіне вечара наша арганізацыя пачынае дзейнічаць. Пасля дзесяці табе небяспечна заставацца тут.

Вера *(палымяна)*. Я пайду з вамі!.. З табой, Віктар!.. Хоць смерць — усёроўна!

Віктар. Кліменка не дазваляе.

Вера. Зноў Кліменка! *(Сур'ёзна.)* Што ад мяне патрабуецца?

Віктар. Аформіць начныя прапускі.

Вера. Дзе бланкі заявак?

Віктар. Іх прынясе Ніна.

Вера. Ніна? *(Стук у дзверы. Віктар адскочыў, выцягнуўся.)* Дарайн!

Ніна *(уваходзіць)*. Дзень добры, Вера.

Вера. Давай заяўкі.

Ніна. Ты і прывітацца не хочаш?

Вера. Не хачу. Давай бланкі.

Ніна *(аддае бланкі)*. Ты дарэмна злуешся на мяне. Вазьмі яго, калі ласка.

Віктар. Ды што я вам — шафа ці што?

Вера. Мне падачкі не трэба. І цярпець не магу, калі мяне шкадуюць.

Кох *(уваходзіць)*. Фрэйлен Вера, пішыце... *(Заўважыў Віктара, які замёр перад начальствам.)* Што трэба?

Віктар. Начальнік паліцыі загадаў мне ўзяць у вас разметку гарнізонаў раёна, пан оберлейтэнант!

Кох. Добра. Пачакайце ў калідоры.

Віктар. Ёсць! *(Выходзіць.)*

Кох *(Ніне)*. Вы да мяне?

Ніна. Начальнік вакзала прасіў вас падпісаць начныя прапускі рабочым.

Кох. Дайце заяўкі. Паглядзім, хто такія гэтыя вашы рабочыя.

Вера. Я праверыла. Людзі надзейныя.

Кох. Вы залішне саманадзейныя. Дайце я пагляджу.

Вера. Вам і пад ложкам партызаны здаюцца!..

Кох. Фрэйлен Вера, вы пры пабочных... Давайце падпішу.

Падпісвае прапускі, аддае Веры пячатку — і яна ставіць яе, не звяртаючы ўвагі на Коха.

Вера *(Ніне)*. Вазьмі. *(Аддае прапускі.)*

Кох *(Веры)*. Гэта ваша сяброўка?

Вера. Наадварот.

Кох. Што значыць — наадварот?

Вера. Не разумееце? А калі вы каго-небудзь кахаеце, а той — наадварот? Гэта разумееце?

Тэлефонны званок.

Кох *(бярэ трубку)*. Так, я... Слухаю. Што?.. Вось як?.. Я сам гэта зраблю. *(Паклаў трубку і — Ніне нечакана.)* Вы арыштаваны!

Вера. Што з вамі, оберлейтэнант?

Кох *(Ніне)*. Вы аддалі графікі руху нашых паяздоў!

Ніна. Ніколі.

Кох. Зараз арыштаваны партызан, і ў яго — графікі. Вы іх перадалі!

Ніна. Не.

Кох. Вы ў мяне прызнаецеся! Мы добрыя да таго часу, пакуль з намі па-добраму.

Вера *(яна пазірала за ўсім, кусаючы губы)*. Так, так... Гэта яна аддала. Я ведаю. Яна.

Ніна. Вера!

Вера. Яна аддала, Эрнст.

Кох. О, фрэйлен Вера!

Вера. Адпраўце яе, Эрнст, зараз жа. Там стаіць гэты паліцай. Няхай ён адвядзе яе неадкладна.

Ніна *(пачынае ўсё разумець)*. Вось ты якая!

Кох *(прыадчыніў дзверы ў калідор, Віктару)*. Ідзі сюды!

Віктар *(уваходзіць)*. Слухаю, пане оберлейтэнант!

Кох. Адвядзі гэтую затрыманую ў гестапа. Галавой за яе адказваеш!

Віктар. Слухаю!

Ніна *(ціха, Веры)*. А ты?

Вера *(ярасна крычыць Віктару)*. Вам што — загад не ясны? Зараз жа!

Ніна і Віктар выходзяць.

Кох. Я цаню тваю адданасць.

Вера. Я думала, што магу задушыць яе...

Кох. Германія ацэніць твае пачуцці, Вера. Такіх і трэба душыць.

Прыбягае ўзрушаная цёця Даша. Кох гнеўна на яе глядзіць.

Кох. Чаму без стуку? Вон адгэтуль!

Цёця Даша. Паночку!.. Пашкадуйце маю пляменніцу!.. Я ведаю, яе арыштавалі... Яна не вінаватая! Яе збілі розныя нехрысці, а яна не вінаватая... Гэта я выдала партызана, я! Яго ўзяў пан Зайцаў!.. Загадайце вызваліць яе!..

Вера. Якая подласць!

Цёця Даша. Гэта я подлая? Я нямецкаму начальству памагала, а ты — подласць?.. Я аб сваёй роднай пляменніцы клапачуся... Ты таксама не дужа чыстая!.. Гэта яе сяброўка, пане афіцэр... Усё ў іх заадно. Калі Ніначку ўзялі, дык чаму гэту не чапаеце?..

Кох. Сяброўка? *(Веры.)* Чаму ўтаіла?

Вера. Я не ўтойвала. Я сказала — наадварот, таму, што мы пасварыліся.



Зайцаў *(убягае)*. Пане оберлейтэнант! Пане оберлейтэнант! Дзе паліцэйскі Віктар Манькоўскі, якога я пасылаў да вас?

Кох. Ён павёў арыштаваную.

Зайцаў *(знясілены, упаў на крэсла)*. Усё. Капут.

Кох. Што — усё?

Зайцаў. Ён здраднік. Партызан!

Кох. Што?!

Зайцаў. Тыя дакументы, што ў партызана, напісаны рукой Манькоўскага. Сакрэтныя паперы, вельмі важныя... Каго выпусцілі з рук!

Кох *(б'е Зайцава па шчацэ)*. Ідыёты! Пад суд! *(Хапае трубку тэлефона.)* Зараз жа закрыйце ўсе выхады з горада! Уцёк бандыт у форме паліцэйскага, малады, сярэдняга росту і з ім дзяўчына. Якія падрабязнасці?.. Хапайце ўсіх, пасля разбярэмся!

Цёця Даша *(падае на калені)*. Пане афіцэр!

Кох *(б'е яе нагой)*. Вон!

Цёця Даша *(кідаецца да Зайцава)*. Пане Зайцаў!

Кох. Ага, дык вы з аднае хэўры?! *(Зайцаву.)* Гавары!

Зайцаў. Проста знаёмая... Часамі заходзіў пасядзець за сталом.

Цёця Даша. Выпіваў, выпіваў, а зараз цураешся!

Зайцаў. Старая ведзьма! Гэта яна мне рэкамендавала гэтага Манькоўскага! Ты ў мяне цяпер запішчыш! Я табе навыпіваю!

Кох *(злосна)*. Здаць зброю!

Зайцаў адшпіляе кабуру. Кох выводзіць яго ў калідор. Чуцен стрэл.

Цёця Даша *(выбягае спалоханая)*. Вой, забілі!

Кох *(вяртаецца, Веры)*. Зараз я зразумеў вас! Вы дорага заплаціце за сённяшняе... Мяне ніхто так не падводзіў, як вы. Гэта была ваша сяброўка? Гаварыце!

Вера *(раўнадушна, быццам размаўляючы сама з сабой)*. Не... саперніца...

Кох. І вы ўратавалі яе!

Вера. Так. Выратавала.

Кох. Затое я вас не выратую. У гестапа вы загаворыце не так!.. Мы з вас душу выматаем!

Вера *(цвёрда і як ніколі сур'ёзна)*. Не ўдасца!

Кох *(бярэ трубку тэлефона)*. Гестапа! Пан групенфюрэр, я арыштаваў у сябе машыністку. Прышліце канваіра. *(Паклаў трубку.)*

Заслона.

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### Карціна пятая

Прасёлачная дарога. Некалькі дрэваў і кустоў. Касагор, паросшы травой. Надвячорак. Некаторы час на сцэне нікога няма. Уваходзіць Віктар, абапіраючыся на плячо Ніны. Ён паранены і, відаць, знясілеў. Ніна таксама цяжка дыхае.

В і к т а р. Не паспеем мы, Ніна... Пакінь мяне, а сама бяжы... Ужо дзевятая гадзіна... Кліменка чакае... Чаго са мной няньчыцца! Я лепш паляжу трошкі... Адляжуся...

Н і н а. Не кажы глупства.

В і к т а р. Я камандзір групы... Я загадваю табе! Бяжы!

Н і н а. Ачуняеш, тады будзеш загадваць. Нельга табе заставацца аднаму. Рана сур'ёзная, Віктар.

В і к т а р. Калі б не ты, мяне ўжо не было б...

Н і н а. Перадыхні, Віця... Прысядзем мінут на пяць... *(Садзяцца ля касагора.)*

В і к т а р. Калі немцы пачалі страляць і мы з табой пабеглі, нешта ўдарыла мяне ў плячо і ў вачах пацямнела... Не ў пару гэта, Ніна, не ў пару... Толькі-толькі дачакаліся сур'ёзнай справы і, падумаць толькі, нейкая дурная куля падкасіла... Крыўдна, Ніначка! Я, ведаеш, апамятаўся ад болю, калі ты цягнула мяне... Адкуль у цябе сілы столькі, Ніна, я ж цяпер не хлапчук які...

Н і н а. Не да жартаў, Віктар.

В і к т а р. Бяжы. Няма чаго няньчыцца са мной.

Н і н а. Пачакай. *(Перавязвае павязкі.)* Рана запяклася, Віктар... Абмыць яе трэба.

В і к т а р *(аблізнуўшы перасохлыя губы)*. Нічога...

Н і н а. Віця, ты хочаш піць?

В і к т а р *(намагаючыся ўсміхнуцца)*. Потым, Ніначка, потым. Можаш пацалаваць мяне?

Н і н а. Я забараняю табе гаварыць такое! Вера выратавала мяне, а сама гіне за нас дваіх... Яна любіць цябе... Калі з ёй што-небудзь здарыцца, я ўсё жыццё буду адчуваць сябе вінаватай... Перад ёй, перад Макарам. А ты?

В і к т а р. Калі сустрэнемся яшчэ, я скажу ёй: дзякую. А тое, што толькі адной табе магу сказаць, яна ад мяне ніколі не пачуе... Хацеў бы, можа быць, сказаць, але не змагу... Нават калі яна выратавала нам жыццё...

Н і н а. Таму што... Таму што ты чэрствы.

В і к т а р. Не мерай па сабе. І — хопіць аб гэтым. Пойдзем, Ніна. *(Спрабуе ўстаць.)* Ой! *(Траціць прытомнасць.)*

Н і н а *(кінулася да яго)*. Віця, Віця!.. Я люблю цябе! *(Абхапіла яго галаву рукамі, цалуе.)* Я нядобрая, Віця... Але я люблю цябе... Ой, што ж мне рабіць? Віця!

В і к т а р *(расплюшчыў вочы)*. Я — што, спаў? Гэтага яшчэ нехапала! Хадзем, Ніна! Кліменка чакае. А што жартаваў — не злуйся... Ты — каменная, бессардэчная... Табе гэтага ўсёроўна не зразумець...

Н і н а *(уздыхнула)*. Так, не зразумець... Ты паляжы, Віктар, а я збегаю, пашукаю вады.

В і к т а р. Спознімся, Ніна.

Н і н а. Я зараз. *(Выбягае.)*

В і к т а р. Толькі б дайсці ў пару! З Макара там жылы выцягваюць, а я раскіс... Малайчына! Дайсці, толькі дайсці! *(Спрабуе ўстаць, але не можа.)* Чорт! *(Зноў траціць прытомнасць.)*

Уваходзяць т р о е п а р т ы з а н. З асцярогаю паглядаюць на Віктараву форму паліцая.



П е р ш ы п а р т ы з а н. Рукі ўгору!

Д р у г і п а р т ы з а н. Бач ты, нават не паварухнецца!

П е р ш ы п а р т ы з а н. Напіўся, як свіння, і ляжыць без памяці.

Т р э ц і п а р т ы з а н. Што з ім рабіць?

Д р у г і п а р т ы з а н. Паліцаю адна дарога...

П е р ш ы п а р т ы з а н. Прыстрэліць.

Т р э ц і п а р т ы з а н. Куды спяшаецеся? Дайце яму, сабаку, хоць вочы адкрыць, пабачыць сваю смерць.

П е р ш ы п а р т ы з а н. Няма часу валаводзіцца з ім. *(Бярэ Віктара за каўнер. Віктар стогне.)*

В і к т а р. Пачакайце, таварышы...

П е р ш ы п а р т ы з а н. Воўк табе таварыш.

В і к т а р. Мне Кліменку трэба пабачыць, хлопцы...

Д р у г і п а р т ы з а н. Думаеш, ён цябе памілуе?

Т р э ц і п а р т ы з а н. Пачакайце, хлопцы! *(Віктару.)* Табе па якой справе Кліменка трэба?

В і к т а р. Не магу я вам гэтага сказаць... Толькі яму аднаму...

П е р ш ы п а р т ы з а н. Хлусіць!.. Прыкончыць яго! *(Узнімае аўтамат.)*

Н і н а *(прыбягае і, убачыўшы, што Віктара хочуць страляць, крычыць)*. Стойце! Пачакайце! Каго страляць хочаце!

П е р ш ы п а р т ы з а н. А ты адкуль такая заступніца знайшлася? Адыйдзі!

Н і н а. Не крычы на мяне — я не з палахлівых! Хто вы такія, каб самасуд чыніць?

Д р у г і п а р т ы з а н. Партызаны!

В і к т а р. Хлопцы, не паліцай я... Пачакайце...

Т р э ц і п а р т ы з а н. Хто ж ты такі, калі не паліцай?

В і к т а р. Паклічце мне камандзіра — скажу.

П е р ш ы п а р т ы з а н. Каго слухаеце? Ён знарок марудзіць! Трэба паглядзець, можа засада дзе-небудзь схавана...

Н і н а. Нікога няма. Нам Кліменку трэба.

Т р э ц і п а р т ы з а н. Сапраўды, не гарачыся, хлопцы. Зараз падыйдуць нашы — разбярэмся.

П е р ш ы п а р т ы з а н. Дарэмна толькі час трацім.

Н і н а *(мякка)*. Хлопцы... Не паліцай ён... Вось вам камсамольскае, не паліцай... Дарэмна вы на яго...

Уваходзіць К л і м е н к а на чале атрада партызан.

Н і н а *(кінулася да Кліменкі)*. Таварыш камандзір!

К л і м е н к а. Здарова, Ніна! Што здарылася? Дзе Макар? *(Заўважыў Віктара, ідзе да яго.)* Віктар? Паранены?

В і к т а р. Нічога, таварыш камандзір... Макара схапілі... І Веру з ім... Ратаваць трэба...

Т р э ц і п а р т ы з а н *(першаму)*. Казаў я — не спяшайцеся!

Н і н а. Трэба ратаваць іх, таварыш камандзір!

К л і м е н к а. Ведаю, што трэба... У гестапа варта моцная, Ніна. Аднаго выратуем, а палову атрада страціць можам.

В і к т а р. Макара ратаваць трэба, хлопцы. І Веру таксама...

К л і м е н к а. Не магу я рызыкаваць атрадам, хлопцы.

В і к т а р. Не можаце?.. Ён рызыкаваў, а мы не можам?

Першы партызан. Пашліце нас, таварыш камандзір!

Кліменка. Хопіць...

Віктар. Я ўчора быў у гестапа... Там стаяў узвод, а ўвечары большасць немцаў паехала кудысьці.

Кліменка. Колькі засталося?

Віктар. Каля дваццаці.

Кліменка. І кожны з аўтаматам ды з гранатамі.

Віктар. Нельга пакідаць Макара... Я таксама пайду... *(Спрабуе ўстаць, але ад болю стогне.)*

Ніна *(кінулася да яго)*. Віктар!

Кліменка. Аднясіце на санітарную павозку.

Партызаны і Ніна нясуць Віктара.

Кліменка. Эх, Макар, Макар!

Трэці партызан. Дваццаць фашыстаў, таварыш камандзір, не так ужо страшна. Калі наляцім нечакана — нагонім страху і выратуем.

Кліменка. Люблю я Макара, хлопцы... Але калі праз яго дзесяткі матак асірацеюць, не дарую сабе гэтага... Я і вас берагчы павінен.

Трэці партызан. Але і дружбу берагчы павінны, таварыш камандзір! Гэта, па-мойму, самае галоўнае. Калі таварышаў у бядзе пакідаць будзем, што хлопцы скажуць!

Першы партызан. Не можна так...

Кліменка *(рашуча — першаму і трэцяму партызанам)*. Загадваю: прабрацца ў горад, разведаць абстаноўку. Далажыць не пазней дзевяці гадзін сарака пяці мінут.

Першы партызан *(узрадавана)*. Ёсць!

Трэці партызан. Пайшлі.

Першы і трэці партызаны выходзяць.

Кліменка *(ім услед)*. Толькі будзьце асцярожнымі, хлопцы!

Ніна *(уваходзіць)*. Дайце мне зброю, таварыш камандзір! Я таксама пайду з вамі...

Кліменка. Страляць умееш?

Ніна. Віктар мяне вучыў.

Кліменка. Яму лягчэй?

Ніна. Ён сказаў: калі хочаш, каб я выжыў, — не вяртайся без Макара і Веры... Я люблю яго, таварыш камандзір, хоць ён пра гэта і не ведае.

Кліменка. Калі ідуць у бой — другу гавораць усю праўду.

Ніна. Калі выратуем Веру і Макара, тады скажу.

Кліменка. А калі.... не ўдасца?

Ніна. Тады ніколі не скажу.

Кліменка. Так.

Ніна. Мы выратуем іх, таварыш камандзір! Вы дазвольце толькі. Добра?

Кліменка. *Мужныя ў вас сэрцы!.. (Дае Ніне вінтоўку.)* Пайшлі!..

Кліменка падае знак — і партызаны ідуць у напрамку, адкуль прышлі Ніна і Віктар.

Заслона.



## Карціна шостая

Дэкарацыя чацвёртай карціны. На месцы Веры сядзіць машыністка гестапа. Яна заканчвае перадрукоўваць нейкія паперы. Групенфюрэр за другім сталом гаворыць па тэлефоне.

Групенфюрэр. Маўчыць? А вы пакратайце. Калі развяжа язык, прывядзіце сюды. *(Паклаў трубку, машыністцы.)* Скончылі?

Машыністка. Калі ласка, пане групенфюрэр.

Групенфюрэр. На досвітку іх расстраляюць. *(Падпісвае паперы.)*

Машыністка. Наш фюрэр не любіць сантыментаў.

Тэлефонны званок.

Групенфюрэр *(бярэ трубку)*. Маўчыць?.. Добра. Прывядзіце яго сюды. *(Паклаў трубку.)*

Машыністка. Тая ж гісторыя?

Групенфюрэр. Так. Хлапчанё, а маўчыць. Скура тоўстая ў гэтага быдла, фрэйлен!

Машыністка. Дзіўны народ, мой групенфюрэр! Чым больш іх б'еш, тым больш яны ўпартыя.

Групенфюрэр. Глупства!

Два салдаты прыводзяць Макара, знявечанага, у крыві. Ён не можа трымацца на нагах. Салдаты садзяць яго на крэсла.

Машыністка *(садзіцца за машынку)*. Я гатова, пане групенфюрэр.

Групенфюрэр *(падыходзіць да Макара)*. Тваё імя?

Макар. Іван.

Машыністка ляпае па клавішах, запісвае допыт.

Групенфюрэр. Па бацьку?

Макар. Іванавіч.

Групенфюрэр. Прозвішча?

Макар. Іваноў.

Групенфюрэр. З якой вёскі?

Макар. Іванаўкі.

Групенфюрэр *(машыністцы)*. Перастаньце! Няўжо вы не бачыце, што гэтае шчанё прыкідваецца? *(Макару.)* Калі ты будзеш такім упартым, я прыдумаю табе такое катаванне, што ў самога д'ябла валасы дыбам стануць.

Макар. Я стрыжаны.

Групенфюрэр *(салдатам)*. Прывядзіце гэтую спекулянтку.

Адзін салдат выходзіць і праз мінуту прыводзіць цёцю Дашу, якая нізка кланяецца ва ўсе бакі.

Групенфюрэр *(цёці Дашы, паказваючы на Макара)*. Пазнаеш гэтага?

Цёця Даша. Ён у мяне соль адабраў, пане афіцэр... Адабраў і ні капейкі не даў... Паўтара пуда! Гэта партызан...

Групенфюрэр (*Макару*). Прызнаеш?

Макар. Такую падлу і ў сне брыдка бачыць.

Цёця Даша. Падлу? А калі соль адбіраў, не брыдка было? Вылюдак праклятый! Мала цябе білі!.. Яшчэ трэба, каб маё дабро бокам табе вылезла!

Групенфюрэр (*цёці Дашы*). Як яго імя?

Цёця Даша. Не помню, пане афіцэр... Далібог, не помню... Чула, ды забылася. Заходзіў ён да маёй пляменніцы.

Групенфюрэр. Твая пляменніца — партызанка. Калі ты не паможаш нам, табе не паздаровіцца.

Цёця Даша. Пашкадуйце бедную жанчыну, пане афіцэр! Я праклянy яе, калі хочаце, а дзе яна — не ведаю...

Групенфюрэр. Яе хаўруснікаў ведаеш?

Цёця Даша. З выгляду... З выгляду, пане афіцэр...

Групенфюрэр (*салдатам*). Вывесці! Я займуся ёю пасля. Яна нам спатрэбіцца. (*Салдаты выводзяць цёцю Дашу.*) У гэтай праклятай краіне толькі такая дрэнь можа дрыжаць ад страху! (*Макару.*) Гавары, ну! Гавары, ці я цябе зараз, як сабаку!.. Ну!..

Макар. Скажыце... Якая гадзіна?

Групенфюрэр. Без дваццаці дзесяць.

Макар. Усё...

Групенфюрэр. Ты ў мяне забудзеш гадзіны лічыць!

Макар. Без дваццаці... (*На яго твары з'явілася падабенства ўсмешкі.*) Не напінайся — праз дваццаць мінут лопнеш.

Групенфюрэр (*у ярасці, салдатам*). Вывесці. Усыпаць яшчэ!

Салдаты выцягваюць Макара.

Машыністка. Вы заб'еце гэтага звярка, а нічога не даб'ецеся. Трэба інакш. Паміж гэтым хлапчуком і той дзяўчынкай ёсць якая-небудзь сувязь?

Групенфюрэр. Магчыма.

Машыністка. Развяжыце ёй язык. Жанчыны — баязлівыя. Ва ўсякім выпадку, большасць іх. Калі яна прызнае, і ён загаворыць.

Групенфюрэр (*бярэ трубку тэлефона*). Прывядзіце арыштаваную.

Кох (*уваходзіць*). Хайль Гітлер, пан групенфюрэр! (*Падыходзіць да машыністкі, цалуе ёй рукі.*) Вечар добры, мая радасць.

Машыністка. Гэта банальна, Эрнст. Прыберажыце сантыменты для рускай дзяўчынкі, якая абдурыла вас.

Кох. Вы ўжо ведаеце?

Машыністка. Мы — гестапа.

Кох. Паверце, гэта глупства. Проста флірт.

Групенфюрэр. Праз ваш флірт мы выпусцілі з рук двух злачынцаў, згубілі сляды падпольнай агентуры Кліменкі. Вам гэта так не абыйдзецца, оберлейтэнант.

Кох. Нават калі я знайду згубленыя сляды?

Групенфюрэр. Калі знойдзеце, абяцаю вам загладзіць гэтую справу.

Кох. Дзякую. Я пастараюся.

Салдаты прыводзяць Веру Грынько.



Машыністка (*прыглядзелася да яе*). О, у вас не благі густ, оберлейтэнант!

Групенфюрэр (*Веры*). Сядайце, фрэйлен.

Вера. Біць будзеце ў крэсле, ці што? Навошта цягнуць? Пачынайце!

Групенфюрэр. Навошта біць! Мы абыходзімся так толькі з непапраўнымі. А вы ім не пара.

Кох. Вы разумная, фрэйлен Вера, прыгожая.

Вера. Скажыце, оберлейтэнант, каторая гадзіна?

Кох. Без чвэрці дзесяць.

Вера. Усё.

Групенфюрэр. Што — усё?

Машыністка. Шкада. Яе калега адказаў больш востра.

Групенфюрэр (*машыністцы*). Змоўкніце!

Кох (*Веры*). Мы ад вас нічога асаблівага не патрабуем. Назавіце толькі агентаў Кліменкі — і вы вольная.

Вера. Толькі? Якая літасць! Я нікога не ведаю.

Групенфюрэр. Калі вы баіцёся іх помсты, мы дадзім вам цудоўную работу ў другім горадзе. Інакш — смерць. Падумайце — смерць!

Кох. Падумайце, вы маладая, у вас яшчэ ўсё жыццё наперадзе... Узважце, фрэйлен Вера...

Вера. Я нікога не ведаю.

Кох. Вас прымусяць сказаць!

Вера. Да чаго ж вы бязглузды, оберлейтэнант!

Машыністка (*Коху*). Віншую.

Групенфюрэр (*бярэ трубку*). Прывядзіце хлапчука.

Кох. Я зусім перастаю разумець гэтых рускіх.

Вера. Вы іх ніколі і не зразумееце.

Салдаты прыводзяць Макара, садзяць у крэсла.

Групенфюрэр (*Веры*). Ведаеце яго?

Вера (*на яе твары — пакутны боль, але яна перамагла сябе*). Не.

Кох. Калі вы будзеце маўчаць, вас чакае тое самае.

Групенфюрэр (*Макару*). Ведаеш яе? Гавары, шчанюк!

Макар (*слабым голасам*). Не, не ведаю.

Групенфюрэр (*падыходзіць да Веры, бярэ яе пальцы*). Няўжо вам не шкада сваіх прыгожанькіх пальчыкаў?

Макар. Не чапай чалавека.

Кох. Як ты сказаў?

Машыністка (*пырснула*). Беражыцеся, оберлейтэнант!

Групенфюрэр (*падскочыў да Макара*). Ведаеш яе? Гавары, сволач!

Макар (*з апошніх сіл прыўзнімаецца і плюе групенфюрэру ў твар*). Падлюга! Правільна ка...

Групенфюрэр выхапіў парабелум і б'е рукаяткай Макара па галаве. Макар падае.

Вера (*кідаецца да Макара*). Макар!.. (*Гладзіць яго валасы. Плача.*) Даруй мне, дарагі...

Кох. Спадзяюся, цяпер вы будзеце больш разумнай.

Салдаты выцягваюць Макара.

Вера. Так, я ведаю... Я многа ведаю... Але я вам нічога не скажу! Рэжце мяне на кавалкі — нічога не скажу! Чуеце, крывасмокі, — нічога не скажу!

Групенфюрэр *(салдатам)*. Біць!

Салдаты выводзяць Веру.

Машыністка. Пан групенфюрэр, дазвольце мне заняцца гэтай дзяўчынкай. Бізуны — гэта вельмі прымітыўна.

Кох. Вы — і такая брудная работа!

Машыністка. Гэта мне будзе вельмі прыемна.

Групенфюрэр. Што ж, паспрабуйце.

Машыністка дастае з шафы нейкія клешчы і іголкі. Выходзячы, пасылае Коху паветраны пацалунак.

Кох. Д'ябал — не жанчына!

Групенфюрэр. Я паважаю яе за гэта. Дарэчы, сёння нас чакае цікавая сустрэча. Прыехаў гаўптман Вінцер і з ім лейтэнант Данцыгер. У абодвух грошай куры не клююць. Вы будзеце... *(Паказвае на калоду карт.)* Карты — лепшы адпачынак для салдата. Закурвайце.

Абодва закурваюць.

Кох. Адкладзем справу аб маёй адпраўцы на фронт?

Групенфюрэр. Пасля, мой оберлейтэнант.

Уваходзіць машыністка. Салдаты вядуць за ёй Веру.

Машыністка. Можаце пачынаць допыт. *(Садзіцца за машынку.)*

Групенфюрэр *(Веры)*. Назавіце толькі прозвішчы.

Кох. Пашкадуйце сваю маладосць, фрэйлен Вера.

Вера. Падлюгі!

Кох *(падскочыўшы да Веры)*. Гаварыце ці я сам займуся вамі яшчэ не так!..

Вера. Не палохайце! Вы яшчэ адчуеце на сабе выбух народнага гневу!..

Машыністка *(падыходзіць да Веры з інструментамі)*. Табе хочацца, каб я паўтарыла першы сеанс?

Групенфюрэр. Гавары!

У акне ўзнікаюць тры агеньчыкі, якія імгненна набліжаюцца. Гэта імчыцца поезд. Агні ўсё бліжэй і бліжэй. Чуецца магутны выбух — усё асвятляецца чырвоным заравам вялікага пажару.

Вера. Дзесяць!.. Зірніце, яны гавораць за мяне! Вось ён, выбух! Вось ён, наш час! Ён — за нас! Нашы... Родныя... Слаўныя... *(Чутна перастрэлка. Яна ўсё бліжэй і бліжэй. Кох, групенфюрэр і машыністка дастаюць пісталеты.)*

Групенфюрэр *(машыністцы)*. Пільнуйце затрыманую!

Групенфюрэр, Кох і салдаты выходзяць. Перастрэлка ўсё бліжэй і бліжэй.

Машыністка *(яна зусім спакойная, забаўляецца браўнінгам)*. Не варушыся! Адзін неасцярожны рух — і смерць.

Вера. Паскуда!



Машыністка *(зірнула ў акно)*. Яны бягуць... Панікёры!

Вера *(кідаецца да акна)*. Нашы!

Машыністка. Дык ты ж іх не ўбачыш!

Машыністка страляе Веры ў спіну. Вера зрабіла некалькі крокаў да акна, асветленага барвовым заравам, пасля захісталася і ўпала.

Машыністка *(глядзіць у акно)*. Якія панікёры!..

Адступаючы і адстрэльваючыся, у пакой бягуць групенфюрэр і Кох. За імі — партызаны.

Першы партызан. Рукі ўгору!

Кох і групенфюрэр кідаюць пісталеты, узнімаюць рукі.

Машыністка. І гэта мужчыны! Дрэнь! *(Спакойна падносіць пісталет да скроні, націскае курок. Стрэл — і яна падае.)*

Уваходзяць Ніна і Кліменка.

Кліменка *(партызанам, паказваючы на Коха і групенфюрэра)*. Расстраляць!

Кох. Пан камандзір!.. Пан камандзір!.. Адпраўце нас у палон... Мы просім вас!..

Кліменка. Гестапаўцаў у палон не бярэм.

Кох. Я не гестапавец... Я армейскі афіцэр. *(Паказвае на групенфюрэра.)* Гэта ён...

Групенфюрэр *(б'е Коха па шчацэ)*. Падлюга!

Кліменка *(партызанам)*. Вывесці!

Партызаны выводзяць Коха і групенфюрэра.

Ніна *(заўважыўшы Веру)*. Верачка!.. *(Кідаецца да яе. Кліменка і партызаны схіляюцца над Верай.)* Верачка! Скажы што-небудзь!.. Вера, родная мая! *(Па яе твары цякуць слёзы.)* Верачка...

Вера *(адкрывае вочы)*. Вы... Свае... Ніна... Там Макар... Калі фашысты згінуць... Пра нас не забывайце... *(Памірае.)*

Усе акружаюць Веру, здымаюць шапкі, заміраюць у цяжкай маўклівасці.

Кліменка. Хто пасмее дакараць нас, калі мы будзем жорсткія? Хто?..

А зарава палымнее, і здаецца, што твары ва ўсіх крывава-чырвоныя. Дзесьці далёка, нарастаючы, гучыць песня.

Заслона.



Вядомы ўкраінскі паэт Мікола Нагнібяда нарадзіўся ў 1911 годзе ў Запарожскай вобласці ў сям'і вясковага фельчара. Вучыўся ў школе ФЗН, пасля працаваў слесарам на Харкаўскім велазаводзе, на Днепрабудзе, быў палітработнікам у Чарнаморскім флоце, вучыўся ў інстытуце журналістыкі. Пісаць вершы пачаў у 1930 годзе. За гэты час выйшла з друку каля трыццаці кніг паэта — «Дняпроўская вясна», «Зярно», «Дарога на поўдзень», «Марскія балады», «Шчасце», «Ляля Убівоўк», «Камсамольскія леты», «Песня паходаў», «Сустрэча ў дарозе», «Стэп і мора» і іншыя.

У 1952 годзе за кнігу «Паэзія» паэт быў удастоен Сталінскай прэміі. У перакладах на беларускую мову выйшаў зборнік М. Нагнібяды «Песня з Украіны». Паэма «Васілёк» напісана паэтам нядаўна, пасля яго паездкі ў Беларусь.

**Мікола НАГНІБЯДА**

# ВАСІЛЁК

**Паэма**

I

...Хоць і грымела контратака
І ў даль ляцеў ад бою птах,
А ўсё ж цвілі валошкі з макам
У даспяваючых жытах.

Цвілі, цвілі у дыме й громе...
Ляжаў ужо ў далечыні
Даўно нябачаны, знаёмы
Прастор марскому старшыні.

Сюды Ляўчук спяшаў з баямі,
І вось ён стэп —
няма канца!..
Ужо не морам, а жытамі
Ішлі матросы да Стральца.

На родным стэпавым улонні
Каманда прагучыць адна —
І першым пойдзе ў батальёне
У наступленне старшына.





Сігнал...
Ракета...
Ўжо сцяною
Усталі ў полі маракі...
І пакаціўся клёкат бою
Аж да далёкае ракі.

І засвістала сталь у полі,
І аўтамат прырос да рук...
Як птушка збітая, паволі
У жыта падае Ляўчук.

Няўжо кранула куля сэрца?
А мо' баійца бліскавіц?..
Ды не...
Блакітнае азерца,
А ў ім ляжыць жанчына ніц.

Узяў руку —
нібы ільдзіна,
Паслухаў сэрца — не, маўчыць.
Малы хлапчук каля жанчыны
У сінім азярцы ляжыць.

Бялявая, з касою русай,
І крыжам вышыты рукаў...
Ішлі, напэўна, з Беларусі,
Ды тут свінец іх напаткаў.

Узяў Ляўчук дзіця на рукі,
Як некалі дачку, панёс...
А ў хлапчука ад болю й мукі
У вачанятах поўна слёз.

А вочы сінія —
з туманам,
І рукі, як галлё, вісяць...
За што ж яму чатыры раны
Так рана суджана прыняць?..

І першы раз не па статуту,
Абветраны ў баях салдат
Пайшоў не ў бой —
у дым атрутны,
А ад агню пайшоў — назад.

І прыгінаючыся,
жытам
Матрос наўпрост паскорыў крок,
Туды, дзе яварамі ўкрыты,
Бялеў маленькі хутарок.

Як бег марак лясной дзялянкай,
Здавалася, што ручаёк
Спяваў маркотна калыханку —
Эх, Васілёк ты, Васілёк...

Над хлапчуком усю дарогу,
Як крылы,
стужкі дзве ляцяць,
А ён глядзіць на іх з трывогай,
Не разумеючы жыцця.

Ляўчук ўсміхаецца над ношай
І ўжо зварочвае ў садок...
— Ну, ты не плач,
Не плач, харошы...
Эх, Васілёк ты, Васілёк!

Зайшоў у сенцы.
Змрок навокал...
— Выходзьце, людзі!.. Гэта ж свой!
Маўчала хата,
Хоць далёка
Адгэтуль адкаціўся бой.

А з-пад зямлі:
— Іду, сыночак...
І дошка ўпала каля ног,—
Жанчына вышла
З цёмнай ночы,
Збялелая,
як палатно,

І да матроса:
— Слава богу!..
Прышлі...
А гэта хто,— сынок?..
— Спяшайцеся на дапамогу —
Знайшоўся ў жыце Васілёк.

Старая залемантавала,
Туды кідаецца, сюды,—
Стракаты дыванок паслала,
Нагрэла ў чыгунку вады.
На бінт ручнік парвала ў хаце,
Напарыла травы для ран...

— Ды ты ўжо вопытная, маці...
— А як жа...
Дзед мой партызан...

Забінтаваны, праз хвіліну
Прыціх, нябога, на радне...
— Ты чуеш?



Будзе жыць хлапчына,
Ён твой унук
і сын ён мне.

У сенцы ён паклікаў маці
Кіўком таемным галавы:
— Маё дзіця ў бацькоўскай хаце,
А Васілёк — ён франтавы,
Ён, разумееш,— сіраціна,
Сам з Беларусі, твой зямляк...
Хай пажыве ў цябе хлапчына,
Пакуль сюды вярнуся я.

Ты ж пра сіроцтва — ані слова,
Скажы, што бацька у баях,
Што ў маці многа спраў службовых,
Яна ў дарозе —
доўгі шлях.

Усё зразумела?..
— Усё, здаецца...
А запытаецца унук...
— Дык жонка Мар'яю завецца,
Я — старшына Іван Ляўчук.

Задумаўся ён на хвіліну,
Цяльняшку зняў, пакінуў ёй:
— Пашыеш ты кашулю сыну,
Каб сэрца адчуваў маё...
А вас як зваць?

— А я — Цяцера...
Здаўна тут маю домік свой...

— Каб не згубілі на паперы —
Вось нумар пошты палявой.

І на дзвярах у гэтай хаце
Ён выразаў — за знакам знак,
А потым пакланіўся маці
І за парог ступіў марак...

І праз хвіліну жытам ён
Імчаў за громам наўздагон.

II

Хоць і мінула год нямала —
Турботаў многа іншы час —
А навальніцы той красала
Я зноў прыгадваю не раз.

І не таму, што грому ўдары
У цемры трэслі цэлы край
І, загарэўшыся ад хмары,
Штохвілі ўспалыхаў Дунай.

І не таму, што стромкі бераг
(Тады чужы перад табой)
Ахутаўся туманам шэрым
І прадвяшчаў нам люты бой.

Бо ноччу гэтаю бяссоннай
Да межаў роднае зямлі
Прышлі матросаў батальёны,
А ў порты — нашы караблі.

Пыл на дарогах з Акермана,
Пякучасць сонца і пажар,
І смутак свежага кургана,
І горкі дым Татарбунар,

І радасць у вачах, і слёзы,
Палёт сцягоў — чырвоных крыл —
Усё, усё тады матросы
У сэрцах неслі ў Ізмаіл.

І тут,
Не знаючы спачыну —
Бо ўперадзе чакаў народ,—
Абмыўшыся ў Дунаі сінім,
Яны далей ішлі ў паход.

Вязалі ў бітве пераправы,
На хвалі ставілі чаўны,
Каб толькі звер не ўцёк крывавы,
Што не дабілі 'шчэ яны.

О, векапомныя дарогі,
Травой не зарастаць вам век,
Дарогі праўды й перамогі
Да гор далёкіх, шумных рэк.

Усеўладны час, табе не сцерці
Той шлях ніколі на зямлі,
Дзе праз агонь ў душы і ў сэрцы
Мы праўду й гонар праняслі.



Душа святая у салдата,
Такую дзе яшчэ б знайшоў —
Агнём гарэла ў ёй адплата
І да прыгнечаных любоў.

Яе раз'ятрывалі раны,
Журба па страчаных сябрах...
Ляглі курганы і курганы
Каля Дуная на палях.

У іх спяць байцы з душою чыстай,
А ім бы з намі жыць ды жыць...
Над імі праўда камуністаў
Хай вечным полымем гарыць.

І хай над імі ў варце строгай
Стаяць ля мармуровых пліт
І пільнасць наша й перамога,
І дружба наша — як граніт.

Хай ружы росамі над імі,
Бы ўдовы плачуць ў галавах...
Я шмат каго з іх знаў жывымі
На ізмаільскіх берагах.

Там уначы над барагамі
Мне расказаў тады Ляўчук,
Як ён пад Лоевам жытамі
Бег у атаку...
Як унук
Знайшоўся ў бабы Цецярыхі,
Што мае сына ён з тых дзён
І прыгадаў той хутар ціхі,
Дзе Васілька пакінуў ён.

І пахваліўся мне лістамі,
Што слаў далёкі хутарок,
Што пачыналіся радкамі:
«Дзень добры, бацька і сынок»...

Шмат год прайшло...
Але і сёння
Яго жаданне чую зноў:
— Ну, Васілёк, мяне ты помніш?..
Ты дачакаўся:
я прышоў!

Прабач за доўгую разлуку,
Не загуляў,
быў у баю...
І Васілька вазьму на рукі
І аднясу ў сям'ю сваю...

Так ён жадаў даўно...
З гадамі,
Не, не зацьміў мне памяць час —
Я добра бачу:
з маракамі
Ляўчук сядае у баркас.

Ўвесь батальён марскі у зборы,—
Рады плытоў, чаўноў, фялюг...
*І паміж хмар згралі зоры.*
— Пашлі!— скамандаваў мой друг.

*Пашлі*... і ў цемрадзі адразу
Прапалі,
зніклі паміж хваль,
І ні чаўноў, і ні баркасаў,
А толькі бура крышыць даль.

Грукочуць перуны трывожна,
Шпурляюць дзіды за раку...
Ці ж думаў я, што раз апошні
Руку паціснуў дружбаку.

Хіба я ведаў, ля прыбою
Ад стомы ўпаўшы на пясок,
Што стаў другі раз сіратою
Ты, беларускі Васілёк.

III

Мінула ўжо нямала год,
Было шмат радасці і гора,
*Не раз збіраліся ў палёт*
Ключы гусіныя да мора,
Дняпро узламваў лёд не раз.
Як час ляціць, імклівы час!

І не шкадуе плынь яго
Ні зла, ні здрады з пустацветам.
Змывае з шляху іх свайго,
Нясе былінкамі па свету
Бясследна ў часу акіян,
У невядомасць і туман.

І толькі праца робіць цуд,
Бо неўміручая спрадвеку,
І час не ў сілах справіць суд
Над парываннем чалавека,
Які, працуючы як след,
Імкнецца упрыгожыць свет,



*Каб у садах паболей дрэў*
Пускала ў глыбіню карэнні,
Каб кожны шанаваць умеў
Здабыткі працы папярэдніх,
Ды 'шчэ ўзвялічыў славу іх
Ён для нашчадкаў для сваіх...

Так думаў я, як над Дняпром
На Лоеў крочыў берагамі,
Кургана даўняга шалом
Далёка ўзняўся за жытамі.
Які разгон дняпроўскіх хваль,
Які прастор, якая даль!..

Гляджу, ўзышоўшы на гару,
Якая навакол карціна!..
Там дзесь пачнецца Беларусь
І дзесьці скончыцца Украіна.
Але мяжы я не знайшоў,
*Не бачна знакаў* і слупоў.

І толькі ў жыце гурт бяроз,
Нібы сям'я дзяўчатак родных,
Ды лес за полем да нябёс,—
Да нашага ўжо не падобны —
Цяпер адзначылі здаля,
Дзе сходзіцца сясцёр зямля.

А ўсё ж валошкі тут і мак
Такія самыя, як нашы...
І песню нашую юнак
Спявае ў гэты час на пашы.
Праходжу я непадалёк
На белы, ціхі хутарок.

Ці заблудзіў і трапіў я
На іншы хутар надвячоркам...
Ды не — вунь яваў сям'я
І чырвань вішань на падворку.
Чыё ж дзяўчо каля варот
Глядзіць з цікаўнасцю ў гарод?

— Скажы, Цяцеры тут жывуць?
— Жывуць... А вы каго хацелі?
— А Васільком каго завуць?
І вочы ўраз павесялелі:
— Дык гэта ж брат мой... Ён Ляўчук,
А ўжо Цяцерысе — унук.

Не заблудзіў я, не, прышоў,
Куды не раз гукала сэрца,
Сюды, да залатых дуброў...



Крынічнае вады вядзерца,
Гліняны кубак і ручнік
Мне падае стары ляснік.

На рукі лье, а ўсе — наўкруг:
Дзяўчо і жонка сталі ціха,
Нібы прыехаў даўні друг,
Усхвалявана Цецярыха...
І піражкі, і хлебны квас
Усё з'явілася ўжо ўраз.

А над сталом партрэт...
Пазнаў!
Мы з ім у беларускай хаце —
У твар мне з рамкі паглядаў
Ляўчук у форменным бушлаце,
Як леў — магутны у плячах,
З усмешкай светлай у вачах.

Нібы пытаў таварыш мой:
«Як ты жывеш з тых дзён далёкіх,
Што ты зрабіў, каб сын з дачкой
Мае жылі не адзінока?
Чым ты, жывы, ўпрыгожыў свет,
Ці здзейсніў ты мой запавет?»

Я адказаць хацеў салдату,
Што я імкнуўся жыць вось так,
Але ўвайшоў якраз у хату
З цяслярскім фартухом юнак.
Старая ўстала:
— Гэта ўнук.
А ён сказаў:
— Васіль Ляўчук...

...Мы да світання ўдвух сядзелі
Не за сталом, не за вінoм —
Сузор'і ўсе для нас гарэлі,
Якія ззяюць над Дняпром.

Нас слухалі усе даліны,
Лясы, палі, гаі наўкруг,
І спелы колас з Украіны
Да нас хіліўся, быццам друг.

І слухаў нас агонь раздзьмуты,
Маўчаў ён, паблядней зусім
Перад упартасцю й пакутай,
Што ўспаміналіся над ім.



І дым не ўвысь разблытваў косы,
А прыпадаў да ціхіх траў,
Празрыстыя туманіў росы...
А Васілёк апавядаў...

— Чакаў жа бацьку я з вайны
І маці з дальняе дарогі,
Ды не вярталіся яны...
А ў гадавіну Перамогі
Мяне слязамі акрапіла
Старая, зразумець дала,
Што мацеры маёй магіла
У полі недзе, край сяла,
Што з-за Дунаю старшыні
Не слаць лістоў сваёй радні.

Але жывым з апавядання
Прышоў на хутар старшына.
Найлепшыя ўсе спадзяванні,
Што лютая ўзяла вайна,
Падараваў ён мне, як сыну.
І неразлучныя з ім мы —
Я ўзяў у спадчыну краіну,
Якую ён прыкрыў грудзьмі.
Свяшчэнны бацькаў запавет —
Я ўзяў яго з сабой у свет.

'Шчэ хлопцам марыў я назекі
Праславіць бацькаў цяжкі шлях —
Я пракладаў у марах рэкі,
Зраўноўваў пікі на гарах.
А потым доля навучыла,
Як трэба мару шанаваць,—
Без працы мара — як без крылаў
І ў вышыні ёй не лунаць.
Я ў працы зразумеў-такі,
Што крылы мары — дзве рукі.

Хадзіў я ў школу вечарамі,
Мяне ў брыгаду прынялі,
Я ставіў хаты з цеслярамі
На ўлонні роднае зямлі.
О, наваселля час вясновы!
Якое шчасце для людзей!..
Былую славу Ляўчукову
Я працай памнажаў штодзень.

А ўсё ж, утомлены, начамі
Не спаў, бывала, часта я —
Блукаў нязнанымі краямі:
— Дзе ж Ляўчукоў жыве сям'я?
Сумленне ўсё ж хацела знаці



І дзе яны, і як яны?..
Пачаў я родзічаў шукаці,
Дачку і жонку старшыны.

Нарэшце вестачка прышла...
Сабралася народу многа...
Я памятаю, паўсяла
Мяне праводзіла ў дарогу.
Хто мёду гляк, а хто грыбоў,
Хто палатна прынёс мне з дому —
Усе дары для Ляўчукоў
Я ўзяў тады з сабой, вядома...
А хтось сказаў:— У добры час!
Вязі сям'ю сваю да нас!

Так даўняе маё жаданне
Ён сэрцам разгадаў сваім...
Ну вось і ўсё апавяданне.
Хіба расказзаць мне аб тым,
Як я радню забраў з сабою,
Як Лоеў стрэў нас, як братоў?
Цяпер я з маці і сястрою,—
Адна сям'я мы Ляўчукоў!
Тут сее лён сястра мая,
А я будую, цесля я...

Мы ўдвух да ранку гаманілі,
Успалыхнуў зарою плёс,
Заслаў Дняпра крутыя схілы
Зялёным дымам вербалоз.

Зары адклікнуліся гусі,
Раптоўна ўзняўшыся з ракі,
І песню братняй Беларусі
На сінь пляснулі плытнікі.

Ішоў да прыстані я садам,
На ранні параход спяшаў,
А Васілёк ужо з брыгадай
Харошым людзям будаваў
Святліцу новую ля шляху,
Што нацянькі вядзе ў калгас...

І дзве рукі, як крылы птаха,
Мне уяўляліся ўвесь час.

Пераклаў з украінскай мовы
Мікола АЎРАМЧЫК.



Янка СКРЫГАН

# ФАЛЬШЫВЫ ОРДЭР

Мал. П. Калініна.

## I

Марына сядзела за сталом у Валі Арэшкі, калі Собіч праглядаў яе касавыя дзённікі. З таго часу, як ён стаў за старшага бухгалтара, то перш за ўсё ўзяў у свае рукі касу. Ён праверыў дакументы, пералічыў ведамасці і, замест таго, каб даць праводку, задумаўся. Марына занепакоілася.

— Што ён там знайшоў, — ціха запыталася яна ў Валі.

— А хто ж яго ведае, — адказала Валя. — Наогул, ён вельмі строгі і мяне часта муштруе. Але, мне здаецца, справядлівы. Не перажывай надта.

Яшчэ трохі пасядзеўшы, Марына перайшла да Ермаліцкага. Трывога яе не пакідала, а найбольш шчыра магла яна пагаварыць толькі з ім. Але і Ермаліцкі паціснуў плячыма.

— Рэфарматар, сама ж ведаеш, — нарэшце сказаў ён. — Да чаго-небудзь ды прыдзярэцца. Усюды свае парадкі хоча завесці, быдта да яго дык у нас і парадкаў ніякіх не было.

Ермаліцкі жыў нядружна з Собічам з першых дзён, і Марына не здзівілася такой гаворцы.

— А я зараз сама падыду ды запытаюся, — сказала яна.

Ермаліцкі зноў паціснуў плячыма, як бы сказаўшы: «Адна трасца, што ты пагаворыш з ім, што не».

— Вам, мабыць, не падабаецца нешта, Усевалад Кірылавіч? Можа я

дзе памылілася? — прысеўшы на крэсла, якое стаяла ў Собіча ля стала, запыталася Марына.

— Не, нідзе вы не памыліліся, — адказаў Собіч. — Я пра другое думаю, Марына Барысаўна. Няправільна ў нас вядзецца каса. Сёе-тое, мабыць, прыдзецца перамяніць.

— А што, Усевалад Кірылавіч?

— Скажыце, і прыходныя і расходныя дакументы выпісваеце вы самі?

— Сама.

— От гэта якраз і няправільна. Вам нельга гэтага рабіць. Адзіным дакументам на касавыя аперацыі ў вас павінен быць толькі прыходны або расходны ордэр, выпісаны тут у нас, у бухгалтэрыі.

— То мне гэта яшчэ лепш, Усевалад Кірылавіч.

— Тым горш нельга, — гаварыў далей Собіч, — каб у касу прымаліся грошы па ведамасці, як гэта вы робіце. Вось глядзіце, які доўгі ў вас спісак, — пашукаў і разгарнуў ён доўгі аркуш паперы, падшыты ў дакументах касы, — мабыць за некалькі дзён ці можа больш як за тыдзень: за паслугі, за матэрыялы, за што хочаце. На якой падставе вы прымалі ад людзей гэтыя грошы?

— У мяне былі заявы з рэзалюцыямі або патрабаванні, падпісаныя галоўным ці старшым бухгалтарам. Грошы я ўпісвала ў ведамасць, а на патрабаванні ставіла штэмпель «аплачана».

Собіч зноў трошкі падумаў.

— Я веру, Марына Барысаўна, што вы і ў ведамасць запісвалі, і штэмпель ставілі, — сказаў ён, — але я гавару не пра гэта. Гэтых жа грошай можна было і не запісаць, або запісаць у другую, запасную ведамасць, а да справаздачы не прылажыць.

— Як гэта, Усевалад Кірылавіч? — спалохана запыталася Марына.

— Не бойцеся, Марына Барысаўна, я не кажу, што вы так рабілі. Але ж рабіць так можна?

— Усевалад Кірылавіч! — умяшалася Валя Арэшка, як звычайна, уся заліваючыся чырванню. — То як жа Марына магла б забраць тыя грошы, калі ў бухгалтэрыю паступяць патрабаванні з яе штэмпелем? Гэта ж будзе адразу відно! Вы нешта пужаеце нас!

Собіч дастаў папяросу, але па сваёй звычцы не прыкурыў яе, а палажыў ля чарнільнага прыладку.

— Я не пужаю і не абвінавачваю Марыны, Валянціна Андрэеўна, бо не яна заводзіла такія парадкі, — адказаў ён. — А ў бухгалтэрыю, калі нехта захоча, то такое патрабаванне можа і не паступіць...

Собіч гаварыў такія рэчы, якіх мы проста не маглі зразумець. Нам здавалася, што ён нешта перабольшвае і знарок наводзіць нейкую падазронасць. На каго і на што ён намякае? Навошта ён сее трывожныя страхі? Чаго ён хоча ад Марыны?

Ермаліцкі больш за ўсіх меў дачыненне да касы і ўсе гэтыя заўвагі да некаторай ступені прымаў і на сябе. Да таго ж, ён быў упэўнены, што Собіч або неўзлюбіў Марыну і пачынае да яе прыдзірацца, або можа сам мае на яе вока і такімі даліманамі стараецца схіліць да сябе.

— Словам, ты папала, Марына, у зладзеі. Табе ўжо не верадь, ты можаш абкрасці касу, — сказаў ён і злосна прымяў у попельніцы недакурак. — А я думаю, таварыш Собіч, што гэта проста прыдзірка. Няма ў нас зладзеяў! Скажыце лепш ясна, чаго вам трэба ад Марыны?



— Марына тут ні пры чым, Міхаль Пятровіч, — спакойна адказаў Собіч і пералажыў з месца на месца папяросу. — Але ж гэта можа прывесці да вялікіх непрыемнасцей і для нас і для яе.

## II

Собіч палажыў на стол перад Варанецкім даволі вялікі стос паперак. Гэта былі плацёжныя даручэнні на тэрміновую аплату, плацёжныя патрабаванні за адгружаную прадукцыю, падрыхтаваныя, як у нас кажуць, каб выставіць на інкаса, чэкі, розныя даведкі, словам, тая дакументацыя, якую звычайна рыхтуюць з самага ранку, каб не спазніцца адправіць яе ў банк. Прывычным вокам Варанецкі агледзеў іх, прывычным жэстам узяў асадку і падпісаў некалькі паперак.

— Як справы? — запытаўся ён, як звычайна, каб устанавіць нейкую блізкую норму дачыненняў. — На зарплату грошай назбіраем?

— Абавязкова, Мікалай Сямёнавіч. Мы ж палучылі ў гэтым месяцы многа па арбітражу.

— Добра. А здорава мы калупнулі дэбітораў гэтым арбітражам.

Афармленне банкаўскай дакументацыі заўсёды праходзіць, як нейкая ўрачыстасць, або рытуал ці набажэнства. Варанецкі акуратна ставіў свой подпіс, кожны толькі ў пэўным месцы, на кожнай паперцы аднолькавы, такі, які зберагаецца недзе ў банкаўскіх картатэках, як аўтэнтык. Собіч не адрываючыся сачыў, каб не асталося дзе пропускаў, бо часамі подпіс павінен быць толькі наверсе, а часамі і на адвароце, часамі на адным экземпляры, а часамі і на двух. Трывожная ўрачыстасць адразу лягла нейкай празрыстай цішынёй на ўсё: на расчыненую шафу з тамамі строгай дакументацыі, пераплеценай за некалькі год, на чорна-сіняе дэмісезонавае паліто, звешанае з цвіка каля дзвярэй, на даволі добра паношаную шапку, паложаную на стале казырком наперад, на століь, на сцены, на чарнільны прыладак. У гэтую хвіліну тут як бы тварылася нейкая тайна, поўная сваіх скрытых законаў, па якіх лічбы ціхіх паперак пачынаюць набываць сілу дзейнасці: яны ператворацца цяпер у сродкі вытворчасці, уключацца ў стваральны працэс жыцця прадпрыемства, будуць удзельнічаць ва ўсіх радасцях і поспехах людзей. Яны будуць жыць у новых каштоўнасцях, у новых багаццях, створаных чалавекам для чалавека...

Падпісаўшы колькі паперак, Варанецкі перапыніўся і прыкурыў люльку, перад гэтым патаптаўшы пальцам па тытуню. Выпусціўшы першы духмяны клубок дыму, ён адкінуўся набок, з кішэні сініх штаноў дастаў пячатку ў драўлянай пушачцы, спецыяльна банкаўскую, якую насіў заўсёды з сабою. Не спяшаючыся адчыніў і, моцна пахукаўшы, прыціснуў да першага бланка. Пячатка клалася ясна, аж прыліпала, і абадок з назваю ведамства, і асяродак з назваю завода відны былі вельмі добра.

— Давайце, каб вам не было нудна, памагайце. Я буду падпісваць, а вы стаўце пячатку, — сказаў Варанецкі, гэтым яшчэ больш сціраючы грані начальніка і падначаленага. — Абучайцеся, спатрэбіцца. Забела, дык той загадзя сябе ў начальнікі рыхтуе, усё практыкуецца ў мяне, як ставіць пячаткі. Часта прыходзіць і забаўляецца. Мабыць вельмі надакучыла яму быць механікам кіслароднага цэха.

Собіч не любіў гэтага чалавека, вяртлявага, цыбатага, быстравокага,

з тоненькімі моднымі вусікамі, які часта вельмі незалежна праходзіў у кабінет Варанецкага па праву яго найлепшага сябра, на нас нават не звяртаючы ўвагі, або кінуўшы грэбліва: «Здарова, чыноўнікі», як бы мы былі людзьмі ніжэйшага гатунку. Ён быў пранырлівы і дападкі; мы былі ўпэўнены, што дружба з Варанецкім яму патрэбна нездарма і дзівіліся, чаму не заўважае гэтага сам Варанецкі.

— Да начальнікаў такога чалавека дапускаць трохі небяспечна, — сказаў Собіч.

— Вы думаеце? — рассмяяўся Варанецкі. — Не, як не кажыце, чалавек ён з галавою...

Собіч стаў на край стала, каб адразу забіраць з-пад рук дакументы. Пячатка была пляскатая, трымаць яе было нязручна, але работа пайшла спарней.

Чэк трэба было асабліва асцярожна падпісваць: каб умясціцца ў вузенькім радку і, барані божа, не заскочыць якой рыскай за блакітнае поле. Але ўсё абышлося шчасліва, рука ў Варанецкага вывела подпіс прывычна лёгка, і пячатка на глянцавітай паперы лягла асабліва чытэльна і ярка.

— Усё? — запытаўся Варанецкі.

— Не, не ўсё, Мікалай Сямёнавіч. Прашу вашага дазволу, каб змяніць парадак афармлення касавай дакументацыі.

— А што? — Варанецкі ўставіўся заціснутаю ў зубах люлькаю Собічу ў твар.

Собіч расказаў свае меркаванні.

— Вы думаеце, Марына чалавек ненадзейны?

— Не, якраз пра яе гэтага сказаць нельга. Але ж тут можа быць шальмоўства паміма яе волі, і будзем вінаваты мы з вамі. Гэта раз. А другое — мы парушаем самыя элементарныя правілы касавай дысцыпліны і любы талковы рэвізор нам здорава можа ўсыпаць. Трэба нам завесці свой касавы журнал, рэгістраваць у ім дакументы, каб каса нечым правяралася.

— Гэта правільна, — падумаўшы, згадзіўся Варанецкі. — Я сам, між намі кажучы, разоў колькі пра гэта думаў, але ўсё неяк не даходзілі рукі. Ну што ж, пачынайце. Падумайце, каму там даручыць усю гэтую работу — і журнал гэты, і выпіску ордэраў. Вельмі добра...

Як заўсёды, порстка і дзелавіта зайшоў Ермаліцкі. Ён падаў на подпіс бронь на зарплату, але відаць было, што гэта толькі прычына, бо тут жа запытаўся:

— Вырашылі што з касаю?

— Вырашылі, Міхаль Пятровіч, — адказаў Варанецкі. — Гэта правільна.

— Нічога не правільна, Мікалай Сямёнавіч. У гэтым абсалютна няма ніякае патрэбы.

Варанецкі паглядзеў на Ермаліцкага, на Собіча, запытальна падняўшы бровы.

— Чаму?

— Мы не гандлёвая арганізацыя, у якой мільённыя абароты, у нас тых апераций — кот наплакаў. І няма чаго над Марынаю ставіць цэлы штат кантралёраў — рэгістрацыю, нумарацыю, паліцыю... Да таго ж, у нас пачынаецца справаздача, і замест работы мы будзем толькі ту-





заць людзей, а яны і так перагружаны. І майце на ўвазе, што ў нас няма зладзеяў! Калі дайшло да таго, што вы не верыце нам, дык павыганяйце! — адразу ўсё выгаварыў Ермаліцкі і выйшаў з кабінета.

Варанецкі пачаў выкалупваць у попельніцу люльку, вельмі доўга, старанна, хоць даўно ўжо драцінка шкрабалася аб прыгаркі. Відаць, Ермаліцкі таксама даў над чым падумаць. Выходзіць, што не так гэта лёгка зрабіць, як здаецца. З аднаго боку інструкцыі, законы, а з другога боку — людзі, якіх ён папраўдзе нібы ў нечым цяпер падазрае. А ў чым жа можна падазраваць Ермаліцкага, ці хоць бы тую ж Марыну? Даражэй за ўсё тое, што яны яго любяць. А цяпер як жа будзе? Не, слава добрага чалавека — гэта ўсё-такі даволі цяжкі абавязак...

— От што, дарагі Усевалад Кірылавіч, — праз доўгі час сказаў Варанецкі. — Ермаліцкі таксама гаворыць праўду. Давайце трохі пачакаем з гэтым. Мы ўсё гэта зробім, але крыху пасля — пройдзе справаздача, усе супакояцца. А мы за гэты час падумаем, памазгуем... Добра?.. Давайце пачакаем, Усевалад Кірылавіч...

## III

Неўзабаве пасля гэтага ў кантору да нас зайшоў чалавек у паношанай брызентавай спяцоўцы і падаў Собічу патрабаванне на кісларод.

— Адкуль? — запытаўся Собіч.

— Будаўніча-мантажны ўчастак № 12. Здалёк.

З невялікай картатэкі, прымайстраванай ля стала, Собіч дастаў картку гэтага ўчастка і высока падняў бровы.

— Дык у вас жа няма грошай, — сказаў ён. — Вы нават перабралі ў нас. Можа сёння пералічылі, дык давайце ваша плацёжнае даручэнне.

— Ніякага даручэння ў мяне няма. У вас ёсць нашы грошы, пашукайце як след, таварыш бухгалтар.

— Дзе ж іх шукаць? Калі б былі, то нідзе б з карткі не дзеліся.

Карткі гэтыя завёў сам Собіч. Раней у нас рабілася вельмі проста: за паслугі ці матэрыялы мы выпісвалі рахунак і чакалі аплаты. Адны плацілі акуратна, другія цягнулі бог ведае колькі, і мы ніяк не маглі пазбавіцца ад даўжнікоў, ці, як у нас кажуць, дэбітораў. А гэта вельмі непрыемная рэч: за іх сварыцца главк, за іх цягаюць у банк, патрабуюць аздараўлення баланса. Собіч жа дамогся таго, што кожная арганізацыя штомесячна пералічвала нам пэўны аванс і пад гэтыя грошы набірала матэрыялы. Авансы ён запісваў у сябе вось на гэтых кантрольных картках і такім чынам кожны раз правяраў, каб не адпускаць у доўг.

— Няма вашых грошай, — паўтарыў Собіч. — Не магу адпусціць.

— Ды не, таварыш бухгалтар, тут нейкая блытаніна, — пярэчыў пакупнік. — У той раз прыязджаў сам наш экспедытар, браў кісларод і заплаціў у касу тры тысячы рублёў.

— У касу? — перапытаў Собіч. — Гэтага не можа быць!

— Ну як жа — не можа быць! Праз банк мы не маглі тады пералічыць і заплацілі ў касу.

Собіч прагледзеў касавыя дзённікі ад пачатку месяца, але грошай, апрыходаваных ад будаўніча-мантажнага ўчастка № 12, не знайшоў. Падумаўшы, што можа вось тут так і здарылася, што Марына запісала грошы ў ведамасць, не закрыла яе і перанесла ў наступны дзённік, Собіч схадзіў у касу, праверыў усе прыходныя дакументы, але і там гэтых грошай не было.

— Мабыць вы абманваеце мяне, дарагі таварыш, — сказаў Собіч чалавеку ў брызентавай спяцоўцы.

— Ды што вы дурня з мяне строіце ці што, таварышы! — абурыўся чалавек.

У гэты час, рэзка і шырока адчыніўшы дзверы, зайшоў Забела.

— Ты тут яшчэ? — распарадлівым тонам запытаўся ён у чалавека. — Спяшайся, а то мы там усё зараз закрыем. Нам прыпухаць няма калі!

— Ды от тут грошай нашых не знойдуць, не адпускаюць.

— Якіх там грошай? Ну дык гэта ж вядома — на тое тут і бухгалтэрыя, каб блытаць. Знойдуцца, нідзе не дзенуцца. Адпускайце, бухгалтар, не марынуйце чалавека! — сказаў ён так, нібы меў нейкае права распараджацца намі ці лічыў усю нашу работу пустой непатрэбшчынай. — А ты, — звярнуўся ён да чалавека таксама тонам загаду, — варушыся трохі ямчэй, бо ўлегцы паедзеш!

— Канешне, трэба адпусціць, — бурклівa, але памяркоўна параіў Ермаліцкі, як толькі Забела зачыніў за сабою дзверы ў кабінет Варанецкага. — Не ганяць жа чалавеку пустую машыну больш як за сотню кіламетраў.

На вялікае дзіва, Собіч узяў і падпісаў патрабаванне, як бы і папраўдзе паслухаўшыся Ермаліцкага ці Забелы. Але ў яго, канешне, былі свае меркаванні.

— Толькі я вас папрашу, — сказаў ён чалавеку, — калі будзеце ехаць другі раз, абавязкова прывязіце з сабою касавы квіток. Абавязкова. Усё можа быць — можа яны дзе і замяшаліся. А па квітку мы адразу знойдзем вашы грошы.



Падзея гэта ўразіла ўсіх. Ніколі такога выпадку ў нас не было. Праўда, не было такой і праверкі. Калі выяўляліся якія разрывы пад канец года, дык яны проста рэгуляваліся. Цяпер жа падобна было, што Собіч знарок разыгрывае нейкую камедыю. Але ж і камедыі такой ніяк не падстроіш.

Праз тыдзень зноў прыехаў чалавек у брызентавай спяцоўцы і прывёз квіток. Собіч запісаў дату і суму ў сваю кантрольную картку і без слоў падпісаў патрабаванне на сто дваццаць кубаметраў кіслароду. Але квіток ён пакінуў у сябе, даўшы чалавеку копію.

Гэта быў самы звычайны квіток ордэра на тое, што наша каса прыняла ад будаўніча-мантажнага ўчастка № 12 тры тысячы рублёў. Канешне, на ім не было нумару, але стаяла дата і быў подпіс касіра. І почырк, і подпіс былі незнаёмыя. Калі паклікалі Марыну, яна спужалася. Пабляднела, замоўкла. Зарадавалася, калі дагледзела, што чужы подпіс, але тут жа і расплакалася.

— Ну вы хоць бачыце, Усевалад Кірылавіч, што гэта не я? — пыталася яна горна ўсхліпваючы.

— Канешне бачу, Марына Барысаўна. — Не плачце, вас жа ніхто і не вінаваціць. Я толькі рад, што Міхаль Пятровіч нарэшце пераканаўся, што... не так, як трэба, аберагаў вас.

Калі ўсе супакоіліся і паселі на свае месцы, Собіч зноў пачаў разглядаць квіток, і раптам сэрца яго аблілося ледзяным жарам. Толькі цяпер ён заўважыў, што замест штэмпеля «аплачана», якім звычайна карысталася каса, на квітку стаяла круглая пячатка, тая, якую Варанецкі насіў у кішэні...





Алесь САВІЦКІ

# ПАСЛЯ ПАВОДКІ

## Аповесць *

Мал. Г. Паплаўскага.

22

У той вечар, збіраючыся ісці да Сцепаніды, Тарас галіўся з выключнай стараннасцю. Ён сядзеў ля стала, паставіўшы перад сабой круглае люстэрка, спакваля боўтаў старым памазком у бляшанцы. Тарас і сам яшчэ добра не ведаў, ці адважыцца сказаць Сцепанідзе пра тое, аб чым думаў штодзень, застаючыся сам-на-сам у сваім кутку.

Пачуцці, якія жылі ў яго сэрцы, не былі падобны на тое каханне, якое знаёма маладому, поўнаму адвагі, узнёслых мар і летуцення юнацкаму сэрцу. Гэта было іншае пачуццё, якое можа прысці да чалавека, калі за яго плячыма — дзесяткі пражытых гадоў і калі ў крыві ўжо не бунтуюць маладыя парыванні.

Сэрца чалавека не згарае ў адзіноце. Яно можа зведаць радасць, гора, роспач, перанесці шмат пакут і тугі. Але заўжды ў ім жывуць

* Заканчэнне. Пачатак у № 9 і 10 за 1958 г.



жаданні, надзеі на лепшае, вера ў тое, што гэтыя надзеі і жаданні могуць спраўдзіцца.

Такой надзеі Тарасава сэрца не губляла. Прышоў час, і яно абудзілася, затрапятала, нібы асветленае роўным і ціхім святлом. Каб хто запытаў Тараса, калі запалілася ў яго сэрцы гэтае святло, што саграvала і бадзёрыла, ён наўрад ці змог бы адказаць, бо сам таго не ведаў. Яшчэ ў той час, калі дапамагаў Тарас будаваць Сцепанідзе зямлянку, нечым уразіла яго гэтая сталая ўжо жанчына. У рысах яе твару, у ціхай разважлівай гаворцы ён знайшоў нешта такое, што нагадала жонку, якая загінула ў першы год вайны.

І цяпер, яшчэ нават не верачы ў тое, што зможа пайсці і адважыцца на гаворку аб пачуццях, Тарас рыхтаваўся да яе: прыбіраўся доўга, старанна, прыгладжваў пальцамі пасівелыя валасы на скронях. Скончыўшы галіцца, ён вымыў бляшанку, паклаў яе на палічку, апрануў свой адзіны святочны касцюм і адвыклымі пальцамі завязаў чорны гальштук. Потым зноў паглядзеў у люстэрка і нейкі час стаяў нерухома. Выгляд у яго быў такі, быццам нешта ўразіла яго. Тарас спахмурнеў, адклаў люстэрка, з ягонага твару знікла разважлівасць і няпэўнасць.

Асаблівым, відаць, толькі ўласцівым для жанчын адчуваннем, Сцепаніда адразу пазнала, чаму так старанна прыбраўся Тарас, і крышачку разгубілася.

Прывітаўшыся, яна ўзяла з Тарасавых рук капялюш і, прыладжваючы яго на вешалку, зробленую з крывой кляновай развілінкі, прагаварыла:

— Заходзь, заходзь, Пятровіч! Як ведала — самавар паставіла. Пачастую... Другі дзень без картак чай п'ю. Свята!..

— А дзе-небудзь у панчосе не прапалі тысячы?

— Не, Пятровіч. Спакойна сплю...

— Рэформа разумна зроблена. Праўда? Калі ў працоўнага чалавека на кніжцы пара тысяч якіх ляжала — калі ласка: яны і ёсць! А спекулянту дало па карку.

Сцепаніда заслала стол абрусам, паставіла дзве шклянкі на кявяцістых сподачках, прынесла яблычнае варэнне. Паскардзілася:

— Цяпер жа зусім адна. Намервалася якую кватарантку пусціць, неяк весялей было б. Дык усё думаецца: можа зноў захочуць сюды перайсці...

— Ды яно так і бывае: маладыя пасварацца — бацькам гора... Ну як жа яны цяпер? Ці ладзяць?

— Ганарлівыя абое. А ён — асабліва. Нічога не гаворыць. А я ж адчуваю: нешта не так у яго. Часам прыдзе сюды і ходзіць, ходзіць па хаце. І ўсё моўчкі... Я дык ужо і не пытаюся... А людзі кажуць, што Марфа падбівае дачку, каб развялася. Яна — ого! — з вышэйшай адукацыяй, а ён... Ну, ведаеш жа!..

— Бач, не чалавек ёй патрэбен, а адукацыя! — Тараса аж перасмыкнула ад злосці. — А хіба мала нядобрых людзей сярод адукаваных? Дзіўна! Пры нашай уладзе рос чалавек, нічога старога не бачыў, а расце нягоднік-нягоднікам. Сёння ажаніўся, заўтра да другой хінецца: маўляў, характарамі не сышліся. А на мой пагляд так: вочы бачылі, што рукі бралі, як гаворыцца. Сыходзіліся, пэўна ж, пра нешта думалі, дык жывіце, тым больш, калі ўжо дзеці пайшлі.

— Ды яно так, — адказала Сцепаніда. — Кажуць жа, што першая

жонка — ад бога, другая — ад людзей, а трэцяя — ад чорта. А па-мойму, чалавеку на ўсё жыццё адна жонка дадзена. Гэта як Радзіма ў чалавека. І жонка так павінна...

Тарас дастаў пачак папярос, закурыў.

Ён адчуваў, што гаворка пайшла зусім у другім кірунку, чым ён хацеў бы. А можа Сцепаніда знарок павярнула яе так, бо не хоча гаварыць з ім пра тое, пра што хацеў гаварыць з ёю ён? «На ўсё жыццё адна...» Можа гэта яна не пра аднаго Петруся сказала? Вядома ж! Трэба разумець...

Сцепаніда паціху памешвала чай у шклянцы, невідушчымі вачыма пазіраючы на шытво абруса. Тарас упершыню заўважыў, якая густая сівізна прабівалася ў яе валасах, адчуў, што нічога з таго, пра што думаў сказаць, ідучы сюды, не скажа гэтай жанчыне, заклапочанай сваім горам.

Сцепаніда паклала лыжачку на сподачак, адсунула шклянку і зноў уздыхнула:

— Цяжкае гэта матчына шчасце. На вайне быў Пятрусь, аднаго хацелася — жывога пабачыць. Прышоў з вайны, сэрца зноў баліць, зноў трывожыцца, няма яму спакою...

У хаце было ціха. У акно стукаўся вецер. Зрэдку па сценах шоргаў снег — відаць, пачыналася завіруха.

Калі Тарас, развітаўшыся са Сцепанідай, выйшаў на вуліцу, завіруха круціла на поўную сілу. Раз'юшаны вецер скуголіў у правадах, сёк сухой крупкай па парканах, мёў снег на дарозе. Нідзе нікога не было відаць, — была толькі завіруха ды адзінокі чалавек, што застаўся адзін-на-адзін са сваімі думкамі. Яны, гэтыя думкі, відаць, зусім адолелі чалавека, бо ён не звяртаў увагі ні на што. Ён упарта крочыў наперад, не зважаючы на ашалелую завіруху.

На заваротку вуліцы Тарас азірнуўся. Скрозь начную цемру і снегавы пыл яму ўслед глядзеў нягаснучы праменьчык святла — свяцілася акно ў Сцепанідзінай кватэры. Ад таго, што ён убачыў гэты маленькі дрыготкі маячок святла, Тарасу зрабілася цёпла і ўтульна, і ён закрочыў весялей.

23

Пятрусь Крыніца ішоў дахаты стомлены, злосны.

Справы зеленгаса ішлі няважна. Праўда, запланаваныя работы па азеляненню горада праведзены няблага, хоць было шмат недаробкаў. Цяпер галоўная цяжкасць заключалася ў стварэнні базы для далейшага развіцця гаспадаркі. Сёлетняй вясной трэба было закласці вялікія гадавальнікі. Акрамя таго, закладваліся парнікі. Разлічвалі, што зеленгас зможа апрацаваць глебу пад гадавальнікі трактарамі. Такая дамоўленасць была з МТС, якая абслугоўвае прыгарадныя калгасы. Праўда, МТС агаварвалася, што яна выканае сваё абавязацельства пры ўмове своечасовага правядзення работ у калгасах. А калі там веснавая сяўба зацягнецца? Трэба было прадбачыць і гэта. Выхад заставаўся адзін: падрыхтаваць свае ўласныя сродкі.

Уся гэтая праца лягла на плечы Крыніцы. Ён цяпер быў двойчы «в. а.» — выконваў абавязкі інжынера і дырэктара, які захварэў.



Прыгадаўшы падзеі сённяшняга дня, Пятрусь уздыхнуў, адклаў каўнер кажуха і закрочыў шпарчэй.

Перайшоўшы жыццё да Марфы часова, яны з Нэляю так і засталіся там. Пятрусь усё часцей заўважаў, што Нэля ўсё больш і больш не цікавіцца, што ён робіць, пра што думае. Нараджэнне сына зблізіла іх. Але не надоўга. Нібы глухая сцяна паўстала паміж імі ў апошні час. Адкуль яна?

Намагаючыся знайсці прычыну сямейных неладоў, Пятрусь паспрабаваў аналізаваць свае адносіны з цёшчаю. На кожным кроку ён адчуваў далікатнасць, але скрозь яе выпірала халодная непрыязнасць і варожасць.

Неяк увечары, калі ішоў вялікі дождж, Нэля вярнулася з педагагічнага савета змоклая, яе туфлі былі поўныя вады. Селі вячэраць. Нэля пачала расказваць пра педсавет.

— Няхай Лявонава — дачка старшыні. Але ж нашто цягнуць яе на медаль? Яна ведае літаратуру слаба, і Пятро Іванавіч паставіў ёй чацвёрку. А яму так далікатна падказалі: навошта псаваць дзяўчыне будучыню? Пастаўце пяць!..

— І ён паставіў? — Пятрусь пачырванеў ад абурэння. — Кажаш, паставіў? Ануча ён, а не настаўнік!

— У цябе ўсе анучы, — азвалася ад прыпечка Марфа. — Пятро Іванавіч разумна зрабіў. Навошта ворагаў мець? Ты паглядзі, як некаторыя жывуць. Хто разумнейшы, дык у таго і машына... І жонка пешшу гразь не месіць. Можа і неадукаваная зусім, а на машыне...

— Ха-ха-ха-ха! — зарагатаў Пятрусь. — Гэта вы к таму, што і Нэлі патрэбна машына. Так я вас разумею, Марфа Адамаўна? Ну, а як ты думаеш, Нэля? Заслужылі мы з табой машыну?

— Нейкія пытанні ў цябе дзіўныя, — з крыўдай у голасе агрызнулася Нэля. — За што ты чалавека крыўдзіш? Што табе дрэннае сказалі?..

Можа ён тады сапраўды пакрыўдзіў цёшчу? Не, варожасць, якую Марфа старанна хавае, мае, відаць, глыбейшыя карэнні. Ці не за тыя саджанцы? Але ж не мог ён інакш і добра зрабіў тады, турнуўшы Марфінага сваяка. Каб не зрабіў гэтак, — сваякі ды знаёмыя ўвесь зеленгас расцягнулі б. Парадак існуе для ўсіх!

Падышоўшы да брамкі, зробленай у варотах, якія зачыняліся на дзве вялікія жалезныя засаўкі, Пятрусь пастаяў крыху, прыпаліў папяросу. Ісці ў хату чамусьці не хацелася. Пачуўшы крокі ля брамкі, на падворку забурчэў сабака. Забразгала дужка на жалезным дроце — сабака бег да варот. Пазнаўшы Пятруся, ён танютка заскуголіў. Зноў запанавала цішыня. І на душы было гэтак жа змрочна. «Трэба даць нейкае рады ўсім гэтым неладам, — рашыў Пятрусь, адчыняючы брамку. — Можа, пераехаць у другі горад?»

Не паспеў ён пераступіць парог, як яго сустрэў сярдзіты голас жонкі:

— Пятрусь, ты? Заўсёды позніцца. Трэба ж сумленне мець!

Гаворачы гэта, Нэля выйшла насустрач, трымаючы ў руках конаўку з вадой і прас. Апраўдваючыся, Пятрусь заўважыў:

— Калі ж работы процьма... А ты куды збіраешся?

Нэліны вочы насмешліва звузіліся:

— Куды? Сам жа казаў, што пойдзем да Какоры...

— Даруй, зусім забыўся, — Пятрусь пляснуў сябе па ілбе і паспрабаваў абняць жонку. — Праўда, сёння ж трэба да Віталя...

— Нешта дужа часта пачаў забываць, — з іроніяй прагаварыла Нэля, спрабуючы вызваліцца з абдымкаў. Яна паспешліва пацалавала мужа і падштурхнула. — Лепш збірайся хутчэй. Няёмка пазніцца, ды і не люблю я гэтага...

— Мне нядоўга. Пакуль ты — я буду гатовы!

Крыніца скінуў рабочае адзенне, наліў у міску вады і, спяшаючыся, пачаў мыцца. Ён адчуваў сябе ніякавата. Як жа так! Віталь можа пакрыўдзіцца, калі не прыдзеш: у яго наваселле. Добра, што хоць падарунак купілі загадзя. А то куды кінешся ноччу?..

Тупаючы басаножка па падлозе і выціраючы пачырванелую шыю, ён увайшоў у пакой. Жонка прыхарошвалася, гледзячы ў люстэрка. Яна апранула стракатае плацце, якое Пятрусь дужа не любіў. Ён нерашуча сказаў ёй пра гэта.

Не вымаючы шпількі з роту, яна адказала павучальна:

— Адзенне — гэта тое, што ўпрыгожвае жанчыну. Так сказаў нехта вялікі... Ты што, хочаш, каб я ў людзі надзела старыя лахманы?

Крыніца апранаўся моўчкі, дакараючы сябе: навошта было лезці ў сварку! Падабаецца ёй гэтае плацце — няхай ідзе ў ім. Але ж яму не хацелася, каб у простай Віталевай сям'і яго жонка вызначалася нечым асаблівым.

Перш чым выйсці з хаты, Пятрусь падышоў да калыскі, што стаяла ў суседнім пакоі. Там спаў Алеська. Колькі жартаўлівых спрэчак было, калі выбіралі яму імя! Спрачаліся два дні. На трэці раніцай Нэля напісала на кавалачках паперы два імя, схавала паперкі, потым пабудзіла Петруся і загадала: цягні. Яму пашанцавала. Хлопчыку далі імя Алеська. Ён спаў цяпер, падклаўшы рукі пад шчаку. Пятрусь пагладзіў сынаву галоўку, паправіў коўдру.

— Спі, Алеська. Набегаўся за дзень.

Нэля нецярпліва паклікала:

— А хутчэй нельга? Мы ж апошнімі прыдзем!..

У добрым настроі ішоў Пятрусь па сцішаных вуліцах горада. Ён жартаваў, расказваў жонцы пра дзённыя клопаты. У яго руцэ ляжала цёплая Нэліна рука.

Пятрусь міжволі загледзеўся на другі бок вуліцы, дзе будаваўся вялізны жылы дом. Працавала начная змена. Агні электралямп былі іскрыста белыя. Бязгучна плылі ленты транспарцёра, несучы на сваіх прыпалах ружаватую, быццам гарачую, цэглу: гудзелі машыны і, нібы злуючыся, пыхкалі цёплым дымам. «Ці так? Ці так?» гохкалі малаткі на дахах, і сякеры на рыштаваннях адказвалі ім з металёвым звонам у голасе: «Гэтак! Гэтак!» Гаманілі людзі, і само паветра, здавалася, нараджала самыя разнастайныя гукі.

Крыніца адчуў, як моцна стукае яго сэрца: «Будуем! Вунь як гудзе! Там працуюць сотні людзей! І можа ад таго, што ў кожнага з нас так стукае сэрца, і паветра навокал заўжды поўна гукаў. Жыццё!..»

## 24

Зноў прышла вясна.

Неяк зімой, марачы пра гэтую пару, Пятрусь абяцаў жонцы, што, як толькі сыйдзе снег, яны разам сходзяць у лес па першыя пралескі. Аднак яго вынесла на такую імклівую плынь, што нехапала часу нават на вельмі важныя справы. Ён забыўся пра сваё абяцанне.



Нядзельны ранак Пятрусь рашыў прысвяціць артыкулу, які ўжо даўно прасілі з рэдакцыі. Абставіны для працы сёння складаліся як не трэба лепш: ён застаўся дома адзін. Сабраўшы неабходныя пісьмовыя прылады, Крыніца сеў за стол. Работа пайшла здзіўляюча хутка, і ён нават пазайздросціў пісьменнікам: што ім адыходзіць! Сеў і — пішы!

У такім прыўзнятым настроі Пятрусь напісаў восем старонак. Артыкул быў гатовы. Пятрусь узяўся перачытваць яго, трохі падправіў, а там, дзе гаворка ішла пра задачы зеленгаса, дапісаў цэлы абзац.

Раптам вецер са звонам адчыніў акно, уварваўся ў пакой і зашапацеў шпалерамі, нібы скардзіўся, што яму пасля светлых прастораў тут цесна і горача. На падлогу з падаконніка ўпаў збан з кветкамі.

Пятрусь зморшчыўся, адклаў аловак, якім пісаў, устаў з крэсла. У адчыненым акне, прытрымліваючы рукою надзьмутыя ветрам фіранкі, стаяў Тарас.

— Цябе сапраўды ветрам прынесла, — засмяяўся Пятрусь. — Заходзь, чарапкі збіраць паможаш. Добра, што мае жанчыны пайшлі. А то было б нам за гэты гладыш!

Тарас увайшоў у хату вясёлы, быццам задаволены тым, што пабіўся збанок. Здымаючы новы пінжак і вешаючы яго на крэсла, жартаваў:

— Нядзеля! Вясна! А ён вокны пазачыняў і паперу крэмзае. Ты што там, можа вершы пішаш?..

— Якія там вершы! Артыкул пішу пра зеленгас... Рэдакцыя даўно просіць. Сядай, бяры аловак і рэдагуй. А я чарапкі збіраць буду...

— Нешта ты дужа хутка пасябраваў з рэдакцыяй, — усміхнуўся Тарас. — Забыў, як яны цябе крытыкавалі...

— Праўда з праўдай заўсёды здружыцца.

— Праўдзівец, як я на цябе пагляджу...

— Сяда-ай!

Крыніца амаль гвалтам пасадзіў Тараса і паклаў перад ім артыкул. Тарас пачаў гартаць спісаныя лісткі. Яны патрохі зацікавілі яго.

Выбіраючы з вады чарапкі ад глінянага гладыша, Крыніца думаў пра Тараса. Не такім, як быў раней, зрабіўся Тарас. Увогуле, быццам падмянілі людзей вакол — так здавалася яму на апошнім часе. Зрэдку Крыніца заўважаў, што Тарас вагаецца, быццам хоча нешта сказаць і не гаворыць. Можа ён пакрыўдзіўся на Крыніцаву заўвагу, што ён, Пятрусь, не любіць, калі яго бяруцца павучаць, як жыць трэба. Ну і што? Правільна сказаў яму тады. Сам ведаю! Свой розум ёсць!

Падцёршы падлогу, Крыніца аднёс чарапкі на сметнік, падсеў да Тараса, які ўжо скончыў чытаць артыкул і нешта пісаў на паперы.

— Вынось свой прысуд, рэдактар. Ухваляеш?

— Праўду табе, ці так, увогуле? Ты ж ганарлівы, не залюбіш...

— Кажы праўду.

Тарас пастукаў алоўкам па аркушах, складзеных тонкім стусам, хітравата бліснуў вачыма:

— На нашай вуліцы, у Віцебску, жыў ганчар. Стары такі дзед... Дык вось, зробіць, бывала, той дзядуля гляк, паглядзіць, пахваліць, а потым... бразь вобзем яго! Такіх збаноў, маўляў, і без твайго на зямлі многа ёсць. Лепшы трэба зрабіць!

— Цікава... Але ж артыкул — не збанок...
Тарас закрочыў ля акна і загаварыў, усё больш хвалюючыся:
— Жартуеш? А ты паслухай... Вось ты пішаш, што зеленгас выканаў план насаджэнняў. А насаджэнні гэтыя не ахоўваюцца. Іх ламаюць... І мы часам больш падсаджваем, чым садзім... Гэта ж тысячы рублёў — на вецер!.. Чаму б табе пра гэта не напісаць?

Тарас закурыў. Яго прыжмураныя вочы з халоднай упартасцю глядзелі на Петруся.

— І яшчэ... Мне ты гаварыў пра зеленгас, што там і непарадак, і махлярства, і людзей звальняюць без дай прычыны... А калі меркаваць па артыкуле, то хоць ты вам па ордэну вешай на грудзі! А чаго ты праўду не напішаш? Баішся з Фурсам пасварыцца?
— Не, не баюся.
— Дык вось і зрабі так!

Усё, пра што гаварыў Тарас, было слушным. І, дзіўная рэч, Пятрусь сам у глыбіні душы адчуваў гэты недахоп. Ну, добра ж! Цяпер ён напіша праўдзівы артыкул пра становішча спраў у зеленгасе.

Правёўшы Тараса, Пятрусь са злосцю разарваў свой артыкул, прысеў да стала і паклаў перад сабой чыстую паперу.

Артыкул у той дзень ён так і не напісаў. Ледзь толькі ўзяўся за работу, як у хату ўвайшла цёшча. Яна паклала Алеську спаць і сказала, што ёй трэба бегчы ў горад па справе.

Пятрусь напісаў толькі некалькі слоў. Папера была тонкая — аловак дзіравіў яе. Што ж, можна пісаць чарнілам. Зазірнуў у чарнілку. Мала, трэба даліць. Абшукаў усе куткі — няма бутэлькі. Успомніў: Нэля ўчора панесла чарніла да маці. Відаць, там і пакінула.

На палавіну, дзе жылі бацькі Нэлі, Крыніца заходзіў рэдка. Выходзячы з хаты, Марфа часта замыкала свае дзверы. Таму цяпер, зайшоўшы па чарніла, ён аглядаў пакой з цікавасцю. Зімовыя рамы не выстаўлены: Марфа па-ранейшаму баялася зладзеяў. Пахла нейкай фарбай. У куточку за шафай з-пад жоўтай паперы тырчэла рыльца бутэлькі. «Вось добра! Адразу знайшоў...» Ён узяў бутэльку і некаторы час трымаў у руцэ, здзіўлена разглядаючы. «Гарэлка! Дзіўна!» Адгарнуў паперу. Пад ёй радочкам стаялі бутэлькі. Збянтэжаны, Пятрусь нагнуўся, каб паставіць бутэльку на месца, і ўбачыў пад ложкам нейкі скрутак. Выцягнуў, разгарнуў, не зважаючы, што ірвецца папера.

Блакітная тканіна прыемна паплыла між гарачых пальцаў. «Шоўк? Адкуль столькі?.. Бачыў я такі колер... Нэля прыносіла разам з каверкотам! Не, той быў трохі цямнейшы... Але адкуль жа столькі?..»
— Пятрусь, а Пятрусь! Дзе ты? Хата пустая, дзверы парасчыненыя...
У пакой уваходзіла Нэля. Убачыўшы Петруся, які стаяў сярод шматкоў паперы са скруткам у руках, яна здзіўлена прамовіла:
— Ты?!. Што ты... тут робіш?
Пятрусь сурова глядзеў на яе з-пад ілба.
— Што з табой? Чаго ты глядзіш на мяне?..
— Чаго гляджу? — Ён грозна патрос скруткам. — Адкуль гэта? Зноў з базы? А гарэлкі столькі вунь там, у кутку? Адкуль?
— Гарэ-элкі? Не ведаю! Прыдзе маці — запытаюся. А шоўк ад краўца. Маці ўчора прынесла паглядзець, ён хоча прадаць...



З твару Нэлі знікла насцярожанасць, голас яе загучаў нясмела і пакрыўджана:
— А я так спяшалася дахаты... Думаю, ты адзін сёння, сумуеш... А тут такое...
— Даруй, — паспакайнеў Пятрусь. — Але ты ўсё ж папытайся ў маці, адкуль усё гэта? А то неяк прыкра... Пойдзем адсюль...
І калі выйшаў з Марфінага пакоя з чарнілам, адчуў, што стала крыху лягчэй і спакайней на сэрцы.
Селі абедаць. Нэля раз-по-раз паглядала на ручны гадзіннік. Пятрусь заўважыў гэта:
— Ты не спяшайся, паспеем.
— Куды паспеем?
— Ты што ж, хіба забылася? Па пралескі ж дамаўляліся сёння ісці, — весела сказаў Пятрусь, не заўважыўшы, як задрыжаў Нэлін голас.
Нэліны бровы палахліва здрыгануліся і крайчыкі вушэй паружавелі.
— Не, чаму ж... Памятаю. — Нэля ўспомніла ўчарашнюю размову і, адразу паспакайнеўшы, пачала наліваць у шклянку малако. — Толькі ведаеш... Заўтра Вольга Восіпаўна будзе ў мяне на ўроку. Мы з ёю дамовіліся зараз сустрэцца і пагаварыць. Можа адкладзем лес, няхай пацяплее трохі, га?
— Як хочаш. Толькі на тым тыдні ў мяне часу не будзе...
— Во, бяда! Знойдзем! Ты адпачні лепш сёння!..
Нэля гаварыла цяпер упэўнена. Яна глядзела на пацёртыя рукавы Петрусёва пінжака, на яго вялікія, шурпатыя рабочыя рукі, і ў яе расло пачуццё брыдкасці. Яна прыгадала рукі Фурса—тонкія, з гладкападпаліраванымі пазногцямі, і раптам адчула, што мае поўнае права нешта хаваць ад гэтага грубага чалавека, свайго мужа. Нэля хлусіла цяпер спакойна, з усведамленнем перавагі над ім. «Праўду казала маці, праўду, — падумала яна і зморшчылася, убачыўшы, як Пятрусь пачаў прыбіраць са стала талеркі. — Ён жа зусім некультурны».
Прыйшоўшы да такога вываду, Нэля, не звяртаючы ўвагі на Петруся, апранулася, зазірнула ў люстэрка. «Ну, чаго ты хвалюешся? Справа вырашаная!» Яна зухавата крутнула галавой і пайшла з хаты.

Нэля прыйшла на плошчу роўна ў тры гадзіны і адразу ж убачыла ў ціхім бязлюдным кутку, пад старымі, амаль пасохлымі ясенямі, шэрую нізкаватую машыну. Фурс чакаў яе. Падняўшы капот, ён нешта разглядаў у маторы. А можа толькі рабіў выгляд, што разглядае?.. Калі яна падышла, Фурс з грукатам апусціў капот, выцер рукі і дастаў з кішэні насоўку. Ад гэтае насоўкі на Нэлю дыхнула нейкім незнаёмым пахам. «І сам ён такі: трохі далёкі, незнаёмы і штораз новы, незвычайны»... Яна таропка села ў машыну і папрасіла:
— Толькі хутчэй, я не хачу, каб нас бачылі.
— Гэта замест прывітання?..
Ён сядзеў за рулём і ўсё выціраў тонкія белыя пальцы — спакойны, рашучы. І толькі ў куточках халодных вачэй адбівалася амаль няўлоўная трывога і нецярпенне. Знаёмства з гэтай жанчынай яшчэ не надакучыла яму, але пачынала палохаць. З кожнай новай сустрэчай Нэля рабілася ўсё больш настойлівай і патрабавальнай. Ён абяцаў, што вяс-

ной зможа перавесціся ў Мінск і забраць яе. Здаецца, ён схлусіў прыгожа: яна паверыла. Але з кожным разам хлусіць становіцца ўсё цяжэй: Нэля зрабілася вельмі падазронай.

Яны ехалі па няроўных вуліцах прыгарада. Нэля, адкінуўшыся на спінку сядзення, гуллівым голасам запыталася:

— Дык як яе завуць?..

— Каго? — здрыгануўся Фурс.

— Машыну тваю... Я ўсё забываюся...

— «Татра». Колькі разоў я называю табе гэтую старую калёшу!.. У Мінску ў мяне будзе добрая. Першы клас!

— Маю сяброўку штодзень прывозіць у школу муж, — загаварыла Нэля, не адказваючы на ягоныя словы і адчуваючы, як салодка замірае сэрца ад хуткай язды. — Начальнік сувязі. Тоўсты такі, як свіння. А яна такая танюткая, прыгожая...

— Трагедыя нашага стагоддзя. Прыгожыя жонкі дастаюцца непрыгожым мужчынам. Праўда? А сёння я пакажу табе цудоўнае азярцо...

Машына вырвалася за гарадскую мяжу. На шырокіх каляінах дарогі, уздымаючы воблачкі пылу, круціўся вясновы вецер.

Ноччу, калі пагасілі святло, Нэля, нацягнуўшы коўдру на плечы і ўжо засынаючы, сказала шэптам:

— Ты не спіш, Пятрусь? Я пыталася пра гарэлку. Гэта Сцяпан купляў на вяселле, у вёску. Там нехта прасіў яго.

— Няхай яна праваліцца, гарэлка тая...

Ён пагладзіў Нэлю па галаве. Яна адкінула яго руку і папрасіла:

— Не трэба. Я стамілася дужа. Спі.

Яна заснула адразу. А ён ляжаў нерухома, слухаў, як спакойна дыхае Нэля, і разважаў. Што гэта там за Вольга такая?.. І што ім з Нэляю трэба было ўвечары рабіць? А можа ўсё гэта няпраўда?.. А гарэлка?.. Чамусьці не верыцца, што яе купляў Сцяпан. А можа... Ён жа на вінзаводзе цяпер працуе. Але хто крадзенае ў хаце трымаць будзе?.. Няхай, усё гэта высветліцца. Хутка адбудуецца горад, яны атрымаюць кватэру і будуць жыць сваёй сям'ёю — Нэля, ён і Алеська.

І, супакоены, Пятрусь заснуў.

25

Пасля працы Пятрусь забег да маці.

Яна працавала на падворку — мыла бялізну. Ён убачыў пустое вядро і паімкнуўся было схадзіць па ваду. Але маці рашуча запярэчыла:

— Адпачні ты лепш... — і пайшла да студні сама. Пятрусь сеў на прыступкі, што вялі ў сенцы, і глядзеў, як асядае патроху наздраватая пена ў начоўках. Убачыў вялізную кучу бялізны і здзівіўся: «Адкуль столькі?» Прыгледзеўся і заўважыў дзіцячыя штонікі, мужчынскія кашулі... Жахнуўся. «Гэта ж маці падрабляе, людзям мые...»

Яму зрабілася горача ад такіх думак, і сэрца балюча сціснулася. Ад студні з вядром ішла маці. Ён глядзеў на яе згорбленую постаць і



стараўся прыпомніць, калі апошні раз даваў ёй грошы. Пасля таго, як яны перабраліся жыць у Марфіну хату, ён ні разу не дапамог ёй капейкаю. І цяпер, убачыўшы маці дужа пастарэўшую, са смуткам у запалых вачах, ён сціснуў зубы і ледзь не застагнаў ад болю. «Як жа гэта? Яна ніколі не прасіла... А ў мяне што, галавы не было? Колькі разоў думаў, ды не, адкладваў да другога разу, бо Нэлі заўсёды нехапала грошай... Але цяпер гэтага больш не будзе. Маці не павінна мыць чужую бялізну!» Ён устаў.

— Ты гэта куды? — Сцепаніда паправіла рукой хустку, і пена, што прыстала да яе валасоў, была амаль нябачная на яе сівых валасах. — Я хутка ўпраўлюся... Там, на стале, табе пісьмо ляжыць...

Сеўшы ўскрай стала, Пятрусь з цяжкім пачуццём аглядаўся навокал. Неяк пуста зрабілася ў пакоі. Няма шафы і ложка. Яны стаялі вунь там. Акно адчынена. Ля гэтага акна ён гаварыў Нэлі пра сваё каханне... Як хутка праляцеў час! Такой ласкавай была тады Нэля, а цяпер... А можа я проста пастарэў... Нешта, як той дзед, поркаюся ва ўспамінах.

Ён узяў пісьмо. Паглядзеў на знаёмы почырк, і гарачая чырвань апаліла шчокі. «Гэта ж Вера! Дзіва дый годзе!»

Пятрусь узяўся чытаць пісьмо. Час-ад-часу ён перапісваўся з Верай, з якой пасябраваў у тыя дні, калі лячыўся ў шпіталі. Яна вучыцца цяпер у Маскоўскім медыцынскім інстытуце і піша, што ўлетку іх пашлюць на практыку: магчыма, прыедзе ў Прыдзвінск і будзе вельмі рада пабачыць Петруся, ягоную сям'ю і асабліва сына. «Які я лайдак, — з прыкрасцю падумаў Крыніца. — На апошняе пісьмо я ёй, здаецца, і не адказаў. І ўвогуле неяк ачарсцвеў. Маці грошы даваць забыўся... Дам цяпер і загадаю, каб чужой бялізны больш не мыла...»

Ён дастаў з кішэні дзве сторублёўкі і паклаў іх у стол.

Увечары, калі Пятрусь сказаў Нэлі, што даў маці грошай, яму прышлося перажыць некалькі непрыемных хвілін. Нэля не сварылася на яго і не даводзіла, што ён зрабіў дрэнна. Яна проста сказала:

— Што ж! Застанешся без новай сарочкі!

— Ды ліха з ёй! У мяне і так дзве ёсць.—Ён узрадавана махнуў рукой і, каб перавесці гаворку на іншае, сказаў: — Я атрымаў ліст ад Веры. Яна прыедзе на практыку і магчыма — да нас...

— Да нас?

— Ну, у наш горад... У бальніцу.

Нэля прыжмурыла вочы і сказала з ironiяй:

— Можа ты хочаш паслаць ёй на дарогу грошы?

— Ты нядобра жартуеш, Нэля, — стрымана сказаў Пятрусь. — Нельга так...

— А што я такое сказала? — бліснула вачыма Нэля.

«Не, яна нейкая іншая. Злосная зрабілася, — падумаў Пятрусь. — Трэба нам проста пагутарыць. Сур'ёзна і чэсна...»

Але пачынаць такую гаворку ён не адважыўся. Пачуцце вінаватасці, якое прышло да яго сёння, калі ён быў у маці, цяжка легла на сэрца, і ён думаў цяпер, асэнсоўваючы ўсё тое, што было паміж ім і жонкай за апошні час.

* * *

Ноччу разгулялася навальніца.

Густы лівень сек па гнуткіх лісцях дрэў. Перад світаннем навальніца сунялася, але па зямлі доўга яшчэ беглі гаманлівыя раўчукі.

Світанне займалася хутка. Шырачыся і яснеючы, усход чырванеў так імкліва, што, здавалася, сонца спяшаецца хутчэй выбрацца з-за далягляду і паглядзець, што нарабілася без яго на зямлі. Вось яно выглянула з-за небакраю і нясмела прыкрылася хмурынкаю, быццам дзяўчына, што закрывае твар хусткай, хаваючы радасць.

Гарадскія вуліцы і плошчы, па якіх не праходзіў яшчэ ніхто, блішчалі такой чысцінёй, што нават вераб'і не адважваліся садзіцца на брук, а толькі паглядалі з галінак цікаўнымі вочкамі. Дрэвы не атрэслі яшчэ кроплі дажджу, і здавалася, што галіны абсыпаны каштоўнымі каменнямі.

Пятрусь Крыніца выбраўся з хаты рана: трэба было пад'ехаць на гадавальнікі, потым паспець зусім у другі канец горада, дзе закладваўся новы парк. Працоўны дзень яшчэ не пачынаўся, а ля прыбудовачкі, дзе складаліся мінеральныя ўгнаенні і ўсе прылады зеленгасаўскай гаспадаркі, ужо завіхаўся Ціхон Ластаўка.

— Ранавата нешта, Станіслававіч, узяўся за справу, — гукнуў яму Пятрусь. — Мусіць, разам з птушкамі падняўся...

— Ты глянь, якая раніца! А ноччу грымела-аа, нібы вайна пачалася. Ганна мая дык і не спала амаль усю ноч: баялася. Ну, ды яшчэ і трывожыцца яна вельмі: сёння новую кватэру атрымліваем... А раптам што пераменіцца, ды не дадуць...

— Чаму не дадуць? Атрымаеце! Толькі наваселле глядзі каб справіў...

Пятрусь усміхнуўся сваім думкам. Ён учора быў у выканкоме і сам пацікавіўся — Ціхонава прозвішча ёсць у спісах. Акрамя таго, атрыманы дазвол прэміраваць лепшых рабочых зеленгаса. Ластаўку ўзрадуе гэта: лішнія грошы цяпер яму якраз дарэчы. Добра рабіць прыемнае людзям...

* * *

Каб трапіць у новы парк, які толькі пачаў закладвацца, трэба было прайсці амаль увесь горад. Жадаючы скараціць свой шлях, Пятрусь пайшоў праз будаўнічую пляцоўку, якая была абгароджана высокім парканам.

— Крыніца! Эгэ-эй! Пятрусь! — пачулася з вышыні.

Ён узняў галаву і ўбачыў на рыштаваннях Віталя Какору. Той махаў яму кепкай і нешта гукаў. Але скрозь грукату машын слоў яго разабраць было нельга, і Пятрусь па жэстах зразумеў, што Віталь кліча яго на рыштаванні. Ён гукнуў у адказ, што спяшаецца і, убачыўшы, што Віталь яго не пачуў, дастаў з кішэні гадзіннік і патрос яго ў руцэ, што павінна было азначаць: «Часу няма, выбачай!» Але Какора настойліва замахаў яму, запрашаючы падняцца.

Шкадуючы, што прыдзецца затрымацца, Крыніца падняўся на рыштаванні. Трэці паверх ён адолеў з цяжкасцю.



— Здароў. Во куды забраўся!

Ля вораху цэглы ён убачыў Марылю і здзіўлена працягнуў:

— І Мары-ыля! Вітанне, Марылечка! Як гэта ты сюды трапіла?

У сіняй спадніцы, белай кофтачцы і стракатым жакеціку нараспашку Марылька была вельмі падобна на дзяўчынку. Яна ветліва падала руку Петрусю.

— Ды вось Віталь учора цэлы вечар расказваў, які прыгожы наш горад з вышыні... Дык я, бегучы на работу, дай, думаю, гляну...

— А што, зманіў? Ты паглядзі сюды, Пятрусь! Ну! — Віталь у захапленні павёў рукой вакол. — Дзе такое ўбачыш!..

Нібы на далоні, ляжаў перад імі горад. Ён быў цудоўны ў гэтую сонечную раніцу. Блакітная істужка Дзвіны, над якой, таксама ў рыштаваннях, усплывала чорная аграмада маста, блішчэла, быццам люстэрка. За ракой выпіналі жалезныя дахі новых хат прыгараднага пасёлка: яны пачыналіся далёка-далёка, гусцелі, збягаліся ў суцэльныя кварталы і, падыходзячы да ўзбярэжжа, спыняліся і пазіралі ў радасным здзіўленні на другі бок ракі.

Ім было там на што глядзець і дзівіцца. Ганарліва паблісквалючы шырынёй вокан, прыгожымі радамі высіліся трохпавярховыя гмахі, і вакол іх, быццам малодшыя браты, раслі новыя будынкі. Яны стаялі яшчэ ў рыштаваннях ці толькі чуць узвышаліся над горамі чырвонашэрай гліны, выкінутай на паверхню з катлаванаў. Сярод каменных гмахаў, што цягнуліся адзін да другога, пралегла шырокая зялёная істужка паркаў. Маладыя дрэўцы выраўняліся, нібы па шнурочку. Свяціла сонца, ласкава паглядаючы з чыстага, бы крышталь, неба. Віталь не змог стрымаць радасці, што ірвалася з ягоных грудзей, і ўсхвалявана патрос Крыніцу за плечы:

— Бачыш? Не, гэтага мала бачыць, трэба сэрцам адчуць... усім сэрцам...

Стоячы блізка адзін да аднаго, яны глядзелі ўніз, туды, дзе ў промнях вясновага сонца вырастаў горад. Яшчэ не ўсё было ў ім прыгожае і светлае: яшчэ чарнелі паўразбураныя папялішчы, яшчэ там-сям былі відаць зямлянкі, яшчэ кідаліся ў вочы сляды вялікага разбурэння. Але ў агульным яго вобліку было значна больш новага, радасных фарбаў і святла.

— Глядзіце, глядзіце! Віталька! Пятро Ягоравіч! — Марылька паказвала рукой наперад. — Вунь, справа ў парку. Маё дрэва! Гэта мы саджалі. Пазнала! Бачыце, пышней за ўсе!

Пятрусь углядаўся ў той бок, куды паказвала Марыля, але бачыў аднолькавыя, падобныя адно на адно дрэвы. Марыля бачыла сярод іх тое, што сама пасадзіла. Што ж, яна маладзейшая, у яе зрок лепшы. І ён сказаў, сам верачы сваім словам:

— Бачу, Марылька, бачу!

І чамусьці, зайздросцячы Віталю, падумаў, што дарэмна ён не настояў і не пайшоў з Нэляю ў лес па вясновыя кветкі.

## 26

Экзамены Пятрусь здаў паспяхова. Атрымаўшы атэстат, ён вышаў са школы з пачуццём, якое прыходзіць да чалавека, калі скончана вялікая і цікавая праца. «Гэта толькі пачатак! Можа гэта і добра, што ле

тась у тэхнікум не прынялі. Нашто толькі гараваў тады! Цяпер — у інстытут!..»

У той жа дзень ён адаслаў усе дакументы, якія патрэбны былі, у Мінск. Прайшоў тыдзень. Прайшоў другі. З інстытута ніякіх звестак не было. Ён пачаў хвалявацца. «Можа, згубілася пісьмо?» Знайшоў і прагледзеў квіток. Гэта трохі супакоіла, бо на другім баку квітка гаварылася, што пошта адказвае за цэласць карэспандэнцыі на працягу шасці месяцаў.

Адказ прышоў у канцы месяца. Пятрусь трымаў танюткі белы канверт, баючыся распячатаць яго. Потым разарваў канверт і выцягнуў вузкі аркушык паперы. У ім паведамлялася, што Крыніца Пятро Ягоравіч дапушчаны да ўступных экзаменаў.

Нэлі дома не было. Ён хацеў бегчы да яе ў школу, узрадаваць, але перадумаў: яна сама вось-вось прыдзе дахаты. Ён падышоў да сынавай калыскі. Алеська перабіраў ножкамі і нешта па-свойму гудзеў. У яго былі белыя, ледзь прыкметныя броўкі, востры матчын носік і Петрусёвы блакітныя вочы.

— Ты бачыш, сынок, якую паперу атрымаў твой бацька? — Пятрусь пстрыкаў пальцам па канверце, і Алеська, быццам разумеючы бацькаву радасць, смяяўся і яшчэ ўвішней перабіраў нагамі. — У гэтым канверце бацькаў лёс! Во як!

У пакой увайшла Нэля. Убачыла Петрусёў занятак, раззлавалася:

— Гульню знайшоў! Брудную паперу дзіцяці пад нос суне. Звар'яцеў!

— Гэта ж не папера, Нэля! Гэта адказ! Я дапушчаны да экзаменаў!

— Няхай сабе. Ну, ну... Пакажы, — на яе твары прамільгнула святло. — Ага. Дапушчаны да экзаменаў... Між іншым, віншую...

Нэліны словы пагасілі радасць. «Як яна не разумее! Гэта ж перамога!» Ён раптам успомніў, як абыякава адносілася Нэля да яго намаганняў хутчэй адаслаць дакументы, і ўпершыню зведаў невядомае, нейкае нядобрае пачуццё да жонкі. Але яно трымалася нядоўга і саступіла месца ранейшай усхваляванай радасці.

## 27

Збіраючыся пайсці з Нэляй у кіно, Пятрусь рашыў: трэба пагаварыць з жонкай сур'ёзна. Жыць так, як жылі яны апошні час, нельга. Спрэчкі паміж імі, штораз пакідаючы ў душы глыбокі і балючы след, узнікалі з-за дробязей. Кожны раз, калі ён затрымліваўся на сходах ці на рабоце і пазніўся дахаты, Нэля падазрона аглядала яго і пыталася з пагардлівай ірoніяй:

— Пазней не мог? Ён недзе швэндаецца, гарэлку жлукціць, а ты дома сядзі. Муж, называецца!

Здавалася, яна знарок шукае спрэчкі. Пятрусь спрабаваў маўчаць, але гэта было яшчэ горш. Нэля хадзіла па хаце і паглядала на яго, быццам прымервалася: за што тут лепш учапіцца? Маўчанне мужа выклікала яшчэ горшую злосць.

— Маўчыш! Во-ооо! Чуе кот, чыё мяса з'еў!.. Што, думаеш дурнем прыкінуцца? Адказвай мне!

Што адказваць, Пятрусь не ведаў. Ён спрабаваў даводзіць, што ніякай гарэлкі не п'е, што Нэля проста стамілася і што ёй трэба больш



берагчы сябе. Ён жа не забараняе ёй пайсці ў гарадскі парк або ў кіно, калі ён заняты. Яна ж, урэшце, не малая...

Некалькі дзён Пятрусь прыходзіў дахаты рана, але ўсёроўна — сваркі не спыняліся, іх нават стала яшчэ больш.

Далікатна і тонка, асабліва пасля таго, як ён пачаў даваць грошы маці, Нэля ўпікала мужа, што ён зарабляе мала, што прыходзіцца зноў садзіцца на карак маці, пазычаць у яе. Аднойчы, з алоўкам у руцэ, ён паспрабаваў зрабіць падлік расходаваных грошай і хутка давёў жонцы, што яны купілі шмат непатрэбнага, без чаго пакуль можна абысціся. Яму здавалася, што ён пераканаў жонку. Але Нэля, прывёўшы ў прыклад суседзяў, пачала ўспамінаць, хто і што набыў, пыталася з глыбокай верай у правільнасць сваіх довадаў:

— А мы чаму не можам?

Сапраўды, чаму? Пятрусь зарабляе нядрэнна. Нэля таксама працуе. Некаторыя ўдвая менш маюць, а жывуць не горш. Усё, мусіць, проста: яны з Нэляю не ўмеюць правільна спланаваць свой бюджэт. Убачыўшы ў каго-небудзь модную сукенку ці туфлікі, Нэля не супакойвалася, пакуль гэтыя рэчы не з'яўляліся ў яе. Купляліся розныя брошкі, якія потым ляжалі без увагі, прыгожыя вазы, зусім не патрэбныя, але якія каштавалі шмат. Пятрусь жа хадзіў у старым асеннім паліто. Дык у чым жа ён вінаваты? А можа яна пакахала другога? Пазаўчора, вяртаючыся з работы ён сустрэў Нэлю з Фурсам, які пасля хваробы ўзяў адпачынак і яшчэ не працаваў. Стала горача ад гэтых думак. Пятрусь расшпіліў пінжак. Нэлі гэта не спадабалася.

— На кірмаш ідзеш? Зашпіліся. І боты мог паваксаваць. Сорамна ісці побач з табой...

Петруся моцна ўкалолі гэтыя словы. «Сорамна?» Ён дастаў з кішэні білеты і нервова скамячыў іх:

— Што ж, сорамна — не пойдзем. Вернемся дахаты і пагаворым, што далей рабіць будзем...

— Дурань, што ты робіш! — Нэля кінулася падбіраць скамечаныя білеты. — Па пяць рублёў...

Яму стала сорамна. Ён хацеў утрымаць яе за руку, каб яна не брала білеты з зямлі. Нэля адштурхнула яго:

— Адчапіся! Я з табой гаварыць не хачу. І ўвогуле, ідзі ты ад нас і пакінь мяне ў спакоі. Які ты мне муж?!

Яны так і ішлі да самай хаты: моўчкі, не гаворачы і не гледзячы адзін на другога.

Марфа сустрэла іх насцярожаным позіркам. Пятрусь, не гаворачы ні слова, прайшоў у пакой услед за жонкай. Нэля, не скідаючы паліто, забегала па хаце, збіраючы яго рэчы.

— Бяры! Вось чамадан твой! Твайго толькі і было, што чамадан. Тут твае паперкі!.. А гэ-эта што?

Яна ўбачыла канверт, на якім Пятрусь напісаў адрас, збіраючыся адказаць на Верын ліст.

— Адрасы толькі! Пісьмы ўжо схаваў. Гэтых распусніц у цябе столькі, што я нават... А я, дурніца, нічога не ведаю. І ў маёй хаце ён трымае пісьмы гэтых... Ідзі! Ідзі і ніколі не прыходзь. Ніякага кахання ў мяне няма да цябе. Чуеш? Ні-я-ка-га!

Па складах вымавіўшы апошняе слова, Нэля са слязамі кінулася на канапу.

Пятрусь збялеў. Ён чамусьці падумаў, што ад яго патрабуецца цяпер адно: каб голас не дрыжаў і быў цвёрды.

— Ты супакойся... Адпачні — і супакойся. Мы пагаворым заўтра. Я пакуль пайду...

Марфа вылецела яму насустрач. Крыссе яе стракатага халата развязалася.

— Нарабіў і ўцякаць? Яе састракаць? Распуснік! Загубіў маю дачушку! Загубіў! Пачакай жа... Заўтра ўвесь горад будзе ведаць, які ты ёсць... Ах, дачушка, родная мая...

Пятрусь абмінуў цёшчу і ціха, але шчыльна зачыніў за сабою дзверы.

Марфа насілася па хаце злавеснай хмарай. Яна не любіла, калі штосьці робіцца не так, як яна гэтага хацела. Да сённяшняга дня ўсё ішло як мае быць. Тыдні са два таму назад яна напісала заяву ў гарадскі аддзел гандлю і зволілася з працы. З яе хопіць. Цяпер можна будзе некалькі год пражыць без клопатаў. Ды і працаваць ужо не было ніякага сэнсу. Ледзь не кожны дзень па магазіне шныраць інспектары... Не, гэта яна правільна зрабіла, што падумала аб звальненні. І дачка ў час апамяталася. Малайчына! Вось хто ўсцешыць Марфіна сэрца. Які далікатны чалавек гэты Фурс! Пазаўчора казаў, што канчаткова вырашана: яго пераводзяць у сталіцу. Нэля паедзе з ім — яна так хацела пажыць у вялікім горадзе. З мінулым скончана раз і назаўсёды! Можна ўвогуле прадаць хату і выехаць адсюль...

Толькі вось Нэля трохі паспяшалася. Пайшла б у кіно і па дарозе ўсё і растлумачыла б: кахае другога і ўсё. Гвалтам любы не будзеш. А ён чалавек не так што і дурны, зразумее. І ніякага шуму, спакойна, высакародна. А дачка ўсё ў хату прынесла. Навошта? Сёння госці прыдуць. А сварку маглі суседзі пачуць. Нядобра гэта. Але заўтра Марфа паклапоціцца, і ўсе будуць ведаць, што за птушка яе зяцёк. Спатрэбіцца, яна і да гаркома дойдзе. А што? Пайсці і сказаць, як ён сёння над жонкай здзекаваўся... Цяпер у партыйных з гэтай справай строга...

— Дачушка! Напішы ў гарком. Пра ўсё: як крычаў, як здзекаваўся, як мяне зневажаў. І пра пісьмы дзеўкам, тыя, што кінула яму. І тэлеграму вось гэтую прыкладзем. Вымову дадуць. Не менш! А калі добра скласці, дык і з партыі выключаць. Няхай тады паскача... І пакінь вочы церці! Лепш пераапраніся ды на стол будзем збіраць. Хутка Фама Мікалаевіч прыдзе...

Марфа засцілала стол лепшым абрусам, збіраючыся ўразіць шаноўнага госця. Ласуха такі знаўца ў гэтай справе, любіць, каб усё было прыгожа. Яна не паспела скончыць свае клопаты: у хату ўваліўся Сцяпан. Хіснуўшыся, ён прытуліўся да вушака і гукнуў у сенцы.

— Поркаецца ўсё. От, небарака. Сюды кіруйся...

У пакой увайшоў Ласуха. Ён вітаўся з Марфай, але ў ягоным голасе ўжо не было ранейшай ласкавасці. І толькі Сцяпан, як заўжды, калі вып'е, быў гаваркі і вясёлы. За апошні год ён мала змяніўся з твару, толькі нос моцна раздаўся ўшыркі і зрабіўся сіняватым.

Убачыўшы прыбраны для вячэры стол, Сцяпан ашчэрыўся:

— Слаўная ў Сцяпана баба... Стол — як мае быць!

Выцягнуў з кішэні два паўлітры і са стукам паставіў на стол.





— Цягні свае, Ласуха! Люблю, калі на мяне поўная батарэя глядзіць. Стаўляй!

Сцяпан падышоў да стала і плюхнуўся ў крэсла.

— Мяккае... Недзе ж вышкрабла мая... Гарніцеся да стала, Фурс казаў, што спозніцца. У яго справы перад ад'ездам...

Марфе не спадабаліся паводзіны Сцяпана, але яна змоўчала, бо той быў п'яны і спрачацца з ім у такі час было небяспечна.

— Гарніцеся, кажу. Як цябе там, Фама ці Мікола! — прамармытаў Сцяпан, беручыся за бутэльку.

Сцяпан не зманіў: Фурс прышоў гадзіны праз паўтары. Ён увайшоў, як гаспадар: скінуў пінжак, павесіў яго на крэсла і пайшоў у бакоўку да Нэлі. Ён нешта сказаў ёй там, бо яна хуценька вышла на кухню і паклікала туды Сцяпана і маці.

— Як твае справы? — запытаў Фурс, нахіліўшыся да Ласухі і трывожна пазіраючы па баках, хоць былі яны ў пакоі адны. — Сёння поркаліся ў асабістай справе... Разумееш? З-за таго артыкула. Ну і Крыніца! Гэта ж такое ў газету напісаць! Кар'еру робіць!

— А што? І зробіць. На свайго начальніка папёр...

— Мне яго кар'ера во дзе сядзіць. Справу маю аж на сонца цяпер глядзяць...

— Хэ! — абыякава і весела хмыкнуў Ласуха. — Маю справу няхай на два сонцы глядзяць. Анкета — чысцей вадзіцы. Ты не чуў, дзе Глушэня? У яго там нібыта рэвізія яшчэ адна. А заўтра ў мяне. Свой чалавек сказаў... Ды нічога, я гатовы... Калі ты думаеш ехаць? Яна паедзе з табой?

Фурс наліў паўшклянкі гарэлкі, дадаў віна і паказаў кілішкам на дзверы:

— Хто? Яна? З глузду з'ехаў. Куды яе?.. У кішэню?..

Ласуха курыў і ляніва сачыў за тым, як плыве над сталом ружовае воблачка папяроснага дыму. Яно даўжэла, выцягвалася, стала ледзь прыкметным і зусім знікла. Здаецца, і Фурс такі. І грымотаў яшчэ не чуваць, а ён ужо бяжыць. Выкручвайся, Ласуха, адзін. Не, Ласуха не такі дурань. Гэта я правільна зрабіў, што ўзяў з касы грошы. З імі, Ласуха, ты будзеш гарантаваны ад усякіх выпадковасцей. А яны бываюць у нашым жыцці, бываюць... Вось іх ад'езд. Яны збіраліся разам паехаць у нядзелю. А цяпер Фурс хоча ехаць адзін. Можа ён надумаўся пакінуць Ласуху, збегчы? Хітрая ліса! Бач, як перапалохаўся, што ў асабістую справу зазірнулі... А можа апярэдзіць яго і самому раней збегчы? Ласуха цяпер чалавек забяспечаны. Зашыцца дзе-небудзь у маленькі гарадок. Прыдбаць хатку, садок і жыць патроху. Хоць бы ля Чорнага мора. Там цёпла...

Яго вывеў з задумення Фурсаў голас:

— Фама, ідзі тут Сцяпану памажы...

Застаўшыся ў пакоі ўдваіх з Нэляй, Фурс адразу ж змяніўся: стаў гаваркім і заклапочаным.

— Вось і коней збіраем у дарогу, мая прыгажуня, — ён паставіў шклянку і пачаў падкідваць відэлец на далоні. — Пачынаем новае жыццё. Меркавалася, што паедзем дваццатага, а прыдзецца мне адправіцца сёння. Выклікаюць. Я паеду, атрымаю кватэру, і адразу ж адбіваю тэлеграму табе. Рэчаў паменей возьмеш, там хопіць...

— Як? Ты паедзеш адзін? Мы ж дамовіліся!

— Што зробіш? Так яно і бывае: плануеш адно, а выходзіць другое. Званілі мне, што з кватэрай затрымка. І плакаць не трэба... Ну, паглядзі на мяне...

— Табе жарты, Леапольд! А мне... застацца тут, у горадзе, дзе мяне кожны ведае? Не, я паеду з табой!

— Ну, добра, добра! — паварушыў Фурс тонкімі вусікамі. — Мы яшчэ памяркуем...

## 28

Пятрусь сядзеў на замчышчы, уставіўшыся невідушчымі вачыма ў цемру ночы. Як ён апынуўся тут, Пятрусь не мог уцяміць. Вышаўшы з Марфінай хаты, ён доўга блукаў па гарадскіх вуліцах. Ногі самі прынеслі яго сюды, на замчышча. Купчастыя дрэвы, што пышна зазелянелі тут гэтым летам, стаялі маўкліва, быццам прыслухоўваючыся да яго думак. А думкі гэтыя былі нястройныя, несуладныя, поўныя супярэчлівых развяг.

Дзе ж ты памыліўся, Пятрусь Крыніца, калі ты зрабіў першы няправільны крок? А мо' і не было памылкі, мо' такі ўжо твой непаблажлівы лёс? Далёкі, ласкавы голас шаптаў яму: «Цяпер у нас усё будзе добра, любы!..»



І, нібы смеючыся з яго, нехта другі казаў са злосцю і пагардай: «Ніякага кахання ў мяне да цябе няма! Разумееш? Няма!»

Шэрыя вочы ўсміхаліся яму з чорнай глыбіні ночы, клікалі: «Паедзем да нашай чаромхі. Мы ж разам цяпер!..»

І, нібы здзекуючыся з гэтых слоў, гучаў у вушах другі голас, поўны нянавісці і злосці: «Ідзі! І не прыходзь больш!..»

Бралася на світанне. Маўчала зацягнутая перадранішняй шэранню далеч. Над цёмнай Дзвіной, што не абудзілася яшчэ ад сну, гусцеў туман. Чамусьці прыгадаўся Петрусю прыуральскі стэп, заліты сонцам, ласкавае святло ў вачах Веры і яе голас — такі задушэўны, са смуткам: «Калі цяжка будзе — напішы. Я дапамагу табе...»

Дзе вы цяпер, мужныя і высакародныя сябры, якія дапамагалі паверыць у тое, што варта жыць?..

Праплывалі ўспаміны, пражытыя дні паўставалі ў памяці яскрава, выразна... Колькі шчасця было ў ягонай сям'і! Куды ж яно знікла? Нехта ўкраў. А можа проста не ўмеў берагчы?..

Ужо барвовай чырванню заліўся небакрай. Заходняя частка неба, куды сплывалі начныя змрокі, загадкава цямнела, поўная невядомасці. Зялёныя дрэўцы на замчышчы зашапацелі мацней, гудкі з чыгункі чуліся не так выразна, як ноччу.

Вузкай, пакручастай сцежкай Крыніца спусціўся на бераг ракі: у твар дыхнула свежасцю і прахалодай. З-за гарадскіх гмахаў смела выглянула сонца. Нерухомая паверхня ракі заблішчэла, і па шырокіх промнях, быццам па нябачаных шнурочках, пацягнуліся насустрач плыні дрыготкія палосы туману.

Крыніца падняў галаву ды так і застаўся стаяць некаторы час, здзіўлены і разгублены. Высока ў небе, распусціўшы крылы, павольна плыла вялізная, быццам пазалочаная, птушка. Ён адразу пазнаў у ёй каршуна і здагадаўся, што птушка здавалася пазалочанай ад сонца, якое падае ёй на пер'е. Крыніца сачыў за птушкай, пакуль яна не схавалася ў сіняй далечы...

Потым памыў твар, зачэрпнуў жменю вады, напіўся. Буйныя кроплі, што падалі з пальцаў у раку, паблісквалі на сонцы, нібы маленькія крышталікі. Вада была халодная і быццам салодкая на смак. Напіўшыся гэтай вады, Крыніца адчуў, што вострая боль на сэрцы суняўся крыху, туга неяк заглухла, прытупілася.

Падняўшыся на замчышча, ён спыніўся ў развазе. З карагода супярэчлівых думак у ягонай душы выкрышталізавалася адна — ясная і зразумелая. «Значыць так, Крыніца. Кірунак ты выбраў правільны. Ты ішоў чэснай дарогай. І цяпер зноў — наперад. Толькі наперад! Трэба запытацца ў Нэлі: з кім і якім шляхам хоча ісці яна! Вось і ўсё!..»

Далёка ўнізе блішчэла рака. Жаўтаватыя струмені невялічкай рачулкі, што ўпадала ў Дзвіну ля замчышча, доўга не змешваліся з чыстай дзвінскай вадою. Яны так і знікалі ўдалечыні за паваротам — чыстая і шырокая плынь дзвінскай вады і вузкія жаўтаватыя струмені малой рачулкі. Толькі недзе там, далей за горадам, дзвінская плынь адольвала мутныя воды і рабілася чыстай, празрыстай.

Крыніца вяртаўся дахаты. Ён ішоў праз парк і прыслухоўваўся да сваіх крокаў. Яны былі такія гулкія, што ад іх, здавалася, дрыжала лісце маладых дрэўцаў на паркавых алеях. На газонах цвілі кветкі.

На пышным лісці астраў, набрыняўшых густой барвовасцю, на дробных пялёстках гваздзікі, якія зрабіліся ярка-пунсовымі, на празрыста тонкіх кветках гладыёлусаў ззялі, іскрыліся на сонцы кроплі расы. Здавалася, што раніцой прышоў сюды чарадзей, развязаў мех і шчодра сыпнуў на кветкі брыльянтамі і самацветамі.

За газонамі пачыналася алея белых ружаў. Пятрусь спыніўся ля іх і доўга глядзеў на дробныя лісцінкі, на пукатыя белыя бутоны. Раптам сярод узорыстага, з вострымі крайчыкамі лісця на танюткай галінцы здрыгануўся і загойдаўся ад руху белы са слабай барвовасцю пялёсткаў вялікі бутон: ружа развінала пялёсткі. Яны былі адметныя сярод іншых сваёю свежасцю і чысцінёю, і бляск іх быў падобны на бляск дзіцячых вачэй — чысты, ясны, нічым не засмучаны...

## 29

Нэля ўвайшла ў хату, села ў крэсла і закрыла рукамі твар. Нейкі чалавек прывёз яе дахаты. Што гэта ён казаў? Цяжка ўспомніць. Галаве горача, быццам побач вогнішча паляць. Думкі абарваныя, скамечаныя. І дзіўная лёгкасць у нагах—быццам іх зусім няма. Не, ногі ёсць. На іх цьмяна блішчаць туфлі. Але чаму яны блішчаць цьмяна? У іх жа хаце заўсёды гараць вялікія лямпы. Можа яна не ў сваю хату трапіла? Не, гэта іх хата. Гэта пакой маці. Мыцельнік з кухні відаць. Шпунцік у ім працякае. Пятрусь хацеў адрамантаваць яго, ды так і не сабраўся. На шпунціку вадзяная кропелька. Яна расце, расце! «Цоп!»

І зноў набрыньвае, і зной падае так гучна і звонка:

«Цоп!.. Цоп!..»

Дзверы на кухню адчынены. На падлозе два чамаданы. Маці нешта пакуе ў іх... У Леапольда такі ж жоўты чамадан. Там, на вакзале... Потым да яго падышлі двое вайскоўцаў. Леапольд паказаў камандзіроўку, лаяўся, абураўся. Тады падышоў трэці — у цывільным адзенні. «Што, не пазнаеш? У Тураўлянскай вёсачцы страляў у палонных партызан!..» Леапольд спрабуе ўцячы. Яго ловяць і вядуць да машыны. Нейкі чалавек гаворыць ёй, што давязе яе дахаты... Яна згаджаецца, бо гаворыцца гэта тонам загаду, які трэба выконваць.

— ...Шчасце якое! Не паехала! Хутчэй ратавацца трэба! Ласуху міліцыя шукае. І Сцяпана няма, можа ўжо арыштавалі. Чуеш? Ты што, анямела?..

Гэта ж маці гаворыць.. Што ёй яшчэ трэба ад мяне?..

А маці штурхае яе ў плечы, цягне за сабой. Шафа ў пакоі адчынена. Чамаданы напакаваны. Навошта маці гэта робіць? Нэля нікуды не паедзе. Ды і куды ехаць? Навошта? Фурс — былы паліцыянт, страляў людзей... А яна пакахала яго! А можа не кахала?! Яна ж кахала мужа...

Пятрусь!!!

Маці выцягвае аднекуль з ніжніх скрынак шафы блакітны шоўк і дае Нэлі. Нэля спалохана хавае рукі за спіну. Нельга! Пятрусь загадваў не браць!

— Не трэба ён мне! Не трэба!

Скрутак мякка ўпаў на падлогу: «Шмя-як!»

— Бязрукая! Што з цябе за дапамога! Бяжы шукай яго. Што ўтаропілася? Петруся шукай! — Голас Марфы зрабіўся сіплаваты і непрыемна задрыжаў. — Ды не стой ты на месцы! Бяжы... Скажы, што я праганяю цябе, а ты кахаеш яго... Што хочаш кажы! Забярэш чамаданы



і пойдзеш жыць да яго. Там шукаць не будуць! Пятрусь жа партыйны. Ох, што ж гэта будзе! Што будзе? І дамок забяруць. Божачка, літасціві...

Марфа ўзняла вочы, поўныя адчаю і жаху, на бажніцу, заўзята перахрысцілася. Тоўстыя шчокі ў яе абвіслі, халат расшпіліўся:

— Божачка, дапамажы!..

Вялікая чорная муха, якая сядзела на бажніцы, спалохалася святла і паспрабавала ўзляцець, але заблыталася ў павуцінні і жаласліва зазвінела крылламі.

Дзіцячы галасок за сцяной крыкнуў:

— Мама!

Алеська! Нэля кінулася праз кухню ў свой пакой. Там панавала цішыня. Скрозь сон шморгаў носам Алеська: нешта прыснілася яму, і ён паклікаў маці. Нэля ціха падышла да калыскі, стала на калені, прыхілілася ілбом да халоднага жалеза. Думкі імгненна праяснелі, і пытанне вострае, як нож, кальнула ў сэрца:

— Што ж гэта будзе? Што будзе?

Яна шчыльней прыціснулася ілбом да халодных пруцікаў калыскі, сціснула губы і застагнала ад болю і крыўды:

— Падманілі яны мяне! Падма-аанілі-ііі!

У калысцы спаў Алеська. Ён смачна цмокаў губкамі. Яму сніліся цудоўныя сны.



Мікола ХВЕДАРОВІЧ

# ПЯСНЯР ЮНАЦТВА

Сустракаюцца людзі ў жыцці, якія з першага слова прываблiваюць да сябе, нібы заварожваюць сваёй ветлівасцю і цеплынёй сардэчнай шчырасці. Больш трыццаці гадоў таму назад я ўпершыню прывітаўся з паэтам Міхасём Чаротам і пасля першай гутаркі палюбіў яго на ўсё жыццё. Можа быць слова «палюбіў» не зусім адпавядае вызначэнню вялікага таварыскага пачуцця, якое нарадзілася тады ў маім сэрцы. Але гэтае пачуццё праз доўгія гады радасці і трывог не здрадзіла мне, а наадварот, перарасло ў дружбу. Прайшло нямала часу пасля смерці Міхася Чарота, а ён нібыта жывы стаіць перад маімі вачыма, і хочацца мне расказаць аб ім нашай моладзі, якой паэт сорак гадоў таму назад прысвяціў свае лепшыя натхнёныя творы.

Нарадзіўся Міхась Чарот (Кудзелька) 7 лістапада 1896 года на Чэрвеньшчыне, у вёсцы Рудзенск, у беднай сялянскай сям'і. Назаўсёды запомнілася мне маленькая вясковая хаціна з падпёртымі сценамі, з дзіравай страхою. Маленькія ваконцы яе прыплюшчана паглядалі з-пад нахмуранага застрэшша на далёкі разбег шырокага прастору, за якім цягнулася няроўная істужка сіняга лесу. У гэтай хаце правёў дзіцячыя і юнацкія гады паэт .

З дзевяці гадоў Міхася аддалі вучыцца грамаце. У той час у Рудзенску не было школы. Вучыліся ў «дарэктара», наёмнага настаўніка. Адзін тыдзень — у адной хаце, другі — у другой, і такім чынам школа вандравала па ўсёй вёсцы, з канца ў канец. «Дарэктар» быў адзін на дзве групы. У хаце сталі два доўгія сталы. Садзіліся на лавах, а з другога боку прыстаўлялі ўслоны. Пачыналі вучобу з малітоўніка, а потым ужо вучылі хорам: аз, букі, ведзі, глаголь, дабро і г. д. Ад нуднага паўтарэння балела галава. Хацелася хоць ушчыкнуць суседа альбо пацягнуць за валасы. За гэта «дарэктар» лупцаваў лінейкай, ставіў на калені на жарству і гарох альбо са злосці, бывала, схопіць за вушы і падыме аж пад самую столь.

Але праходзіла зіма, і ў госці заглядвала цёплая лагодная вясна. Яшчэ сонца не паспявала як след абагрэць зямлю, яшчэ ў лагчынах сям-там ляжаў брудны снег, а ўжо Міхась, босы са статкам кароў, спускаўся да рэчкі, дзе павыскоквала першая вострая зялёная траўка, дзе ўжо сям-там успыхвалі жоўтыя агеньчыкі кураслепу. А потым палі і лес напаўняліся гоманам птушак, а зямля паступова пакрывалася шаўковым дываном



травы. Раніцамі плавалі над свежай зямлёй туманы, рассыпаючы на траве брыльянтавыя пацеркі расы.

Асабліва любіў Міхась ездзіць на начлег. Набегаўшыся за доўгі дзень за жывёлай, прыходзіў ён вечарам дамоў змораны. Маці хутчэй садзіла яго за стол, на якім ужо стаяла ў місцы цёплае малако, гарачая падсоленая бульба ў мундзірах. Хутчэй перакусіўшы, ён браў бацькаву старую світку, адвязваў гнядога і выязджаў са двара. З вясёлай песняй пакідалі начлежнікі вёску. Змораныя за дзень коні хутчэй спяшаліся на мяккія мурожныя паплавы, дзе за ноч можна так добра выкачацца і наскубціся роснай сакавітай травы.

Назаўсёды запамятаў Міхась прыгажосць летніх беларускіх начэй. Аб іх ён пісаў у сваіх апавяданнях, вершах і паэмах. Яго п'еса «На Купалле» з'яўляецца гімнам хараству, якое жыве ў вуснай творчасці беларускага народа.

Даследчыкі творчасці Міхася Чарота не заўсёды правільнымі домысламі адводзілі ўвагу чытача ад той вечна жывой крыніцы народнай творчасці, з якой чэрпаў пясняр сваё мастацкае слова. Вось як сам пісьменнік гаворыць аб гэтым у біяграфічных нататках:

«Тварыць пачаў, яшчэ не ўмеючы пісаць. У галаве гучалі пявучыя словы народнай песні. Я браў гэтыя словы і пераплятаў іх з выдуманымі ў рыфму сваімі словамі. Такім чынам, атрымліваліся нейкія новыя, зусім не падобныя на ранейшыя радкі, а я радаваўся і, захапляючыся, перайначваў да таго часу, пакуль не нараджаўся зусім новы верш».

«Пачаў пісаць на трынаццатым годзе. Напісанае хаваў, нават баяўся чытаць сваім блізкім сябрам. Першым прачытаў мае вершы настаўнік Маладзечанскае семінарыі, у якую я паступіў у 1914 годзе. Ён пахваліў мяне, але параіў больш пісаць аб прыродзе, а не аб тым, што мне дрэнна жывецца...»

Пра паступленне ў семінарыю і вучобу ў ёй Міхась многа расказваў пры сустрэчах. Гэтыя гутаркі заўсёды былі па сэрцу нашаму пакаленню, якое прабівалася ў людзі праз цяжкія перашкоды і пакуты. Рыхтаваў Міхася да паступлення ў семінарыю студэнт Петрачкоў, бацькі якога жылі на маленькай станцыі Рудзенск.

Маючы вялікае жаданне да складання вершаў і да чытання кніжак, Міхась аднойчы, перамагаючы сорам, звярнуўся да гэтага студэнта з просьбай:

— Прашу прабачэння, — сказаў ён, — ці не дасце мне пачытаць якую-небудзь кніжку? Вельмі ж я люблю чытаць вершы і нават сам прабую складаць на слых.

Студэнт агледзеў юнака з ног да галавы і сказаў:

— Падыдзі бліжэй! Ты чый будзеш?

— Наша хата стаіць вунь за тымі дзвюма бярозамі, на самым канцы вёскі. Бацькі мае — Кудзелькі.

— А дзе вывучыўся чытаць і складаць вершы, рудзенскі Пушкін?

Міхась апусціў долу вочы, трохі памаўчаў, а потым сарамліва працадзіў праз зубы:

— Хадзіў па хатах дзве зімы, а потым вучыўся ў школе, якая адчынілася ў нас тры гады таму назад. Вершы чытаў у кніжцы. Падумаў, падумаў і рашыў: давай сам паспрабую... Паспрабаваў, трохі падхадзяшча атрымалася...

Студэнт зацікавіўся гэтым незвычайным хлапчуком. Ён не толькі даў пачытаць, але нават падараваў Міхасю невялічкі зборнік вершаў Кальцова і папрасіў яго расказаць ці прачытаць які-небудзь свой верш. Хлопец доўга не адважваўся і стаяў, як анямелы, а потым набраўся храбрасці і пачаў ціха і манатонна:

Сёння і ўчора
Толькі слёзы, гора.
А чаго я плачу?
Дурны небарача.
Плач ніхто не чуе,
Ніхто не шкадуе...
Ўсе разгоняць хмары, —
Вятры і пажары...

Ад чытання ў яго выступіў пот, так было сорамна і няёмка перад студэнтам. Але студэнт падышоў да хлопца, пагладзіў па галаве, а потым усё распытваў: як жывуць яго бацькі, ці ёсць маці, браты, сёстры?

— Не трэба саромецца. Усё ў цябе складна. Прыходзь да мяне часцей. Смялей стукай у дзверы і кажы, што прыйшоў да Васі. А кніжак у мяне цікавых многа...

І Міхась зачасціў да свайго новага знаёмага. Петрачкоў даваў чытаць дапытліваму юнаку кніжкі і нават параіў рыхтавацца да паступлення ў семінарыю.

Два гады рыхтаваўся Міхась — рыхтаваўся ўпарта і настойліва. У час канікулаў, калі студэнт прыязджаў у Рудзенск, Міхась забягаў да яго за кансультацыяй і парадай. Трэба было дасканала ведаць арыфметыку, граматыку, літаратуру. Акрамя гэтага, вывучыць на «зубок» славянскую мову, царкоўную гісторыю. Петрачкоў не шкадаваў часу і ўвагі да хлопца, бо ўпэўнены быў, што Міхась паступіць на вучобу.

У 1914 годзе Міхась пераступае парог Маладзечанскай семінарыі. Ён першы раз у жыцці апынуўся сярод чужых і незнаёмых людзей. Здзівілі чыстыя пакоі будынка з велізарнымі вокнамі, прасторныя шырокія дзверы. Нязграбна чапляючыся падранымі бацькавымі ботамі за пасланыя на блішчастай, як шкло, падлозе дываны, ён накіраваўся да кабінета дырэктара. Па калідоры хадзілі студэнты ў форме, з блішчастымі гузікамі. У кожнага на твары свяцілася ўрачыстая задаволенасць. Міхась глянуў на свой палаплены паўкажушок, на порткі з дамотканага сукна і горасна ўздыхнуў.

У канцы доўгага калідора знаходзіўся кабінет дырэктара і канцылярыя. Тут стаяў натоўп наведвальнікаў. Гэтакіх людзей Міхасю не даводзілася сустракаць на вёсцы. Высокі бацюшка ў бліщчастай расе, з вялікім крыжам на грудзях і рыжай, як плаха, барадою трымаў за руку свайго сынка, шчыгульнага хлапца, які нясмела лыпаў чырвонымі ўспухлымі павекамі. Каля самых дзвярэй сядзела нейкая пані ў чорным адзенні. Як відаць, яна хадайнічала за гэтага ружавашчокага паніча, які стаяў побач з ёю і раз-по-раз абліздаў чырвоныя, як слівы, губы. Былі тут па выгляду і настаўнікі, праз меру ціхія і далікатныя, багатыя засцянкоўцы— порсткія, нібыта перапуджаныя. Але вясковых хлопцаў не відно было. Міхась непрыкметна праціснуўся да канцылярскага стала і ад радасці ледзь устаяў на нагах. За сталом сядзеў студэнт з Рудзенска Петрачкоў і далікатна размаўляў з нейкім вусатым панам. Убачыўшы Міхася, ён урачыста паведаміў:

— Кудзелька, ты дапушчаны да экзаменаў. Заўтра роўна а дзевятай гадзіне з'явіся ў восьмы пакой, маючы з сабой пісьмовыя прылады.

Усе прысутныя здзіўлена паглядзелі на Міхася. А ён стаяў збянтэжаны і ўзрадаваны, не ведаючы, што адказаць і ў які бок падацца.

— Дзякую вам, — толькі і змог ён праказаць і неяк порстка шмыгнуў да дзвярэй.

У калідоры да яго падышоў чалавек у шэрым палітоне, як відаць, вясковы настаўнік, і запытаў:

— Як бачу, вы не тутэйшы. Адкуль будзеце?

— З Рудзенска, — адказаў Міхась. — А вы што, — можа будзеце з нашай мясцовасці?



— Не, мы прыехалі з Вілейкі. А вось мой сын Федзя. Таксама дапушчаны да экзаменаў. Пазнаёмцеся.

— Фёдар Іванавіч Мяцельскі, — адрэкамендаваўся хлопец і ўжо смела звярнуўся да Міхася: — А дзе вы спыніліся? Давайце будзем разам пакуль што жыць. Бацька мой знайшоў прыватны пакойчык. Вы не будзеце супраць?

Міхась, абрадаваны знаёмствам, ахвотна разгаварыўся з новым сябрам.

Пакойчык быў у доме на самай ускраіне горада, за чыгуначнай лініяй. Гэтае знаёмства якраз было дарэчы. Мяцельскі ведаў ужо ўсе ўмоўнасці і парадкі пры паступленні.

Жыццё, поўнае трывог і спадзяванняў, прамільгнула ў сумятні. Апошні экзамен, вытрыманы на пяцёрку, надаў упэўненасці Міхасю. Не адставаў ад яго і Мяцельскі.

Вось і ўсё. Настаў урачысты момант. Міхась Кудзелька і Фёдар Мяцельскі залічаны студэнтамі Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі. А той добры студэнт Петрачкоў пры сустрэчы павіншаваў Міхася і сказаў, што можна спадзявацца на стыпендыю і інтэрнат. Не ведаў Міхась, як аддзякаваць свайго прыяцеля, добрага земляка, які вывеў яго на шырокую дарогу навукі. Ёсць жа сардэчныя людзі на свеце, думаў Міхась, везучы дадому радасную вестку.

Але дома бацькоў і ўзрадавала, і засмуціла гэтая вестка: у сувязі з паступленнем хлопца ў семінарыю трэба было зрабіць амаль непасільныя расходы. У падранай світцы і лапцях у семінарыю не пойдзеш. Трэба было тэрмінова справіць форму: шынель з чорнага сукна, гарнітур і шапку. Гэта абавязкова.

Кінуліся да сваякоў. Дзесяць рублёў пазычыў дзядзька. Прадалі цёлку. У мацерыным куфры ляжаў яшчэ вянчальны бурнос з чорнага сукна. Вырашана было яго перашыць на шынель. За пяць рублёў з «чортавай скуры» быў заказаны гарнітур. За шапку аддалі паўтара рубля. Чаравікі пашыў Янкель — напавер да вясны. Такім чынам, Міхась быў сабраны і адзеты з ног да галавы.

Вось і надышоў дзень ад'езду з роднага дому. У новым гарнітуры з бліщчастымі гузікамі ўвіхаецца Міхась, укладваючы свае рэчы ў куфэрак, акуратна збіты з габляваных дошчак. Бацькі не могуць налюбавацца сваім сынам. Суседзі з завідкамі пазіраюць на яго, калі ён праходзіць па вуліцы.

У чорным шынялі, на якім у два рады жоўтыя гузікі, у семінарскай шапцы з цэшкай стаіць Міхась каля парога. Развітальныя пацалункі. Маці не можа стрымаць ад радасці горкія слёзы.

— Вучыся, сынок, дай табе божа шчасце, — ледзь чутна шэпча яна.

Бацька ні то ад радасці, ні то ад нечаканага наплыву пачуццяў неяк скарагаворкай паўтарае:

— Пачцівы будзь! Пакорнае цялятка дзве маткі ссе, а гордае — ніводнае...

Міхась згаджаецца зараз на ўсё. Але само жыццё дасць яму зусім іншыя парады. Усё ж не праз гэтую праклятую пачцівасць прыняты ён у семінарыю. Колькі паступала пачцівых і ніштавата-такі багатых людзей? Але ж такіх мужыкоў, як ён, было не вельмі многа. І ўсё ж ён прыняты. Дапамаглі веды, падрыхтоўка. Вялікае шчасце сустрэла Міхася ў асобе Петрачкова. Ці ж вучыў ён яго быць заўсёды пачцівым? Не, ён заўсёды яму казаў:

— Табе, браток, трэба стаць на галаву вышэй той багатай часткі студэнтаў, якія карыстаюцца сваім становішчам. Толькі веды выратуюць цябе...

Семінарскія гады навучылі Міхася многаму. Ён яшчэ яскравей пабачыў класавую розніцу паміж студэнтамі. Добра апранутыя, выпешчаныя Атколавы, Арлоўскія, Працэнкі — сыны багацеяў, царскіх чыноўнікаў —

займалі ў класе лепшыя месцы. Ім патуралі настаўнікі, лісліва выстаўляючы іх перад класам, як найбольш здольных. Нават у царкве яны займалі асобнае месца — каля самага кліраса.

— Тут, — казаў Міхась, — я належаў да класа мужыкоў, якія нават не ўмелі гаварыць па-іхняму і для якіх, на іх думку, патрэбен быў кій, а не культурнае выхаванне. Гэты падзел на вучняў багатых — інтэлігентаў і мужыкоў адразу скіраваў маю думку на тое, што і ў вёсцы існуе той жа падзел на мужыкоў і паноў. Не давала мне спакою думка — чаму гэта так пабудаваны свет на няроўнасці і няпраўдзе? Чаму гэта так?..

Але сярод настаўнікаў былі і сумленныя людзі, якія «сеялі добрае семя» і ў сценах семінарыі. Сярод іх асабліва вызначаўся настаўнік рускай мовы і літаратуры Меліхаў. Ён любіў пасля ўрока пагутарыць са студэнтамі, аддаючы ўвагу найбольш здольным. Аднойчы пасля ўрока ён звярнуўся да Міхася:

— Ваша пісьмовая работа, Кудзелька, мне спадабалася. Заўважаю ў вашай рабоце нахіл да састойнай творчасці. Людзі, аб якіх вы расказваеце, нейкія цікавыя, сапраўды такія сустракаюцца сярод сялян. Добра малюеце абразкі роднай прыроды, — ён узяў са стала сшытак, разгарнуў і спыніўся на радках, падкрэсленых сінім алоўкам:

«А паўз рэчкі шумелі густыя чараты, і гоман іх быў падобны да разгневанага натоўпу, які яшчэ не відзён, але ўжо яго магутнасць і сакрушальная моц чутны».

Зняўшы акуляры і спыніўшыся чытаць, ён праніклёна заглянуў у вочы Міхасю і сказаў:

— Раю вам пачытаць апавяданні Чэхава. Ён вялікі настаўнік. Толькі будзьце ўважлівымі і нічога патрэбнага не прапускайце. З вас, Кудзелька, можа быць толк.

Непрыкметна беглі сумятлівыя дні студэнцкага жыцця. Петрачкоў быў ужо на апошнім курсе, але ўвесь час падтрымліваў з Міхасём сяброўскую сувязь. На канікулы яны разам ездзілі да бацькоў у Рудзенск і ў доўгія зімовыя вечары заглядалі часта на попрадкі да вясковых дзяўчат. Увесь Рудзенск бралі завідкі, што сын Кудзелькі мае хутка стаць настаўнікам. Але Міхась ужо не вельмі думаў пра настаўніцтва. Глыбока запалі яму ў сэрца словы настаўніка Меліхава. Усё часцей ён пачаў брацца за пяро, і ўжо ў 1916 годзе ў яго быў сакрэтны запаветны сшытак, у якім было запісана каля дваццаці вершаў. Усе яны былі прысвечаны гаротнаму жыццю беднага селяніна, лірычнаму апісанню роднага краю. Праўда, гэтыя вершы не былі выразнымі па сваёй ідэі, светапогляд паэта не быў зусім акрэсленым. Аднак яны выяўлялі незадаволенасць паэта, які імкнуўся да лепшага жыцця. Многія з гэтых вершаў у пазнейшай апрацоўцы ўвайшлі ў першы зборнік «Завіруха», хоць і датаваны яны 1919—20 годам:

Ідуць ад працы ў вёскі людзі,
Дзяўчаты, хлопцы, мужыкі.
І гукі песні роднай льюцца,
Як хвалі быстрай тэй ракі.

Змаўкае спеў... Вось ночы ціша
Нясе ўсяму святы спакой...
А сэрца доўга мне калыша
Твой родны спеў, край родны мой.

Гэта быў перыяд, калі Міхась Чарот упершыню адчуў сапраўдны голас свайго сэрца. У гэтыя гады Петрачкоў і Міхась даставалі выданні «Нашай нівы» і захапляліся вершамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Алеся Гурло і іншых. Пісаць на сваёй роднай мове стала патрэбаю яго сэрца. У 1916 годзе ў Маладзечанскай семінарыі была група студэнтаў, якая імкнулася пашыраць сярод сялянства роднае слова. І ўжо ўсе ведалі, што



Кудзелька складае вершы, а некаторыя з гэтых вершаў перапісваліся і чыталіся на прыватных кватэрах і ў інтэрнаце.

— Памятаю, — расказваў Міхась, — настаўнік гісторыі Рэйнскі прачытаў мой сумам прасякнуты верш і сказаў: «Рана птушачка запела, каб кошачка не з'ела. Але пішыце, у вас здольнасці ёсць. Толькі пішыце больш аб прыродзе. Навошта вам браць такія «далікатныя» тэмы, аб якіх баяцца іншыя пісаць? Такія вершы нідзе не надрукуюць. Адны непрыемнасці чакаюць вас. Будзеце потым шкадаваць».

«Я нічога не адказаў яму, — піша ў сваіх успамінах Міхась. — Але ад гэтага часу мне яшчэ больш захацелася, на зло, пісаць такія вершы, якія нідзе не надрукуюць».

Надыходзіў 1917 год. У семінарыі быў арганізаваны паскораны выпуск апошняга курса. Пасля сканчэння семінарыі ўсіх студэнтаў мабілізавалі ў армію Керанскага. Вось як аб гэтым коратка расказвае Міхась Чарот у сваіх успамінах: «У 1917 годзе мяне забіраюць у салдаты. Пачалося бадзянне па шырокіх прасторах Расіі і Украіны. Тут я знаёмлюся з рэвалюцыйным рухам і прымаю ў ім удзел».

Як толькі прагучаў на ўвесь свет магутны покліч Кастрычніка, Міхась Чарот спяшаецца на радзіму. У вядомым вершы «Званар» ён кажа:

Зззяе зорка-зараніца...
Гэй, званар, звані з званіцы,
Звон зазвоне —
Змору згоне.
Працай змораны прачнецца,
Навакола азірнецца...
Закрычыць яму што трэба:
Зямлі, волі,
Шчасця долі...

У 1918 годзе, прыехаўшы ў Мінск, Міхась Чарот становіцца студэнтам Мінскага педагагічнага інстытута. Але нядоўга цешыўся вольным краем паэт. Белапольскія легіёны рушылі на ўсход па беларускай зямлі. Пілсудчыкі пачалі наводзіць свае парадкі. На пляцу Волі ў Мінску стаялі гарматы польскай артылерыі. Міхась Чарот, разам з другімі паўстанцамі-камуністамі, ідзе працаваць у глыбокае падполле. Ён працуе ў паўстанцкім падпольным камітэце. У гэты час ім напісана шмат гнеўных вершаў, якія заклікалі народ на барацьбу за вызваленне роднага краю.

Грозная сіла Чырвонай Арміі змяла белапольскія палкі. Беларускі рабочы і селянін узяліся будаваць сваё новае жыццё ў родным краі. Міхась Чарот усяго сябе аддае будаўніцтву беларускай культуры:

Селянін і рабочы — удвух.
Стары свет агнём паляць, руйнуюць
І на вогнішчы новы будуюць,
Панаваць ў якім будзе: молат і плуг.

У 1920 годзе Чарот уступае ў рады Камуністычнай партыі. У вольнай Савецкай Беларусі асабліва бурна расквітнеў талент паэта. Вершы яго часта друкуюцца ў перыядычным друку і выходзяць асобнымі зборнікамі. У гэтыя гады Міхась Чарот плённа працуе як празаік і драматург. Выходзіць з друку зборнік апавяданняў пад назвай «Веснаход», у якім пісьменнік паказаў барацьбу нашага народа за новае жыццё. Зборнік гэты за тры гады вытрымаў пяць выданняў.

Міхась Чарот працаваў і ў жанры драматургіі. Яго п'еса «На Купалле» была вялікай падзеяй у жыцці маладога тады беларускага тэатра.

Той, хто хоць раз бачыў спектакль «На Купалле» ў пастаноўцы тэатра імя Янкі Купалы, ніколі не забудзе мілагучнага хараства ў песнях, у музыцы і ў танцах. Некаторыя песні зараз сталі сапраўды народнымі і выконваюцца Дзяржаўным акадэмічным хорам.

Спектакль «На Купалле» ў 1922 годзе быў паказаны ў Крамлі для Савецкага ўрада. У гэтыя ж гады пастаноўка п'есы «На Купалле» была ажыццёўлена на сцэне Вялікага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра ў Маскве. Спектакль ставіўся на сцэне рабочых клубаў сталіцы і атрымаў высокую ацэнку маскоўскай прэсы.

Чарот пісаў і для вясковай сцэны. Яшчэ і зараз у друку часта сустракаюцца паведамленні аб пастаноўцы яго п'есы «Мікітаў лапаць» самадзейнымі калектывамі рэспублікі.

Выступіўшы са сваімі вершамі ў 1919—20 гадах, Міхась Чарот прынёс у літаратуру дыханне рэвалюцыйнай барацьбы за новае, светлае жыццё. У 1919 годзе ў вершы «Да моладзі» ён піша:

Ты, моладзь, смела і магутна,
Ты — волі лепшай будаўнік,
Далёка песня твая чутна,
Бо стан бязмерна твой вялік.

Да працы ўсе, хто мае сілу,
Пад сцяг чырвоны, вольны сцяг.
Капайце ворагу магілу,
Камуне стройце новы шлях...

У сваім захапленні гераічнымі справамі камсамола Міхась Чарот нават свой любімы край — Беларусь залічвае ў слаўныя шэрагі камсамола:

Беларусь! I ты камсамолія,
Я, камсамолец, — твой сын...

У 1922 годзе Міхась Чарот стварае паэму «Босыя на вогнішчы» — твор аб змаганні і перамозе беларускага народа над белапольскімі акупантамі. У асобе «босых» паэт паказвае пралетарыят і беднату, якія ў сваім рэвалюцыйным імкненні змятаюць заклятых ворагаў і вызваляюць Радзіму. У паэме дадзены трапныя характарыстыкі духоўным служкам, панам і афіцэрам, спекулянтам і ўсяму буржуазнаму зброду, якія чорным груганнём напалі на рэспубліку рабочых і сялян. Паэма, напісаная пад уплывам твора А. Блока «Дванаццаць», прынесла ў беларускую паэзію багацце новых вобразаў, здзівіла чытача нечаканай новай інструментоўкай, свежасцю рытму і рыфмы.

За чатыры гады «Босыя на вогнішчы» выдаваліся каля дзесяці разоў рознымі выданнямі, друкаваліся ва ўсіх хрэстаматыях.

У 1922 годзе Міхась Чарот піша фантастычную паэму «Чырвонакрылы вяшчун», а ў 1924 годзе друкуюцца яго паэмы «Ленін» і «Беларусь лапцюжная». Паэмы «Марына» і «Карчма» напісаны ў 1925 годзе.

Такі бурны росквіт паэтычнага таленту абумоўліваўся тым, што збыліся доўгачаканыя мары паэта, і ён аддае ўсяго сябе справе развіцця маладой беларускай культуры. Ім напісаны творы, у якіх паказана змаганне і праца народа за шчасце, імя якому — камунізм. Уся творчасць паэта авеяна рамантыкай грамадзянскай вайны, паказам росквіту новых якасцей у людзей, абуджаных Савецкай уладай да новага, светлага жыцця.

Міхась Чарот напісаў аповесць для юнацтва аб барацьбе і змаганні беларускіх партызан за вызваленне Беларусі ад белапанскай акупацыі пад назвай «Грышка-свінапас». Памятаю, у 1925 годзе рэдакцыя газеты «Чырвоная змена» запрасіла Міхася Чарота, каб ён расказаў аб працы над першым беларускім сцэнарыем для фільма «Грышка-свінапас». Чарот прышоў у рэдакцыю ў доўгім чорным кажуху, у салдацкіх ботах і бобрыкавай шапцы. Рэдакцыя газеты змяшчалася ў двух невялічкіх пакойчыках па Камсамольскай вуліцы. У большым пакоі ад вуліцы, з адным акном, у якое рэдка калі заглядвала сонца, сабраўся камсамольскі актыў. Сярод камсамольцаў-актывістаў былі таксама пісьменнікі-маладнякоўцы: Васіль Каваль, Ілары Барашка, Валеры Маракоў і многа журналістаў — работнікаў газеты. Міхась, скінуўшы кажух, сеў за стол. Яго акружылі камсамольцы.



Пасярод пакоя стаяла печка, якая называлася «буржуйка», і Міхась то сур'ёзна, то жартоўна гаварыў дзяўчатам:

— Не буду чытаць сцэнарыя, адмаўляюся, кампанія не падыходзіць! Сярод вас ёсць буржуйка, ад якое мяне кідае ў жар.

Усе засмяяліся, а рэдактар газеты прапанаваў пакінуць «буржуйку» ў штаце рэдакцыі аж да вясны.

Міхась пачаў расказваць нам аб тым, як ён разам з рэжысёрам Ю. Тарычам распрацоўвае сцэнарый, а потым чытаў урыўкі са сцэнарыя. Перад вачамі слухачоў праходзілі малюнкі змагання беларускага народа за сваё нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне.

У 1926 годзе я прысутнічаў на праглядзе гэтага фільма, які называўся «Лясная быль». Мы захапляліся лірычнымі натурнымі здымкамі беларускіх пейзажаў. Белыя бярозкі пад суровым ветрам аж згінаюцца да самай зямлі. А ў лагчыне, на мурожным выгане, пастушок пасвіць свіней. Не зважаючы на халодны вецер, ён дастае з торбы жалейку і спрабуе яе чароўныя гукі. А з захаду плывуць і плывуць чорныя хмары і, здаецца, вось-вось захінуць яснае сонца і гэты заліты праменнямі прыгожы краявід.

Эпізоды барацьбы разгортваюцца на фоне маляўнічых беларускіх краявідаў.

У 1923 годзе пры непасрэдным удзеле Міхася Чарота створана першая на Беларусі літаратурна-мастацкая арганізацыя «Маладняк». Акрамя плённай творчай працы, Міхась Чарот аддае шмат увагі выхаванню маладых пісьменнікаў. Ён быў адным з першых кіраўнікоў «Маладняка», яго першым старшынёю.

У 1924 годзе Чарот едзе на вучобу ў Маскву. Там ён залічваецца студэнтам Дзяржаўнага інстытута журналістыкі і жыве на Мала-Нікіцкай вуліцы, № 18, займаючы невялічкі пакой у беларускім паўпрэдстве. У той час у Маскве пад кіраўніцтвам рэжысёраў Смышляева і Афоніна працавала беларуская тэатральная студыя, артысты якой пасля звароту з вучобы склалі аснову другога Дзяржаўнага тэатра, што зараз працуе ў Віцебску. Міхась Чарот быў у іх частым госцем. Ён ім першым чытаў свае паэмы, напісаныя ў Маскве — «Карчма» і «Марына».

Рада была сустрэчы з Чаротам і маскоўская філія «Маладняка» — студэнты Маскоўскага літаратурна-мастацкага інстытута імя Валерыя Брусава — Уладзімір Дубоўка, Юрка Гаўрук, Георгі Бярозка, Ізі Харык.

У 1926 годзе Міхась Чарот вяртаецца з вучобы і прызначаецца рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь». Часта пасля заняткаў на рабфаку я забягаў у рэдакцыю, проста ў кабінет рэдактара, і клаў на стол новы верш. Міхась сустракаў мяне ветліва:

— А, рабфакавец! Ну, знаёмцеся, хлопцы, — звяртаўся ён да сваіх супрацоўнікаў. Тут жа ён прапаноўваў мне прачытаць верш, і тое, што падабалася яму і прысутным, назаўтра з'яўлялася ў друку. Зусім не перабольшу, калі скажу, што амаль усе мае першыя вершы прачытаны Міхасём Чаротам. Ён быў не толькі маім рэдактарам — але быў настаўнікам і лепшым другам маладых паэтаў дваццатых гадоў. Трапныя сяброўскія заўвагі былі заўсёды прынцыповымі. Настойлівая патрабавальнасць прымушала кожнага з нас працаваць самастойна, адчуваць жывую душу верша.

Чарот вельмі не любіў невукаў і пры выпадку высмейваў іх. Аднойчы прышоў у рэдакцыю адзін паэт. Міхась кажа яму зусім сур'ёзна:

— Слухай, браце, мы атрымалі сумную вестку. Памёр вельмі цікавы нямецкі пісьменнік Цвібелькдопс. Ці не напісаў бы ты верш, прысвечаны яго памяці?

— А што, вядомы гэта пісьменнік? — пытаецца той у Анатоля Вольнага.

Анатоль змікіціў, дый кажа:

— Хіба ж ты не ведаеш? Кожны повар, кожная афіцыянтка ведаюць гэтае імя, а ты... Як не сорамна!

Не зразумеўшы жарту, паэт назаўтра прынёс у рэдакцыю верш, у якім былі наступныя радкі:

Колькі гора, здзекаў перанёс
Наш таварыш і друг Цвібелькклопс...

Міхась, прачытаўшы гэты верш, узяў на «цугундар» паэта;

— Я знарок выдумаў гэты жарт, — казаў Міхась, — каб праверыць, ці чытаеш ты што-небудзь з замежнай літаратуры. Ідзі, браток, дамоў, вазьмі кніжку ў рукі і чытай, вучыся, каб ніякі Цвібелькклопс над табою не смяяўся...

У сувязі з рэарганізацыяй «Маладняка» Міхась Чарот некаторы час належыць да літаратурнай арганізацыі «Полымя», але акадэмічная замкнутасць гэтай арганізацыі не задавальняе яго.

Пасля ўтварэння БелАПП Міхась Чарот і Андрэй Александровіч сталі нашымі сталымі сябрамі. Яны пачалі друкаваць свае творы ў часопісе «Маладняк», выязджалі разам з намі ў калгасы і на заводы, а праз некаторы час выйшлі з арганізацыі «Полымя» і ўступілі ў БелАПП.

У 1931 годзе Міхась Чарот узначальвае выданне першага ў Беларусі ілюстраванага часопіса «Чырвоная Беларусь». Часопіс карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод рабочых і калгаснікаў.

У красавіку 1932 года па камандзіроўцы ЦК КПБ мы разам з Міхасём Чаротам выехалі на падрыхтоўку да веснавой сяўбы ў калгасы Чырвонаслабодскага раёна.

Былі першыя вясновыя дні. Снег ужо растаў і з-пад зямлі пачала выбівацца дробная зеляніна. Са Слуцка мы ехалі падводаю, якую нам даў Слуцкі райвыканком. Па дарозе мы часта спыняліся на зялёных прагалінах і любаваліся прыгожымі малюнкамі вясновага прыйсця. Прыдарожныя абочыны скрозь укрыла шаўковая мурава, і наш гняды ў яблыкі жарэбчык «Васька» прагна прыпадаў зубамі да зямлі, каб адшчыпнуць хоць некалькі каліў маладой травіцы.

Міхась вельмі любіў коней. Ён падыходзіў да «Ваські» і частаваў хлебам, па-гаспадарску гладзячы рукою па крутой, чорнай, як смоль, грыве.

Неўзаметку мы выехалі на прасторны шлях. Здаецца, не мае значэння нейкіх трыццаць кіламетраў бліжэй на поўдзень. Але мы гэты кантраст адчулі адразу. У Чырвонаслабодскім раёне на палях ужо ішлі работы. Калгаснікі скародзілі па зябліву, а на пагорку працаваў ужо трактар.

На другі дзень Міхась разбудзіў мяне рана, яшчэ да ўзыходу сонца.

— Уставай, — казаў ён, — хутка зойдзе старшыня. Пойдзем разам на поле.

Сапраўды, старшыня не прымусіў сябе доўга чакаць, і мы, мінуўшы вясковыя хаты, па загуменню выйшлі на шырокі палетак. На пары сівых коней араў немалады высокі чалавек, падпяразаны пастронкам. Худыя канякі ледзь цягнулі плуг, а чалавек усё шырэй і шырэй запускаў яго ў баразну, пакідаючы за сабою частыя агрэхі. Міхась невясёлым позіркам акінуў гэтую работу і, калі на павароце параўняўся з аратым, запытаў:

— Чаму гэтак шырока берацё баразну? Гэтак коней паложыце і ворыва ваша будзе нічога не варта.

— Нормачка, таварыш, — адказаў араты.

— Дай мне плуг, — злосна сказаў Міхась, — пагляджі, як бяруць норму...



Пакуль Міхась хадзіў за плугам, мы закурылі. Старшыня дакараў чалавека, падпяразанага пастронкам, за дрэннае ворыва, а той усё апраўдваўся, раз-по-раз глыбока зацягваючыся махорачным дымам і часта цвыркаючы праз рэдкія зубы на свежы глянец зямлі:

Міхась, параўняўшыся з намі, спыніў коней і перадаў ручкі плуга калгасніку:

— Як хаця тваё прозвішча? — запытаўся Міхась у калгасніка.

— Верашчака, — адказаў той, смеючыся. — Можа такога прозвішча ніколі і не чулі?

— Прозвішча ў цябе смачнае. Але верашчакі ад такой работы не чакай.

На другі дзень мы ўжо сустракаліся са школьнікамі. Чырвонаслабодская школа стаяла на пагорку. Каля платоў густа былі пасаджаны слівы і вішні, якія ад цёплага надвор'я пазаклада́ліся на цвет. Мы прайшлі па калідоры ў настаўніцкі пакой, дзе пазнаёміліся з настаўнікамі і дырэктарам школы. Міхась Чарот карыстаўся вялікай папулярнасцю сярод настаўніцтва і вучняў. Пасля кароткага азнаямлення са школай мы прайшлі ў светлую прасторную залу, дзе нас чакалі вучні. Міхась чытаў ім свае вершы, кожнае слова, нібы адборнае зерне, кідаючы ў вясновую цёплую глебу:

Дзецям будучай камуны
Сонца ясны шле прамень,
Песню славы граюць струны,
Іх вітае новы дзень.

Хто тварэц жыцця людскога,
Волі, шчасця, пекнаты?
Хто к жыццю кладзе дарогу?
Ведай, моладзь, гэта ты...

У 1934—35 годзе Міхась Чарот працуе кансультантам літкабінета ў Саюзе пісьменнікаў.

У сакавіку 1936 года брыгада пісьменнікаў у складзе Міхася Чарота, Пятра Глебкі і мяне была накіравана ў Оршу, Горкі і Магілёў. Гэтая сумесная паездка з Міхасём Чаротам была апошняй і самай цікавай. Мы наведалі дзесяткі калгасаў, выступалі сярод рабочых, сустракаліся з вучонымі Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі. У той час не заўсёды ў раёне можна было атрымаць машыну для паездкі нават у самыя аддаленыя калгасы. І нам давялося пешкі ў веснавое разводдзе дабірацца да вёскі Леніна, дзе адбываўся калгасны сход. На гэтым сходзе выступаў Міхась Чарот. Ён чытаў свае новыя вершы, прысвечаныя калгаснаму будаўніцтву, а потым, натхнёны ветлівай гасціннасцю калгаснікаў, чытаў свае апавяданні і вершы аж за поўнач. Уночы, пад дажджом, мы дабіраліся назад у Горкі.

Праходзілі гады, але Міхась імкнуўся ісці ў нагу з падзеямі і жыццём. З гэтага магістральнага кірунку ён не сыходзіў ніколі.

На партыйным актыве ў Магілёве Міхась Чарот у сваім выступленні гаварыў:

— Не толькі свае кнігі, але калі я нават гартаю сваю душу, я заўсёды бачу перад сабою мудры мацярынскі вобраз Партыі, якая натхняе мяне, вучыць мудрасці мастацкага слова, дае мне сілы перамагаць цяжкасці і ісці ў нагу з маім народам. Назаўсёды ў маім сэрцы жыве і будзе жыць кіпучая нянавісць да ненавіснага мінулага і вялікая любоў да ўсяго новага, што будуем мы ў сваёй краіне...

Мы сядзелі ў прэзідыуме сходу, і нам перад партыйным актывам было радасна за шчырую і добрую душу нашага старэйшага сябра, за яго светлыя і прыгожыя мары.

Вера ПАЛТАРАН

# НАВЕЙШАЯ ГІСТОРЫЯ

### Замест уступу

Кожны добра ведае, што сабою ўяўляе навука гісторыя. Ва ўсіх нас гэта ўяўленне яшчэ са школьнай парты вядомае. Але вось калі б запыталі ў вас пра гісторыка, каго вы сустракалі ў яго асобе, то тут кожны разважаў бы пасвойму, па-рознаму. Адны сказалі б, што гэта сівы мудрэц, летапісец, разумнаму позірку якога паслухмяна раскрывае свае таямніцы далёкая даўнасць; другія пры слове «гісторык» успомнілі б доктара ці кандыдата навук, цудоўная разумная лекцыя якога ім запомнілася назаўсёды; а ў трэціх пры гэтым слове перад вачамі паўстаў бы вобраз любімага школьнага настаўніка — выкладчыка гісторыі, які ўпершыню раскрыў іх бесклапотнаму дзяцінству, прывыкшаму жыць толькі сённяшнім днём, вочы на тое, што ў жыцця ёсць і дзень учарашні.

Што ж, маюць рацыю і першыя, і другія, і трэція. Толькі аўтару гэтых радкоў пры слове «гісторык» успомніўся не славуты вучоны, адна спасылка на аўтарытэт якога робіць разумным кожнага лектара, не красамоўны кандыдат навук і не сціплы школьны настаўнік. Успомнілася жанчына ў паношаным, рудым ад дажджоў і сонца плашчы, у запыленых кірзавых ботах, у светлай хусцінцы, завязанай пад бараду, з-пад якое выбіваліся, прыхвачаныя першым прымаразкам чалавечае сталасці бялявыя валасы.

Яна сядзела за рулём калгаснае трохтонкі і, выбіраючы раўнейшую дарогу, круціла баранку руля. Шлях быў ёй добра знаёмы, і жанчына час-ад-часу выглядвала праз бакавое шкло, за якім відаць было, як, разагнаўшыся з усяе сілы, беглі насустрач машыне стагі залатое пад восеньскім сонцам саломы. Параўняўшыся з машынаю, яны, здавалася, паварочваліся перад ёю, выхваляючыся спрытам рук, якія іх так зграбна вывершылі, а потым спяшаліся адбегчыся далей.

Стагоў на полі было не рэдка. Можа ад гэтага позірк жанчыны пацяплеў, а на твары з'явіўся той асаблівы выраз, з якім чалавек глядзіць на кожную добра зробленую работу.

Потым нейкая заклапочанасць зноў сурова звяла бровы жанчыны, і рука яе, паслухмяная нейкай таемнай думцы, механічна пераключыла хуткасці.

І вось цяпер, калі машына імчыць, набіраючы разгон, хацелася б пазнаёміць чытачоў з жанчынаю, пра якую тут увесь час ішла гаворка. Гэта — Вольга Якаўлеўна Машканава, старшыня калгаса імя Жданава Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці. Больш пра яе пакуль што мы нічога сказаць не паспеем, бо ву-у-унь ужо відаць і Каменка, да якое кіруецца старшынёва персанальная трохтонка з поўным саставам членаў праўлення ў кузаве.

Без чвэрткі шэсць гадзін раніцы, а ў шэсць — пасяджэнне праўлення, якое сёння праводзіцца ў адной з лепшых брыгад калгаса — Каменцы. Вольга Якаўлеўна спяшаецца, і не будзем яе затрымліваць лішнімі роспытамі, бо яна не любіць спазняцца.

Машына заязджае на калгасны двор. Пасаскокваўшы з кузава, калгасны камсастаў на чале з Вольгай Якаўлеўнай кіруецца да драбінак, наладаваных пахучым сенам. Відаць, яны сёння саслужаць службу канцылярскага стала.

Не паспелі праўленцы рассесціся на возе ці ямчэй стаць ля яго, абапёршыся нагамі аб калодкі калёс, як з усіх канцоў калгаснага двара да іхняе грамады заспяшаліся даяркі, конюхі, цялятніцы, птушніца... Відаць, сённяшняе пасяджэнне праўлення будзе пашыраным.

Аб'яўляецца парадак дня. Ідзе самая дзелавая размова аб усіх гаспадарчых справах, аб тым, што зроблена і што ўпушчана, што трэба зрабіць сёння ж, а што пачакае і да заўтрага. Адным словам, як сказаў бы крытык, — пасяджэнне самае тыповае. Людзі гавораць і раяцца аб тым, аб чым і належыць гаварыць і раіцца клапатлівым, дбалым гаспадарам.

Вольга Якаўлеўна ўважліва сочыць за ходам размовы, і толькі часам, калі хто з брыгадзіраў дакладвае, што ў яго засталося яшчэ на дзень стагаваць саломы, яна коратка пытаецца:

— А як у каменцаў?

Каменскі брыгадзір з ноткаю добра прыхаванага задавальнення адказвае:

— Уся застагавана.

Гаворка заходзіць пра сартыроўку збожжа. Замокраўскі брыгадзір не ўправіўся яшчэ з гэтаю работаю.

— А ў вас, каменцы, як? — зноў гучыць кароткае пытанне Вольгі Якаўлеўны.

**Брыгадзір Іван Ксендзікаў, старшыня калгаса Вольга Якаўлеўна Машканава і аграном Анна Іванаўна Іванова правяраюць якасць уздыму зябліва.**



— Адсартыравана да каліўца. Зусім непрыкметна, быццам мімаходам, але вельмі настойліва і тактоўна, старшыня выстаўляе сёння наперад каменцаў. І нам патроху становіцца зразумела, што сённяшні выезд праўлення ў брыгаду мае свой далёкі стратэгічны прыцэл. Па-першае, аказана пашана лепшым працаўнікам калгаса. Тыя, хто працуе з усёю шчырасцю, ведаюць, як дорага цэніцца цёплае слова спагады, адабрэння. Па-другое, як ты там ні гавары, а калі пры табе хоць і злёгку, але ўвесь час пахвальваюць другога, то пахвала гэтая пачынае гучаць для цябе, як папрок, — няхай не яўны, а прыхаваны, але ўсё ж такі папрок.

Каб ён быў выказаны адкрыта, рэзка, то ты абавязкова шукаў бы сабе нейкага апраўдання, і са злосцю, калі б гэтае апраўданне не хутка знаходзілася. А так табе быццам нічога і не сказалі благога, а ты пачынаеш адчуваць, як заварушылася тваё самалюбства і як яно пачынае паціху шаптаць: «А ты што, уломак?» І ад таго, што ты сапраўды не ўломак, табе захочацца сёння ж, зараз жа, узяцца за работу і даказаць гэта. А так як зараз толькі палова сёмае гадзіны раніцы і да вечара яшчэ уга-а колькі, то тая салома можа быць застагавана куды хутчэй, чым ты думаў.

Вялікая сіла — разумнае чалавечае самалюбства, ды яшчэ і накіраванае ўмелаю рукою.

Была і трэцяя прычына, якая вымагала выезду членаў праўлення ў брыгаду. У старшынёвай папцы накапілася многа асабістых заяў ад калгаснікаў, разабрацца ў якіх лягчэй на месцы. Ды і без заяў тут жа, на ходу было вырашана многа з першага позірку дробных, нязначных, а ў сапраўднасці звычайных, будзённых спраў, без якіх ніколі не абыйдзешся.

— Калі вы куранят калгасных ад нас заберацё? Пагадаваліся ўжо, хутка несціся будуць, — кінуў нехта з жанчын пад агульнае адабрэнне.

— А ці можна гэта будзе нам на «спаса» выхадны ўзяць? Мы ў нядзелю працавалі, — данеслася з таго боку, дзе стаялі старэйшыя.

— А дзе ў нас той баяніст, што на нашы калгасныя грошы вывучыўся? Хоць бы паскакаць пад яго музыку, — заўважае дзядзька ў брызентавым плашчы з пугаю ў руцэ. І хоць нічога смешнага няма ў яго словах, але ўсе смяюцца з дзядзькавай зухаватасці, бо ведаюць, як наскачацца ён за дзень, ходзячы са сваім порсткім статкам цялят.

Тут жа, агульнымі сіламі, і вырашаецца кожнае паднятае пытанне: птушнік закончыць будаваць неадкладна, дапаможа ў гэтай справе камсамольскі нядзельнік. Наконт выхаднога на гэты раз зрабіць уступку, — не Спасу, канешне, ён выгуляўся за свой век, а людзям: няхай адпачнуць. Што ж датычыць музыкі, то ў сямы бліжэйшы час прысланы у Каменку не толькі баяніста, а ўсю калгасную самадзейнасць.

Ужо сем гадзін раніцы. Пара канчаць хоць і неабходныя, але ўсё ж такі размовы. Просіць рук і недасартыраванае збожжа, і незастагаваная салома, і недакрыты птушнік, і яшчэ безліч работы, якая заўсёды знойдзецца ў вялікай гаспадарцы.

У ахвоту сігналіць машына, склікаючы сваіх пасажыраў, вуркоча заведзены матор, і мы кратаемся з месца. Наш узбуджаны шафёр — Вольга Якаўлеўна забывае пераключыць хуткасці каля ямiны, і адны з нас мераюць галавою вышыню і мацунак кабіны, а другія робяць у кузаве такі адмысловы падскок, што любы спартсмен пазайздросціў бы.

Ад гэтага промаху Вольга Якаўлеўна адразу прагане ўсе свае пабочныя думкі і становіцца толькі шафёрам. Малыя жаночыя рукі ўчэпіста трымаюць руль, вочы шукаюць раўнейшай, лепшай дарогі. Здаецца, жанчына гэтая век свой і не ведала іншае работы, як круціць шафёрскую баранку, аб'язджаючы лужы на стралкоўскіх, каменскіх і замокраўскіх дарогах...

Ды не. Пра тое, што на свеце ёсць Стралкі — Вялікія і Малыя, Каменка ды яшчэ і Замокраўе, Вольга Якаўлеўна даведалася толькі тры гады таму назад.

І вось як гэта было...



## Калі ідзеш угору

Цяпер хіба толькі ў добрым сне прысніцца Вользе Якаўлеўне аўдыторыі Гомельскага педагагічнага інстытута і кафедра, за якою яна, старшы навуковы супрацоўнік, адкрывала дапытліваму юнацтву сакрэты даўно мінуўшых часоў.

Яна любіла свой прадмет. Гісторыя здавалася ёй тою адзінаю навукай, вывучэнню якой не шкода прысвяціць усё жыццё.

Але не суджана было Вользе Якаўлеўне здзейсніць гэтае прысвячэнне. Цудоўная, самая навейшая з усіх гісторый рабілася ў яе на вачах, і партыя паклікала сваю дачку — камуніста Вольгу Якаўлеўну Машканаву — стаць не летапісцам, не сведкаю, а стваральнікам гэтае гісторыі.

А паколькі яна, гісторыя гэтая, ствараецца ў любым кутку нашае краіны, то ці не ўсёроўна было Вользе Якаўлеўне, дзе прыкласці свае сілы? Калгас імя Жданава? Няхай сабе будзе калгас імя Жданава. Самы адстаючы ў раёне?.. Ну што ж, паспрабуем выцягнуць...

27 ліпеня 1955 года на імя агульнага сходу калгаснікаў сельскагаспадарчай арцелі імя Жданава ад Машканавай Вольгі Якаўлеўны паступіла заява з просьбаю прыняць яе ў члены арцелі. На гэтым жа сходзе яе выбралі старшынёю калгаса, дзесятым па ліку за пасляваенны час, вызваліўшы ад работы Кісялёва — дзевятага.

Новы старшыня прыняў ад свайго папярэдніка справы: пячатку, пустую калгасную касу з 375 тысячамі доўгу і позвамі ў суд за няўплату даўгоў, кароўнікі з дзіравымі стрэхамі, пустыя бочкі, у якіх не было ні грама каламазі, каб падмазаць калёсы, і славу самага адстаючага калгаса ў раёне.



**Бухгалтар калгаса Марыя Снігірова праводзіць разлік з калгаснікамі.**

Атрымаўшы ўсю гэтую спадчыну, Вольга Якаўлеўна моцна задумалася. Самае непрыемнае было ў тым, што ўсе яе папярэднікі прывучылі людзей раўнадушна адносіцца да свае «славы» адстаючых.

На работу не вельмі хто спяшаўся. Першы гудок суседняга торфазавода будзіў людзей, і яны спакваля пачыналі паліць у печах, парадкаваць што каля хат. Потым гадзін у 9 снедалі, а к 10-ці, калі ўжо сонца не тое што ўгрэе, а добра прыпячэ, былі на полі.

У 12 гадзін гудзеў заводскі гудок — на абед. Садзіліся абедаць рабочыя, якія ўжо добра напрацаваліся да гэтага часу. Садзіліся і жданаўцы, якія папрацавалі ўсяго гадзіны са дзве. «А што ж, людзі будуць абедаць, а мы што...» — апраўдваліся яны перад самімі сабою...

Але самую большую, нават нейкую магічную сілу меў апошні гудок — у 5 гадзін. Пачатая работа кідалася, — не воўк, мауляў, у лес не ўцячэ, — і браўся кірунак да свае хаты.

На першым жа праўленні калга-

са Вольга Якаўлеўна з крыўдаю і смуткам гаварыла:

— Не мне вам расказваць, які бедны сёння наш калгас. Але скажыце ж вы мне, на літасць боскую, адкуль жа яно будзе, тое багацце, пры такой рабоце?

І новаму старшыні, і новаму складу праўлення было зразумела, што пакуль не будзе наведзена працоўная дысцыпліна, справу з месца не зрушыш.

І яшчэ адзін вораг паўстаў перад кіраўнікамі калгаса ва ўсёй сваёй небяспецы — гэта страшэнная безгаспадарчасць. Нехта нават пусціў па раёне пагалоску, што жданаўцы разам з жытам сеюць і плугі. Паўрастаюць тыя плугі ў зямлю, пазарастаюць жытам, і нельга на такое поле пусціць ні жнярку, ні камбайн. Якая ў гэтай пагалосцы доля праўды і якая — выдумкі, сказаць цяжка. Але што гэта не суцэльная выдумка, за гэтае смела можна паручыцца, бо яшчэ і сёння, калі і калгас імя Жданава ўжо зусім не той, што быў тры гады таму назад, і ў жданаўцаў нібы павырасталі крыллі, яшчэ і сёння, добра пашукаўшы, знойдзеш сярод жданаўскага поля плуг, пасеяны, праўда, не па жыту, а па кукурузе...

Убачыўшы гэты плуг, Вольга Якаўлеўна доўга стаяла ля яго і моўчкі з дакорам ківала галавою. А потым, як чалавек, які прывык не толькі рабіць вывады, але і вынішчаць усякае зло, яна рашуча сказала:

— Нічога. Усё ж такі прывучым.

Цяпер ёй легка сказаць. прывучым — у яе цэлая армія памочнікаў, разумных дарадчыкаў і гарачых энтузіястаў кожнае добрае справы. У калгасе працуе 19 камуністаў, больш за 60 камсамольцаў. З такою сілаю можна падымаць гаспадарку.

А было ж... Прышла Вольга Якаўлеўна брацца на партыйны ўлік, а ў калгаснай партыйнай арганізацыі — усяго чатыры чалавекі. «Нас павінна быць намнога больш. Толькі тады нам будзе пад сілу тая нялёгкая справа, за якую мы бярэмся», — падумала Вольга Якаўлеўна і пачала прыглядацца да людзей, да іхняе працы. І чым больш прыглядалася, тым больш святлела ў яе на душы. Нямала цудоўных людзей, вартых высокага гонару звацца камуністамі, працавала ў калгасе: даярка Марыя Міхеева, галоўны бухгалтар калгаса Марыя Снігірова, калгасніца Аня Куцакова, брыгадзіры, рахункаводы, — ды ўсіх і не пералічыш.

І як толькі стала большаю сям'я камуністаў, Вольга Якаўлеўна адразу адчула палёгку. Партыйная арганізацыя разам з праўленнем калгаса стала тым аператыўным штабам, у якім выпрацоўвалася і стратэгія і тактыка далейшага руху гаспадаркі ўперад.

Пачалося наступленне на безгаспадарчасць, на гультаёў і абібокаў, якія падрывалі працоўную дысцыпліну, на нядбайнікаў, якія не берaглі грамадскі набытак. На першым часе гэта было не лёгка. Многія калгаснікі прывыклі да таго, што ўсё можна спісаць: паламаў ты, напрыклад, без дай прычыны калёсы — спісаць, па тваёй віне згніла на сцелішчы капа лёну — спісаць, авёс у стаўках папрарастаў — спісаць... І на каго ж гэта спісвалася? А спісвалася гэта з нядбайніка на сумленнага працаўніка, які з-за кожнае гаспадарчае страты недаатрымоўваў аплату за сваю працу.

Падумалі, падумалі члены праўлення, што тут рабіць, і парашылі: спісваць то яго трэба, толькі неабходна змяніць прынцып гэтага спісвання — няхай яно ідзе за кошт вінаватага. Праўленне прыняло такую пастанову, а калі справа дайшла да агульнага сходу, то тут атрымаўся канфуз.

— Хто за тое, каб законна вылічыць з вінаватага кошт страты, нанесенай калгасу? — ставіць пастанову на галасаванне Вольга Якаўлеўна.

Маўчанне. Людзі адводзяць позірк убок. Рэдка дзе нясмела падымаецца ўгору рука...

— А хто за тое, каб незаконна спісаць?..



І лічыць не трэба, — большасць. Вось яна, граніца свядомасці... Як трэба яе, гэтую свядомасць, цягнуць угору, як неабходна расшыраць яе межы!.. Тут і тлумачэнне разумнае будзе дарэчы, і прыклад добры...

І калгасныя камуністы браліся за работу.

Прайшоў год. У кантору перасталі прыходзіць судовыя позвы: калгас разлічыўся з даўгамі.

Падсумаваць вынікі гаспадарчага года сабраўся справаздачна-выбарчы сход. Вольга Якаўлеўна чакала гэтага сходу. Яна добра ведала, што зроблена і што недароблена па гаспадарцы. А вось якімі сталі людзі за гэты год? Што ў іх на душы? ... Закончаны справаздачны даклад.

— У каго будуць пытанні?

І тут пачалося... З нястрымнаю, задаўненаю злосцю нехта першы кінуў:

— Чаму Машканава не касіла, а сена атрымоўвае на працадні, як і мы?...

— Няхай старшыня скажа, колькі разоў яна брала нас загрудкі?..

— ... колькі хлясцікаў паабрывала...

— Ціха, хворыя загаварылі, — перабіў злосны тлум нейкі насмешлівы голас.

— Гэта тыя хворыя, што на работу не ходзяць.

— Такі хворы накосіць сабе вязку, што я здаровы не панясу...

— Ранген трэба на гэтакіх хворых!..

Вольга Якаўлеўна глядзела на ўзбуджаных, усхваляваных людзей. Сярод іх ёсць сумленныя працаўнікі, якія кроўна зацікаўлены ў тым, каб іх калгас рос і развіваўся. Такіх — большасць, да іх трэба прыслухоўвацца, на іх абапірацца. А вось тыя крыкуны — праціўнікі, нават ворагі вялікае агульнае справы. Гэта рвачы, гультаі, заграбалы. Нават стагуючы салому, такі даўгарукі хапуга абавязкова пакіне на кожнага стога бярэмкаў тры, — каб ямчэй было ўзяць, калі сцямнее. Са стога пакуль наскубеш!

Такіх — невялікая група. І з імі трэба бязлітасна змагацца.

Але галоўнае, што абрадавала Вольгу Якаўлеўну, было тое, што ў людзей знікла раўнадушша. А гэта яна лічыла найвялікшым дасягненнем.

Ва ўсякай справе самае цяжкае — зрушыць яе з месца. Калі ж яна, як кажуць, «пайшла», то тут ужо толькі не губляй разгону.

Так было і ў жданаўцаў. 1957 год прынёс ім значна большы плён, чым 1956-ты. Атрымаўшы свой рубель і кілаграм трыста грамаў збожжа на працадзень, бульбу, сена і нават патроху пшаніцы, яны ўпершыню за апошнія гады адчулі, што калгас іх падняўся ўгору. І пра гэты ўздым сведчылі не так той кілаграм з рублём, як агульны стан грамадскай гаспадаркі. Былі пабудаваны новыя памяшканні для жывёлы, гумно; пабольшала кароў, свіней і коней на фермах; павялічыліся плошчы сеяных траў, лубіну, канюшыны.

А ў гэтым, 1958 годзе справы ў жданаўцаў пайшлі яшчэ лепш. Іх калгас шукаюць ужо не шматлікія крэдытторы, а «купцы». Гэтаю прыпозненаю вясною да іх прыязджалі пагандляваць і купіць вазоў колькі сянца далёкія і блізкія суседзі.

Калгас пабудаваў сваю электрастанцыю. У першай брыгадзе — у Вялікіх Стралках — цэлымі днямі вішчыць, уядаючыся ў дрэва, піла-цыркулярка. Каля піларамы, выцягнуўшыся ва ўвесь рост, ляжаць забітыя яшчэ ў час вайны, з асколкамі каля сэрцавіны сосны. Цяпер іх завуць — асколачны лес. Як доўга нават прырода не можа загаіць раны тройчы клятае вайны!..

Насупраць піларамы другі спажывец энергіі калгаснай электрастанцыі — млын. Каля яго стаяць вазы, вышэй драбін наладаваныя мяшкамі збожжа або мукі. Да жданаўцаў прыязджаюць малоць калгаснікі з суседніх калгасаў. І часта, калі бывае завозна, можна бачыць, як хто-небудзь са жданаўцаў, змалоўшы сабе толькі на

хлеб, пераступае сваю чаргу суседу: па-першае, гэтага вымагае гаспадарская гасцiннасць, а па-другое, няхай людзi ездзяць часцей, лiшняя капейка ў калгаснай касе не пашкодзiць.

А калi яшчэ трохi прайсцi ад млына ўправа, то можна ўбачыць ладны, па апошняму слову тэхнiкi збудаваны свiран. Ён зроблены з разлiкам на вялiкае багацце. Вiдаць, жданаўцы паверылi ў свае сiлы. Што ж, у добры час!

У калгасе наогул многа новых будынкаў. Адны з iх ужо закончаны, у другiх толькi сцены ўзведзены. Але калi сказаць шчыра, то не вельмi лёгка яны будуюцца. Часта справа ўпiраецца то ў цвiкi, то ў цэмент, то яшчэ ў што. Старшынi калгаса прыходзiцца ледзь не на каленi станавiцца, каб выпрасiць у раёне колькi рулонаў толю цi скрынку цвiкоў. Калi старшыня гэты — жанчына, то ў яе самы пераканаўчы довад — слёзы. Стаiць яна перад якiм-небудзь раённым начальствам i слязамi аблiваецца. Тут ужо трэба мець каменнае сэрца, каб не даць якiх рулонаў 15 толю. У такiх выпадках старшыня адразу весялее, выцiрае слёзы... Ды не насуха, бо зноў жа трэба iсцi прасiць цвiкоў цi там цэменту.

А задаволiць патрэбу калгаса гэтымi, з такой цяжкасцю здабытымi матэрыяламi — гэта ўсёроўна, што старацца адным сантыметрам тканiны залапiць добра праседжаныя штаны.

Адным словам, калгасы пакуль што ў вялiкай крыўдзе на нашу прамысловасць будаўнiчых матэрыялаў i на свае нядобрым словам памянутыя райспажыўсаюзы.

Працадзень у жданаўцаў у гэтым годзе толькi трошкi перавысiў мiнулагоднi. Але калi па аднаму гэтаму паказчыку меркаваць аб стане гаспадаркi калгаса, то можна вельмi памылiцца. Справа ў тым, што ў адным гэтым годзе на пашырэнне i развiццё грамадскай гаспадаркi пакладзена столькi сродкаў, колькi не ўкладвалася за тры апошнiя гады разам.

Калгас электрыфiкуецца. Узбоч каменскiх, стралкоўскiх i замокраўскiх дарог павыстройвалiся ў роўныя шарэнгi новенькiя слупы. А на iх — аж па два манцёры. Жданаўцы спяшалiся да свята Вялiкага Кастрычнiка запалiць у калгасе электрычнае святло. 370 тысяч рублёў каштуе калгасу электрыфiкацыя.

А тэхнiка!.. I яе жданаўцы прыдбалi сёлета на 300 тысяч. У iх ужо ёсць свой машынны парк: 4 камбайны, 4 трактары, 6 грузавых аўтамашын. Старшыня жданаўскi пакуль што таксама ездзiць на персанальным грузавiку i лiчыць, што гэта нават лепш i карысней, чым на «Пабедзе»: едзеш, скажам, у Рагачоў на нараду, дык за адным разам насыплеш i завязеш на базу поўны кузаў гуркоў, збожжа або паставiш у iм з паўдзесятка падгадаваных за лета, сытых бычкоў...

А што тая «Пабеда»!..

I яшчэ адну вялiкую справу зрабiлi ў гэтым годзе ў калгасе iмя Жданава: уздоўж усiх калгасных вулiц i дарог насаджаны маладыя лiпкi, рабiны, ясенi, клёны.

Мабыць нi ў чым так не праяўляецца клопат чалавека аб сваiх будучых нашчадках, як у гэтым iмкненнi саджаць сады i прысады, сеяць i гадаваць лясы. Некалi нашы дзяды i прадзеды, саджаючы кожнае дрэўца, гаварылi: «Не нам, дык унукам нашым спатрэбiцца...» Вялiкае чалавечае жаданне — каб унукам было лягчэй — спрадвеку кiравала чалавецтвам. I мы хочам пакiнуць сваiм унукам спадчыну, вартую добрай памяцi.

Але не толькi гэта прымушае чалавека думаць пра сваю будучыню... Няшчодраю меркаю адмерала прырода чалавечы век. I можа, помсцячы ёй за гэта, чалавек сам сабе прыбаўляе веку, iмкнучыся застацца жыць на гэтай цудоўнай зямлi ў кожнай добрай справе. Ну, а якая ж справа можа быць лепшай, чым упрыгожваць зямлю!

... У нястомных, бясконцых клопатах праходзяць днi жданаўскiх калгаснiкаў. I кожны з мiнуўшых дзён прыносiць iм свой плён.



Вольга Якаўлеўна, вярнуўшыся з раёна, абрадуе iх, што калгас iмя Жданава не ўпамiнаўся на нарадзе ў лiку адстаючых. Прыемна людзям слухаць гэта... I не толькi не ўпамiнаўся — жданаўцы сёлета аднымi з першых у раёне разлiчылiся з дзяржавай па продажу збожжавых. Гэта яшчэ прыемней... Iм бы толькi мацней ухапiцца за гэтае адно з першых месц...



У калгаснай бiблiятэцы.

### Паплечнiкi

Сёння — «спас», але моладзi няма нiякай справы да таго «спаса». Няхай старыя па даўняй прывычцы вядуць з iм свае гешэфты, а хлопцы з дзяўчатамi, пабраўшы лапаты, накiравалiся на нядзельнiк. Трэба накапаць глiны i абмазаць птушкаферму, бо як нахопяцца халады — памерзнуць куры. I нiякi «спас» не дапаможа...

Выбраўшы месца, куды зручней будзе пад'язджаць канём, хлопцы пачалi скiдаць пiнжакi. Трэба было б адразу i разуцца, але як ты асмелiшся, калi i дзяўчаты тут! У босага кавалера выгляд не той...

Мiша Жордачкiн бярэ лапату i важка ступае на яе. Вялiкi, тоўсты кавалак мокрае глiны, цяжкае, як камень, здаецца, сам ляцiць на воз, а Мiша толькi праводзiць яго лапатаю.

Мiша Жордачкiн — госць сярод сваiх сяброў. Ён паступiў у Гомельскi педiнстытут, сумленна папрацаваўшы ў сваiм калгасе. Хлопец мог бы ўжо i не выходзiць на работу, а рыхтавацца да ад'езду. Але, вiдаць, натура ў яго не такая. Здаецца, ён хоча напрацавацца на цэлы год уперад. Можна сабе ўявiць, як будзе вучыць сваiх выхаванцаў цанiць i паважаць працу гэты будучы педагог.

Побач з Мiшам спрытна махае лапатаю Анатоль Сапрыка. Толя — шафёр, але сёння ён не пагрэбаваў гэтаю яўна немеханiзаванаю працаю. Ды i нiякай працай у калгасе ён не грэбаваў, пакуль не навучыўся шафёрскай справе. А цяпер Толя — добры шафёр i марыць вывучыцца на механiка. I вывучыцца, бо, па-першае, дзесяцiгодка ў хлопца за плячыма, а па-другое, практыка грунтоўная ёсць i настойлiвасцi хапае.

— Хлопчыкi, пакiньце ж вы хоць трошкi нам з Iванам... Хадзем, Iванка, пакажам iм, як трэба працаваць, — i Каця Кiрэенка, абапёршыся на лапату, спрытна скочыла ў яму. За ёю, сарамлiва ўсмiхаючыся, падаўся да ямы Iван Крыжэўскi — высокi, шыракаплечы бялявы здаравяк. Побач з iм невысокая, тоненькая Каця здаецца маленькай дзяўчынкаю.

— Давай з табой, Iванка, заўсёды трымацца адно аднаго: ты мяне глядзi, а я на цябе вокам кiдаць буду...

Iван бянтэжыцца ад Кацiных жартаў, чырванее. Але па яго цiхай усмешцы можна здагадацца, што яму прыемна працаваць побач з гэтай вясялухаю. Ён мацней налягае на лапату. I раптам — трэсь! Не вытрымала лапата Iванавай сiлы.

— На маю, Iванка, — сунула Каця ў рукi разгубленаму Iвану сваю лапату i ўзялася ў бокi. —

Бачыш, якая я: для цябе апошняга не пашкадую...

Хлопцы смяюцца з Каціных жартаў і трошкі дзівяцца. Бач, якая яна вясёлая, гэтая дзяўчына! А прыдзеш у кантору, дзе яна працуе рахункаводам, дык, здаецца, сур'ёзнейшага за яе чалавека на свеце няма. Што ж, можа яно там так і трэба: прафесія ў чалавека сур'ёзная, дык і выгляд трэба мець адпаведны. А тут Каця з жартамі ды смешкамі такія груды гліны адкалупвае і так спрытна кідае іх на воз, што дзіву даешся — адкуль у яе столькі сілы! Хлопцы паглядваюць на яе расчырванелы твар, на бліскучыя вочы і, мусіць, думаюць: «Харошая наша Каця!»

Тым часам Мікалай Саўчыц адвозіць ужо каторы воз гліны. Ямка, з якое яе капаюць, у раўчуку. І каб выкіраваць каня з цяжкім возам з гэтага раўчука, трэба не толькі сіла, але і спрыт. І Мікалай, наваліўшыся дужым, загарэлым плячом на драбіну, вельмі спрытна, нават неяк прыгожа выскоквае з возам на ўзгорак.

Мікалай Саўчыц — важак жданаўскіх камсамольцаў. Моладзь паважае гэтага зусім яшчэ маладога хлопца за яго выключную працавітасць. Мікалай працуе ў брыгадзе і не цураецца ніякай работы — яна яму ўсякая па плячы.

Пра жданаўскую моладзь можна сказаць вельмі шмат добрага. І не менш добрых слоў трэба будзе сказаць пра Вольгу Якаўлеўну, якая моцна пасябравала са сваімі маладымі паплечнікамі. Яна для іх — і патрабавальны гаспадар, які дзеля дружбы не паступіцца справаю, і шчыры таварыш, з якім заўсёды можна падзяліцца сваімі думкамі. І з чым бы хто да яе ні прышоў, Вольга Якаўлеўна дрэннага не параіць.

Гады чатыры таму назад закончыла сярэднюю школу Марыя Ключнікава. З ёю, як і з многімі юнакамі і дзяўчатамі, здарылася «прыкрая» гісторыя: яна не паступіла ў інстытут. З гэтым сваім вялікім горам прышла Марыя да Вольгі Якаўлеўны. Тая шчыра пагаварыла з дзяўчынаю, і ў Марыі адлегла на душы. Неўзабаве яна працавала ўжо даяркаю на ферме. І не абы-як, а з усёю душою. Працавала і рыхтавалася паступіць ва ўніверсітэт — мара стаць настаўніцай не давала дзяўчыне спакою. І яна дабілася свайго.

Цяпер студэнтка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Марыя Ключнікава, якой Вольга Якаўлеўна прывіла любоў да працы, да свайго калгаса, часта сумуе вясновымі днямі. «... Надвор'е стаіць цудоўнае. Напішыце, ці вышлі ўжо ў поле трактары», — піша яна Вользе Якаўлеўне.

Вось вернецца ў калгас такая настаўніца, дык яна ж будзе глядзець не толькі свае школы. У яе моцна прысталі да сэрца ўсе калгасныя справы, і яна, чалавек вучоны, прынясе тут вялікую карысць.

Піша Вользе Якаўлеўне і студэнтка Гомельскага педінстытута Тоня Куцакова. Пісала і дзяўчынка з курсаў баяністаў Волька Саўчанка. З гэтаю дзяўчынкаю было вось як. Яшчэ ў дзяцінстве палюбіла Волечка музыку. Пагоніць, бывала, гусей на выган пасвіць і цэлы дзень «іграе» на якой-небудзь старой дранцы, перабіраючы пальцамі неіснуючыя лады. Не бяда, што ў такога інструменту голасу няма, — а язык навошта!

Потым дзяўчынка неяк даведалася, што ў іх суседа ёсць гармонік. Колькі яна папапрасіла, каб ёй далі хоць патрымаць яго. А калі ўзяла ў рукі, то як тут уцерпець, каб да яго бліскучых ладоў не дакрануцца!..

Зусім запаланілі Волечку тыя пявучыя лады... Колькі яна таму суседу град перапалола, колькі работы перарабіла! А каб ён быў яшчэ дабрэйшым, дык, бывала, і яечак употай ад маці занясе... І тады ўжо іграе, колькі яе душа хоча.

Неяк дачулася пра гэтую дзяўчынку Вольга Якаўлеўна. У калгасе якраз не было баяніста. А што ж за гулянне ў моладзі без свайго баяна! Параілася Вольга Якаўлеўна з праўленнем, і вырашылі паслаць Вольку Саўчанка на курсы баяністаў пры Гомельскім музычным вучылішчы. Закончыла дзяўчына тыя курсы паспяхова. Выкладчыкі нават раілі ёй паступаць у музычнае вучылішча. Але Вольга адчувала, што яе абавязак — вярнуцца ў свой калгас, які яе вывучыў.

Цяпер жданаўская моладзь часта сустракае світанне з Вольчыным баянам.

Мабыць вялікі вопыт педагагічнай работы дапамагае Вользе Якаўлеўне лёгка разумець моладзь, заўважаць усё добрае, што ёсць у кожнага з маладых яе сяброў, і падтрымліваць, развіваць гэтае добрае. Яна верыць моладзі, і моладзь умее цаніць яе гэтую веру.

Тры гады таму назад, калі Вольга Якаўлеўна толькі прышла да жданаўцаў, у калгасе была вельмі запушчаная ўліковая работа. Галоўным бухгалтарам тады працаваў чалавек, які любіў пагрэць рукі ў грамадскай кішэні.

Складзе, бывала, пячнік печ на кармакухні, умуруе ў яе кацёл... І колькі б вы думалі абыходзілася тая печ калгасу? — 1700 рублёў! І разлік быў просты: печніку за работу — 300 рублёў, за тое, каб падпісаўся пад фіктыўным рахункам — 400 рублёў (відаць, сюды ўваходзіла і цана сумлення гэтага чалавека). А астатняя тысяча рублёў не трэба і пытацца, каму. Яна даставалася, канешне, таму, хто змацоўваў гэтае махлярства сваім подпісам...

Калі потым усё гэта праверылася, дык стала зразумела, што такога бухгалтара і блізка нельга падпускаць да грамадскае касы.

Памочнікам бухгалтара тады працавала Марыя Снігірова — маладзенькая дзяўчынка, якая толькі што скончыла дзесяцігодку і сельскагаспадарчую школу. Прыглядзелася Вольга Якаўлеўна да гэтае дзяўчынкі — сумленная, гаспадарлівая, сур'ёзная, працавітая. Чым не галоўны бухгалтар!

І сёння многія могуць пазайздросціць парадку, які навяла ва ўсіх грашовых справах галоўны бухгалтар калгаса Марыя Снігірова. І не бяда, што гэты галоўны фінансавы бог з выгляду вельмі яшчэ падобны на дзесяцікласніцу — гэтак жа лёгка чырванее ад кожнага жарту і гатова ўстаць перад кожным старэйшым. Але ўсе добра ведаюць, якімі суровымі могуць быць яе сінія, як летняе бязвоблачнае неба, вочы, як строга сціскаюцца яе пунсовыя, крышачку прыпухлыя дзявочыя вусны. Тады ніхто не скажа, што ў жданаўцаў не суровы бухгалтар!

Калгасная кантора ў жданаўцаў — гэта наогул нейкае светлае дзявочае царства. Тут усе — ад галоўнага бухгалтара да ўчотчыка — маладыя дзяўчаты. Вользе Якаўлеўне хоць графік складай, калі каторую замуж аддаваць, бо як выскачаць усе разам, адразу апусцее калгасная кантора.

Мужчыны ў кантору заходзяць толькі па справе. А сядзець, курыць, пляваць сабе пад ногі і бавіць час, расказваючы ўсякія небыліцы, тут ніхто не асмельваецца: дзяўчаты вельмі строгія. Хто хоча пагаманіць, папрастарэкаваць, клуб побач. Толькі і там заўзятым курцам і аматарам салёнага слоўца не дасць спакою камсамольскі патруль: моладзь аб'явіла паход за культуру.

У гэтым паходзе яе ўсяляк падтрымліваюць калгасныя камуністы. І не на словах, а на справе, сваім уласным добрым прыкладам. Трэці год у калгасе працуе брыгадзірам Іван Спірыдонавіч Ксендзікаў. Варта паслухаць, як Іван Спірыдонавіч прабірае часам якога не вельмі ахвочага да работы чалавека — няхай сабе і свайго брата, брыгадзіра. Ад яго не пачуеш непрыстойнай, грубай лаянкі, але вострае слоўца, дасціпны жарт, на якія Іван Спірыдонавіч вялікі аматар, дзейнічаюць куды мацней, чым усякая лаянка. І той, каго ён хоць раз падняў на смех, будзе ў далейшым моцна асцерагацца, каб не папасціся яму на язык.

Спакойны, ураўнаважаны, гарачы ў рабоце і дасціпны на слова, камуніст Іван Спірыдонавіч Ксендзікаў з'яўляецца добрым прыкладам для ўсёй жданаўскай моладзі.

Вытрымцы, тактычным паводзінам і дзелавітасці можна павучыцца і ў калгаснага парторга Васіля Сямёнавіча Снігірова. Ды і наогул, калі сказаць шчыра, дык у калгасе імя Жданава няма недахопу ў добрым прыкладзе. Яго паказвае ў рабоце і працавіты, як тая пчала, калгасны аграном Анна Іванаўна, і нястомны, усюды ўпраўны дзед Бульбачка, і многія-многія другія.

Аграном Анна Іванаўна Іванова — спецыяліст па травах. І ў тым, што цяпер ждан аўцы не бядуюць, чым карміць жывёлу, ды яшчэ і людзям прадаюць сена, — гэта заслуга яе, Анны Іванаўны. Чалавек гэты — проста нястомны. Дзе толькі не паспее яна пабыць за дзень на сваім веласіпедзе: і на стралкоўскіх, і на замокраўскіх палях, і каля свае насеннае цімафееўкі, і каля густога, як сцяна, лубіну, і на палетку даспяваючай пшаніцы. Глядзіш на яе і міжволі думаеш: гэтая ж жанчынка можа згубіцца сярод залатога мора пшаніцы, бо і сама яна, светлавалосая і нейкая ўся залатая ад сонца, падобна на спелы пшанічны колас...

Ну, а калі шукаць адпаведнага параўнання для дзеда Бульбачкі, то можна сказаць, што ён падобны на невысокае каржакаватае дрэва дзе-небудзь у полі, якое і перуны білі, і ліўні секлі, і сонца паліла, а яно сабе стаіць, учапіўшыся карэннямі за матухну-зямлю, і жыццю радуецца.

Раман Фёдаравіч Бульбачка жыве на свеце восьмы дзесятак гадоў і шмат зведаў на сваім вяку. Ён яшчэ ведае смак парабкоўскага хлеба і панскіх бізуноў, ён яшчэ памятае 1905 год. Тады бамбардыр-наводчык Раман Бульбачка служыў у крэпаснай артылерыі Свеабаргскай крэпасці. У крэпасці ўспыхнула паўстанне, і бамбардыр-наводчык без ваганняў стаў на бок паўстанцаў. Цэлыя суткі без адпачынку страляў ён па ненавісных царскіх прыслужніках, якія былі прысланы для падаўлення паўстання.

А потым — царскія казематы і арыштанцкія роты, дзе Раман Фёдаравіч нацярпеўся такое пакуты, якая нават у самым страшным сне не прысніцца.

Пасля чатырох гадоў арыштанцкіх рот Раман Бульбачка вярнуўся дадому. А дома яго чакала таксама не салодкае жыццё. Бацька жыў бедна. Пайсці на заработкі — дык не ўсякі крывасмок і возьме, — ты для яго «рыштант»!

А колькі здзекаў прыйшлося выцярпець ад урадніка Быкава! Дапясуць яму, бывала, што Раман Бульбачка ўсяк гаворыць на цара ды яшчэ і вучыць вясковых хлопцаў спяваць рэвалюцыйныя песні, дык ён пакліча да сябе таго Бульбачку, прыставіць яму да грудзей рэвольвер і здзекуецца:

— Во-ось я цябе зараз застрэлю, а потым пайду і тры рублі атрымаю за тое, што бунтаўшчыка забіў...

Але можа таму, што ў таго ўрадніка яшчэ вяліся траячкі, зарobленыя такім спосабам, Раман Бульбачка застаўся жывы.

Не давялося дзеду Бульбачку ў семнаццатым годзе ваяваць за савецкую ўладу на франтах. Арыштанцкія роты так яму не мінуліся: ён моцна недабачваў. Затое ў сябе, у вёсцы, гэта быў самы гарачы прыхільнік савецкай улады. Ён працаваў у сельскім савеце, арганізоўваў калгас, наладжваў яго гаспадарку. Пасля вайны быў старшынёю калгаса, і дзедаў «Араты» лічыўся адным з лепшых калгасаў у раёне.

Калі калгасы пачалі аб'ядноўвацца, дзедавых ведаў для кіраўніцтва вялікай гаспадаркай было ўжо малавата. Прыйшлі другія старшыні — вучоныя, з шырэйшым кругам ведаў, з шырэйшым размахам, і дзед Бульбачка саступіў ім месца. Саступіў без крыўды, без злосці, як чалавек, які добра зразумеў, што гэта робіцца для карысці справы.

Цяпер, пакуль яшчэ сіла ёсць, дзед Бульбачка не цураецца ніякае работы. Ён і сам не згуляе, і другім не дасць. Асабліва на непарадкі ў дзеда вока пільнае. Дастаецца ад яго на калгасных сходах гультаям і розным урвіцелям. І не баіцца ён, што за яго справядлівае слова часам адказваюць шыбы ў вокнах яго хаты.

І яшчэ дзед Бульбачка — вельмі добры агітатар. Што дзе на свеце робіцца — ён усё будзе ведаць, бо «Праўду» прачытвае ад першае да апошняй старонкі. І як толькі некаторыя пудкія бабкі, учуўшы краем вуха пра падзеі ў Ліване ці на Тайване, паімкнуцца ў магазін па соль, дзед Бульбачка іх адразу супакоіць:

— Не бойцеся, бабкі, вайны не будзе. Наш Хрушчоў угаворыць гэтых порсткіх...





Ганна Куцакова на ўборцы бульбы.

### Канцэрт у Каменцы

Раз праўленне парашыла, то так таму і быць: трэба ехаць у Каменку з канцэртам.

Адразу забегалі шустрыя хлапчукі, склікаючы да канторы калгасных артыстаў. А ў тых зборы нядоўгія: пінжак на плечы — і за парог. Ля канторы ўжо стаіць грузавік і аж дрыжыць ад нецярпення хутчэй рушыць у дарогу.

Дарога недалёкая — усяго якіх шэсць кіламетраў. Паехалі. Не трэба, каб там людзі доўга чакалі...

Не паспела ў артыстаў як след разгарэцца творчае хваляванне, а ўжо вось яна, Каменка. Малая гэта вёсачка, але, як кажуць, удалая. Каменцы заўсёды раней за другія брыгады паробяць усю работу ды яшчэ і Замокраўю памогуць.

Уздоўж зарослае муравою вуліцы па абодва яе бакі выстраіліся 29 хат. І ўсе да адной будаваліся пасля вайны.

Калісьці гэтую вёсачку звалі Каменка-дзіравая. За савецкі час каменцы і іх суседзі забылі пра гэтую жабрацкую назву. Але пачалася вайна, і фашысты дашчэнту спалілі партызанскую Каменку. І каменцаў тады загінула нямала, бо фашысцкія салдаты перад тым, як падпаліць вёску, пазачынялі ў хатах усіх, хто быў дома.

Недзе сярод сённяшніх слухачоў канцэрта сядзіць шчаслівы хлапчук, якому аднаму ўдалося выратавацца з агню ў той жахлівы дзень.

Калі фашысты наляцелі на вёску, маці гэтага хлапчука, схапіўшы дзяцей, якія былі ў хаце, паспела выскачыць на агарод і схавацца ў кустах. Самы ж меншы, відаць, спаў, зашыўшыся недзе ў куток, і маці яго з перапалоху не заўважыла. Калі хата ўжо добра ўгарэлася, малы прачнуўся ад дыму і нeяк выпаўз на двор. Маці з кустоў бачыла, як ён пералез парог і, спалоханы полымем, затуліў ручкамі твар і заплакаў. Яна паімкнулася падняцца і бегчы да яго, але скамянелыя ад страху дзіцячыя рукі не пускалі яе. Яна зразумела, што як толькі яна кінецца да малога, гэтыя дзеці, што былі пры ёй, наробяць крыку і пабягуць услед за ёю. І тады заб'юць усіх...

Стрымліваючы плач, яна пачала ціхенька клікаць малога, як заўсёды кліча маці дзіця, хочучы ўзяць яго на рукі:

— Сыно-о-очак, родненькі, хадзі ж сюды!

Пачуўшы голас маці, малы насцярожыўся і пачаў аглядацца: дзе яна?..

— Хадзі ж сюды, маё дзіцятка... хадзі... — не перастаючы, клікаў яго матчын голас. І малы пайшоў на гэты голас. Так і застаўся жывы...

На пустое папялішча вярнуліся пасля вайны тыя з каменцаў, каго абмінула смерць. Нехта з іх знайшоў сярод руін калок, зачасаў яго і напісаў на свежай зачэсіне тры запаветныя словы: «Тут будзе Каменка». І ўваткнуў калок у зямлю.

Кругом таго калка і пачала будавацца новая Каменка.

Даўно тое было, бо на каменскіх вуліцах павырасталі ўжо вялікія вербы, а за хатамі гупаюць аб дол налітымі яблыкамі рослыя кучаравыя яблыні... Даўно тое было, бо па Каменцы з канца ў канец носіцца, ледзь датыкаючыся загарэлымі нагамі да муравы, цэлая армія дзетвары. Працавітыя каменцы і ў гэтай галіне папаўняюць страты: у кожнай хаце гадуецца не менш як па пяць дзяцей.

Ад дзіцячага ўзбуджанага гоману ва ўсіх сёння — святочны настрой. Насупраць двух грузавікоў, якія шчыльна сталі адзін да аднаго адкінутымі заднімі бартамі, стварыўшы прасторную сцэну, ставяцца проста пасярод вуліцы лаўкі, услоны, зэдлікі. З двароў паважна выходзяць жанчыны і мужчыны, выбягаюць, засопшыся, дзеці: хаця б без іх не пачалося...

Высокім, чыстым голасам азваўся Вольчын баян і павёў нейкую задумёную мелодыю.

— Ой, пачакайце, не пачынайце, — парушыў цішыню ўсхваляваны жаночы голас. — Дзядзька Яўстрат яшчэ цялят не прыгнаў... Ён жа так хацеў паслухаць!..

Што ж, калі трэба, то артысты і пачакаюць... Яны — народ не горды.

Цясней садзяцца на ўслонах і лаўках тыя, хто прыпазніўся. На самым ніжнім ярусе — на зямлі, падкурчыўшы пад сябе ногі, прымасціліся дзеці.

Адмысловы дэкаратар — жнівеньскі вечар пастараўся, каб у сённяшніх артыстаў і гледачоў быў самы найлепшы настрой. Ён ахутаў вуліцу таямнічым сінявацым змрокам, павесіў проста над «сцэнаю» поўны, светлы месяц і запаліў у небе буйныя жнівеньскія зоры.

Можна пачынаць! Тым больш, што і дзядзька Яўстрат вунь ужо сядзіць на лаўцы.

Зноў падаў свой голас баян, і над прыціхлаю вуліцаю шырока і вольна паплыла песня. Хораша спявае жданаўскі хор; асабліва вылучаюцца ў ім галасы замокраўскіх дзяўчат. Салісты тут таксама ёсць добрыя: як заспявае пад баян калгасны бухгалтар Марыя Снігірова, дык, здаецца, слухаў бы яе і слухаў...

І водзіць песня людзей па нялёгкіх ваенных дарогах, выклікаючы смутак і балючыя ўспаміны; ляціць за ёю сэрцы ў далёкі край навасёлаў — Казахстан; будзіць яна ў людзей самыя светлыя, самыя чыстыя пачуцці.

Спевакоў змяняюць музыкі, музыкаў — дэкламатары. Па-маладому звонка гучыць голас Вольгі Якаўлеўны — яна дэкламуе вершы. І тут яе прыклад спатрэбіўся!..

Ужо гадзіна ночы. Канцэрт закончаны. Хлопцы шэпчуцца з дзяўчатамі — ім хочацца яшчэ патанцаваць. А старэйшыя паціху ўстаюць са сваіх месц і накіроўваюцца дахаты, несучы ў грудзях растрывожаную, заслоненую штодзённымі клопатамі радасць. Да многіх з іх у гэты вечар прыйшла на кароткае спатканне далёкая маладосць.

Можа за гэтае адчуванне людзі сталага веку больш за ўсё і любяць канцэрты маладзёжнай мастацкай самадзейнасці.

Калі глядзіш на гэтую ціхую людскую радасць, міжволі думаеш: не, не малая гэта справа — мастацкая самадзейнасць у вёсцы. Цераз яе людзі знаёмяцца з новаю песняю, танцам, з новым мастацкім творам, адным словам — далучаюцца да культуры. А сённяшняй калгаснай вёсцы здабыткі нашае сацыялістычнае культуры патрэбны гэтак жа, як хлеб надзённы.



Ну, а што датычыць жданаўскай моладзі, то надзённы хлеб ужо і не з'яўляецца для яе меркаю крайняе неабходнасці: яна гатова не еўшы сесці на сваю калгасную трохтонку і ехаць аж у Гомель, каб паглядзець спектакль або паслухаць добры канцэрт. Дарогу туды паказала ёй Вольга Якаўлеўна, купіўшы аднойчы 30 білетаў для сваіх лепшых маладых калгаснікаў. З тае пары жданаўцы трымаюцца гэтае добрае завядзёнкі.

У нашай рэспубліцы — многа калгасаў-мільянераў. Але нямала ёсць яшчэ і такіх, якія, напружваючы ўсе сілы, крок за крокам падымаюцца да гэтае вяршыні. А хто падымаўся ўгору, той добра ведае, якімі нялёгкімі бываюць апошнія некалькі крокаў да яе вяршыні.

Жданаўцы сёння робяць гэтыя крокі.

# *Па партызанскіх сцежках*

**Рыгор РАЗІНСКІ**

# БАРАЦЬБІТЫ

Зірніце на гэты фотаздымак. На вас глядзяць два звычайныя беларускія хлопцы — Цімафей Барадзін і Іван Шылаў. Іх выхавала школа, камсамол. Перад самай вайной абодва яны ўступілі ў слаўную Камуністычную партыю.

Цімафей Барадзін працаваў на Гомельскай фабрыцы «Палесдрук». Іван Шылаў служыў у радах Савецкай Арміі старшым лейтэнантам, вучыўся на трэцім курсе Маскоўскай ваеннай акадэміі імя Фрунзе.

А калі пачалася вайна, абодва яны накіраваліся ў тыл ворага весці падпольную барацьбу. Фашысты схапілі іх, катавалі, здзекаваліся, але яны не выдалі таварышаў, не выдалі свой партызанскі атрад.

Толькі адна вестачка дайшла да нас ад Цімафея Барадзіна з фашысцкага засценку — акрываўленая хустка, на якой ён напісаў сваё перадсмяротнае пісьмо. Вось яно:

«Родныя! У апошні раз пішу Вам. Відаць, мой такі лёс, каб памерці ад кулі..

Маці, бацька, Валя, Тоня, Ніна, Жэня, Валодзя, Аркадзій, Саша, калі я быў да каго несправядлівы — прабачце мне.

Дарагія, беражыце сябе, не крыўдзіце адзін другога.

Тата, беражыце Тоню (далей напісана «яна ж...» і закрэслена. Цімафей намякаў на яе сувязь з партызанамі. — **Раз.)** і Сашу.

Прывітанне ў перадсмяротны час усім родным і знаёмым.

Барадзін Цімафей Сцяп.

20.III.42 г.»

**Апошні ліст на волю Цімафея Барадзіна.**


Родные
В последний час пишу Вам
Видно моя такая судьба
умереть от пули.



А збоку на хустачцы быў напісан адрас, дзе жыла ў Гомелі сям'я Барадзіных.

... І вось я ў доме Барадзіных. Мяне сустракае акружаная ўнукамі бабулька. Гэта маці Цімафея Барадзіна — Марыя Аляксандраўна. Пры ўпамінанні імя сына яе блакітныя вочы робяцца сумнымі. Бабулька дастае з буфета акуратна складзеныя дакументы, фотаздымкі, свае ўласныя ўзнагароды: медаль «Партызану Айчыннай вайны» і ордэн «Мацярынская слава III ступені» і кладзе ўсё на стол.

— Загінуў ён тут, у Гомелі. Партызанам быў, — гаворыць старая маці і асцярожна разгортвае вялікую мужчынскую насавую хустачку з выцвіўшымі слядамі крыві. — Пісьмо гэтае ён перад самай смерцю напісаў...

Вочы маці напоўніліся слязамі. Прыціхлі ўнукі. Устанавілася доўгае маўчанне. Мне хацелася распытаць маці аб усім, што сталася з яе сынам, але я баяўся разверадзіць яе старыя раны.

Яна загаварыла сама.

— Адважны ён быў у нас, нават фашыстаў не баяўся.. Спачатку пайшоў да партызан, а потым вярнуўся ў горад з заданнем...

Восень, 1941 год. Гомель ужо стагнаў пад ботамі акупантаў. З навакольных вёсак вярталіся не паспеўшыя выехаць жыхары горада. Але савецкія людзі не скарыліся. Па горадзе адна за другой панесліся весткі: на вуліцы Песіна забілі нямецкага афіцэра, па Пралетарскай нечыя ўмелыя рукі расклеілі лістоўкі, у Піянерскім скверы ўзляцеў у паветра нафтасклад...

Даходзілі гэтыя весткі і да дома Барадзіных. Непаседлівая, энергічная Тоня пасля таго, як сям'я вярнулася з лесу, даведалася пра ўсё: і дзе знаходзіцца камендатура эсэсаўцаў, і на якой вуліцы адкрылі фашысты шпіталь, і многае іншае. Усё гэта рабіла яна па заданню брата Цімы. А тое, што ён сказаў, для яе — закон.

... З сумным поглядам глядзіць Тоня ў акно і думае пра Ціму. У сям'і ён самы вучоны, хоць яму ўсяго 22 гады. Добра, што паспеў завочна закончыць інстытут. Эх, каб не вайна!.. Ціма ж працаваў ужо начальнікам цэха на фабрыцы «Палесдрук». Дзе ён цяпер?..



**Цімафей Барадзін.**

І раптам яна бачыць: Цімафей стаіць у дзвярах. Высокі, стройны.

— Ціма, — кінулася да яго Тоня. — Як добра, што ты прышоў. Пабягу маме скажу, яна ў гародчыку...

— Тоня, — затрымаў Цімафей сястру. — Ніхто не павінен ведаць...

Тоня кіўнула галавою.

— А гэта мой таварыш, — паказаў брат на прысеўшага на кухні юнака. Цімафей растлумачыў Тоні, што гэта яго вучань з «Палесдруку» Лёва Шулькін. Але зараз яго трэба зваць Салаўёў. — Зразумела?

— Разумею, — бліснула шэрымі вачамі Тоня і пабегла па маці.

... Два дні Цімафей і Лёва нічога не рабілі. Так па крайняй меры здавалася Тоні. То адзін пойдзе ў горад, то другі. Вечарам трэ-

цяга дня Цімафей і Лёва доўга шапталіся. Нарэшце Цімафей паклікаў Тоню. Услед за ёю была памкнулася і малодшая сястра Ліда, але брат строга сказаў:

— А табе чаго? Сядзі на кухні...

Яны расказалі Тоні аб плане дзеяння. Трэба ўзарваць элеватар. Заданне нялёгкае. Тоня павінна ім дапамагчы...

У шэсць гадзін раніцы з дому Барадзіных выйшлі Цімафей і Лёва, следам, метрах у дзесяці — Тоня. Яна несла кошык, у якім ляжалі міны. Але не паспелі яны мінуць некалькі дамоў, як іх спыніў нямецкі афіцэр: «Хто такія! Куды ідзеце?»

Тоня не разгубілася: яна хутка павярнула, збочыла ў двор. Міны былі схаваны ў надзейным месцы.

Цімафея і Лёву арыштавалі. На допыце здраднік, які сачыў за імі, даказаў, што гэтыя двое — партызаны, што яны ўдзельнічалі ва ўзрыве двух нямецкіх эшалонаў, што прозвішча Лёвы не Салаўёў, а Шулькін: ён яўрэй...

... Цудам удалося выратавацца Цімафею з лап эсэсаўцаў. Нямецкі афіцэр сказаў яго маці:

— Прынясеш, старая, пятнаццаць подпісаў, што сын твой не партызан — адпусцім.

Маці цэлы дзень бегала па знаёмых. Дапамагала таксама старэйшая дачка Валя. Подпісы далі нават незнаёмыя савецкія людзі. Цімафея выпусцілі са строгім загадам: за два дні ўладкавацца на работу.

А Шулькіна фашысты расстралялі.

Дома Цімафей не знаходзіў сабе месца. Ён хацеў адразу пайсці ў лес, да сваіх. Але зрабіць гэтага не мог. Заданне было заставацца ў горадзе.

— Гады, вылюдкі, — аж скрыгатаў ён зубамі ад злосці. — Вы яшчэ адкажаце за смерць сябра.

— І мы іх будзем біць, — рашуча сказалі сёстры Антаніна і Ліда, падыходзячы да брата. — Вядзі нас, Ціма, да партызан.



**Леў Шулькін, расстраляны ў 1941 годзе.**

— Заб'ем дом і пададзімся ў лес, — падтрымала дачок маці.

— Не, дарагія, гэтага рабіць нельга, — сказаў Цімафей. Ён уважліва паглядзеў на сясцёр і дадаў: — Але заданне вам дам... Трэба пайсці працаваць ў нямецкі шпіталь. Медыкаменты спатрэбяцца...

— Зразумела, — адказалі ў адзін голас Тоня і Ліда.

Цімафей праз дзень працаваў ужо майстрам у адкрытай немцамі друкарні. З друкарні патаемнымі, нябачнымі шляхамі пацяклі лістоўкі і адозвы супраць ненавіснага ворага.

Камуніст Барадзін праз сувязных, сярод якіх была і сястра Тоня, падтрымліваў пастаянную сувязь з партызанскім атрадам «Бальшавік». Адтуль ён атрымліваў заданні, зброю, узрыўчатку.

Часта прыходзілася хадзіць у Нова-Беліцу сястры Барадзіна Антаніне, якая перадавала розныя даручэнні брата сувязным. Насіла яна туды і надрукаваныя лістоўкі і бланкі нямецкіх пашпартоў, медыкаменты, раздабытыя ў шпіталі,



вопратку... Ціма і сам хадзіў на сувязь. Да вечара працуе ў друкарні, а прыдзе дамоў, павячэрае і на ноч — у лес...

У канцы 1941 і ў пачатку 1942 года Барадзіну з дапамогай групы падпольшчыкаў, у якую ўваходзіў старшы лейтэнант Савецкай Арміі Іван Шылаў, удалося зрабіць у Гомелі некалькі смелых дыверсій.

У адну ноч Цімафей не вярнуўся дадому. Маці да раніцы чакала сына. Яна думала пра сваіх дзяцей. Вось Ніна і Жэня, зусім падлеткі, а і яны змагаюцца з ворагам — раскідваюць па дварах, расклейваюць па платах лістоўкі. А Тоня дык да чаго дадумалася: калі ёй у бальніцу, дзе яна працавала, прынясуць карміць маленькага Сашу, яна ўсяго яго абкруціць бінтамі. А дома Сашу распаўюць — і вось табе чыстыя бінты для партызан.

Калі пачаліся халады, уся сям'я збірала для партызан цёплую вопратку. Насілі ім соль, хлеб...

Але больш за ўсіх рызыкаваў сваім жыццём Ціма. Вось і зараз хутка світанне, а яго няма. А раптам яго зноў немцы схапілі? «Не, не», — маці адагнала гэтую трывожную думку, якая не давала спакою.

Так, не заплюшчыўшы вачэй, яна сустрэла світанне. А раніцай Ціма прыйшоў узбуджаны, радасны.

— Мама, — спяшаючыся, сказаў ён, — давай хутчэй есці. На работу трэба ісці.

— А дзе ж ты быў, сынок? — запытала з лёгкім папрокам Марыя Аляксандраўна.

— Дзе быў, там няма, — засмяяўся Цімафей, падсеў бліжэй да маці, абняў за плечы і шэптам сказаў: — Мы цэлую групу немцаў знішчылі. Разумееш, узарвалі іх у рэстаране. П'янствавалі, гады... Ні адзін не выскачыў.

Другі раз ён расказаў дома аб тым, як была ўзарвана майстэрня па рамонту танкаў. Яе немцы арганізавалі на адным з заводаў Гомеля. Цэлы тыдзень рыхтаваліся падпольшчыкі да гэтай аперацыі. Партызаны дапамагалі ім, даставілі ў горад тол, міны. Разам са старшым лейтэнантам Іванам Шылавым Барадзін бліскуча правёў дыверсію. Са строю былі выведзены ўсе станкі і мантажнае абсталяванне.

Дом Барадзіных паступова стаў своеасаблівым цэнтрам непакорнай фашыстам моладзі і перадатачным пунктам паміж партызанамі і падпольшчыкамі. Ішлі сюды людзі і проста каб раздзяліць з душэўнай сям'ёй свае гора, каб набрацца бадзёрасці і стойкасці. У такіх умовах Цімафею, вядома, цяжка было працаваць. Па вечарах яму трэба было ўключаць радыёпрыёмнік, умела замаскаваны ў нежылой палавіне дома, і слухаць зводкі Савінформбюро. У Марыі Аляксандраўны з дзецьмі быў распрацаваны свой умоўны сігнал: калі аканіцы зачынены, — значыць у доме свае людзі, калі адчынены — захоўвай асцярожнасць.

— У доме ў нас, — успамінае Антаніна Сцяпанаўна, — часта спыняліся невядомыя людзі. Сустракаючыся з Цімафеем, яны пе-

**Іван Шылаў.**



радавалі пакункі з узрыўчаткай, боепрыпасы. Многіх з іх прыходзілася карміць, пераапранаць. Яны былі галодныя, абадраныя. Мне было вельмі шкада іх, і я часта плакала. «Чаго ты плачаш?» — запытаў мяне аднойчы Ціма. Ён заўсёды быў бадзёры, энергічны, быццам зусім не было на свеце фашыстаў і вайны. А я яшчэ больш расплакалася. «Ну, вось, а я думаў, ты храбрая», — сказаў ён і тут жа расказаў, што мінулай ноччу нашы дзяўчаты запрасілі немцаў на вечарынку. «Прыйшлі двое, і ведаеш, дзе яны зараз? У партызанскім атрадзе. Два новыя языкі... Вось гэта храбрыя дзяўчаты... А ты не плач, мы яшчэ да Берліна дойдзем! Вось паглядзіш».

... З Ванем Шылавым Цімафей пазнаёміўся на кватэры ў Валянціны Мядзведзевай. Гаспадар дома Трыфан Міхайлавіч і яго дачка Валя прымалі актыўны ўдзел у дзейнасці падпольшчыкаў. Яны здабывалі звесткі аб праходжанні воінскіх эшалонаў, раскідвалі па дварах адозвы і лістоўкі, хавалі зброю і ўзрыўчатку. Але галоўная іх задача заключалася ў тым, каб берагчы гэтую явачную кватэру, дзе Барадзін і Шылаў сустракаліся, абмяркоўвалі свае планы. Як толькі ў доме Мядзведзевых паяўляўся Цімафей або Ваня, Валя брала сваю маленькую дачку і ішла на вуліцу. Яна павінна была ахоўваць падпольшчыкаў, быць увесь час на варце.

... Пасля адной такой сустрэчы Валя Мядзведзева даведалася ад Барадзіна, што на вуліцы Ауэрбаха ноччу быў забіты гітлераўскі афіцэр. Эсэсаўцы збіліся з ног у пошуках таго, хто падняў руку на афіцэра.

Праз некалькі дзён у Гомелі ў адкрытым немцамі афіцэрскім рэстаране паявіўся капітан Фрыдрых Гонке. Ён вяртаўся на фронт з Мюнхена, з кароткатэрміновага адпачынку. Высокі, светлавалосы, з вострым позіркам шэрых вачэй, ён адразу спадабаўся ўсім афіцэрам. Уважлівы чалавек мог бы заўважыць, што Фрыдрых Гонке не быў у такім прыўзнятым настроі, як усе афіцэры. Але ён жа франтавік...

На кватэру, дзе ён спыніўся, капітан Гонке вяртаўся пешшу. Ён дзякаваў падвыпіўшым афіцэрам, якія прапаноўвалі падвезці яго ў лакіраваным «Опелі», і адзін ішоў дадому. Усе здзіўляліся яго храбрасці, таму што хадзіў Гонке самымі цёмнымі вуліцамі. І яшчэ ўважлівае вока магло б заўважыць, што быў гэты афіцэр зусім цвярозы.

Куды заходзіў кожны раз франтавік-артылерыст, ніхто не мог сказаць, але дакладна вядома, што праз гадзіну — дзве па гародах да аднаго з дамоў у канцы вуліцы Бочкіна прабіраўся высокі хлапец, вельмі падобны на Фрыдрыха Гонке. Ён ціха стукаў у сенечныя дзверы. На пытанне свайго дзядзькі Сяргея Ільіча Шылава: «Хто там?», адказваў:

— Гэта я, Ваня...

... Іван Шылаў перад вайной закончыў аб'яднаную ваенную школу імя Калініна. Ён выдатна вучыўся, і пры выпуску на новенькіх пятліцах яго гімнасцёркі паявіліся два кубікі. Так ён стаў лейтэнантам. І раптам вайна, фронт...

— Вярнуўся ён дадому ў родныя Бабовічы, калі вырваўся з акружэння, у вельмі цяжкім настроі, — успамінае маці Вані Шылава Тацяна Фядосаўна. — Але праз некалькі дзён пасля таго, як пабываў у занятым немцамі Гомелі, падбадзёрыўся... Аднойчы Ваня сказаў мне, што будзе працаваць у Гомелі. Узяў свой веласіпед і паехаў у горад.

Іван Шылаў пасяліўся ў свайго дзядзькі Сяргея Ільіча. А праз некаторы час з яго дапамогай пляменнік уладкаваўся працаваць да немцаў на электрастанцыі. Тады ж ён пазнаёміўся і з маладым камуністам-падпольшчыкам Цімафеем Барадзіным.

— Гэтае знаёмства яшчэ больш падбадзёрыла Ваню Шылава. Ён зразумеў, што ён не адзін, — расказвае Валянціна Мядзведзева. — Я ўспамінаю іх першыя сустрэчы. Спачатку яны як бы правяралі адзін другога. Але потым пасябравалі, гутаркі іх і сустрэчы сталі частымі, і было відаць, што яны паважаюць адзін другога. Потым яны пачалі прыносіць да нас узрыўчатку, міны, гранаты, зброю. Усё гэта яны хавалі ў нашым хляве... Аднойчы ноччу Ваня Шылаў прыйшоў да нас у форме нямецкага афіцэра. Прыйшоў і вельмі ўсіх нас напалохаў. Ён добра ведаў нямецкую мову.



Здольнасць дзейнічаць у ролі нямецкага афіцэра Шылаў адкрыў у сабе выпадкова. Гэта здарылася ў Бабовічах. Пасля начной змены на электрастанцыі ён рашыў правесці выхадны дзень у бацькоў, падбадзёрыць іх, расказаць аб падзеях на фронце, аб чым ён чуў па радыё.

... Шылаў пастукаў у родны дом, калі ўжо развіднела. Маці адчыніла дзверы і радасна абняла сына.

— Вось, мама, вазьмі, — перадаў сын Тацяне Фядосаўне скрутак, — мыла па спіску атрымаў... Спатрэбіцца ў гаспадарцы.

— Можа паснедаеш? — запытала маці.

— Не, спаць вельмі хачу, — стомлена адказаў сын.

Праз некалькі мінут ён з задавальненнем расцягнуўся на чыстай пасцелі. Але спаць доўга не давялося. Яго разбудзіў тупат ботаў. Шылаў здагадаўся — немцы. Нічога не знайшоўшы ў доме, яны пацягнулі з печы толькі што прынесенае мыла.

— Што ж вы робіце? — плакала маці. — Гэта ж сын зарабіў...

Салдат груба адпіхнуў Тацяну Фядосаўну.

— Хальт! Вас люс?! — крыкнуў Ваня і ўскочыў з пасцелі ў адной бялізне.

Пачуўшы бездакорную нямецкую мову, салдаты разгубіліся, а потым выцягнуліся і сталі па стойцы «смірна».

— Аддайце жанчыне мыла! — загадаў Шылаў па-нямецку.

— Слухаемся, пан афіцэр! — прашаптаў адзін салдат.

— Нахабнікі, вам усё мала! — выкрыкнуў Шылаў. — Прэч адсюль!

Салдаты ўзялі пад казырок і хутка выйшлі з дому. А Тацяна Фядосаўна стаяла памярцвелая, чакаючы пакарання за гэты сынаў учынак.

Але Ваня гучна засмяяўся і сказаў:

— Ну, буду ўмывацца... Дай, мама, есці.

...Знятая з забітага на вуліцы нямецкага афіцэра вопратка дапамагла Івану Шылаву дэталёва разведаць размяшчэнне нямецкага рэстарана і яго распарадак. І вось у адну з цёмных восеньскіх начэй 1941 года, калі п'яныя фашысцкія афіцэры падымалі тосты за перамогу і крычалі: «Хайль Гітлер!», — раздаўся аглушальны выбух. Падпалены з усіх бакоў, рэстаран стаў магілай захопнікаў.

Затым — услед за гэтым — выбух на нафтаскладзе, падпал нямецкіх складаў з амуніцыяй, узрыў эшалона з танкамі...

Аб кожнай аперацыі, выкананай падпольшчыкамі, адразу даведвалася насельніцтва горада. Гэта прыдавала савецкім людзям новыя сілы ў барацьбе з ворагам.

Летам 1942 года з партызанскага атрада «Бальшавік», з якім былі звязаны Барадзін і Шылаў, паступіла заданне: узарваць электрастанцыю. Пасля выканання гэтага загаду асноўным кіраўнікам падполля трэба было ісці да партызан.

Але ажыццявіць свой план Барадзіну і Шылаву не ўдалося. У іх арганізацыю пранік здраднік. Калі ў адзін з майскіх дзён яны прыйшлі на канспіратыўную кватэру, іх там чакалі фашысты.

— Больш месяца іх катавалі, — расказвае маці Цімафея Барадзіна, — хацелі ўсё даведацца, хто ім дапамагаў і як яны трымалі сувязь з партызанамі. Але нашы нічога не сказалі...

Маці выцірае хусткай няпрошаную слязу і прадаўжае:

— Чула сэрца, што не вярнуцца ўжо майму Ціме. Хадзіла кожны дзень да іх турмы. Пазнаё-

мілася там з бабулькай-прыбіральшчыцай. Перадала яна яму перадачу. На другі дзень сустрэла яе, пытаю: «Катуюць там майго Ціму?» Нічога не сказала, толькі заплакала бабулька. А аднойчы раніцай ужо вельмі сэрца ў мяне забілася. Схапіла я малога Сашку, Тонінага сына, і пабегла да турмы. Перадала мне бабулька скрутак. Гляджу — Ціміна хустачка. Іду дадому, а слёзы так і плывуць у мяне з вачэй. У гэты ж дзень вывезлі іх на машыне за горад і расстралялі. Толькі паспеў, саколік, вестачку апошнюю на хустачцы напісаць...

Сям'і Шылавых таксама ўдалося ўстанавіць сувязь з сынам, калі ён сядзеў у турме. Аднойчы цёця Моця — старая жанчына, якая працавала ў нямецкай турме прыбіральшчыцай, тайна вынесла родзічам Шылава запіску ад Вані. Ён пісаў: «Дзядзька, мне прызначылі 150 нагаек. Жудасна білі. Але я вытрымаў і нічога не сказаў...» У другі раз ён пісаў: «Дарагія мае бацькі і браты! Ведайце, што я паміраю, любячы вас, мае дарагія бацькі, сваю жонку і дачку, любячы сваю Радзіму. Калі знойдзецца мая сям'я, то няхай гэтае пісьмо напомніць ёй аб апошніх днях майго жыцця. Уцалеў на фронце, але не ўцалеў дома. Але гэта няхай не засмучае маю сям'ю!!! Сёння было першае следства, а ў панядзелак 11.5 будзе другое, дзе будуць біць і катаваць... На гэтым заканчваю сёння. Будзе магчымасць, напішу яшчэ. А пакуль да пабачэння, цалую вас, ваш Ваня».

Адважны падпольшчык не выдаў сям'ю Шылавых, не расказаў фашыстам аб тым, што ў іх захоўваецца радыёпрыёмнік. Шылаў і Барадзін стойка трымаліся да апошняй мінуты. 20 чэрвеня 1942 года іх разам з вялікай групай падпольшчыкаў фашысты расстралялі.

Зараз дакументы аб падпольнай дзейнасці маладых камуністаў Цімафея Барадзіна і Івана Шылава перададзены ў абласны краязнаўчы музей. Тут жа захоўваецца і акрываўленая хустачка і пашарпанае пісьмо — апошнія вестачкі адважных падпольшчыкаў з фашысцкага засценку.

Памяць аб Цімафею Барадзіну і Івану Шылаву, якія аддалі сваё жыццё за свабоду нашай Радзімы, будзе вечна жыць у сэрцах савецкіх людзей.


9 мая 1942 г.
[illegible]

Ліст Івана Шылава на волю.

Мікола ШАМРЫЛА,
былы партызан брыгады імя Балотнікава

# ПАЛЕСКАЯ БЫЛЬ

Прыгадалася мне адна прымаўка: «Кропля — гэта нішто. Яе лёгка можа развеяць вецер, высушыць сонца. Але калі яна ўпала ў мора — яна ўжо мора».

Прыгадалася яна, гэтая прымаўка, таму, што от так, па кроплі, рос і шырыўся партызанскі рух у нас, на Палессі, з першых дзён Айчыннай вайны.

У кароткіх успамінах пра тыя часы мне хочацца расказаць пра некаторыя эпізоды з дзейнасці палескіх партызан. Я перадаю тое, што было, без выдумкі і прыкрас, так, як яно захавалася ў маёй памяці.

## 1

Вайна пачалася раптоўна.

Перад партыйнай арганізацыяй Петрыкаўшчыны паўстала неадкладная задача: стварыць на тэрыторыі раёна народнае апалчэнне. І яно было створана. У яго ўвайшлі камуністы і камсамольцы раёна. Месцам збору сталі запрыпяцкія лясы і балоты.

Пачалася спешная і ўзмоцненая падрыхтоўка прадуктовых і ваенных баз. Усё гэта рабілася начамі, невялікай групкай надзейных людзей.

Агульная колькасць апалчэнцаў перавышала дзве сотні. Спачатку гэта быў адзін атрад, а пазней, калі гітлераўцы захапілі Жыткавічы, яго раздзялілі на дзве групы — Петрыкаўскую і Капцэвіцкую.

У жніўні фашысты былі ўжо ў Петрыкаве. Па рашэнню райкома партыі ў горадзе засталася падпольная група пад кіраўніцтвам Фамы Васільевіча Кляўцова. У яе склад уваходзілі Адольф Уладышанскі, Мікалай Каржаноўскі, Ліда Чарнобылец, яе брат Васіль, Юрка Бажок, Сцяпан Грабіненка, Іван Сцебуноў, Андрэй Шляга — усяго чатырнаццаць чалавек, пераважна камсамольцы, якія не былі прызваны ў Чырвоную Армію.

Спачатку гэтая група не мела ніякай сувязі з партызанамі. Але калі да яе дайшлі чуткі пра партызан Ціхана Бумажкова, паўстала пытанне аб сувязі з імі. Усе падпольшчыкі ведалі Ціхана Піманавіча як былога старшыню Петрыкаўскага райвыканкома, як свайго пасланца ў Вярхоўны Савет БССР. І яны маглі даверыцца яму ва ўсім.

Нарада была кароткай. Кляўцоў агледзеў прысутных і ціха сказаў:

— Да Бумажкова патрэбен пасланец. Гэта цяжкая справа. З горада яшчэ можна выйсці, але далей — чыгунка, якая моцна ахоўваецца. Па лясных дарогах трэба прайсці больш пяцідзесяці кіламетраў. Для гэтага адных сутак будзе мала. Таму мы павінны паслаць чалавека, які нідзе не працуе і пра якога не ведае паліцыя.

Ён яшчэ раз акінуў позіркам сяброў, чакаючы іх прапаноў. Хацеў, каб хто сам выказаў жаданне пайсці ў далёкі і цяжкі, але патрэбны шлях.

— Дазвольце мне, — неяк нясмела

прагаварыў Васіль Чарнобылец. У яго вачах Кляўцоў убачыў шчырасць і камсамольскую чысціню. І паверыў Васілю.

Апоўначы Кляўцоў правёў Васіля за горад і на развітанне моўчкі моцна паціснуў руку.

Толькі на восьмыя суткі вярнуўся Васіль у Петрыкаў. Бумажкоў перадаў гарачае прывітанне петрыкаўцам і пажадаў ім поспехаў у барацьбе з ворагам. А яшчэ праз колькі часу Кляўцоў сустрэўся з прадстаўніком падпольнага абкома партыі Скалабанам Іванам Васільевічам.

Павесялелі, ажылі падпольшчыкі, адчулі, што яны не адзінокія.

Надышла першая ваенная зіма, марозная і снежная. Здавалася, неба правалілася над гэтым краем і хоча засыпаць, пахаваць у гурбах снегу тых, хто прышоў сюды няпрошаны і нязваны.

І мароз даймае, да касцей прабірае. Не сядзіцца немцам у станцыйных памяшканнях, ператвораных у казармы. Холадна, а дроў няма. І ніхто не падвозіць. Нават паліцэйскія не могуць даць рады жыхарам суседніх вёсак: то конь захварэў, то вупражы няма, а то сані паламаліся...

І надумаліся партызаны прывезці дроў муляраўскаму станцыйнаму гарнізону.

Кляўцоў даў у абком дакладныя звесткі аб ахове і ўмацаванні станцыі.

Ноч. Глыбокая ноч на 22 лютага 1942 года.

Станцыя Муляраўка. Начальнік станцыі, пажылы, хударлявы, з выцягнутай, як у бусла, шыяй мужчына, нервуецца ля тэлефона:

— Алё! Алё! Петрыкаў!.. Петрыкаў!..

Маўчыць Петрыкаў.

— Пціч! Пціч! Алё! Пціч!..

Не адказвае Пціч.

— Капцэвічы! Капцэвічы!..

Не адзываюцца і Капцэвічы.

«Што за ліха? Няўжо сувязь абарвана?».. — мільганула жахлівая думка.

— Алё!.. Алё!..

А каб хоць адно слова!

«Падняць трывогу?.. Ціха! Што там за гоман? А-а! Гэта, напэўна, вартавы з патрулём размаўляюць. Толькі чаму па-руску?»

Начальнік кідае тэлефон падыходзіць да дзвярэй і адчыняе іх.

— Куды дровы згружаць? — чуваць у цемры.

— А-а, дровы, — абрадаваўся начальнік. — Вязіце сюды...

Нечыя дужыя рукі, як клешчы, абхапілі шыю, павалаклі на двор...

А на двары сапраўды стаяць фурманкі з дровамі. Тры... пяць... Ля іх завіхаюцца людзі ў белых халатах. Толькі зблізку можна заўважыць іх.

— Цішэй, хлопцы, цішэй...

— Таварыш камісар, там, у другім пакоі, немцы... Яны не чулі нічога... Спяць.

— Маладзец, Валодзя! Маладзец!

— Скідай дровы! Пустым назад не ехаць!

— Забірай усё, што можна і што нам патрэбна!

Размаўляюць ціха, шэптам, каб не пачулі ў суседніх пакоях.

Язэп Балотнікаў (Глушко), Уладзімір Кулак, Валодзя Лесюкоў, Павел Мельнік выносяць вінтоўкі, аўтаматы. Грузяць на сані скрынкі з патронамі, гранатамі, забіраюць харчы, цюкі вопраткі.

Камісар атрада Сямён Маханько, які камандуе аперацыяй, дае каманду:

— У вокны пакояў гранатамі — агонь!

Не чуваць было асобных выбухаў. Дзесьці там, у сярэдзіне будынка, глуха ўхнула, аж застагнала зямля.

Праз хвіліну — другую — зноў каманда:

— Абследаваць усе пакоі! Падабраць рэшткі трафеяў.

Святло электрычных ліхтарыкаў прарэзвае цемру. Тут ужо, здаецца, нічога нельга разабраць — усё змяшалася. Вось піраміда вінтовак. Пашчапаныя, паламаныя прыклады, пагнутыя ствалы.

Не пакінулі, забралі і паламаную зброю. Партызанскія майстры выправяць ствалы, паробяць новыя, бярозавыя прыклады. Хоць не адшліфаваныя, але больш надзейныя.

— Падпаліць станцыю!

І калі жоўтыя языкі полымя ужо лізалі сцены вакзала, у неба ўзвілася ракета — адыход!

Збор — за МТС, у хвойніку.

Камандзіры ўзводаў дакладваюць камісару аб паспяховым выкананні задання.

Сабраліся ў кружок.

— Малайцы, хлопцы! — трохі хрыплаватым голасам гаварыў камісар. — Хвалю! Сем вартавых знялі без адзінага стрэлу. Чыстая і акуратная работа! За паспяховае выкананне аперацыі аб'яўляю падзяку!





Фама Кляўцоў.

— Служым Савецкаму Саюзу! — прагучала ў адказ.

— Цікава, колькі ж іх, забітых?— азваўся хтосьці ззаду.

— Няхай яны лічаць — ім відней!

Рушылі ў паход.

Шум, гоман, смех. Забыліся і пра небяспеку. Нічога, што і снегу па пояс. Ды чаго ім баяцца? Яны — гаспадары і абаронцы роднай зямлі!

Праз суткі Кляўцоў паведаміў у атрад:

«З 45 чалавек муляраўскага гарнізона выратавалася тры. Босыя, у адной бялізне прыбеглі яны ў Петрыкаў. Ледзьве ногі прынеслі. Не ногі, а марожаныя таўкачы. Больш бы ім такіх кросаў!»

## 2

Улетку 1942 года акупанты са сваімі саюзнікамі кінулі ўсе свае рэзервы на Сталінград.

Чыгунка Брэст — Гомель набыла для іх велізарнае стратэгічнае значэнне. Дзень і ноч на ўсход ішлі эшалоны з жывой сілай, боепрыпасамі, тэхнікай. Да 40 паяздоў праходзіла ў суткі. Адтуль жа, з усходу, спешна вывозілася нарабаванае дабро.

Ахоўвала чыгунку ўзмоцненая варта. На кожнай станцыі і паўстанку былі размешчаны гарнізоны, пабудаваны дзоты, уведзены вартавыя абходы. Адзін толькі мост на Пцічы ахоўвала каля сямісот салдат, не гаворачы пра буйныя чыгуначныя станцыі і масты на вялікіх рэках.

Неабходна было вывесці са строю чыгуначную магістраль, спыніць на ёй рух на больш працяглы час. З Цэнтра партызанскага руху быў атрыманы загад — узарваць чыгуначны мост і праз раку Пціч. Камандуючым аперацыяй быў прызначаны Мачульскі Раман Наумавіч, намеснік камандзіра Мінскага партызанскага злучэння.

Пачалася спешная падрыхтоўка да аперацыі. З Вялікай зямлі атрымана больш дваццаці пудоў толу. Група падрыўнікоў Казіміра Пушчына рыхтавала толавыя зарады.

У штабе выпрацоўваўся план аперацыі. Мачульскі абмяркоўваў кожную дэталь. Асаблівая ўвага была звернута на хуткае выкананне задання, каб вораг не разгадаў партызанскага намеру.

Нарэшце, усё зроблена.

Аперацыя прызначана на ноч 3 лістапада.

Раніцай першага лістапада ў вёсцы Камаровічы Капаткевіцкага раёна сабралася партызанская армія — звыш тысячы чалавек.

Апоўначы рушылі ў паход. Каля дзесяці партызанскіх атрадаў, у тым ліку брыгада Скалабана, расцягнуліся па цесных лясных дарогах. За суткі трэба прайсці больш пяцідзесяці кіламетраў.

І ўсё было б добра, каб не цёмная асенняя ноч. Яна, як на зло, выдалася такой цёмнай, што хоць вока выкалі. Нават прасветліны між дрэў завалакліся нізкімі дажджавымі хмарамі, з якіх, як праз самае густое сіта, пыліла вадзяная шэрань.

Перарвалася сувязь паміж атрадамі. Дарога нібы растварылася ў цемры, яе падоўгу намацваюць праваднікі.

А час не чакае. Ужо раніца хутка, а партызаны прайшлі не больш трыццаці кіламетраў. От і выканай загад! Не пойдзеш жа на штурм маста ўдзень, не накіруеш сваю яшчэ маладую партызанскую сілу на марнае знішчэнне. Мачульскі разумеў, што выканаць аперацыю ва ўмоўлены тэрмін не ўдасца і рашыў перанесці яе на наступную ноч.

Толькі як замаскіраваць партызан-

скую армію? Вораг жа не такі ўжо дурны. Яго разведка абавязкова ўстановіць маршрут руху партызан, тады — лічы, прапала!

Але гэтага можа і не быць, калі перахітрыць ворага. І Раман Наумавіч загадаў: адхіліцца ад маршруту ўлева, узяць кірунак на Мышанку, дзе размяшчаўся буйны нямецкі гарнізон, і зрабіць часовы прывал у вёсцы Ванюжычы.

А вечарам трэцяга лістапада камандзіры выводзілі свае атрады на новыя шляхі. Макар Бумажкоў пайшоў да раз'езду Коржаўка, дзе меў задачу ўзарваць чыгунку справа, каб немцы не падкінулі падмацавання з Капцэвіч і Жыткавіч. Паўлоўскі павёў атрад улева, пад Мышанку. Брыгада Івана Васільевіча рухалася забалочанымі ляснымі дарогамі паўз раку Пціч. Тут жа была і група падрыўнікоў Пушчына.

Пярэднія атрады ўжо выйшлі на свой рубеж. Залеглі. Да іх паціху і асцярожна падыходзілі ўсё новыя і новыя групы партызан. Нават прывычнае да начных шорахаў вуха не змагло б выявіць тут адзнак чалавечага жыцця. А яно, бурнае, напружанае, таямнічае, запоўніла прырэчную пушчу.

Пачулі немцы які-небудзь неасцярожны гук, ці гэта выпадкова, але падрад тры ракеты прарэзалі заслону туману і не паспелі згаснуць, як доўгая кулямётная чарга паласнула па кустах. Збоку ледзь чутна застагнаў чалавек і, перасільваючы боль, скурчыўся пад альховым камлём. І ніхто больш не пачуў ад яго не толькі крыку, а нават ціхага стогну, хоць куля пранізала яму плячо.

Да пяці гадзін раніцы ўсе атрады занялі свае пазіцыі. Цішыня запанавала над наваколлем. Толькі час-адчасу над ракой ля маста ўспыхвалі ракеты і з шыпеннем гаслі над самай вадой. Нямецкія вартавыя пільна ахоўвалі мост.

Сівая завеса туману зверху пачала рассейвацца, але каля самай зямлі яна па-ранейшаму была густая, як хмара. На ўсходзе пачынала святлець.

Мачульскі не адрываў вачэй ад гадзінніка. А стрэлкі, здавалася, зусім спынілі свой бег. Яшчэ дзесяць... яшчэ сем... яшчэ пяць хвілін. Ад біцця сэрцаў, здаецца, дрыжыць зямля.

І вось з-пад Мышанкі, а потым і справа, з-пад Коржаўкі, рэха данесла глухія выбухі. Гэта паўлаўцы і бумажкоўцы падарвалі чыгунку, далі знаць, што мост адрэзаны з абодвух бакоў. А праз якую секунду яркачырвоная ўспышка ракеты нібы завісла ў паветры, уздымаючы партызанскую раць для рашучай схваткі.

Ажыло нямое палескае балота. Тысячы галасоў і стрэлаў зліліся ў адзін працяжны гул і запоўнілі ўсю пушчу. Звязкай гранат Міцька Сяргееў разварнуў галоўны дзот — каравульнае памяшканне. Затым узрываюцца адзін за другім дзоты за чыгункай. Іван Сыцька пераносіць агонь кулямёта ўглыб, б'е па станцыі. Дзесьці збоку цокаюць бранебойкі.

Наперад вырываюцца падрыўнікі. Пушчын ужо на мосце.

— Хлопцы, не адставаць! — крычыць ён.

Не змаўкаюць аўтаматы, кулямёты. А там, ля станцыі, відаць, завязаўся бой: чуваць, як тахкаюць буйнакаліберныя нямецкія кулямёты.

Падрыўнікі ўжо мініруюць мост: падвязваюць толавыя зарады ля быкоў да бэлек, да ферм і злучаюць іх дэтаніруючым шнурам. Пушчын спяшаецца і хвалюецца: хаця б не памыліцца.

Немцы трохі ачухаліся ад перапалоху і ўзмацнілі агонь. Па мосце б'е артылерыя, мінамёты. Міны кладуцца то на беразе, то ў вадзе. Усё злілося ў адзін страшны гул.

Партызаны залеглі.

Мачульскі загадвае ўзмацніць удар па станцыі.

— Наперад! За Радзіму! — чуваць гучны голас камбрыга Івана Васільевіча.

Толькі мёртвы не падымецца ў тую хвіліну, калі голас камандзіра кліча ў бой! З усіх бакоў нясецца дружнае «ўра!», і партызанская армія коціцца наперад. Падрыўнікі ж тым часам заканчваюць работу.

Усё падрыхтавана.

Над мастом узнімаецца белая ракета — адыход! Камандзіры атрадаў выводзяць партызан назад, у глыбіню лесу. Але кожнаму хочацца ўбачыць вынікі штурму, быць сведкай гэтай аперацыі — і ў першых жа кустах яны прыпыняюць крок, аглядаюцца.

...Асляпляльнае полымя прарэзала густую завесу туману і ўзнялося высока над ракой. Цяжка скаланулася зямля, і рэха аглушальнага выбуху пракацілася далёка-далёка над лясамі і вёскамі Палесся. І яшчэ не заціхла гэтае рэха, а над ракою ўжо грымела дружнае партызанскае «ўра!» Гэта ад радасці, ад захаплення. Смех, крыкі, жарты. Угору ляцяць шапкі, пілоткі. Як і не было цяжкасцей, як і не было бяссоннай ночы і цяжкае, свінцовае стомы.





Дзмітры Сяргееў.

Назаўтра ў Камаровічах мы хавалі баявых сяброў. Семярых не стала сярод нас. Семярых у тую ноч скасілі фашысцкія кулі. Але вораг заплаціў за іх дарагою цаною. 118 сваіх салдат і афіцэраў не далічыўся ён пры ранішняй паверцы...

А сёмага лістапада, вечарам, камандзіры атрадаў зачытвалі радыёграмы, атрыманыя з Масквы, з Цэнтра партызанскага руху. Масква горача віншавала беларускіх партызан з 25-годдзем Кастрычніка і абвяшчала падзяку за ўзорнае выкананне задання па ўзрыву маста праз Пціч.

На паўмесяца спыніўся рух на варожай магістралі. Паўмесяца стаялі варожыя эшалоны ў Капцэвічах, Жыткавічах, чакаючы адпраўкі пад Сталінград. А там Савецкая Армія ўзмацняла ўдары. І рэха гэтых удараў пераклікалася з рэхам баёў у палескіх пушчах.

## 3

Што рабіць? Уцяклі з палону і трапілі ў такі ж палон. Уцяклі адтуль, каб не працаваць на фашыстаў, а дома — тая ж праца на акупантаў, на тых, хто скалечыў і знявечыў родную зямлю.

Не. Не быць гэтаму! А калі і працаваць, то працаваць так, каб ворагу гэта кроўю адрыгнулася.

Так вырашылі тры палоннікі.

Праз тыдзень бургамістр пасёлка Капцэвічы Лахман назначыў Івана Мялешку, як найбольш практычнага і аўтарытэтнага чалавека, начальнікам будаўніцтва вузкакалейнай чыгункі Капцэвічы—Петрыкаў. Гэтая чыгунка не мела асаблівага стратэгічнага значэння. Яна прызначалася для задавальнення патрэб гебітскамісара Рэдке, рэзідэнцыя якога знаходзілася ў Петрыкаве.

Цяпер Мялешка меў магчымасць бываць у бургамістра, у паліцыі, нават у жандармерыі. Наогул, усё мястэчка знаходзілася пад яго аглядам.

Федзя Сакадынскі, былы шафёр фанернага завода, пайшоў працаваць чыгуначнікам. Рух усіх саставаў на ўсход і на захад быў яму часткова вядомы.

Падпольшчыкі пачалі шукаць сувязі з падпольным абкомам партыі. Было гэта не вельмі лёгка. Аб месцазнаходжанні абкома ведалі вельмі нямногія, ды і яны не кожнаму сустрэчнаму маглі адкрыць тайну. Члены абкома таксама працавалі ў падполлі. Яны маглі з вамі размаўляць, цікавіцца навінамі, нават даваць пэўныя заданні, і вы так і не здагадваліся, што гутарылі з першым сакратаром або з кім-небудзь з членаў абкома.

Наладзіць сувязь з абкомам быў пасланы Кірыла Шамрыла.

Калі Кірыла сяк-так дабраўся ў Акцябрскі раён, ён яшчэ не хутка папаў да сакратара абкома. А хто ведае — можа гэта якая паліцэйская разведка! Асцярожнасць нідзе не пашкодзіць...

Нарэшце, адбылася доўгачаканая сустрэча. Сярэдняга росту, рухавы, вясёлы чалавек, які назваў сябе Іванам Васільевічам, цікавіўся ўсім — нават самымі драбніцамі з жыцця Капцэвіч.

З гэтай гутаркі Кірыла зразумеў, што Іван Васільевіч інфармаваны аб становішчы спраў у мястэчку. Значыць, абком ужо мае сувязь з Капцэвічамі?.. Пытацца пра гэта ў Івана Васільевіча Кірыла не асмеліўся.

Паабедаўшы і выпіўшы па шклянцы малака, што падала жвавая чарнявая гаспадыня, Іван Васільевіч пры развітанні сказаў:

— От так, мой дарагі! Праз тыдзень чакаю вас тут, у гэтай хаце. Мяне не будзе — Надзя дасць адрас. Усё, што я прасіў, пастарайцеся выканаць.

— Не падвяду, таварыш Іван Васільевіч.

Мінуў тыдзень.

Тая самая хата. За сталом зноў сядзіць Іван Васільевіч, побач з ім — Кірыла.

— Дзякую за выкананне задання!—з прыемнай, лагоднай усмешкай сказаў Іван Васільевіч. — Цяпер мы вам давяраем і будзем спадзявацца, што вы дапаможаце нам стварыць сваё ядро ў Капцэвічах.

— Некалькі чалавек падрыхтавана ўжо. Можам хоць заўтра накіраваць у атрад.

— Не спяшайцеся пасылаць нам людзей. Разумееце, ідзе зіма, а з харчамі і зброяй у нас яшчэ тугавата. Дзейнічайце на месцы...

Іван Васільевіч закурыў, памаўчаў, разважаючы сам з сабою, а потым працягваў:

— Звяжыцеся з Пятром Сыцькам. Свой чалавек. Давярайце яго сыну Івану.

«От яно што! — нарэшце здагадаўся Кірыла. — А я не мог дадумацца, хто ўжо мае сувязь з абкомам...»

— Іван Васільевіч! — Кірыла запнуўся, відаць, вагаючыся, сказаць ці не сказаць тое, аб чым думаў. Сакратар абкома заўважыў яго хваляванне.

— Гаварыце ўсё...

— От што я хацеў запытаць. Ці можам мы давяраць салдатам варожай нам арміі?

— Я вас не разумею, Кірыла Аляксандравіч.

— У Капцэвічах, апрача немцаў, стаяць славакі. І іх большасць. Часта заходзяць да Мялешкі. А ён, ведаеце, гадзіннікавым майстрам стаў. От і ідуць да яго. Гутарым. Яны не любяць немцаў. Адкрыта гавораць, нікога не баяцца. Ці нельга было б пайсці з імі на перагаворы?

Іван Васільевіч задумаўся. Славакі... Славяне... Не, мы не маем права не шукаць дружбы з імі. Фашызм— наш агульны вораг.

— Мы заўсёды згодны, — сказаў ён нарэшце. — У такім выпадку вам прыдзецца быць пасрэднікам. Арганізуйце сустрэчу іх з нашым камандаваннем.

— Якія ўмовы з нашага боку?

— Для сустрэчы? Любыя! Толькі ў нашай зоне. Ім лягчэй дабрацца да нас, — і Іван Васільевіч моцна, пасяброўску пацісну Кірылу руку.

...Кірыла прышоў трохі пазней.

— Усё ўладжана, Аляксандравіч, — адразу прыступіў да справы Мялешка. — Сюды прыдуць славакі. Камандзір роты, старшы лейтэнант, старшына, можа і яшчэ хто з іх блізкіх сяброў. Прыдуць нібы гадзіннікі рамантаваць. Я пазнаёмлю цябе. Дамоўлена знаёміцца за руку. Назавеш толькі сваё імя. Яны ведаюць... Ды от і яны... ідуць. Акуратныя людзі: сказалі а дзесятай гадзіне — і а дзесятай!

Вуліцай, не спяшаючыся, у поўнай ваеннай форме крочылі чатыры салдаты славацкай арміі. Відаць, аб нечым размаўлялі, размахвалі рукамі, смяяліся. Яны звярнулі на двор і неўзабаве пярэдні пастукаў у дзверы.

— Калі ласка! — азваўся Мялешка.

Зайшлі. Прывіталіся «добрым днём».

— Праходзьце. Знаёмцеся. Мой даўні сябар.

Кірыла першым падаў руку старшаму лейтэнанту і назваў сваё імя. Той шчыра, сардэчна патрос яе. У вачах заззялі іскрынкі затоенай радасці.

Старшына назваў сябе Янакам.

Селі за стол: старшы лейтэнант, старшына, Кірыла, Сакадынскі. Мялешка ўзяўся за гадзіннікі. Старшына выцягнуў карты, новенькія, трохі большыя за рускія, з цікавымі малюнкамі дубовых лістоў і жалудоў.

— Сыграем хіба для пачатку? — запытаўся Янак.

— Давайце. За картамі і размова, можа, лепш будзе ладзіцца, — падтрымаў Кірыла.

Старшы лейтэнант разумеў, што гутарка можа зацягнуцца, і адразу выклаў Кірылу сваю думку. Аб неабходнасці сустрэчы з партызанскім камандаваннем спрэчак не было. Гэта вырашылі адразу і канчаткова.

Затым паўстала пытанне, хто ж будзе прадстаўляць камандаванне славакаў і хто партызан. Старшы лейтэнант сказаў, што яны ўжо з'яўляюцца прадстаўнікамі славацкай роты, што другіх людзей выдзяляць не будуць і гатовы весці перагаворы зараз жа, вось тут.

— Нажаль, я не з'яўляюся упаўнаважаным для перагавораў ад пар-





Кірыла Шамрыла.

тызанскага штаба, — сказаў Кірыла.—Я толькі пасрэднік, арганізатар сустрэчы. З нашымі камандзірамі вы павінны сустрэцца дзе-небудзь у другім месцы. Можна ў лесе. Ды гэта і зручней...

Старшы лейтэнант расшпіліў планшэтку, паклаў на стол. Пад тонкай праслойкай слюды — ваенная карта. От Капцэвічы, Міхедавічы, усе дарогі, балота, нават паляны. А от у другім квадраце Бобрыкі, Заполле, Камаровічы. Гэта партызанскі край.

Схіліліся над картай, думаюць.

— А калі б от тут, за Бобрыкамі, за грэбляй, пад Заполлем, от у гэтым хвойніку, — указаў на карце Кірыла.

— Добра, — адразу ж згадзіўся старшы лейтэнант і ў гэтым месцы зрабіў чырвоным алоўкам маленькую адметку.

— Цяпер наша слова, — працягваў старшы лейтэнант. — Мы прыедзем да вас на двух танках. Вы, от імення вы самі, павінны нас сустрэць, каб мы вас пазналі. З вамі няхай будзе не больш чатырох — пяці чалавек. Толькі без зброі. Першым з танка выйдзе старшына, — і ён указаў на Янака. — Прывітаецеся за руку. Пазнаёміце яго са сваім камандзірам. Потым выйду я.

Кірыла ўважліва слухаў. Яму здавалася, што славак не гаворыць, а чытае з запісной кніжкі дакладна распрацаваны план. Відаць, яны раней прадумалі яго і так і гэтак. Адхіленняў з яго боку не было.

— Пароляў ніякіх не трэба, — дадаў старшы лейтэнант, — вы ведаеце нас, а мы — вас.

— Заканчвайце, ідуць немцы, — спакойна сказаў Мялешка.

Янак адразу змяніў кірунак гутаркі:

— Значыць, у цябе дама, казырная? А ў мяне туз! От так...

Упершыню прышлося Кірылу сустракаць фашыстаў у такіх абставінах. Зайшлі ўчатырох, прывіталіся з усімі, нібы са старымі сябрамі. Чымсьці задаволеныя, усміхаюцца. Але Кірылу было не па сабе. Мільгнула нават страшная думка аб тым, што фашысты прышлі па яго. «Няўжо правал?» І толькі калі тыя прывіталіся з ім за руку, адлягло на сэрцы.

Кірыла і Сакадынскі ўсталі і прапанавалі ім свае месцы. Тыя адмовіліся, бо зайшлі, як сказаў адзін з іх, на некалькі хвілін да Мялешкі, даведацца, ці адрамантаваны іх гадзіннікі.

Рамонт быў выкананы. У якасці платы адзін з акупантаў паставіў на стол бутэльку гарэлкі. Мялешка кіўнуў жонцы, і яна неўзабаве прынесла на стол кавалак сала і бохан хлеба.

Цеснавата, але размясціліся за сталом. Мялешка наліў кожнаму па кілішку. Кірыла ўстаў і першым чокнуўся з старшым лейтэнантам, а потым з астатнімі.

— Замочым вашы гадзіннікі, — сказаў старшы лейтэнант, звяртаючыся да немцаў, і дагавор... на рамонт нашых. Паслязаўтра мы прыдзем. Каб былі гатовыя, — і ён глянуў на Мялешку і Кірылу.

Толькі цяпер Кірыла здагадаўся, што яны не назначылі дня сустрэчы. Значыць, паслязаўтра, каб былі гатовыя...

Ціхі, ясны поўдзень. Здаецца, застыла паветра, ні адна галінка на соснах не варухнецца.

Кірыла схіліўся на камель сасны, ловячы чуткім вухам лясную цішыню. Поплеч сядзіць Іван Васільевіч, упаўнаважаны падпольнага абкома і яшчэ два прадстаўнікі са штаба злучэння.

— Можа, у вас памылка выйшла, Аляксандравіч? — запытаў нарэшце Іван Васільевіч. — Сонца ўжо з паўдня звярнула, а іх няма.

— Не думаю, каб памыліўся, — адказаў Кірыла.

— Так-так... Хаця, хто яго ведае, што яны думаюць і якія ў іх планы.

Штаб партызанскага злучэння ўлічыў, што партызаны маюць справу пакуль што з прадстаўнікамі варожай арміі, і даверыцца ім поўнасцю было нельга. Патрэбна быць гатовым на ўсякія выпадковасці. Для гэтай мэты два партызанскія атрады селі ў засаду з левага боку дарогі, надзейна замаскаваўшыся.

Ніколі так не цягнецца час, як пры чаканні. Гадзіна здаецца вечнасцю. Кірыла ўжо некалькі разоў выходзіў на дарогу і, прытаіўшы дыханне, прыслухоўваўся да лясной цішыні, ловячы ў ёй аддалены гул матора. Але было ціха — так ціха, што аж у вушах звінела.

От ён зноў прылёг пад сасною, прыклаў вуха да зямлі.

— Ідуць... — прамовіў ён.

Усе прыслухаліся.

Сапраўды, аднекуль здалёку даносілася ледзь чутнае дрыжанне паветра. Яно паступова шырылася, узмацнялася, напаўняла лес. Вось ужо выразна даносіцца скрыгат гусеніц. Яго падхоплівае лясное рэха і разносіць па глухіх нетрах. Здаецца, цэлая танкавая калона рушыла ў паход...

Кірыла адзін застаўся на дарозе.

Адзін супраць танкаў, без зброі, з пустымі рукамі. А колькі іх? Хіба ён ведае? Хіба ён можа вызначыць іх колькасць па грукаце, калі гэты грукат запоўніў увесь лес?

А гул набліжаецца, нарастае...

От пярэдні танк вынырнуў з-за павароткі і, здаецца, не збаўляючы хуткасці, ідзе проста на Кірылу. Аж дух заняло ў тых, што былі ў засадзе. А Кірыла стаіць на дарозе з узнятаю рукою, мужны і непахісны.

Танк рэзка затармазіў і спыніўся ў трох кроках ад партызана. У дваццаці метрах застыў і другі танк. Танкісты збавілі «газу» — і ў лесе пацішэла. Праз верхні люк лоўка саскочыў з машыны старшына славацкай роты. Кірыла падаўся яму насустрач.

І невядома, колькі часу яны трымалі б адзін аднаго за рукі, каб не падышлі да іх прадстаўнікі партызанскага камандавання. Кірыла пазнаёміў іх з Янакам. Потым з машыны вышаў старшы лейтэнант. Прывіталіся. Адышлі ўправа, углыб лесу. Туды ж па загаду старшага лейтэнанта адышлі танкі і заглушылі матory.

Каля двух гадзін прадстаўнікі двух народаў абмяркоўвалі сумесныя планы дзеянняў супраць агульнага ворага.

Настаў час расставання. Танкі вышлі на дарогу ў зваротны шлях. Пабратэрску з усімі развітаўся старшы лейтэнант і палез у танк.

Янак трохі затрымаўся. Яму, відаць, не хацелася пакідаць адзінокімі сваіх новых кроўных сяброў у глухой пушчы. От ён падаў руку Кірылу, моцна сціснуў яго агрубелую далонь, не спускаючы яснага позірку сініх вачэй з загарэлага Кірылавага твару.

І не вытрымаў старшына: слёзы заблішчэлі ў яго вачах, і ён іх ужо не хаваў. Ён абняў Кірылу, і яны тройчы, па-брацку пацалаваліся.

— Бывай, браток!

— Бывай!..

— Беражы нашу дружбу, — гаварыў Янак, і ў голасе яго адчувалася шчырасць. — Не думай, што мы прышлі на вашу зямлю ворагамі. Няхай гэты мой сціплы падарунак будзе сімвалам нашай вечнай дружбы, — і ён працягнуў Кірылу наручны гадзіннік. Як вялікі братэрскі дар, узяў яго Кірыла.

— За вечную дружбу!

— За вечную!..

Гэта было развітанне, якога нельга забыць. І сёння, калі мінула многа гадоў з таго часу, яскрава стаяць перад вачамі два воіны ў сардэчных абдымках.

Вечарам таго ж дня сабралася пасяджэнне бюро падпольнага абкома партыі. На ім прысутнічалі камандзіры атрадаў, камісары і начальнікі штабаў. Упаўнаважаны зрабіў справаздачу аб выніках перагавораў з прадстаўнікамі славацкага гарнізона, размешчанага ў Капцэвічах.

Стала вядома, што славакі будуць аказваць усялякую дапамогу ў дыверсіях на чыгуначнай лініі. Партызаны смела могуць падрываць чыгуначнае палатно, абстрэльваць варожыя эшалоны, нападаць на нямецкую жандармерыю. Безумоўна, славакі для прыліку будуць абстрэльваць дарогу. Славакі абавязаліся перадаць у штаб партызанскага злучэння пэўную колькасць нямецкага ўзбраення і боепрыпасаў, у тым ліку і міны. Разам з тым, яны разгорнуць шырокую падпольную работу сярод сваіх байцоў, каб потым усім палком перайсці на бок партызан.





**Іван Сыцька.**

Партызаны ж не павінны нападаць на славацкія падраздзяленні, не павінны абстрэльваць славацкія пасты.

Праз некаторы час немцы пранюхалі аб сувязях славакаў з партызанамі і зрабілі пераразмяшчэнне славацкіх гарнізонаў. Рота старшага лейтэнанта апынулася ў Калінкавічах, а яе месца заняў новы гарнізон. Толькі было позна: парасткі славацка-партызанскіх зносін дужэлі і ўмацоўваліся, і нішто не магло іх знішчыць.

З вясны 1943 года за Прыпяццю ўжо дзейнічаў буйны партызанскі славацкі атрад пад камандай Яна Налепкі, якому потым пасмяротна было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Дакладнае імя і прозвішча старшага лейтэнанта славацкай арміі, з якім упершыню сустрэліся прадстаўнікі Палескага падпольнага абкома партыі ў Запольскіх лясах, застаецца пакуль што невядомым. Аднак, ёсць усе падставы меркаваць, што гэта і быў Ян Налепка.

## 4

Жандармерыя і паліцыя Петрыкава, якая налічвала каля ста пяцідзесяці чалавек, рабавала гаражан, канфіскоўвала лепшыя дамы, а вечарамі спраўляла банкеты, выпіўкі.

Падпольная група па загаду камандзіра атрада Бабкова рашыла ўзарваць памяшканне былой гасцініцы, дзе размяшчалася жандармерыя. Некалькі пакояў верхняга паверху было завалена вінтоўкамі, аўтаматамі, скрынкамі з патронамі, мінамі. Гэта быў адзіны склад зброі ў горадзе. У двух лепшых пакоях жыў гебітскамісар Рэдке.

Падарваць будынак узялася камсамолка Ліда Чарнобылец. Ёй, служанцы гебітскамісара, былі вядомы ўсе ўваходы і выхады ў жандармерыю. Яна ведала дакладны распарадак рабочага дня Рэдке. Штодзённа а дзесятай гадзіне раніцы ён падымаўся з пасцелі, мыўся, апранаўся і ішоў у сталоўку, якая размяшчалася ў суседнім доме. Тады Ліда заставалася поўнай гаспадыняй кватэры гебітскамісара. Яна прыбірала пасцель, мыла падлогу, паліла печы. Праўда, спачатку прысутнічаў пры ёй жандар-афіцэр, які сачыў за яе працай.

Часам ён пакідаў яе адну, і калі яна прыводзіла ў належны парадак усю кватэру, пасылаў яе куды-небудзь з даручэннем. Сам жа ў гэты час рупліва абшукваў усе куточкі, абследаваў матрац, падушкі, заглядваў у металічную печку, перакладваў кнігі і паперы Рэдке.

Лідзін позірк заўсёды прыкмячаў тайную праверку. І яна была надзвычай асцярожнай.

Аднойчы Ліда ўбачыла за шафай два пісталеты і аўтамат. Там жа ляжала некалькі дыскаў з патронамі. «Таксама для праверкі, — здагадалася Ліда. — Няхай паляжаць, дачакаюцца свайго...»

Потым вобыскі рабіліся ўсё радзей і радзей. І калі жандары ўпэўніліся, што Ліда не мае супраць іх ніякага злога намеру, дык даверыліся ёй. Афіцэр ужо тыднямі не правяраў яе. Толькі пры ўваходзе па-ранейшаму стаяў вартавы, які не допускаў на кватэру Рэдке нават паліцэйскіх.

Усю жандарскую ўправу ахоўвала яшчэ пяць паліцэйскіх пастоў: па аднаму ў кожным кутку двара і адзін у варотах.

Нядзеля 25 студзеня 1943 года.

У гэты дзень немцы нікуды не выязджалі. Добра выпіўшы і сыта закусіўшы, яны збіраліся на кватэры ў Рэдке і да цямна гулялі ў карты. Потым ішлі ў сталоўку і праседжвалі там да поўначы.

Як і заўсёды, Ліда прышла на работу ў дакладна вызначаны час. Яна на

хвіліну затрымалася ў пярэдняй, дастала з сумачкі дзве прадаўгаватыя магнітныя міны і асцярожна апусціла іх у кошык з паперай.

Рэдке ўжо прачнуўся і ляніва пацягваўся пасля сну.

Потым устаў, сабраўся і пайшоў у сталоўку. Ліда ведала, што вернецца ён не пазней, як праз дзве гадзіны, а дзейнасць міны разлічана да трох гадзін. Значыць, пара дзейнічаць. Яна прынесла кошык і паставіла ля стала.

«Хаця б не памыліцца, — мільганула думка. — Вось яны, канцы магніта. Дастаткова злучыць іх магнітнай планкай, як стане дзейнічаць гадзіннікавы механізм... Здаецца, так. Васіль так і расказваў».

Ліда адчыніла шуфлядку стала і паклала туды абгорнутую ў паперы «галушку».

Нешта стукнула ля дзвярэй. Замлела сэрца. «Няўжо ідзе? Не. Гэта вартавы».

Другая міна знайшла сваё месца ў матрацы. Ліда нават села на ложак, паспрабавала падгоцкнуцца, — ці не выпадзе. Не, трымаецца добра!

Цяпер застаецца навесці парадак, зрабіць усё, як належыць. Для ўмелых рук асаблівай цяжкасці ў гэтым не было.

Ужо ўсё гатова. Ліда апранулася і намерылася адыходзіць...

«А аўтамат?.. Забраць аўтамат. Забраць пісталеты, патроны... Але куды схаваць?.. Паліто шырокае, можа прыкрыць... Вось і ўсё...» Яна глянула ў люстра: нічога непрыкметна.

— Я хутка вярнуся, — сказала Ліда вартавому. — Да краўца зайду.

— Карашо! Карашо! — адказаў ён і ўзяў пад казырок.

На вуліцы яе чакаў Каржаноўскі. Ён ступіў некалькі крокаў насустрач Лідзе.

— Добры дзень, Ліда! Як здароўе?

— Дзякую. Добра! — адказала яна і працягнула яму руку.

Каржаноўскі ўсё зразумеў.

Паліцэйскі прапусціў яго ў двор, а праз якую хвіліну машына Каржаноўскага ўжо выехала на вуліцу Карла Маркса ў кірунку на Капцэвічы. Пільнае вока шафёра заўважыла Ліду з паліцэйскім, які ледзь трымаўся на нагах, стараючыся абняць яе. Яна хацела абысці, але ён схапіў яе за крысо. Ліда штурхнула яго ў грудзі: паліцэйскі пакаўзнуўся і ўпаў.

Машына рэзка затарамазіла каля іх. Каржаноўскі высунуў галаву з кабіны.

— Табе далёка, Ліда?

— Да краўца іду. Паліто прымерыць.

— Сядай, падвязу!

— От дзякую! — Ліда хуценька села ў кабіну, і машына паімчалася далей. Ля пякарні яна зноў спынілася. З завулка выйшла некалькі чалавек і селі ў машыну.

За горадам на пасту стаяў паліцэйскі. Ён намерыўся было спыніць машыну, але, заўважыўшы ў ёй Ліду і Каржаноўскага, сышоў з дарогі. Апошні бар'ер застаўся ззаду.

Снежны пыл віхрыўся за машынай.

У лесе Каржаноўскі звярнуў направа і выехаў на Руднянскую дарогу. Але прабрацца ў партызанскі край з машынай было немагчыма.

Выгрузіліся, аблілі машыну бензінам, а рэшту злілі ў каністры (можа там, у атрадзе, спатрэбіцца). Каржаноўскі чыркнуў запальніцай — яркае полымя абхапіла машыну, павалілу густы чорны дым.

Людзі зніклі ў гушчары.

...Рэдке вярнуўся на сваю кватэру і важна рассеўся ў крэсле за сталом. У руках аднаго з афіцэраў зашорхалі налошчаныя карты.

Нечакана адчыніліся дзверы і, засопшыся, убег начальнік каравула.

— Пан гебітскамісар! — адрапартаваў ён. — Пажар!..

Усе кулём выскачылі на двор. Яны думалі, што пажар тут, у іх доме, але, упэўніўшыся, што гарыць аж за горадам, пад Капцэвічамі, з палёгкай вярнуліся назад.

Рэдке крыху затрымаўся на двары і калі ўвайшоў у пакой, то афіцэры ўжо сядзелі за сталом і гучна аб нечым размаўлялі. І як толькі ён пераступіў парог, над сталом ярка бліснула, і страшэнны выбух скалануў сцены. Выбуховая хваля адкінула Рэдке да акна.

Другая міна прабіла столь і вывернула вугал дома. Ад выбуху загарэлася пасцель. Неўзабаве агонь пранік на другі паверх. Пачалі ўзрывацца патроны, гранаты. Збянтэжаныя паліцэйскія стаялі воддаль, баючыся падысці да ахопленай полымем рэзідэнцыі гебітскамісара.

Калі Рэдке апрытомнеў і расплюшчыў вочы, частка будынка ўжо рухнула. Паслужлівы начальнік Петрыкаўскай паліцыі Явароўскі спешна





Лідзія Чарнобылец.

накіраваў гебітскамісара ў Жытомір, у армейскі шпіталь. Але і там яму не вярнулі здароўя: партызанская «галушка» адбіла пячонкі.

...А Ліда Чарнобылец, гэтая стройная, светлавалосая беларуская дзяўчына, адразу накіравалася да камандзіра атрада Бабкова з дакладам аб выкананні задання. Цераз плячо перакінуты рамень нямецкага аўтамата, збоку вісіць пісталет.

Партызаны з задавальненнем пазіралі ёй услед.

— От мы якія, савецкія дзяўчаты!

## 6

Пад восень 1942 года Палессе стала суцэльным партызанскім краем. Яго межы раскінуліся ад чыгуначнай лініі Калінкавічы — Лунінец да Бабруйска, ад Слуцка да Жлобіна. Галоўныя партызанскія сілы размяшчаліся ля граніц гэтага краю, ля чыгунак. Чыгунка Бабруйск — Старушкі была поўнасцю паралізавана і знаходзілася ў руках партызан.

Ішло напружанае жыццё, працоўнае і ваеннае. Калгаснікі засявалі палі, гадавалі жывёлу. Працавалі ўцалеўшыя прадпрыемствы. У Міхедавічах, у дванаццаці кіламетрах ад фашысцкага гарнізона, няспынна працаваў паравы млын, які забяспечваў мукою партызанскія атрады. Запасы прадуктаў і ўзбраення павялічваліся амаль пасля кожнай партызанскай аперацыі.

Партызаны Палескага злучэння неаслабна наносілі ўдары па чыгуначных гарнізонах ад Калінкавіч да Лунінца, абстрэльвалі эшалоны, падрывалі чыгунку, масты, знішчалі жывую сілу ворага, разбуралі нямецкія ўмацаванні. Ні аднаму эшалону не ўдавалася прайсці непашкоджаным на гэтым участку чыгункі. Ішла свяшчэнная рэйкавая вайна ў варожым тыле.

У сярэдзіне лютага 1943 года ў Капцэвічах выгрузіўся вялікі карны атрад з артылерыяй і танкамі. Пачалася ўзмоцненая разведка партызанскай абароны, а неўзабаве фашысты пайшлі ў наступленне.

Ім удалося заняць вёску Грабава, потым Бярозаўку. Партызанскія атрады Далідовіча і Жыгара выбілі іх з Бярозаўкі, але карнікі ўмацаваліся ў Грабаве.

Дзве ночы палыхалі пажары над вёскай, асвятляючы ўсё навокал. Двое сутак акупанты чакалі новага падмацавання. І калі яно падышло, пайшлі ў наступленне адначасова ў двух кірунках — на Міхедавічы і на Камаровічы.

Раніцай 23 лютага яны пачалі ўзмоцнены артылерыйскі абстрэл Міхедавіч і Бобрыка. Партызанскія атрады Балотнікава, Бабкова, Краўчанкі занялі абарону на чыгуначным насыпе па шляху Грабава — Міхедавічы. Галоўны шлях — грэблю — абараняді партызаны Балотнікава, злева і справа паўкругам размясціліся атрады Бабкова і Краўчанкі. Шырокая паласа Грабаўскага балота з глыбокай канавай аддзяляла іх ад лесу, з якога павінны былі выйсці фашысты. Другога шляху ім не было.

Каардынацыю дзеянняў усіх атрадаў ажыццяўлялі Язэп Балотнікаў, Міхаіл Волкаў і Уладзімір Кулак.

А дзесятай гадзіне раніцы трывожная вестка абляцела партызанскія рады: разведка данесла, што з Грабава рухаецца калона ворага каля двух рот. Ідуць строем, як на парадзе.

Апошняе трохі заспакоіла партызан, але агульнае хваляванне не праходзіла. Асноўную частку гэтых партызанскіх атрадаў складала моладзь, якой яшчэ не прыходзілася адбіваць варожыя атакі. Раней яна ўдзельнічала толькі ў невялікіх раптоўных налётах, у засадах, у падрыве чыгункі.

наогул у такіх аперацыях, дзе не трэба было стрымліваць працяглы націск ворага. А тут рухаецца ўзброеная аўтаматнай зброяй вайсковая часць — фашысцкія карнікі.

Камандзіры атрадаў улічылі гэтую акалічнасць. Яшчэ і яшчэ раз перадаецца па ланцугу загад:

— Без каманды не страляць, не наступаць і не адступаць!

І вось з лесу на грэблі паказалася невялікая група салдат, з аўтаматамі напагатове. Яны ішлі асцярожна, не спяшаючыся, азіраючыся па баках. Неўзабаве злева і справа ад іх метраў на пяцьдзесят ад дарогі выйшлі дазоры па два чалавекі. І калі галоўны дазор падыходзіў да маста, адышоўшы, прыкладна, каля двухсот метраў ад лесу, паказалася галава калоны. Фашысты ішлі не ланцугом, а строем, па чатыры чалавекі ў шарэнзе, ішлі смела, лічачы, напэўна, што партызаны разбегліся пасля грабаўскай аперацыі і шлях у Міхедавічы для іх адкрыты. Яны здзівіліся нават, што мост на канаве не ўзарваны. Абследавалі яго і рушылі далей.

А з лесу ўсё цягнулася і цягнулася калона. Здавалася, канца ёй не будзе. Вось яна ўжо маршыруе па грэблі, вось уся выйшла з лесу, выстраілася, як на далоні...

— Па захопніках — агонь!

Дружны партызанскі залп скалануў пушчу.

Калона рассыпалася. Енкі, крыкі, стогны. Каманду ніхто не слухае. Карнікі кінуліся ўрассыпную, не па грэблі, а ўлева, бліжэй да лесу, якраз туды, дзе стаяў флангавы кулямёт Івана Сцебунова.

Сцебуноў не чуў стрэлаў, толькі па дрыжанню кулямётнай ручкі адчуваў, што кулямёт працуе. Ён пільна сачыў за радамі ворага і кароткімі чэргамі не дапускаў яго да лесу. Час-ад-часу адзываўся аўтамат з іх боку, і Сцебуноў тады чуў, як трэскалі разрыўныя кулі ў верці ельніку.

Сцебуноў не аслабляў агню — трэба ні аднаго ворага не выпусціць жывым!

— Наце! Наце вам! За ўсё, за ўсіх! — шаптаў ён.

Вось адзін, толькі адзін ля самага лесу. Ён залёг, паўзе. Сцебуноў выбраў зручны момант, прыцэліўся: апошні карнік застыў пад камлём крайняй елкі...

І ўсё заціхла.

Настала тая цішыня, якая звычайна бывае пасля бою: хто з пераможаных і застаўся жывы, то не адважваецца падняць галавы, а пераможца чакае новай атакі. На балоце параскіданы цёмна-зялёныя фігуры, якія выразна відаць на белізне снегу...

Слова зноў за разведкай. Антон Кабановіч, камандзір разведчыкаў, бярэ з сабою толькі Васіля Чарнобыльца і Івана Сыцька. Непрыкметна, паўз балота, густым ельнікам прабіраюцца яны пад Грабаў.

— Далей я адзін пайду, — спыніўшыся, сказаў Іван.

Кабановіч і Васіль пераглянуліся.

— Так, адзін, — дадаў Іван і аддзяліўся ад групы.

Нядоўга стаяла цішыня. Там, куды пайшоў Іван Сыцька, пачулася страляніна. Сціснулася сэрца ў Кабановіча: «Няўжо наткнуўся на засаду?»

— Васіль, за мной! — крыкнуў ён і кінуўся наперад.

Стрэлы не сціхалі, яны толькі набліжаліся, а Кабановіч бег і бег. Ён не адчуваў, што галіны ельніку сцябаюць па твары. Раптам стрэлы сціхлі. Кабановіч спыніўся, пачакаў Васіля. І вось яны ідуць наперад, ужо асцярожна, бо недзе недалёка вораг. Можа, ужо сочыць за імі, можа ўзяў на мушку...

Васіль улавіў ціхія чалавечыя галасы. Затрымаў Антона. Прыслухаліся — сапраўды гоман. Прыгнуўшыся, пайшлі на галасы. Ля паляны група людзей, чужых, незнаёмых. Антон націснуў на курок аўтамата — рэзкая чарга зноў парушыла спакой пушчы.

Фашысты рассеяліся — хто ўпаў, а хто кінуўся ў лес...

Іван Сыцька быў мёртвы. Усё яго цела было зрашэчана шырокімі варожымі штыхамі. А вакол ляжалі варожыя трупы: семнаццаць чалавек.

Кабановіч і Васіль зрабілі няхітрыя насілкі і вынеслі на іх свайго баявога таварыша...

На брацкіх могілках у Камаровічах вырас яшчэ адзін магільны курган.

Галоўная штурмавая група акупантаў пры падтрымцы танкаў працягвала наступленне на Камаровічы — Гарадзячычы — Сасноўку. Заравы пажараў барвовымі водбліскамі адсвечваліся ў па-асенняму цёмным начным небе. І яно, гэтае неба, нібы налітае крывёю, стварала жудаснае відовішча.

У пачатку сакавіка ля Арэсы карнікі аказаліся ў партызанскім «мяшку». Заставалася толькі завязаць яго.





Васіль Чарнобылец.

І завязалі. Не дапамагла артылерыя, не дапамаглі і танкі!

Некалькі слоў аб далейшым лёсе герояў гэтых успамінаў.

Былы сакратар Мінскага падпольнага абкома партыі і намеснік камандзіра Мінскага злучэння партызан Мачульскі Раман Наумавіч зараз працуе старшынёй выканкома Брэсцкага абласнога Савета дэпутатаў працоўных.

Былы начальнік штаба 130-й партызанскай брыгады Уладзімір Кулак і камандзір гэтай брыгады Міхаіл Волкаў кіруюць цяпер перадавымі на Петрыкаўшчыне калгасамі. Бабкоў — старшыня калгаса ў Капаткевіцкім раёне. Язэп Балотнікаў (сапраўднае прозвішча Глушко) — былы камісар брыгады, а раней камандзір атрада — пенсіянер, жыве ў Пінску.

Працуюць на Петрыкаўшчыне былы камандзір роты Кірыла Шамрыла, інвалід Міця Сяргееў (абодва ўзнагароджаны ордэнамі Чырвонай Звязды), Мікалай Каржаноўскі, Васіль Чарнобылец, былы камандзір атрада Анатоль Міхайлоўскі і Федзя Сакадынскі; Ліда Чарнобылец жыве і працуе ў Брэсце.

Загінулі ў партызанскім атрадзе Адольф Уладышанскі, палітрук роты Фама Кляўцоў, камандзір разведчыкаў Антон Кабановіч і Юрка Бажок. На фронце Айчыннай вайны загінуў былы начальнік штаба партызанскага атрада № 125 Іван Мялешка.

**в. Міхедавічы,**

**Петрыкаўскага раёна.**

*Размова аб майстэрстве*

Вадзім СМАЛЬ

# АБ ПРАЎДЗЕ МАСТАЦКАГА ХАРАКТАРУ

**Заметкі рэдактара сцэнарнага аддзела**

Цэнтральны Камітэт КПСС, вітаючы ўдзельнікаў Усесаюзнай творчай канферэнцыі работнікаў кіно, падкрэсліваў, што ганаровы абавязак работнікаў кіно заключаецца ў тым, каб «увасобіць у мастацкіх вобразах выдатныя працэсы сацыялістычнай рэчаіснасці, тое новае, што ўвайшло ў наша жыццё за апошнія гады і стала вызначальным для сучаснага этапу развіцця краіны па шляху да камунізма».

Для таго, каб выканаць гэтую пачэсную задачу, нашай кінематаграфіі патрэбна многа добрых сцэнарыяў, у якіх былі б адлюстраваны сённяшні дзень нашай краіны. Стварэнне такіх сцэнарыяў — адна з важнейшых умоў далейшых поспехаў савецкага кінамастацтва.

У нашай кінематаграфіі ёсць група кінадраматургаў-прафесіяналаў. Але іх вельмі мала. Таму цяпер з асаблівай вастрынёй паўстае пытанне аб прытоку ў кіно новых творчых сіл, здольнай пісьменніцкай моладзі. Такія сілы патроху пачынаюць заяўляць аб сабе. На беларускую кінастудыю пачынае паступаць усё больш сцэнарыяў, напісаных маладымі аўтарамі, у якіх падымаецца цікавы жыццёвы матэрыял.

Мы, работнікі кінастудыі, з вялікай цікавасцю сустракаем кожны такі сцэнарый. Але, на вялікі жаль, ужо пры чытанні першых жа яго старонак узнікае пачуццё незадаволенасці, якое пачынае расці па меры набліжэння да канца: сцэнарый вельмі слабы. Але калі ў ім хоць крыху адчуваецца дыханне жыцця, намячаюцца жывыя чалавечыя характары, калі тэма яго — патрэбная і цікавая, мы гатовы ўзяцца за работу над ім, хоць часта і не сумняваемся ў тым, што нас чакае нямала цяжкасцей. Кінасцэнарыі, якія адлюстроўваюць нашу сучаснасць, — гэта



наша паветра, наш хлеб. І мы не можам не працаваць над імі. Часцей разам з аўтарам, а часам і без яго, мы стараемся развіць моцныя бакі твора, пераадолець яго недахопы. Як нам здаецца, гэта дае нам права на адкрытую сяброўскую размову з пачынаючымі аўтарамі аб некаторых найбольш тыповых недахопах сцэнарыяў маладых кінадраматургаў на тэму сучаснасці.

* * *

Кожны сцэнарый, нават пры чытанні, павінен захапляць імклівым ходам падзей, прымушаць нас перажываць разам з героямі іх радасці і няўдачы. Аднак не часта гэта сустрэнеш у творах нашых маладых сцэнарыстаў. Іншы раз чытаеш новы сцэнарый і ў цябе ўзнікае такое адчуванне, нібы ўсё гэта табе даўно знаёма: перагортваючы старонку, ты беспамылкова ўгадваеш, што чакае цябе на наступнай. Справа тут у тым, што зачастую сцэнарыі пішуцца не на аснове асабіста бачанай і глыбока асэнсаванай жыццёвай з'явы, а на аснове шырока вядомых канфліктаў, сюжэтаў і нават драматургічных сітуацый. Каб не быць галаслоўнымі, прывядзем некаторыя прыклады.

Пасля выхаду ў свет «Аповесці аб дырэктары МТС і галоўным аграноме» Галіны Нікалаевай са сцэнарыя ў сцэнарый пайшла вандраваць пад рознымі прозвішчамі дзяўчына — у адных выпадках інжынер, як у сцэнарыі «Гаспадыня» аднаго маладога беларускага пісьменніка, а ў другіх — аграном, як у сцэнарыях «Насустрач жыццю» і «Дзве сустрэчы», якія належаць пачынаючым аўтарам. Гераіня гэтых сцэнарыяў прыязджае ў адстаючую МТС або калгас і за кароткі час перабудоўвае там усю работу.

Здавалася б, што такія сцэнарыі павінны зацікавіць студыю, бо ў іх амаль усё гэтак жа, як і ў цікавай, вострасюжэтнай аповесці Г. Нікалаевай. Аднак справа ў тым, што Нікалаева сама ўбачыла ў жыцці сваіх герояў, і таму яны ў яе — жывыя, паўнакроўныя. А ўсе іх сцэнарна-кінематаграфічныя копіі мёртвыя, бо яны ствараліся па гатовай схеме, без ведання жыцця.

Моцны налёт падражальніцтва характэрны не толькі для сцэнарыяў на тэмы калгаснага жыцця. Можна прывесці прыклады мастацкай несамастойнасці сцэнарыяў і на вытворчую тэматыку.

Член аднаго з заводскіх літаратурных аб'яднанняў прынёс на студыю свой сцэнарый «Шляхі-дарогі», прысвечаны жыццю рабочай моладзі. У сцэнарыі многа трапных назіранняў, востра схопленых бытавых дэталей. Адчуваецца, што аўтар ведае людзей, пра якіх піша. Здавалася б, ёсць усе ўмовы для стварэння цікавага, жыццёва праўдзівага твора. Аднак сцэнарыст не даверыўся сваім жыццёвым уражанням, а пайшоў па шляху падражання ўжо гатовым літаратурным і кінематаграфічным узорам. У выніку атрымаўся сцэнарый, у якім каторы ўжо раз пераказваецца трафарэтная гісторыя пра дзесяцікласніка, які пайшоў працаваць на завод.

Такая ж аднастайнасць і несамастойнасць наглядаецца і ў сцэнарыях на сямейна-бытавую тэму. Пахвальным з'яўляецца імкненне многіх аўтараў падымаць у сваіх творах пытанні сацыялістычнай маралі і этыкі. Але большасць гэтых твораў пішацца па сюжэтных стандартах, якія робяць іх падобнымі адзін да другога, як дзве кроплі вады. Самай пашыранай тэмай многіх аўтараў з'яўляецца гісторыя харошай дзяўчыны або жанчыны, якая памыляецца ў сваім асабістым жыцці. Яе кахае добры, сумленны чалавек, а яна захапляецца знешне эфектным, а па сутнасці — пустым чалавекам.

Гэтая «памылка» паўтараецца ў сцэнарыях так часта, што становіцца сапраўды трагічнай не толькі для гераінь, якія памыляюцца, але і для рэдактараў сцэнарных аддзелаў.

Шаблон сустракаецца не толькі ў пабудове сюжэта сцэнарыя, але і ў раскрыцці характараў герояў і нават у апісанні іх знешняга выгляду. У большасці сцэнарыяў станоўчыя героі звычайна кучаравыя або ў іх з-пад шапкі выбіваец-

ца непакорная пасма валасоў, а адмоўныя — лысыя або гладка прычасаныя.

Галоўным у мастацкім творы з'яўляецца праўда чалавечага характару. Абумоўлены тымі ці іншымі жыццёвымі абставінамі, характар чалавека заўсёды індывідуальна непаўторны. А ў сцэнарыях чалавек часта паказваецца толькі са знешняга боку, без пранікнення ў яго ўнутраны, духоўны свет. І таму са старонак сцэнарыяў перад намі часта паўстае бледная, спрошчаная схема чалавека, а не сам чалавек, штучна ажыўленая функцыя, а не жывы характар. І натуральна, што такі спрошчаны паказ чалавека абядняе наша ўяўленне аб савецкіх людзях, іх вялікіх справах, іх думках і пачуццях.

Якую шкоду мастацкасці прыносіць адступленне ад праўды характару, сведчаць і некаторыя параўнальна нядаўна выпушчаныя беларускай кінастудыяй фільмы, як «Зялёныя агні» (сцэнарый А. Маўзона), «Пасеялі дзяўчаты лён» (сцэнарый Я. Пашечыкава). Аўтары гэтых сцэнарыяў нават не зрабілі спробы стварыць жывыя характары. Яны механічна склалі іх з розных рысаў і якасцей, якія па іх уяўленнях павінны быць у маладога машыніста, у адным выпадку, у дырэктара МТС — у другім.

Пачынаючым аўтарам сцэнарыяў не трэба прытрымлівацца падробнай «літаратурнай традыцыі», ім неабходна, перш за ўсё, больш давяраць сваім жыццёвым уражанням і назіраннямі, імкнуцца да паказу праўды жыцця, да раскрыцця сапраўдных, а не выдуманых канфліктаў.

* * *

Адзін час у нашых раманах, аповесцях, сцэнарыях і п'есах чалавека засланялі вытворчыя працэсы. Цяпер у нас выпраўлена гэта аднабокасць: аб'ектам нашага мастацтва з'яўляецца чалавек ва ўсёй складанасці сваіх духоўных праяўленняў.

Але, нажаль, некаторыя літаратары, і асабліва маладыя, кінулі-ся ў другую крайнасць — яны пачалі паказваць чалавека толькі з боку яго асабістых, інтымных адносін. Любоўныя драмы, сямейныя канфлікты пачалі пераходзіць з твора ў твор. Такі тэматычны ўхіл заўважаецца і ў сцэнарыях. Многія пачынаючыя сцэнарысты ў пошуках вострага, цікавага сюжэта звяртаюцца да вузкасямейных канфліктаў, да фактаў судовай хронікі. Але калі на падставе такога матэрыялу напісаны сцэнарый, то выяўляецца ў большасці выпадкаў, што яго тэма — вельмі дробная, нязначная і што сам твор не мае ніякай цікавасці.

Пачынаючыя кінадраматургі, шукаючы прычыны сваіх няўдач, павінны ўспомніць словы Горкага аб тым, што за фактамі схаваны іх сацыяльны сэнс і што мэта мастацкага твора — раскрыць гэты сацыяльны сэнс фактаў ва ўсёй яго значнасці, паўнаце і яснасці. Калі ж сцэнарыст вырывае які-небудзь факт з агульнага ланцуга звязаных паміж сабой і ўзаемаабумоўленых жыццёвых з'яў, ізаліруе яго, то такі факт траціць свой сэнс.

Аднойчы ў сцэнарны аддзел студыі прыйшоў малады аўтар, які працуе юрыстам на адным з прадпрыемстваў Мінска. Ён прынёс сцэнарый і папрасіў яго прачытаць.

— Рэч гэтая, я проста скажу, — на важную тэму, — дадаў ён на развітанне. — Напісана на аснове дакладных фактаў. Я апісаў усё дакладна так, як было ў жыцці.

Сцэнарый прачыталі. І што ж? Тое, што здавалася аўтару самай вялікай каштоўнасцю яго твора, а іменна — адпаведнасць твора жыццёваму факту, было самым вялікім недахопам сцэнарыя. На працягу 80 старонак у ім расказваецца гісторыя аб тым, як адзін прадавец універмага, які застаўся ў акупацыі, узяў сабе ў дочкі дзяўчынку, якая згубіла сваіх бацькоў. Калі закончылася вайна, у горад вярнулася маці дзяўчынкі і пачала судзіцца з прыёмным бацькам. Урэшце, дзяўчынка мірыць дарослых. Вось і ўвесь сюжэт сцэнарыя, у якім «усё, як у жыцці».



Безумоўна, выпадак такі мог быць і магчыма быў. Але ілюструючы прыватны жыццёвы выпадак, наўрад ці можна стварыць сапраўды мастацкі твор. Фільм на такую тэму можа пражыць вялікае жыццё толькі ў тым выпадку, калі тое, што здарылася з адной сям'ёй, будзе павучальным і важным, а не толькі займальным «наогул». Закрываючы ж апошнюю старонку гэтага сцэнарыя, так і не разумееш: пра што ж аўтар хацеў расказаць будучым гледачам фільма, што яго ўсхвалявала ў гэтай гісторыі, каго ён ненавідзіць, каму сімпатызуе. Сцэнарыст нібыта гаворыць: вось я вам паказаў, як бывае ў жыцці, а далей разбірайцеся самі. Але ж глядач хоча ведаць не толькі тое, што «так у жыцці бывае», але і зразумець, чаму так бывае.

Іменна таму хочацца звярнуць увагу пачынаючых аўтараў на мастацкую матывіроўку паводзін герояў, бо без гэтага нельга паказаць праўду жыцця. Аднак патрабаванне дакладных мастацкіх матывіровак маладыя сцэнарысты зачастую ўспрымаюць як нейкае абмежаванне іх творчай фантазіі.

У лёсе герояў сцэнарыя могуць адбывацца рэзкія павароты, але пры гэтым павінна адчувацца ўнутраная падрыхтаванасць гэтых паваротаў, іх логіка. Паводзіны герояў павінны выцякаць з іх характараў, з абставін, у якіх яны знаходзяцца, з адносін, якія паміж імі складваюцца.

Можна з упэўненасцю сказаць, што асноўнай работай кінадраматурга пры напісанні сцэнарыя з'яўляюцца пошукі жыццёва праўдзівых матывіровак. Выдатныя прыклады ў гэтых адносінах дае нам работа класікаў рускай літаратуры. Вядома, напрыклад, што Л. М. Талстой пісаў «Анну Карэніну» каля года, а дапрацоўваў амаль дзевяць год, шукаючы найбольш пераканаўчых мастацкіх матывіровак у паводзінах сваіх герояў.

* * *

Нярэдка на кінастудыю прыходзяць пачынаючыя аўтары з просьбай навучыць, як напісаць сцэнарый. Безумоўна, адказаць на такое пытанне нялёгка. Кінасцэнарый — гэта адзін з відаў літаратуры, і таму «навучыць» пісаць сцэнарыі гэтак жа немагчыма, як немагчыма навучыць пісаць раманы або паэмы. Рэдактар можа толькі дапамагчы пачынаючаму сцэнарысту паспяхова завяршыць пачатую работу, перасцерагчы яго ад магчымых памылак і промахаў, звязаных з асаблівасцямі жанра.

А наогул, ці цяжка напісаць сцэнарый? Скажам проста — так, цяжка.

Яшчэ зусім нядаўна для таго, каб прыцягнуць пісьменніка да работы ў кіно, нямала пісалася і гаварылася аб тым, што напісаць сцэнарый можа кожны, што ніякай спецыфікі сцэнарнага пісьма не існуе і што яе выдумалі кінематаграфісты.

У сапраўднасці ж, сцэнарый мае свае жанравыя законы, свае сродкі мастацкай выразнасці, якія трэба адчуваць, разумець і ўважліва вывучаць. Нажаль, у пачынаючых сцэнарыстаў часта адчуваецца нейкая пагардлівасць да спецыфікі кінадраматургіі, і гэта прыводзіць да вельмі сумных вынікаў. Нярэдка маладыя аўтары ў сваіх сцэнарыях распрацоўваюць актуальныя тэмы, добра ведаюць тое, пра што пішуць, маюць вялікі запас жыццёвых назіранняў, але, нягледзячы на ўсё гэта, у большасці выпадкаў іх сцэнарыі не з'яўляюцца паўнацэннымі кінематаграфічнымі творамі. З пункту гледжання асаблівасцей кінамастацтва ў такіх сцэнарыях няма асноўнага — аўтар не бачыць, а зачастую і не чуе таго, што ім напісана. Ён не адчувае аб'ёму, сцэн, іх зрокавай выразнасці.

Такія недахопы ўласцівы сцэнарыю «Сіла веры», які напісаў адзін малады журналіст. Аўтар жыве ў сельскай мясцовасці і добра ведае жыццё беларускай калгаснай вёскі. Але бяда ў тым, што ў аснову свайго сцэнарыя ён паклаў не ўзаемаадносіны людзей, не сутыкненне розных чалавечых характараў, а праблему вырошчвання ва ўмовах Беларусі двух ураджаяў

ільну. Замест пошукаў яснай драматургічнай формы для свайго матэрыялу аўтар з пратакольнай дакладнасцю, без якога-небудзь адбору, апісаў усё тое, што трапіла ў поле яго зроку.

«З песні слова не выкінеш», — гаворыць народная пагаворка. Цяжка знайсці больш дакладнае вызначэнне асноўнага закону кампазіцыі. У добрым сцэнарыі не павінна быць нічога лішняга, нічога выпадковага, з яго нельга нічога выкінуць, не парушыўшы цэласнасці ўсяго твора. А ці ж многія са сцэнарыяў нашых маладых аўтараў з'яўляюцца той песняй, з якое не выкінеш ніводнага слова.

Кінадраматург павінен мысліць кінематаграфічнымі вобразамі і сцэнамі, кінематаграфічным размерам, рытмам. Авалодаць традыцыйнымі законамі тэатральнай сцэны лягчэй. Тут аўтар ніколі не будзе весці дзеянне адначасова, напрыклад, у глыбінях мора і на даху высотнага будынка, у Мінску і на Паўднёвым беразе Крыма. Авалодаць законамі кіно, нам здаецца, цяжэй. У кінамастацтва ёсць свае законы мастацкай выразнасці, свае магчымасці.

У адным са сцэнарыяў, напісаных маладым беларускім пісьменнікам, ёсць такі тэкст: «...І вось перад намі разгортваецца велічная карціна бітвы за ўраджай. Праходзяць сцэны напружанай працы, адна выразнейшая за другую. На поле ідуць камбайны, машыны вязуць збожжа. Мы бачым элеватар, вакол якога дзень і ноч пануе ажыўленне»... і г. д.

Гэтае апісанне займае ўсяго некалькі радкоў. Але калі гэтыя радкі расшыфраваць творча, то яны могуць стаць цэлай карцінай, могуць стаць дыктарскім тэкстам або надпісам, могуць быць зняты ў выглядзе кароткіх фрагментаў уборкі і г. д. А сцэнарыст павінен дакладна бачыць тое, што будзе адбывацца на экране і дакладна прадыктаваць рэжысёру сваю задуму.

* * *

Гаворачы аб цяжкасцях, звязаных з авалоданнем спецыфікай кіно, мы зусім не хочам сказаць, што ў пачынаючага сцэнарыста першы блін абавязкова павінен быць комам. Наадварот, з практыкі работы сцэнарнага аддзела кінастудыі можна прывесці нямала прыкладаў, калі ў выніку сур'ёзных адносін пісьменнікаў да пытанняў кінадраматургіі з'явіліся добрыя, паўнакроўныя сцэнарыі, па якіх створаны цікавыя фільмы. У якасці прыкладу хацелася б спаслацца на першы кінасцэнарый Аркадзя Куляшова і Алеся Кучара «Чырвонае лісце».

Ужо сам факт стварэння гэтага сцэнарыя пісьменнікамі, якія да гэтага былі вядомы як аўтары паэтычных твораў і п'ес, яшчэ раз сцвярджае, што непраходнай сцяны паміж кінадраматургіяй і іншымі жанрамі літаратуры не існуе. З другога боку, сцэнарый «Чырвонае лісце» з'яўляецца пераканаўчым прыкладам неабходнасці авалодання спецыфікай кіно і драматургічным майстэрствам для кожнага, хто бярэцца за стварэнне літаратурнай асновы фільма.

Можна смела сказаць, што поспех сцэнарыя ў многім быў закладзены ў самім выбары матэрыялу. «Чырвонае лісце» — рамантычная кінааповесць, якая расказвае аб гераічнай барацьбе працоўных былой Заходняй Беларусі за ўз'яднанне ў адзінай Беларускай Савецкай дзяржаве.

Сцэнарысты ў сваёй рабоце выкарысталі багаты матэрыял аб падпольнай барацьбе камуністаў Заходняй Беларусі. Аднак, шырока прыцягваючы гэты дакументальны матэрыял, адштурхоўваючыся ад рэальных жыццёвых фактаў, А. Куляшоў і А. Кучар стварылі зусім арыгінальны мастацкі твор.

Знайшоўшы цікавы матэрыял і вызначыўшы канкрэтна тэму, аўтары асноўную ўвагу ўдзялілі распрацоўцы сюжэта з улікам усіх магчымасцей кіно. У сцэнарыі ёсць многа сцэн, розных па месцу дзеяння, але ўсе яны звязаны ў адно цэлае вобразам Андрэя Мяцельскага. Гэты вобраз праходзіць праз увесь твор, надаючы яму драматургічную цэласнасць.

Сцэнарый «Чырвонае лісце» вызначаецца дынамічнасцю і імклівасцю ў развіцці дзеяння. Гэта ў значнай меры тлумачыцца тым, што аўтары з вялікай стараннасцю прадумалі яго кампазіцыю, рашуча пазбягаючы пабочных ліній і эпізодаў, якія не мелі непасрэдных адносін да развіцця асноўнага драматургічнага канфлікту.

... Рэвалюцыйнае выступленне сялян супраць памешчыкаў разгромлена. Кіраўнік камуністычнага падполля Лемеш пасылае маладога паўстанца Андрэя Мяцельскага ў суседні раён. Ён павінен папярэдзіць мясцовую партыйную групу, што іх выступленне трэба адкласці, таму што ўрад накіраваў сюды вялікія сілы і рыхтуецца разграміць паўстаўшых. Па пятах за Мяцельскім ідзе пагоня. Ратуючыся ад яе, ранены Андрэй трапляе на хутар адстаўнога маёра Шыпшынскага, дзе служыць яго любімая дзяўчына Стася. У гарачцы хворы Мяцельскі выдае сябе, і Шыпшынскі даведваецца пра тое, чаму Андрэй прабіраўся ў блакіраваны раён. Пра ўсё гэта Шыпшынскі паведамляе польскай ахранцы...

Нават па кароткаму пераказу гэтых першых эпізодаў відаць, як у экспазіцыі аўтары ўмела ўводзяць нас у курс усіх падзей, знаёмяць з асноўнымі героямі, завязваюць паміж імі адносіны і даюць зыходныя матывіроўкі для далейшага развіцця сюжэта.

... Андрэй з цяжкасцю выбіраецца з дома Шыпшынскага і ўцякае ад тых, хто за ім сачыў. Лічачы, што ён загінуў, дэфензіва пасылае ў падполле вопытнага правакатара Ермаловіча, які дзейнічае пад імем Андрэя Мяцельскага, карыстаецца яго яўкамі і паролем.

З дапамогай правакатара ахранка арыштавала вялікую групу паўстанцаў і пачала рыхтаваць над імі суд, які павінен быўператварыцца ў судовы працэс супраць Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

Выздаравеўшы, Андрэй прыязджае ў Вільню, каб сустрэцца з таварышамі па барацьбе, але ўсе з пагардай адварочваюцца ад яго, лічачы, што ён — здраднік. Пакідае яго і любімая дзяўчына. Цяжка перажывае Мяцельскі сваю адзіноту, не разумеючы сапраўдных прычын таго, што здарылася. І раптам яму трапляюць на вочы буйныя загалоўкі газет: «Змова раскрыта! Былы бунтаўшчык Мяцельскі выступае на судзе ў якасці абвінаваўцы супраць камуністаў!» Толькі цяпер зразумеў Андрэй усю складанасць свайго становішча. Ён вырашае вярнуць сваё добрае імя, заплямленае правакатарам, і выратаваць таварышаў. З дапамогаю артысткі кабарэ Ядзвігі яму ўдалося дастаць мундзір маёра Шыпшынскага. У дзень суда Андрэй — Шыпшынскі паяўляецца ў судовай зале.

Такім чынам аўтары падводзяць нас да кульмінацыйнага пункту ў развіцці дзеяння. Гэтым пунктам з'яўляецца выстрал у судзе, якім Мяцельскі знішчыў правакатара.

У фінале сцэнарыя, аўтары, набліжаючыся да развязкі, умела завяршаюць кожную сюжэтную лінію. Да прыгаворанага к смяротнаму пакаранню Андрэя прыходзіць на спатканне Ядзвіга. Яна дзякуе яму за маральную падтрымку, за тое, што ў цяжкую хвіліну ён дапамог ёй паверыць у свае сілы. Выконваючы апошнюю просьбу асуджанага, яго тут жа, у турме, вянчаюць са Стасяй. І, нарэшце, пад націскам народа, які партыя падняла на выратаванне жыцця Мяцельскага, урад адмяняе смяротны прыгавор.

І ў заключным эпізодзе мы яўна адчуваем драматургічную кропку, якую аўтары ставяць, завяршаючы дзеянне сцэнарыя.

У «Чырвоным лісці» многа памайстэрску напісаных эпізодаў, якія напоўнены вялікім зместам, раскрываюць істотныя і важныя бакі жыцця. Так, у невялікім, але яркім эпізодзе допыту арыштаваных удзельнікаў галоднага паходу добра перададзена згуртаванасць простых людзей, іх рашучасць да канца адстойваць свае інтарэсы.

«... Плошча перад царкаўкай у Навасёлках. На плошчы — дэманстранты, акружаныя кальцом кар-

нікаў. Панурыя твары. На вазах ляжаць цяжка параненыя. Лёгка параненыя стаяць разам з усімі ў натоўпе. З будынку школы выходзяць шэф дэфензівы Мацієвіч, афіцэры, шпікі ў штацкім адзенні. Афіцэр, звяртаючыся да натоўпу, гаворыць: «Мы нікога не кранем, усіх распусцім па хатах, калі вы назавеце зачыншчыкаў, главароў». Паўза. Народ маўчыць. У натоўпе мы бачым Міхаля Снытку, Стырнага, маладога парабка, астатніх членаў камітэта, Ермаловіча. Афіцэр: «Дзе яны?» Людзі маўчаць. Афіцэр: «Калі не назавеце, будзем лупцаваць кожнага дзесятага... будзем паліць вёскі... Ну?!» Цяжкае маўчанне. Нечакана з натоўпу выходзіць Міхаль Снытка. Усе замерлі.

СНЫТКА. Пішыце... Я назаву іх.

Афіцэр падае знак шпіку.

СНЫТКА. Снытка Чэсь... Снытка Мечык...

Шпік запісвае.

СНЫТКА. ... Снытка Лявон...

АФІЦЭР. Дзе яны?

З натоўпу адзін за адным выходзяць дзеці Сныткі. Старэйшаму — Чэсю — год пятнаццаць, Мечыку — чатырнаццаць, малодшаму Лявону — 11—12. Вінавата ўглядваючыся і нічога не разумеючы, яны туляцца да бацькі.

СНЫТКА. Вось яны... Яны згаварыліся, пан афіцэр, каб мы кармілі іх... Разумееце? Вось яны — змоўшчыкі, бунтаўшчыкі.

АФІЦЭР. Не яны, ты бунтаўшчык... Усе вы тут, на крэсах, камуністы... Табе не дарагія інтарэсы айчыны, таму што ты не паляк.

СНЫТКА. Пан, естэм поляк... Аж з Кракава іду з дзецьмі, шукаю работы.

ГОЛАС З НАТОЎПУ. Ад Вільні да Кракава ўсюды адзінкава...

Гул адабрэння. Галасы з натоўпу: «Хлеба! Работы! Няхай нам заплацяць за нашу працу!»

Такія ўдалыя эпізоды робяць «Чырвонае лісце» сапраўды кінадраматургічным творам.

Сцэнарый ахоплівае многа падзей. Аднак яго аўтары абмежавалі сябе пэўным кругам дзеючых асоб. Іх роўна столькі, колькі неабходна, каб ахарактарызаваць розныя этапы жыцця героя.

Гаворачы пра станоўчых герояў, трэба сказаць, што сярод іх не ўсе паказаны аднолькава глыбока і ўсебакова. Вобраз кіраўніка рэвалюцыйнага падполля Лемеша праўдзівы па сваёй сутнасці. Але чытача ён зачастую пакідае халодным. Хоць Лемеш у сцэнарыі займае параўнаўча многа месца, мы нічога не ведаем пра яго, як пра чалавека. Сцэнарысты дапусцілі тут тыя ж памылкі, уласцівыя многім нашым літаратарам, якія паказваюць партыйных работнікаў пазбаўленымі індывідуальных якасцей.

Удала выкарыстаны аўтарамі сцэнарыя і такі сродак кінамастацтва, як мастацкая дэталь. Запамінаецца пры чытанні сцэнарыя такая дэталь. Ідучы на суд, Мяцельскі спыняецца каля старой жабрачкі і аддае ёй усе грошы, што былі ў яго. Яны яму больш не спатрэбяцца. Характэрна, што ў тых сцэнах і эпізодах, дзе сцэнарысты карыстаюцца дакладнымі драматургічнымі сродкамі і дзе яны вераць у выяўленчую сілу кінематографа, дзе ўчынкі герояў з'яўляюцца асноўным спосабам выражэння іх думкі, — там яны дасягаюць вялікага эмацыянальнага ўздзеяння на чытача, а кінаакцёрам тут прадстаўляюцца вялікія магчымасці для стварэння пераканаўчых мастацкіх вобразаў.

Адным з моцных бакоў сцэнарыя «Чырвонае лісце» з'яўляецца яго мова. Гэта ў аднолькавай меры датычыць як апісальнай часткі, так і дыялага. Кожная рэмарка — дакладная і выразная і накіравана на тое, каб будзіць творчую фантазію рэжысёра і аператара.

Можна было б сказаць і пра другія моцныя бакі гэтага сцэнарыя. Аднак нам здаецца, што нават кароткі яго разбор дае некаторае ўяўленне аб вялікай працы аўтараў, аб неабходнасці для кожнага, хто бярэцца за работу над сцэнарыем, добра ведаць спецыфічныя асаблівасці кінамастацтва. На гэта хацелася б звярнуць асаблівую ўвагу маладых сцэнарыстаў. Бо і А. Куляшоў з А. Кучарам дасягнулі поспеху ў кінадраматургіі ў выніку ўпартай працы, у выніку самага сур'ёзнага вывучэння асаблівасцей кіно.



А калі гэта змаглі зрабіць сталыя пісьменнікі, якія маюць за плячыма вялікі вопыт работы ў літаратуры, то маладым аўтарам, якія робяць першыя крокі, тым больш неабходна ўпарта і цярпліва працаваць над сваімі творамі, імкнучыся давесці іх да мастацкай дасканаласці.

* * *

З кожным годам расце колькасць літаратараў, якія жадаюць працаваць для кіно. За апошні час студыя атрымала, побач з мноствам вельмі пасрэдных твораў, некалькі цікавых сцэнарыяў, зробленых на добрым кінематаграфічным і літаратурным узроўні. Але такіх сцэнарыяў пакуль яшчэ вельмі мала. А патрэба ў іх вельмі вялікая, і яна будзе ўвесь час расці. У бліжэйшы час беларускія кінематаграфісты атрымаюць новую, добра абсталяваную кінастудыю, якая будзе выпускаць да 10 фільмаў у год. Таму нам хочацца праз наш маладзёжны часопіс сказаць маладым, пачынаючым аўтарам: мы чакаем вас у сябе на студыі, сябры! Прыходзьце да нас са сваімі задумамі і сцэнарыямі, у якіх падымаюцца новыя тэмы, ёсць сваё бачанне свету, гарачае жаданне сказаць праўду пра жыццё савецкага чалавека, паказаць вялікія справы нашага народа. Мы верым у вялікія творчыя сілы нашай моладзі. Гэтай верай прадыктаваны і нашы заўвагі пра недахопы некаторых сцэнарыяў нашых пачынаючых аўтараў. Гаворачы аб іх, хацелася перасцерагчы нашых маладых (а часам і немаладых) кінадраматургаў ад паўтарэння памылак, ад павярхоўных адносін да сваёй кроўна блізкай і дарагой усім нам справы.

## Давайце пагаворым...

**П. А. ЧУЛІЦКІ,**
**дырэктар Мінскай 27-й школы, заслужаны настаўнік школ БССР**

# ШКОЛА І ЖЫЦЦЁ

### Думкі настаўніка

Савецкая агульнаадукацыйная школа мае немалыя дасягненні ў выхаванні дзяцей, у падрыхтоўцы іх да паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Гэта прызнаюць усе не толькі ў нашай краіне, але і за мяжой.

Аднак узбройваючы вучняў дабраякаснымі і трывалымі ведамі асноў навук, наша школа, як справядліва ўказвае М. С. Хрушчоў у сваім пісьме Цэнтральнаму Камітэту КПСС, яшчэ дрэнна спраўляецца з задачай падрыхтоўкі школьнікаў да самастойнага жыцця, да ўдзелу ў вытворчай працы.

Грамадскасць ужо даўно адчула незадаволенасць агульнаадукацыйнай школай. Кіраўнікі прадпрыемстваў справядліва наракаюць на недастатковую падрыхтаванасць выпускнікоў сярэдняй школы да працы. Гэта адчуваюць і самі вучні, і іх бацькі. Таму з кожным годам усё больш вучняў восьмых і дзевятых класаў імкнуцца пайсці працаваць і працягваць вучобу ў школах рабочай моладзі. Многія старшакласнікі, не пакідаючы вучобы, наладжваюць сувязь з пэўным прадпрыемствам і да заканчэння школы набываюць вытворчую кваліфікацыю.

Карацей кажучы, рэформа сістэмы народнай асветы наспела, думкі пра яе выказваюцца параўнальна ўжо даўно. Вось чаму ўсе мы горача вітаем і ўхваляем меркаванні М. С. Хрушчова, выкладзеныя ў яго пісьме ЦК КПСС.

У друку ўжо выступілі многія таварышы з думкамі аб перабудове работы школы. Унесена шмат цікавых прапаноў, якія патрабуюць сур'ёзнага абмеркавання.

Перш за ўсё нас, педагогаў, цікавіць пытанне аб узросце, з якога трэба пачынаць навучанне дзяцей у школе. Некаторыя таварышы лічаць, што ўзрост у сем год падыходзячы. Гэтыя таварышы спасылаюцца на доследы, праведзены Акадэміяй педагагічных навук па навучанню пісьменнасці шасцігадовых дзяцей. Так, навучанне пісьменнасці дзяцей у раннім узросце, сапраўды, магчыма, але гэта не мае адносін да пытання пачатку вучобы ў школе. Навучанне дзяцей пісьменнасці ў раннім узросце ніколькі не шкодзіць развіццю дзяцей, наадварот, значна дапамагае яму. Дзеці, якія навучыліся чытаць у раннім узросце, больш поўна пазнаюць акаляючы іх свет. Аднак вопыт гаворыць аб тым, што прыход дзяцей у раннім узросце ў школу не апраўдвае сябе. Добра спраўляючыся з вучобай у першых трох класах, дзеці часта сустракаюцца з вельмі сур'ёзнымі цяжкасцямі ў далейшым. Справа ў тым, што ў раннім узросце яны яшчэ думаюць канкрэтна, а ў прадметах, якія выкладаюцца ім, усё часцей сустракаюцца абстрактныя паняцці. Гэтых паняццяў



шмат у любым прадмеце: мове, матэматыцы, гісторыі, геаграфіі і г. д. Вопыт работы школ гаворыць за тое, што гэта катэгорыя дзяцей у сярэдніх, а часам і ў старэйшых класах, сустрэўшыся з цяжкасцямі, адстае ў вучобе, губляе цікавасць да яе, бо не можа асіліць шэрагу складаных пытанняў. Дзеці ж, якія прыходзяць у школу ва ўзросце васьмі год, у далейшым паспяхова засвойваюць усе пытанні вучэбных дысцыплін. Відавочна, што жыццёвы вопыт дзіцяці нават у адзін год або ў некалькі месяцаў мае ў гэтым узросце вялікую ролю. Мы думаем, што навучанне ў школе павінна пачынацца з васьмі год. Навучанне ж пісьменнасці можа пачынацца і ў старэйшай групе дзіцячага саду або ў падрыхтоўчым класе.

Мы прыхільна адносімся да ідэі ўвядзення абавязковай адукацыі ў аб'ёме васьмігадовай школы. Школьнік у 16 год атрымлівае пашпарт. Іменна ў гэтым узросце, як паказвае практыка, у чалавека паяўляецца імкненне да вытворчай працы, ён можа ўжо больш-менш свядома выбіраць сабе дарогу ў жыцці. Таму абавязковая васьмігадовая асвета нам здаецца найбольш прыймальнай. Неабходна толькі, каб школа на працягу васьмі год давала дзецям закончаную сістэму агульнаадукацыйных ведаў (мовы родная і замежная, матэматыка, фізіка, хімія, прыродазнаўства, гісторыя, геаграфія), а таксама політэхнічную падрыхтоўку, якая дазволіла б выпускнікам пасля заканчэння школы паспяхова працаваць на прадпрыемстве або ў сельскай гаспадарцы ці працягваць навучанне ў класах рознага тыпу сярэдніх школ. Таму важна, каб у васьмігодцы аднолькава значнае месца занялі і агульнаадукацыйная падрыхтоўка вучняў і іх працоўнае выхаванне і вытворчае навучанне. Праца павінна быць неад'емнай часткай навучання з першага класа. Праца ў пачатковых класах, прынамсі ў першых трох, носіць у нейкай ступені яшчэ характар гульняў. Паступова яна ўскладняецца адпаведна ўзросту. Працы ў гэтых класах павінна адводзіцца 2—3 гадзіны ў тыдзень. Адной вучэбнай гадзіны на тыдні, якая прадугледжана ў малодшых класах цяпер, недастаткова, каб прывіць дзецям пэўныя працоўныя навыкі.

У 5—8 класах праца школьнікаў павінна быць арганізавана не толькі ў школьных майстэрнях, як прапануюць некаторыя таварышы, а і на вытворчасці. 27-я школа горада Мінска мае ў гэтых адносінах ужо трохгадовы вопыт. Вывучэнне шэрагу пытанняў праграмы па працы мы праводзім на самім прадпрыемстве — на заводзе металавырабаў. Выкладчыку працы вялікую дапамогу ў гэтым аказваюць нашы шэфы — інжынеры, майстры і рабочыя завода. Вучні выконваюць нескладаныя вытворчыя аперацыі, робяць нарыхтоўку матэрыялу для розных вырабаў, зборку сетак для ложкаў, выконваюць работы па свідраванню і г. д. Школьнікі старэйшага ўзросту выконваюць такарныя работы. За 1957-1958 навучальны год вучні нашай школы выканалі на заводзе металавырабаў работ на суму прыкладна ў чатыры тысячы рублёў. Вядома, бывае ў рабоце школьніка і брак. Але ж гэта дзеці, і рабочыя ахвотна дапамагаюць ім, кіруюць імі, папярэджваючы магчымыя ў працы памылкі.

Прыкладна таксама арганізуе школа работу вучняў на арматурным заводзе і мэблевай фабрыцы № 2. Тут працуюць вучні больш старэйшых узростаў, выконваючы, галоўным чынам, такарныя і сталярныя работы.

Перавага работы на прадпрыемствах у параўнанні з заняткамі ў школьных майстэрнях відавочная. У майстэрнях, падчас прымітыўна абсталяваных, вучні знаёмяцца з уласцівасцямі матэрыялаў, прызначэннем інструментаў, прыёмамі работы з імі, словам, атрымліваюць пачатковыя звесткі аб працэсах працы. Праца ж на заводзе носіць зусім іншы характар. Там вучні бачаць яе зладжанасць і арганізаванасць, сочаць, як з матэрыялу атрымліваецца гатовы выраб, патрэбны людзям. Праца на заводзе дысцыплінуе, арганізоўвае, выхоўвае дзяцей. Прывыкшы з ранняга ўзросту да ўмоў працы на прадпрыемстве, яны не спалохаюцца складанасці і цяжкасці работы, не разгубяцца, калі ім у будучым прыдзецца прысці на вытворчасць у якасці рабочых.

Другой формай сувязі школы з вытворчасцю з'яўляецца факультатыўнае прымацаванне вучняў да прадпрыемстваў, да пэўных станкоў, пэўных рабочых, якія рыхтуюць іх да здачы норм на атрыманне пэўнага вытворчага разраду. Такая работа практыкуецца ў нашай школе таксама ўжо на працягу трох год. Штогод 40—45 школьнікаў працуюць на розных прадпрыемствах. Пераважная большасць з іх паспяхова здае экзамены на прысваенне ім пэўнага разраду. У мінулым годзе на выпускным вечары мы ўручалі многім выпускнікам разам з атэстатам сталасці пасведчанні аб прысваенні вытворчых разрадаў.

Усе гэтыя формы працоўнага выхавання і навучання зусім прыймальныя для будучай васьмігадовай школы. Іменна такім шляхам мы зможам паспяхова выканаць адну з асноўных задач, якія стаяць цяпер перад школай, — рыхта-

ваць дзяцей да самастойнага працоўнага жыцця.

Адначасова з гэтым неабходна вырашыць і другое пытанне: як пабудаваць вучэбную праграму па агульнаадукацыйных прадметах, каб яна была свабодная ад непатрэбных дэталей, не прыводзіла да перагрузкі вучняў і ў той жа час давала ўсе неабходныя вучням веды. Памеры гэтага артыкула не дазваляюць нам падрабязна прааналізаваць існуючыя праграмы і выказаць свае прапановы, як іх трэба змяніць. Мы ўпэўнены, што Акадэмія педагагічных навук складзе такія праграмы, памятаючы аб тым, што яны павінны садзейнічаць выкананню школай асноўнай задачы — падрыхтоўцы дзяцей да самастойнага працоўнага жыцця, выхаванню свядомых будаўнікоў камунізма.

У апошні час выказваецца часта думка, што работа ў школе павінна быць пабудавана такім чынам, каб урок засвойваўся вучнямі ў класе ў часе заняткаў. Некаторыя таварышы гатовыя зусім адмовіцца ад заданняў на дом. Калі мы станем на такі пункт погляду, дык мы значна звузім свае магчымасці выхаваць усебакова развітых людзей. Думаецца, што зусім адмовіцца ад дамашніх заданняў нельга. Тое, што новы матэрыял павінен быць у асноўным засвоен вучнямі на ўроку, з'яўляецца ісцінай. Мы не маем права перакладаць цяжкасці па авалоданню складанымі ведамі на саміх дзяцей, у іх дамашнія ўмовы. Аднак пры добра пастаўленым працэсе навучання ў класе, настаўнік заўсёды павінен даць невялікае па аб'ёму дамашняе заданне, выкананне якога садзейнічае замацаванню вывучанага. Гэта неабходна ўлічыць пры складанні праграмы будучай васьмігадовай школы.

З задавальненнем можна адзначыць, што ў апошні час многае робіцца для паляпшэння ў школах фізічнага і эстэтычнага выхавання. Уведзены дадатковыя факультатыўныя гадзіны на выкладанне гэтых прадметаў. Аднак гэта яшчэ толькі першы крок. Фізічнай культуры ў школе, на нашу думку, трэба адвесці 3—4 гадзіны на тыдні. Выкладанне спеваў павінна весціся ва ўсіх класах школы. Пажадана шырэй паставіць навучанне музыцы. Тут можна было б выказаць цэлы шэраг канкрэтных прапаноў. Але гэта ўжо тэма асобнай размовы.

І яшчэ адно пажаданне. Пажадана, каб будучая праграма васьмігодкі не дапускала перагрузак. На працягу шасці ўрокаў дзеці стамляюцца настолькі, што ніякай выхаваўчай работы з імі ў гэты дзень правесці нельга. Таму мэтазгодна, каб у старэйшых класах два разы на тыдні было па пяць урокаў.

Скончыўшы васьмігадовую школу, вучань зможа пайсці на прадпрыемства або ў калгас і далей працягваць вучобу ў школе рабочай моладзі або паступіць у тэхнікум, школу тыпу ФЗН ці сельскагаспадарчага навучання. Хочацца выказаць надзею, што школы ўсіх гэтых тыпаў будуць даваць закончаную сярэднюю асвету, а не толькі спецыяльныя веды. Безумоўна, усе гэтыя школы павінны рыхтаваць юнака або дзяўчыну да ўдзелу ў практычнай дзейнасці. І гэта будзе выгадна адрозніваць сярэднія школы будучага ад тых, якія мы маем цяпер.

Думкі і прапановы, выказаныя М. С. Хрушчовым і апублікаваныя Цэнтральным Камітэтам КПСС, адпавядаюць спадзяванням савецкага народа. І мы ўсе чакаем, што Акадэмія педагагічных навук і міністэрствы асветы саюзных рэспублік у бліжэйшы час распрацуюць канкрэтныя мерапрыемствы па перабудове школ, кіруючыся гэтымі партыйнымі ўказаннямі і ўлічваючы выказванні прадстаўнікоў грамадскасці і работнікаў народнай асветы.

Цяпер, у эпоху станаўлення камуністычнага грамадства, у эпоху небывалага росквіту навукі ў нашай краіне, у эпоху запуску ў космас спадарожнікаў Зямлі, у нас ёсць усе магчымасці найбольш разумна вырашыць складаную праблему перабудовы сістэмы народнай асветы.



# Знаходзіць той, хто ўпарта шукае

Пытанне працоўнага выхавання моладзі, узнятае ў артыкуле *«Твая сцежка»*, надрукаваным у жнівеньскім нумары часопіса «Маладосць», вельмі важнае і надзённае. Яно хвалюе ўсю нашу грамадскасць. У сувязі з гэтым і мне хочацца расказаць адну невялічкую гісторыю, якая, на мой погляд, будзе павучальнай *для тых, хто шукае сваю сцежку ў жыцці.*

...Калі Васіль заканчваў дзесяцігодку, яго маці Зосю Міхайлаўну займала адна думка: як уладкаваць яго ў інстытут.

— Не буду я ў гэтым годзе паступаць у інстытут. Вось папрацую гады два, а тады...

Маці не давала сыну гаварыць, *перабівала яго і зноў даводзіла* сваё. Але ўсё дарэмна: Васіль стаяў на сваім. Тады Зося Міхайлаўна пайшла ў школу, да класнага кіраўніка.

Юзэфа Міхайлаўна — стары, спрактыкаваны педагог. Урокі хіміі, якія яна вяла, былі для дзяцей сапраўдным святам. Якія толькі цуды *можа тварыць* хімія! І многія вучні марылі прысвяціць сябе гэтай цікавай навуцы.

Настаўніца ветліва сустрэла Васілёву маці.

— Дапамажыце ўцяміць сыну,— прасіла Зося Міхайлаўна.

*Настаўніца разумела* маці, яе хваляванне за лёс сына. Але ж справядлівасць тут — на сынавым баку.

— А па-мойму, Зося Міхайлаўна, Васіль праў. Сапраўдны спецыяліст з яго атрымаецца толькі тады, калі ён сам адчуе сваё прызванне ў жыцці, знойдзе *справу па душы.*

Ад гэтых слоў Зося Міхайлаўна прыйшла ў роспач: *і тут яе не зразумелі.*

— Дзе ж у нас, у Баранавічах, знойдзеш такую справу? Хіба ў грузчыкі падацца, — з'едліва сказала яна.

— А хаця б і ў грузчыкі. Гэта ж *таксама праца. Разумееце, праца!*

Але так і не змагла старая настаўніца пераканаць жанчыну. *Пайшла* тая ад яе са сваім меркаваннем: «Усе супраць мяне. Ну і няхай. Больш умешвацца не буду. Вырасце, тады зразумее, што праўда была на маім баку».

І Зося Міхайлаўна пакінула сына, дала яму магчымасць усё вырашыць самому.

Хутка ішоў час. Скончыўшы дзесяцігодку, дзевятнаццацігадовы Васіль пайшоў служыць у Савецкую Армію. Дэмабілізаваўся ў 1956 годзе. Маці была рада яго звароту.

— Адпачнеш крыху і возьмешся рыхтавацца ў інстытут, — пачала яна даўнюю гаворку.

Бацька ж Васіля, стары чыгуначнік, усміхнуўшыся, сказаў:

— А можа да нас, на чыгунку?

Васілёў бацька працаваў аглядчыкам вагонаў станцыі Баранавічы-Цэнтральная і часта з захапленнем расказваў сыну аб чыгунцы, а часамі браў яго з сабою на работу. Васілю падабалася праца чыгуначнікаў — гэтае вечнае кіпучае жыццё, якое не спыняецца ні ўночы, ні днём. «Крываносная сістэма краіны, без яе не можа быць жыцця», — любіў гаварыць бацька.

— А куды, тата, мне ўладкавацца?

— Там пабачым...

У наступны дзень Васіль з бацькам накіраваліся *на* станцыю. *Галоўны* інжынер Андрэеў доўга гутарыў з хлопцам.

— Пачнеш са спісчыка. А там будзе ўсё залежаць ад цябе.

Тэхнічная кантора сустрэла Васіля *мітусліва: адна дзяўчына ляскала на лічыльніках,* другая ёй нешта дыктавала з паперкі, яшчэ дзве аб нечым гучна размаўлялі і весела смяяліся. Толькі хлопец сядзеў у канторы маўклівы і задуменны.

Чырвань *заліла* твар Васілю ад дзявочых позіркаў, якія з цікаваннем скрыжаваліся на ім. «Трапіў у жаночае царства», — мільганула думка.

— Добры дзень! — сабраўшыся з духам, вымавіў ён.

— Добры дзень! Старшы тэхнік Саракваш Яўген, — адрэкамендаваўся адзіны ў канторы хлапец.

— Русак Васіль. Прызначаны да вас спісчыкам.

Так адбылося яго знаёмства.

На першым часе Васіля ахапіла горкае расчараванне. Работа здалася яму аднастайнай і нецікавай: спісвай нумары вагонаў — і ўсё.

З бацькам дзяжурылі ў адной змене, дамоў вярталіся разам.

— Ведаеш, тата, я, мабыць, пакіну

гэтую работу, — пачаў аднойчы Васіль.

— Чаму? — бацька здзіўлена ўскінуў бровы.

— Не мужчынская гэта работа! Спісчык! Сорамна сябрам прызнацца, — з ноткамі крыўды ў голасе гаварыў юнак.

— Бач ты, сорамна! Сумленна працаваць сорамна! Гэтак ты хутка і роднага бацькі саромецца будзеш.

— Ды не, тата...

— А як жа: бацька — нейкі зашмальцаваны вагоннік! Эх ты! А яшчэ камсамолец...

У Васіля голас задрыжаў.

— Ды ты не так зразумеў мяне...

Да дому ішлі моўчкі. Васіль адчуваў сваю віну перад бацькам. І сэрца яго ўсё больш напаўнялася адным імкненнем: даказаць, што ён зусім не такі, як аб ім падумаў бацька.

Пасля гэтага Васіль пачаў працаваць больш старанна. Неўзабаве настойлівага юнака заўважылі і прызначылі тэхнічным канторшчыкам. А потым — апаратарам.

— Ужо набыў тры прафесіі, — усміхаючыся, гаварыў Васіль Русак.

1957 год быў для яго знамянальным: яго паслалі на курсы дзяжурных па станцыі ў Баранавіцкую дарожна-тэхнічную школу і ён паступіў завочна на эксплуатацыйны факультэт Усесаюзнага інстытута інжынераў чыгуначнага транспарту.

...Па вечарах да поўначы свеціцца вокны ў невялікім доміку па вуліцы Горкага, 39. Над кнігамі сядзіць хударлявы хлапец. Чорныя пасмы валасоў непаслухмяна спаўзаюць яму на лоб, і ён нецярпліва адкідвае іх.

— Васіль, сынок. Позна ўжо, кладзіся.

Вочы Зосі Міхайлаўны свецяцца мяккай цеплынёй. Сэрца яе напаўняецца гордасцю за сына: вось які ён упарты! Гэткаму ўсё па плячы.

**М. ШУСТАЎ,**
**інжынер.**

## Жыццё падказвае

Само жыццё падказвае, што роля працоўнага выхавання моладзі ўзрастае з кожным днём. Добра, што «Маладосць» на сваіх старонках пачала аб гэтым гаворку. Мне, як настаўніку, таксама хочацца выказаць свае меркаванні.

Настаўніцкі калектыў нашай школы зрабіў шмат для паляпшэння працоўнага выхавання школьнікаў. Гаворачы аб працоўным выхаванні дзяцей, у першую чаргу маюць на ўвазе арганізацыю і работу політэхнічных гурткоў, практычныя заняткі ў майстэрнях, школьных лабараторыях. Гэта, бясспрэчна, так, але гэтым яшчэ не вычэрпваецца ўся шматгранная сістэма выхавання школьнікаў у працы, як справядліва адзначыў у сваёй запісцы ў Прэзідыум ЦК КПСС М. С. Хрушчоў.

Мне здаецца, у кожнай малой ці вялікай па колькасці вучняў школе павінна ўжо завесці такі парадак: вучні павінны рабіць усё, што яны могуць, самі. Чым дрэнна, калі вучні-старшакласнікі самі будуць абсталёўваць для сябе школьную майстэрню, спартыўную залу, клуб, праводзіць рамонт школьнага памяшкання?

У нашай школе, напрыклад, склалася добрая традыцыя — сваімі рукамі вучні абсталёўваюць усё неабходнае для вучэбных мэт. Сіламі вучняў пад кіраўніцтвам настаўнікаў за тры апошнія гады пабудавана адна з лепшых у раёне спартыўная пляцоўка, школьны цір, геаграфічная і біялагічная пляцоўкі, зроблены рамкі для школьных газет, партрэтаў, вітрын. Вучні вырошчваюць курэй, трусоў, робяць усе работы на прышкольным доследным участку. А колькі папрацавалі нашы мінулагоднія дзесяцікласнікі на будаўніцтве новага школьнага памяшкання! Толькі ў мінулым годзе школьнікі нарыхтавалі і вывезлі на будаўнічую пляцоўку 350 кубаметраў лесаматэрыялу. Удзельнічалі старшакласнікі і ў падвозцы для будоўлі пяску, цэменту, камення, гліны, цэглы.

Кожны год у нашай школе восенню праводзіцца свята ўраджаю, на якім перадавікам працы ўручаюцца прэміі.

На маю думку, варты ўвагі і такі звычай, устаноўлены ў нашай школе. Ад'язджаючы на канікулы, кожны вучань атрымлівае ад камітэта камсамола або піянерскай дружыны пуцёўку, у якой даецца заданне на лета. У пуцёўках указана: колькі выпрацаваць у родным калгасе працадзён, сабраць металалому, макулатуры і гэтак далей. І трэба адзначыць, што амаль усе вучні з поспехам выконваюць заданні.



Многае ў паляпшэнні працоўнага выхавання дзяцей залежыць ад школьных падручнікаў.

Некалькі слоў аб практычных занятках у сельскіх школах. Час ужо, каб, пачынаючы з пятага класа, на ўроках практыкума ўводзілася раздзельнае навучанне для хлопчыкаў і дзяўчынак. Пажадана, каб дзяўчынкі займаліся хаця б самымі элементарнымі пытаннямі дамаводства, кройкі, шыцця, вышывання. Пакуль што аб гэтым многа размоў, але робіцца мала.

Хочацца выказаць прэтэнзіі і да праўленняў калгасаў, якія яшчэ недастаткова дапамагаюць школам выхоўваць дзяцей.

Пытанне працоўнага выхавання сельскай моладзі паспяхова можна вырашыць толькі пры шырокай падтрымцы ўсёй грамадскасці, у першую чаргу праўленняў калгасаў.

І яшчэ. Пара і ў самой школе бачыць не толькі вучня, які добра вучыцца, але і тых, хто добрасумленна працуе. Нярэдка бываюць у школах такія выпадкі, калі на «Дошцы гонару» школы змешчаны фотаздымкі выдатнікаў вучобы, якія за лета не выпрацавалі ні аднаго працадня. Такіх выпадкаў не павінна быць.

**І. РАБКОЎ,**
**настаўнік Абчугскай сярэдняй школы Крупскага раёна.**

---

**Хв. ЖЫЧКА**

## ДАЙ РУКУ, ТАВАРЫШ!

Не па ўзросту сур'ёзным быў Мікалай Сакалоўскі. Кожную раніцу ён акуратна прыходзіў на калгасны двор, моўчкі згаджаўся на нарад брыгадзіра, моўчкі запрагаў каня і ехаў на поле. Ніхто не бачыў на твары шаснаццацігадовага хлопца ўсмешкі, ніхто не чуў яго голасу. Калі да яго звярталіся з якой-небудзь прапановай, ён панура адказваў:

— Угу... Добра...

А працаваў Мікалай ахвотна, сумленна. Стараўся зарабіць больш працадзён, бо жыў адзін. Ён не памятае бацькі, які загінуў у час вайны, калі Мікалаю не было і двух гадоў. Пазней пакінула яго і маці: паехала ў горад. Застаўся Мікалай адзін. Трэба было неяк жыць. Мікалай перастаў хадзіць у школу і пачаў працаваць у родным калгасе імя Дзяржынскага.

Гэтага панурага падлетка і паслаў аднойчы брыгадзір у памочнікі члену камітэта камсамола Міхаілу Шайко, які ехаў у лес нарыхтоўваць жэрдкі. Як ні стараўся Міхаіл па дарозе завязаць гаворку з Мікалаем, яму гэта не ўдалося. Санліва разваліўшыся на возе, той толькі коратка кідаў:

— Угу... ага...

Затое ў рабоце Мікалай ажыў. Спрытнымі ўдарамі сякеры ён ссякаў стромкія дрэўцы, абчышчаў сучча і цягнуў на калёсы. Міхаіл дзівіўся спрыту свайго напарніка і рашыў бліжэй пазнаёміцца з ім.

— Ты чаму гэту сасёнку пакінуў? — нарэшце знайшоў ён прычыну для размовы.

— Пашкадаваў, — скупа ўсміхнуўся той.— Паглядзі, на ёй нейкая птушка звіла гняздзечка. Можа ўжо і птушаняты выveліся...

Такой жаласлівасці Міхаіл не чакаў ад гэтага маўклівага хлопца. І толькі пасля, як разгаварыліся, зразумеў Мікалая. Гэта ж і ён жыве, як адзінокае птушаня, без бацькоў і сяброў. Трэба самому і хлеб зарабіць, і вопратку дагледзець, і хату ў парадак прывесці — «працякае ўжо страха і вушакі паабгнівалі».

— Наняць бы цесляра, а грошай няма. Некалі маці казала, што за бацьку можна атрымаць пенсію... Але як яе дабіцца, хіба ж я ведаю...— безнадзейна махнуў ён рукой.

Расказ Мікалая моцна ўразіў камсамольца. Вечарам Міхаіл зайшоў да Мікалая і сваімі вачыма ўбачыў тое, аб чым чуў у лесе: аплыватую хату, запушчаны дворык.

— Ведаеш што?— рашуча сказаў ён.—

Давай заўтра сходзім разам у Ружаны, даведаемся наконт пенсіі.

— Думаеш, дадуць?— махнуў рукой Мікалай.— Не веру я, столькі гадоў прайшло.

Нямала раённых устаноў абхадзілі яны. І ўсё ж даведаліся: сапраўды, пенсію можна атрымаць, толькі патрэбны некаторыя даведкі.

Члены камітэта камсамола, якім Міхаіл расказаў аб лёсе Мікалая, узяліся дапамагчы яму. Хадзілі ў сельсавет, ездзілі з ім у Ружаны, а свайго дабіліся. Мікалай Сакалоўскі стаў атрымліваць пенсію, паправіў гаспадарку, паступіў у вячэрнюю школу. І як рады былі ўсе, калі ён прынёс у камітэт заяву: «Прашу прыняць мяне ў камсамол».

— Вы — сапраўдныя сябры, хачу быць з вамі, — шчыра сказаў ён.

— Малайчына, Мікалай. Дай тваю руку,— працягнуў юнаку сваю мазолістую далонь Міхаіл Шайко.

Які вялікі сэнс у гэтых простых словах, колькі цеплыні ў іх! Ці заўсёды ты, камсамолец, працягваеш сваю руку сябру, які трапіў у бяду? Ці заўсёды звяртаецца да цябе за дапамогай тварыш?

Нажаль, не кожны можа станоўча адказаць на гэтае пытанне.

Пасля заканчэння бухгалтарскіх курсаў вярнулася ў свой родны калгас імя Фрунзе Буда-Кашалёўскага раёна Марыя Сёмчанка. Прафесію рахункавода дзяўчына выбрала не па прызванню, а таму, што яна «лёгкая, не маркая». І, вядома, у калгасе Марыю чакала расчараванне. Пасада ўчотчыка, на якую яе прызначылі, аказалася зусім не з лёгкіх. Трэба было рана ўставаць, быць на ферме, весці ўлік кармоў і надою малака. Карацей кажучы, трэба было працаваць. А гэта злавала Марыю. Яна пачала грубіяніць калгаснікам. Законныя патрабаванні старшыні і бухгалтара ёй здаваліся «прыдзіркамі». Усяго дваццаць дзён утрымалася Марыя на працы і яе... вызвалілі, сказаўшы:

— Не на сваім ты месцы.

Які ж вывад зрабіла Марыя з такога няўдалага пачатку самастойнага шляху? Толькі адзін— яе «затравілі», бо ў калгасе «ўсе жулікі, эгаісты».

«Дапамажыце знайсці справядлівасць»,— звярнулася Марыя... Не, не да сяброў-камсамольцаў. Пісала яна спачатку ў раён, затым у вобласць. Па яе пісьмах сталі прыязджаць у калгас прадстаўнікі розных устаноў, партыйных і камсамольскіх органаў, рэдакцый газет. Гэта спадабалася дзяўчыне, і яна вышуквала ўсё больш і больш «грахоў» у кіраўнікоў калгаса, пісала ва ўсе вышэйшыя ўстановы. І не заўважыла, як апусцілася да самага агіднага — да паклёпу... А потым ёй прышлося ганебна ўцякаць з роднай вёскі.

Вядома, у сваёй ганьбе ў першую чаргу вінавата сама Марыя: яе маладушны характар не вытрымаў жыццёвага выпрабавання. Вось тут і патрэбны былі надзейныя рукі сяброў. А іх, сяброў, у Марыі не было.

Таварышы, якія некалі разам з Марыяй хадзілі ў школу, расказваюць пра яе:

— Прыехала і на камсамольскі ўлік не захацела станавіцца. Модніца такая... Куды ёй з намі, простымі калгаснікамі, дружыць... Сяброў, калектыву не прызнае, не паважае...

Папрокі, безумоўна, правільныя, зусім слушныя. Але што са свайго боку зрабіў калектыў, сябры, каб не даць дзяўчыне ступіць на няправільны шлях? Нічога. А хіба ж калектыву дадзена толькі права асуджаць чалавека пасля таго, як ён дапусціў дрэнны ўчынак? Ці ж у калектыва нехапіла б сілы папярэдзіць гэты ўчынак?..

Але бывае так, што ўнутры самога калектыву няправільна складваюцца адносіны паміж яго членамі. Вось што расказвае ў сваім пісьме малады будаўнік Леанід Конышь:

«На ўчастак прышоў я з вёскі падлеткам. Да гэтага ў горадзе ніколі не быў і не ведаў самых простых правіл: як трымаць сябе ў тэатры, з якой пляцоўкі заходзіць у трамвай ці тралейбус.

І ў інтэрнаце, і на будаўнічай пляцоўцы мая нявопытнасць была прычынай да розных жартаў. Некаторым «жартаўнікам» смешна было падсунуць мне няспраўны электрычны прас, каб мяне «стукнула» токам, ці замазаць цэментным растворам бутэльку з малаком, якую браў я на полудзень. Праходзілі дні і месяцы, а «жартам» гэтым канца не было. Спачатку я хацеў палмірыцца з хлопцамі, нават запрашаў больш актыўных (у тым ліку і сакратара камсамольскай арганізацыі Васіля Савельева) пасля палучкі на «сто грамаў». Але і ў рэстаране яны знаходзілі повад для сваіх жартаў. Я зразумеў, што кашы з імі не зварыш, і пачаў трымацца ад усіх далей. Хутка я авалодаў прафесіяй тынкоўшчыка, стаў перавыконваць нормы. Праз год мяне прызначылі брыгадзірам.

Цяпер у мяне стала многа «сяброў». Тыя ж хлопцы, што раней так кпілі з мяне, пачалі запрашаць «на сто грамаў», наперабой частавалі папяросамі. А мне такія сябры не трэба. «Чаму тады, калі я так шукаў іхняй падтрымкі, ніхто не адгукнуўся?—думаў я. — Значыць, яны паважаюць пасаду, а не чалавека». «Не, не такіх сяброў я хачу мець у жыцці»,— падумаў я і перайшоў працаваць на другі ўчастак. Тут я знайшоў сапраўдных сяброў.



Нядаўна сустрэў мяне Васіль Савельеў і папракнуў:

— Ты не паважаў наш калектыў, таму і збег з участка, як баязлівец, які пабаяўся цяжкасцей.

Дарагая рэдакцыя! Я не згодзен з Васілём. Хіба ж можна было назваць сапраўднымі таварышамі тых, каго я пакінуў? І ці сапраўды я паступіў, як баязлівец, перайшоўшы на другі ўчастак?»

Леанід! Ты закрануў вельмі важнае пытанне. І мы хочам, каб на яго адказалі табе нашы чытачы.

Дарагія таварышы! Давайце шчыра пагаворым пра тое, як там, дзе вы працуеце ці вучыцеся, члены вашага калектыву клапоцяцца пра сваіх сяброў, выхоўваюць пачуццё дружбы і таварыскасці.

Чакаем вашых пісьмаў, сябры!

## У свеце мастацтва



Беларускія пісьменнікі ў Літве.

# НЕЗАБЫЎНЫЯ СУСТРЭЧЫ

У маі месяцы гэтага года, ад'язджаючы з Беларусі пасля заканчэння Тыдня літоўскай літаратуры, літоўскі пісьменнік А. Венцлова гаварыў:

— Мы не развітваемся з беларускімі пісьменнікамі, а, расстаючыся, гаворым: да сустрэчы ў Літве, браты-беларусы!

І вось 19 верасня праз 4 месяцы пасля наведвання Беларусі літоўцамі, нашы пісьменнікі — П. Броўка, М. Васілёк, А. Вялюгін, П. Глебка, С. Грахоўскі, А. Зарыцкі, А. Звонак, М. Калачынскі, К. Кірэенка, Ул. Корбан, П. Макаль, П. Прыходзька, Н. Тарас, М. Танк, Т. Хадкевіч — сустракаюцца са сваімі літоўскімі сябрамі ўжо ў Літве.

Максім Танк падпісвае аўтограф.



На шашы Мінск — Вільнюс, дзе сыходзяцца землі дзвюх саюзных рэспублік, на пагранічных слупах, упрыгожаных вянкамі і кветкамі, красуецца чырвонае палотнішча з надпісам на беларускай мове: «Палкае прывітанне братам-беларусам!» Тут сабраліся літоўскія пісьменнікі А. Венцлова, Т. Тэльвіціс, Э. Межалайціс, М. Слуцкіс, В. Рэймерыс і іншыя. Гасцей з Беларусі сустракалі міністр культуры Літоўскай ССР І. Банайціс, старшыня Вільнюскага гарвыканкома тав. Вільджунас, сакратар Вільнюскага гаркома партыі тав. Грышкявічус.

Вось падыходзяць машыны, у якіх прыехалі беларускія пісьменнікі... Моцныя поціскі рук, шчырыя абдымкі і пацалункі... Раздаюцца гукі літоўскага марша, які выконвае ансамбль вільнюскага педінстытута на нацыянальных інструментах. Госці праходзяць паўз рады дзяўчат і юнакоў у нацыянальных касцюмах. Яны трымаюць над галовамі шырокія нацыя-



нальныя паясы. Гэтымі паясамі яны падпяразваюць гасцей.

... Ва ўрачыстай цішыні пранікнёна гучаць прывітальныя словы старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Літвы А. Венцлова:

— Мы былі ў вас, калі цвілі сады. Вы прыехалі да нас, калі засекі напаўняюцца зернем. Нягледзячы на тое, што сонца ўжо не такое цёплае, мы спадзяемся, што настрой будзе светлым і восень не астудзіць цеплыні нашых сустрэч. Шчыра запрашаем вас, дарагія госці!

І сапраўды, усе наступныя сустрэчы беларускіх пісьменнікаў з літоўскімі сябрамі былі раднаснымі і непаўторнымі.

Горача вітаў пасланцоў беларускага народа старажытны Вільнюс — сталіца Літвы. Глядзельная зала Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра драмы, дзе адбылося адкрыццё Тыдня, не змагла змясціць усіх, хто жадаў трапіць на вечар. Месцы ў прэзідыуме займаюць першы сакратар ЦК КП Літвы Снечкус, старшыня Савета Міністраў Літоўскай ССР Шумаўскас, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Літоўскай ССР Палецкіс, пісьменнікі Літвы і Беларусі, прадстаўнікі грамадскасці горада.

Беларускія паэты прачыталі на вечары свае вершы, прысвечаныя дружбе народаў. Іх выступленні сустракаліся гарачымі апладысментамі.

Пасля двух дзён знаходжання ў Вільнюсе беларускія госці разам з літоўскімі пісьменнікамі зрабілі на машынах падарожжа па Літве.

Гэтае падарожжа — сапраўды незабыўнае.

Яшчэ за 25 кіламетраў ад горада Каунаса легкавыя машыны, на якіх ехалі пісьменнікі, сустрэлі матацыклісты з флагамі СССР, Літвы і Беларусі. Пры ўездзе ў горад па нацыянальнаму звычаю гасцей сустракае «дазор» коннікаў у нацыянальным адзенні і суправаджае машыны да Даліны песень — традыцыйнага месца святаў. Тут адбываецца кароткі мітынг. З прывітаннем выступіў старшыня гарвыканкома тав. Пілігрымас. Потым самы малады ўдзельнік Тыдня Пятрусь Макаль і маладая літоўская паэтэса Вілія Шульцайтэ падымаюцца на гару, каб запаліць касцёр дружбы. Яны праходзяць паміж двума радамі юнакоў і дзяўчат, якія трымаюць у выцягнутых руках нацыянальныя паясы. Пад гучныя воплескі вялізнага натоўпу ў неба ўзлятае магутнае полымя кастра.



**Сустрэча беларускіх пісьменнікаў Анатоля Вялюгіна, Петруся Броўкі, Петруся Макаля і Кастуся Кірэенкі са студэнтамі ўніверсітэта.**

Госці накіроўваюцца ў горад. Літоўскія і беларускія пісьменнікі ўсклалі букеты кветак на магілу Саламеі Нерыс і чатырох літоўскіх камуністаў. Вечарам адбылася сустрэча з чытачамі горада.

Па дарозе ў Клайпеду пісьменнікі заехалі ў Вільнію — на радзіму Петраса Цвіркі. Тут у сярэдняй школе ён вучыўся тры гады. Затым паглядзелі, як жывуць хлебаробы калгаса «Нямунас».

Цёпла сустракалі ўдзельнікаў Тыдня беларускай літаратуры і рыбакі Клайпеды, дзе адбыўся вялікі літаратурны вечар. У Палангзе госці любаваліся янтарнай Балтыкай, выязджалі на кацерах у непаўторную Ніцу, размешчаную на Куршскай касе.

На ўсім шляху можна было бачыць лозунгі на беларускай мове: «Шчырае прывітанне братам-беларусам!», «Няхай жыве дружба паміж народамі!»

Чытачы Літоўскай рэспублікі шырока азнаёміліся з творамі беларускіх пісьменнікаў. На літоўскай мове выйшлі паэтычныя зборнікі «З беларускай паэзіі» і «Плыве па Нёману песня». Выдадзена таксама аповесць Я. Брыля «У Забалоцці днее», зборнік вершаў, паэм і п'ес Я. Коласа, зборнік апавяданняў З. Бядулі «Сярэбраная табакерка», раман І. Шамякіна «Крыніцы».

Тыдзень беларускай літаратуры ў Літве — важная падзея ў культурным жыцці дзвюх суседніх рэспублік. Ён яшчэ больш умацуе дружбу паміж нашымі народамі.

**Зм. МАРЧАНКА.**

# „Мазоўша“ ў Мінску



Танцавальная група ансамбля.

Фота Ул. Крука.

Усяго два дні гасціў у нашай сталіцы польскі ансамбль песні і танца «Мазоўша». Але за гэты кароткі час мінчане паспелі палюбіць цудоўных польскіх артыстаў, іх дзівоснае нацыянальнае мастацтва.

У песнях, музычных кампазіцыях і танцах, з якіх складаецца праграма ансамбля, знайшлі сваё яркае мастацкае адлюстраванне маляўнічыя карціны жыцця народа, яго побыту і традыцыйных звычак. Кожны нумар праграмы вызначаўся хараством зместу і непаўторнасцю каларыту. Гледачоў здзіўляла выключная зладжанасць ансамбля, дасціпнасць і прыгажосць рухаў кожнага выканаўцы. Вельмі прыемна, што ў праграме канцэртаў польскіх артыстаў, побач з песнямі і танцамі, якія ўжо з незапомных часоў жывуць і бытуюць у народзе, шырока прадстаўлены творы, народжаныя ў нашы дні. Такая, напрыклад, песня «Любімая краіна», у якой славіцца новае, свабоднае жыццё працоўных Народнай Польшчы.

Вельмі цяжка што-небудзь вылучыць у праграме ансамбля: кожны нумар быў па-свойму цікавы. Гледачам спадабалася поўная агню і тэмпераменту гуцульская «Полька-трэмблянка» і дынамічны апачынскі абэрак з прыпеўкамі, і пранікнёная, задушэўная песня «Над борам», і дасціпны музычны жарт «Цыт, цыт», і многае іншае.

Мінчане ад усяго сэрца апладыравалі самабытнаму і яркаму мастацтву польскіх сяброў.

**Н. ГАЛУШКА.**



Хор ансамбля.



# Беларускі аркестр на Украіне

З вялікім поспехам прайшлі на Украіне гастролі Дзяржаўнага народнага аркестра БССР.

Беларускія музыканты выступалі перад украінскімі сябрамі з вялікай і разнастайнай праграмай. Горача прымалі слухачы славутую народную «Лявоніху» і «Беларускую польку» Чуркіна, меладычны канцэрт Будашкіна і магутную ўверцюру Бетховена да трагедыі Гётэ «Эгмант».

Украінскі друк высока ацаніў выканаўчае майстэрства беларускіх музыкантаў. Вось што пісала газета «Сацыялістычная Харкаўшчына»: «Радасна, што на народных інструментах аркестр выконвае не толькі народныя мелодыі, а і складаныя творы сучаснай і класічнай музыкі. Вельмі тонка прагучалі ў аркестры і народныя беларускія песні «Купаленька» і «Перапёлачка», і вялізныя музычныя творы «Багатырскія вароты» Мусаргскага, і сімфаньета «Беларускія карцінкі» Чуркіна, і ўверцюра да оперы «Шаўковая лесвіца» Расіні.

Беларускі аркестр выступіў з канцэртамі ў Кіеве, Харкаве, у шматлікіх гарадах і рабочых пасёлках Данбаса.

**М. РУБІНШТЭЙН.**

# У новым сезоне

Спектаклем «Грозны год» па п'есе А. Каплера пачаў свой новы сезон Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. Калектыў тэатра напружана працуе зараз над стварэннем новых спектакляў, прысвечаных саракагоддзю рэспублікі.

У дні слаўных свят беларускі глядач на сцэне гэтага тэатра ўбачыць спектакль «Трэцяя патэтычная» па п'есе М. Пагодзіна, якая з'яўляецца заключным творам драматычнай трылогіі аб рэвалюцыйным мінулым нашай краіны і першых днях станаўлення савецкай улады. Дзве першыя п'есы М. Пагодзіна «Чалавек з ружжом» і «Крамлёўскія куранты» з поспехам пастаўлены тэатрам. Асабліва запомніўся гледачу вобраз У. І. Леніна ў выкананні народнага артыста СССР П. Малчанава. У «Трэцяй патэтычнай» у вобразе Ільіча выступіць народны артыст СССР Б. Платонаў. Ён пачаў ужо работу над гэтым складаным і адказным вобразам.

У гэтым спектаклі будуць заняты таксама артысты І. Ждановіч, Ул. Дзядзюшка, Л. Рахленка, І. Шаціла, Т. Аляксеева, В. Тарасаў і іншыя.

У рэпертуары тэатра адведзена вялікае месца беларускім аўтарам. У кастрычніку мінскі глядач пазнаёміўся з новай п'есай К. Крапівы «Людзі і д'яблы», якая прысвечана барацьбе беларускага народа з фашысцкімі захопнікамі. У спектаклі, рэжысёр якога К. Саннікаў, побач са старэйшымі майстрамі, будуць занятыя маладыя артысты Б. Уладамірскі, Т. Аляксеева, В. Тарасаў, А. Фурманава.

Вялікую творчую работу калектыў тэатра імя Я. Купалы правёў з пісьменнікам І. Мележам, у выніку чаго з'явілася п'еса «Дні нашага нараджэння», якая апавядае аб днях нараджэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Гэты спектакль будзе падрыхтаваны галоўным рэжысёрам тэатра заслужаным дзеячом РСФСР Е. Праставым да 40-й гадавіны БССР.

* * *

Нядаўна маладыя гледачы Мінска пазнаёміліся з новым сцэнічным творам В. Розава «У пошуках радасці». Гэтым спектаклем пачаў свой трэці тэатральны сезон Рэспубліканскі тэатр юнага гледача.

У верасні ў тэатры адбылася другая прэм'ера — спектакль «Не верце цішыні!». Гэта першая драматургічная спроба пісьменніка І. Шамякіна. П'еса апавядае аб высокіх маральных

якасцях, аб пільнасці і мужнасці савецкіх людзей.

Зараз калектыў тэатра вядзе дзейсную падрыхтоўку да слаўнага юбілею Беларускай рэспублікі. Пад кіраўніцтвам галоўнага рэжысёра тэатра, заслужанага дзеяча БССР Л. Мазалеўскай рыхтуецца да пастаноўкі новая п'еса-казка «За лясамі дрымучымі» маладых беларускіх драматургаў А. Вольскага і П. Макаля, якая створана на багатым матэрыяле беларускага фальклору.

Таксама ў гэтым годзе будзе пастаўлена п'еса «Сябры» маладых пісьменнікаў Ю. Багушэвіча і В. Зуба, прысвечаная дружбе карэйскіх і савецкіх дзяцей.

Новую цікавую п'есу аб барацьбе беларускага камсамола ў гады Айчыннай вайны на матэрыяле дзейнасці Гродзенскай і Скідзельскай камсамольскіх арганізацый прапанаваў тэатру малады драматург Я. Пасаў. П'еса абмеркавана мастацкім саветам і ўключана ў рэпертуарны план.

Прадаўжаецца творчая работа калектыву з драматургамі А. Вольскім і П. Макалём над стварэннем новай п'есы «Шляхі-дарогі».

Тэатр юнага гледача ў новым сезоне шырэй разгорне педагагічную працу са школьным гледачом, арганізуе рад творчых сустрэч з самадзейнымі драматычнымі калектывамі.

**С. ПЯТРОВІЧ.**

## Спорт

# Новыя разраднікі, новыя чэмпіёны

### Залатыя медалі чэмпіёнаў

Летні спартыўны сезон скончыўся. Для беларускіх спартсменаў і спартсменак ён быў надзвычай напружаным. Як ніколі, сёлета было праведзена столькі матчавых і таварыскіх сустрэч, разнастайных спаборніцтваў і гульняў, што бадай немагчыма было б пералічыць іх, нават калі б і паставіўся такой мэтай. Лепшыя беларускія майстры ўдзельнічалі ў шматлікіх міжнародных сустрэчах, ва ўсесаюзных спаборніцтвах, у спаборніцтвах на першынство рэспублікі. І прыемна адзначыць, што ў многіх цікавых і напружаных сустрэчах яны выдатна адстаялі спартыўны гонар Беларусі, заваявалі нямала прызавых месц. Лепшыя з лепшых у вострай барацьбе сталі ўладальнікамі новых залатых медаляў.

... Цяпер ужо не толькі мы, беларускія «балельшчыкі», добра ведаем імя маладой нашай зямлячкі Лізы Ермалаевай. Гэта тая самая, нічым асаблівым не прыкметная дзяўчына, якая ў мінулым годзе здзівіла масквічоў на ўсесаюзных спаборніцтвах, яна перамагла ў бегу такую вядомую спартсменку, як Ніна Аткаленка. Летась Ліза Ермалаева стала чэмпіёнкай СССР. А сёлета яна зноў пацвердзіла сваю перамогу. Ліза сёлета заваявала залаты медаль на дарожках Венсенскага лесу, у прадмесці французскай сталіцы. Тут праводзіўся традыцыйны крос на прыз «Юманітэ» — цэнтральнага органа французскай Камуністычнай партыі. Ліза бліскуча правяла бег на дыстанцыі 2 500 метраў з дзвюма перашкодамі, і ўпершыню беларуская спартсменка стала пераможцай кросу «Юманітэ». Потым удзельнічала ў шматлікіх спаборніцтвах у нашай краіне і ва ўсіх выходзіла пераможцай. Да яе спартыўных «трафеяў» прыбавіўся яшчэ не адзін залаты медаль. Сёлета Ліза Ермалаева стала чэмпіёнкай Еўропы. Гэта адбылося ў Стакгольме, на чэмпіянаце Еўропы па лёгкай атлетыцы.

... Масква. Традыцыйныя міжнародныя спаборніцтвы мацнейшых бегуноў на прыз братоў Знаменскіх. Два беларускіх лёгкаатлеты заваёўваюць тры залатыя медалі. Найбольшая ўдача выпала на долю рэкардсменкі свету Марыі Іткінай. Яна не мела сабе роўных у бегу на дыстанцыях 400 і 200 метраў. Дзве перамогі — дзве заслужаныя залатыя ўзнагароды!

Трэці залаты медаль у гэтых спаборніцтвах заваяваў наш выдатны скакун у вышыню з шастом Уладзімір Булатаў. У адзінаборстве з палякам Важным Уладзімір узяў вышыню 4 метры і 45 сантыметраў! Неўзабаве пасля гэтых напружаных спаборніцтваў Уладзімір Булатаў удзельнічаў у таварыскай сустрэчы з амерыканскімі спартсменамі і яшчэ раз прадэманстраваў сваё высокае майстэрства, узяўшы вышыню 4 метры 50 сантыметраў і перамогшы амерыканскага скакуна Морыса. Сёлета ж Уладзімір стаў і рэкардсменам СССР, узяўшы вышыню 4 метры 55 сантыметраў.

Не адстала ад свайго земляка і сяброўка па сустрэчы з амерыканскімі спартсменамі Марыя Іткіна. На агульнаеўрапейскім чэмпіянаце па лёгкай атлетыцы ў Стакгольме Марыя выйшла чэмпіёнкай Еўропы ў бегу на 400 метраў.

... Калі б некалькі год таму назад хто-небудзь сказаў, што чэмпіёнам свету будзе хто-небудзь з беларускіх барцоў, то наўрад ці паверылі б гэтаму. А вось сёлета беларускаму майстру спорту Алегу Караваеву ў Будапешце апладыравалі мацнейшыя барцы свету, і не толькі апладыравалі, а ў знак асаблівай пашаны ўзнагародзілі залатым медалем чэмпіёна. Ад першай перамогі над алімпійскім чэмпіёнам 1952 года венграм Імрэ Хадашам да апошняй сустрэчы Алег не ведаў сабе роўных. На першай мінуце другога круга спаборніцтваў ён паклаў на лапаткі вядомага барца-датчаніна Андэрсена, затым перамог астатніх «праціўнікаў» сваёй лягчэйшай вагі, і ўпершыню ў гісторыі чэмпіёнам свету стаў беларускі барэц.

... Выдатна змагаліся сёлета беларускія майстры-шпажысты. Яшчэ вясною ў сустрэчы з польскімі спартсменамі Арнольд Чарнушэвіч, Аляксандр Паўлоўскі і Ігар Смушкевіч прынеслі шмат «непрыемнасцей» адным з вопытных у Еўропе — спартсменам Польшчы. Тры падрад выйгрышы Арнольда, а затым два выйгрышы Аляксандра і два — Ігара хаця і не прынеслі перамогі беларускай камандзе, але звялі сустрэчу ўнічыю.

Крыху пазней на матчавай сустрэчы ў Маскве Арнольд Чарнушэвіч заняў першае месца сярод мацнейшых шпажыстаў, а Аляксандр — другое. Потым яны ездзілі за мяжу, у Лейпцыг. Тут на міжнародным турніры, які быў прысвечан славутаму Лейпцыгскаму кірмашу, Арнольд і Аляксандр заваявалі сваёй камандзе першае месца і залаты медаль.

Напэўна, самым бліскучым дасягненнем беларускіх шпажыстаў было заваяванне імі сёлета першынства ва ўсесаюзных спаборніцтвах. Арнольд Чарнушэвіч у гэтым адказным спаборніцтве з «сухім лікам» (5:0) перамог чэмпіёна СССР Цэракідзе. Выдатна выступілі і астатнія беларускія майстры ў гэтым відзе зброі. Яны сталі чэмпіёнамі краіны. А чэмпіёнаў, як вядома, узнагароджваюць не толькі бурнай авацыяй, але і залатымі медалямі.

... Іх многа — залатых узнагарод, заваяваных сёлета беларускімі спартсменамі.

### Новыя майстры спорту

Для гледача іншы раз можа здацца і нечаканасцю, калі які-небудзь невядомы дагэтуль спартсмен пакажа высокі клас сваёй падрыхтоўкі ці выканае высокую і ганаровую норму майстра спорту СССР. Але для тых, хто пастаянна імкнецца да гэтай вышыні, хто разлічвае кожны свой рух, гэта не з'яўляецца выпадковасцю. Настойліва трэніруючыся, спартсмен ставіць перад сабою мэту — стаць майстрам спорту, і ў адзін выдатны момант спрабуе свае сілы...

Барыс Храловіч яшчэ ў школе захапляўся спортам, а потым, калі паступіў на вучобу ў інстытут фізкультуры, паставіў перад сабою ясную мэту — стаць майстрам спорту. Не адзін месяц і не адзін год трэніраваўся ён пад кіраўніцтвам Т. Рэнеля. Нават таварышы здзіўляліся яго настойлівасці і ўпартасці. Трэніраваўся ён і да заняткаў і пасля іх, у парку і на дарожцы стадыёна...

І вось Барыс на дваццацікіламетровай дыстанцыі. Хто хоць крыху ведае, што ўяўляе сабою спартыўная хадзьба, той ведае і якія цяжкасці стаяць перад спартсменам. Але Барыса не палохалі ўжо цяжкасці, ён дакладна разлічыў свае сілы. Разлікі апраўдаліся. Фінішная істужка легла на грудзі юнака якраз праз столькі часу, колькі патрэбна, каб, пераадолеўшы дваццацікіламетровы шлях, стаць майстрам спорту. І трэнер, і сябры, і, асабліва, сам Барыс вельмі рады былі гэтай перамозе.

Здарылася гэта сёлета, у адзін выдатны чэрвеньскі дзень.

А Яўген Трафімовіч вырашыў пайсці па слядах сённяшняга чэмпіёна краіны па прыжках у вышыню з шастом Уладзіміра Булатава. Таварышы па вучобе, трэнеры з задавальненнем адзначалі рост паказчыкаў Яўгена. Настойлівасць, парады трэнера дапамаглі яму паступова авалодваць складанай тэхнікай прыжкоў з шастом.

Акрамя спецыяльных трэніровак, Яўген займаўся і акрабатыкай, і штангай, і гімнастыкай, і многімі іншымі відамі спорту.

Упершыню да нормы майстра Яўгену ўдалося наблізіцца толькі праз пяць гадоў пасля трэніровак і заняткаў спортам. У 1957 годзе ён заваяваў званне чэмпіёна Савецкай Арміі, узяўшы вышыню 4 м 30 см. Але гэтага было яшчэ недастаткова для звання майстра. Толькі праз год Яўген дасягнуў пастаўленай мэты. На спаборніцтвах у Вільнюсе, якія адбыліся ў чэрвені гэтага года, ён перамог рэкардсмена СССР Уладзіміра Булатава і стаў майстрам спорту.

Цікавая спартыўная барацьба ішла сёлетнім летам не толькі сярод вопытных ужо спартсменаў, але і сярод юных. У кожным раёне, у кожнай вобласці праходзілі спаборніцтвы школьнікаў.

На спаборніцтвах школьнікаў Брэсцкай вобласці можна было назіраць нямала выдатных выступленняў юных бегуноў, цяжкаатлетаў, лёгкаатлетаў і, асабліва, гімнастаў. Не абышлося тут і без «сюрпрызаў». Адным з такіх «сюрпрызаў» і было выкананне нормы майстра спорту выпускніцай адной з Брэсцкіх школ — Дзінай Кавалёвай. У мнагаборстве юная гімнастка набрала 72,7 бала. А гэта — норма майстра спорту!

Мы расказалі, вядома, далёка не аб усіх тых спартсменах-аматарах, якім удалося сёлета выканаць нарматывы майстроў спорту. Зрабіць гэта, вядома, цяжка. Пажадаем лепш усім — і спрактыкаваным і юным майстрам — далейшых поспехаў, няхай яны больш заўзята штурмуюць рэкорды!

### Іх было мільён

Што было самым цікавым у спартыўным жыцці нашай рэспублікі? На гэта пытанне адказаць нялёгка.

Хіба гэта не выдатная падзея, што ў рэспубліканскай спартакіядзе камсамольцаў і моладзі па ваенна-прыкладных відах спорту ў гонар 40-годдзя БССР і юбілею камсамола ўдзельнічала каля мільёна юных патрыётаў? А колькі ініцыятывы і знаходлівасці праявілі многія калектывы фізкультуры!

Вось спартсмены Іванаўскага раёна. Яны пры ўдзеле ў спартакіядзе спаборнічалі разам з гэтым са сваімі сябрамі з Любашэўскага раёна Валынскай вобласці Украіны.

На спартакіядзе паказвалі сваё майстэрства аматары-лётчыкі, авіямадэлісты, марскія мнагаборцы, аўтамабілісты... Гледачы захапляліся ўменнем нашых юнакоў і дзяўчат вадзіць паветраныя караблі, лоўкасцю фігурыстаў-матацыклістаў і аўтамабілістаў і многіх іншых энтузіястаў ваенна-прыкладных відаў спорту. І бадай не так важна, хто заваяваў у якой праграме прызы, як цікава незвычайная масавасць спартакіяды. А колькі яшчэ юнакоў і дзяўчат, убачыўшы на спаборніцтвах сваіх аднагодкаў, прыдуць у гурткі лётчыкаў, авіямадэлістаў, марскіх мадэлістаў, матацыклістаў і аўтамабілістаў, каб самім стаць такімі ж лоўкімі і смелымі!..

Не так даўно ЦК ВЛКСМ і ЦК ДТСААФ падвялі вынікі Усесаюзнай спартакіяды, часткай якой была наша рэспубліканская. І вось што выявілася! Беларускія спартсмены-парашутысты М. Шаіпаў, Ю. Вячэра, Г. Паддубоцкі, В. Налівайка і Н. Грамыка сталі рэкардсменамі свету, а парашутыстка В. Зубава ўстанавіла новы ўсесаюзны рэкорд. Беларуская арганізацыя узнагароджана граматай ЦК ДТСААФ.

### Дарога ў вялікі спорт

Калі запытацца, адкуль бяруцца ў нас славутыя майстры спорту, бадай кожны з нас, не задумваючыся, адкажа: яны растуць з моладзі, з юных спартсменаў. Сённяшнія нашы юныя спартсмены — гэта будучыя чэмпіёны і рэкардсмены. Аб спартыўнай змене няспынна клапоцяцца наша грамадскасць — партыйныя, савецкія, камсамольскія і прафсаюзныя арганізацыі.

Добрыя мерапрыемствы ў гэтым напрамку праведзены сёлета ў Брэсцкай вобласці. Абком партыі і аблвыканком у маі месяцы бягучага года прынялі разгорнутую пастанову аб палепшанні фізічнага выхавання школьнікаў. Побач з мерапрыемствамі па паляпшэнню выкладання фізкультуры ў школах намечана стварыць трывалую спартыўную базу.

Толькі метадам народнай будоўлі ў вобласці будзе пабудавана 18 спартыўных залаў. У школах перабудоўваецца і пераабсталёўваецца 100 стадыёнаў, 300 комплексных спартыўных пляцовак, 100 валейбольных і 600 баскетбольных пляцовак, 150 стралковых ціраў, 10 тэнісных кортаў.

Апроч таго, у вобласці праводзіцца серыя конкурсаў на лепшую пастаноўку фізічнага выхавання школьнікаў. Неўзабаве брэсцкія спартсмены-школьнікі змогуць рапартаваць аб тым, што ў іх ёсць дзе займацца любімымі відамі спорту кожнаму, хто пажадае.

### На дыстанцыях кросу

Добра прайшоў у рэспубліцы асенні лёгкаатлетычны камсамольскі крос. Гэта — самае масавае мерапрыемства, у ім удзельнічалі фізкультурныя калектывы прадпрыемстваў, устаноў, калгасаў і саўгасаў.

Першыя ж дні кросу паказалі, што сёлета да яго моладзь рыхтавалася значна лепш, чым у мінулыя гады. Новыя, дагэтуль нікому невядомыя юнакі і дзяўчаты выступалі не горш, а часам нават лепш, чым мінулагоднія чэмпіёны.

Вось што здарылася ў Віцебску. Ніхто тут не сумняваўся ў перамозе мінулагодняй чэмпіёнкі Надзі Далманавай, якая стартавала ў другім забегу на дыстанцыю 1 000 метраў. Але якое было ўсеагульнае здзіўленне, калі аказалася, што маладая работніца завода радыёдэталей Ніна Барысава, якая стартавала ў першым забегу, прайшла дыстанцыю на 1 секунду хутчэй чэмпіёнкі!

Шмат цікавага было ў дні кросу і ў Бабруйску. У фінале кросу, у якім удзельнічалі каманды 32 калектываў фізкультуры, выявілася нямала новых разраднікаў. Нарматывы разраднікаў выканала 59 чалавек.

У Гомелі і ў Гродна, у Мазыры і ў Брэсце, у раённых цэнтрах і ў нізавых калектывах фізкультуры выявіліся ў дні кросу новыя разраднікі, новыя чэмпіёны.

Многа «нечаканасцей» было ў час фіналу кросу ў Мінску. Мала каму да фіналу гаварылі што-небудзь імёны Паліны Еўдакавец і Уладзіміра Кічыгіна з Гомеля, Таісы Панковай з Брэста і многіх іншых, якія занялі прызавыя месцы і паказалі высокія вынікі.

Пераможцай у агульнакамандным заліку стала каманда спартсменаў сталіцы, лепшыя з лепшых абаранялі гонар рэспублікі на Усесаюзным фінале кросу ў Краснадары.

**М. МАРУШКЕВІЧ.**

# Разгорнем карту роднага краю

## „Далоў самадзяржаўе!"




Рэвалюцыйныя падзеі 1905—1907 гг. ускалыхнулі шырокія масы насельніцтва Беларусі. У гэтых падзеях вялікую ролю адыграла і мастацкая інтэлігенцыя, у прыватнасці члены «Таварыства аматараў прыгожага мастацтва» г. Мінска. Аб гэтым красамоўна сведчаць дакументы, якія знаходзяцца ў Дзяржаўным архіве Мінскай вобласці.

У спецыяльным дакладзе Міністру ўнутраных спраў паведамлялася наступнае: «18 лютага 1905 года ў памяшканні Мінскага таварыства аматараў прыгожага мастацтва ў часе чытання лекцыі «Пра Чэхава» сабраўся спачатку па білетах, а затым і без білетаў велізарны натоўп, да 1 000 чалавек... Пасля лекцыі на кафедру пачалі ўзыходзіць і гаварыць прамовы рэвалюцыйнага зместу розныя людзі, і кожная прамова заканчвалася крыкамі «Далоў самадзяржаўе!», «Няхай жыве рэспубліка!». Паліцыя спачатку была прыціснута да сцяны, а затым яе адцяснілі да лесвіцы. Сход разышоўся а палове дванаццатай гадзіны ночы і выйшаў з памяшкання Таварыства прыгожага мастацтва трыма групамі. Такім чынам першая дэманстрацыя ў горадзе Мінску адбылася іменна ў памяшканні названага таварыства»...

З наступленнем зімовага сезону 1905 г. члены таварыства пад выглядам розных лекцый, а таксама заняткаў у асобных секцыях пачалі шырокае абмеркаванне палітычных пытанняў. Актыўнымі і найбольш рэвалюцыйна настроенымі дзеячамі таварыства былі: В. І. Чавусаў (старшыня таварыства), настаўнік Мінскай мужчынскай класічнай гімназіі С. І. Мядзведзеў і К. А. Фальковіч (абодва прымалі непасрэдны ўдзел у падрыхтоўцы палітычных выступленняў вучняў), былы рэдактар газеты «Северо-Западный край» М. П. Мысаўскі, які вярнуўся з высылкі, і С. Д. Камінскі, які пасля быў арыштаваны.

Пасля лютаўскай дэманстрацыі дзейнасць таварыства была пад неаслабным наглядам жандарскага ўпраўлення і паліцыі. Разглядам спраў таварыства займаўся і старэйшы чыноўнік асобых даручэнняў Куцынскі. У паліцыю пачалі даходзіць звесткі аб тым, што ў таварыстве пад выглядам сямейных і танцавальных вечароў наладжваюцца дэманстрацыі з раздачай пракламацый. Але даказаць гэта паліцыі доўгі час не ўдавалася, таму што, паводле сведчання таго, хто пісаў даклад, «... кожнае паяўленне чыноў паліцыі сустракалася вельмі недружалюбна і ўстанавіць шляхам паказанняў сведак сам факт антыўрадавай дэманстрацыі было не толькі цяжка, але і немагчыма пры агульнай салідарнасці сабранага народа...»

У студзені 1906 года дзейнасць таварыства яшчэ больш актывізавалася. Як відаць з даклада, «...вучнёўская моладзь... ператварае вечары і лекцыі ў недазволеныя сходы, а маскарады з прэміямі за лепшыя касцюмы — у адкрытую выстаўку карыкатур на ўрад, узятых з сучасных гумарыстычных супрацьурадавых часопісаў.

Вечары і бенефісы, якія збіраюцца нібы з дабрачыннай мэтай у карысць якога-небудзь акцёра, на самай справе служаць зборам грошай на рэвалюцыйныя мэты...»

І толькі пасля таго, як 24 студзеня 1906 года з пракламацыямі быў затрыманы чыгуначнік І. А. Шлегер, «... які проста заявіў, што адну з іх ён атрымаў у таварыстве», паліцыя атрымала яўныя доказы. 8 лютага 1906 года дзейнасць таварыства была забаронена, а некаторыя з яго членаў арыштаваны.

**Г. БАРЫШАЎ.**




# Філасаф з маленькай вёскі

Ёсць на Беларусі невялічкая вёска Жукаў Барок, якая знаходзіцца ў трынаццаці кіламетрах ад Міра і дзесяці кіламетрах ад Стоўбцаў, на левым беразе Нёмана пры ўпадзенні ў яго рэчкі Ячанкі. Калісьці вёска належала князям Радзівілам. У ёй было ўсяго некалькі хат, вадзяны млын, карчма ды прыстань на Нёмане, адкуль адпраўляліся рачныя баржы і віціны з таварамі ў Прусію.

Тады ж тут, сярод абадраных, басаногіх аднагодкаў, бегаў чарнагаловы хлопчык, які стаў пасля вядомым пісьменнікам і філосафам. Гэта было ў далёкія гады XVIII стагоддзя. Гутарка ідзе пра чалавека, якога звалі Саламон Маймон.

З асабіста напісанай С. Маймонам аўтабіяграфіі мы даведваемся, што ён нарадзіўся ў 1754 г. і што каля палавіны свайго жыцця пражыў у Беларусі; другая палавіна прайшла ў пошуках ведаў і работы за граніцай: у Германіі, Польшчы, Галандыі.

С. Маймон вельмі рана палюбіў кнігі. У доме яго бацькі — арандатара карчмы ў Жукавым Барку — мелася добрая па таму часу прыватная бібліятэка. Ужо ў сямігадовым узросце Саламон чытаў гістарычна-філалагічныя і астранамічныя творы і нават зрабіў сабе з прутоў нешта накшталт глобуса. Але бацьку хацелася, каб сын стаў рабінам, і таму ён старанна вучыў яго біблії і талмуду.

Магчыма, жыццё Маймона і склалася б так, як хацеў бацька, каб не адна акалічнасць, якая кінула сям'ю ў галечу і беднасць. Паміж Радзівіламі і яўрэем арандатарам адбыўся нечаканы канфлікт, у выніку якога арандатар быў выгнаны з роднага гнязда і вымушаны быў весці вандроўнае жыццё.

Саламона неўзабаве ажанілі на дачцы гаспадыні пастаялага двара ў Нясвіжы. Праз два гады ён ужо стаў бацькам і павінен быў зарабляць хлеб самастойна.

Але С. Маймон не пакідае і заняткаў навукамі. Ён вывучае фізіку, оптыку, медыцыну. З філасафаў яго ўвагу асабліва прыцягваў у гэты час буйнейшы прадстаўнік яўрэйскай філасофіі, паслядоўнік Арыстотэля Майманід. Ад яго ён і ўзяў сабе прозвішча Маймон. Пад уплывам прачытаных кніг, галоўным чынам нямецкіх, С. Маймон вырашыў пасяліцца ў Германіі, дзе намерваўся грунтоўна заняцца медыцынай. Таму ў 1777 г. ён пешшу ідзе спачатку ў Кенігсберг, а адтуль — у Берлін. Але яго, беднага і іншаземнага яўрэя, нават не пусцілі ў горад. С. Маймон павінен быў шукаць сабе прыстанішча і работы. Вяртаючыся на радзіму, ён затрымаўся ў Пазнані і наняўся служыць у адной багатай сям'і. У вольны ад работы час займаўся навукамі, знаёміўся з творамі навейшай філасофіі, у прыватнасці з творамі англійскага матэрыяліста Джона Лока. Тут ён пачаў пісаць на яўрэйскай мове свае першыя філасофскія эцюды. Праз два гады ён зноў накіраваўся на Захад, і на гэты раз не дарэмна. Ён быў прыняты вядомым у той час нямецкім філосафам М. Мендэльсонам і дзякуючы яму атрымаў магчымасць займацца больш сістэматычна медыцынай, фізікай, філасофіяй, матэматыкай. Неўзабаве С. Маймон набывае шырокую вядомасць у Германіі і Галандыі, становіцца жаданым госцем у багатых салонах.

У канцы 80-х гадоў ён знаёміцца з кнігай Канта «Крытыка чыстага розуму» і падмячае ў ёй асноўнае пярэчанне — жаданне нямецкага філосафа прымірыць матэрыялізм з ідэалізмам. Маймон выступае з крытыкай кантаўскай «рэчы ў сабе», але ён крытыкуе Канта «справа», ствараючы больш паслядоўную ідэалістычную сістэму, якую пазней развіў Фіхтэ. Азнаёміўшыся з рукапісам С. Маймона, Кант прызнаў яго даволі грунтоўным і параіў аўтару абнародаваць яго. Праца С. Маймона выйшла ў свет у 1790 г., звярнуўшы на сябе ўвагу нямецкіх філосафаў і пісьменнікаў, у тым ліку Гётэ і Шылера. У наступным, 1791 г. выйшла з друку другая яго праца на яўрэйскай мове пад назвай «Гібат га-Морэ». У ёй разглядаюцца праблемы тэорыі пазнання і этыкі. У вырашэнні іх С. Маймон стаіць бліжэй да Канта, чым да Фіхтэ, хоць апошні і называў яго сваім папярэднікам. Наогул, трэба адзначыць, што С. Маймон ніколі не дагаварваўся да тых крайніх суб'ектыўна-ідэалістычных вывадаў, якія пазней развіў у сваіх работах Фіхтэ.



Усяго С. Маймон напісаў каля трыццаці прац па філасофіі і матэматыцы. Але сапраўды шырокую папулярнасць прынесла яму двухтомная праца «Гісторыя жыцця Саламона Маймона, напісаная ім самім», выдадзеная ў 1792 г. Гэты твор сучаснікі не без падстаў параўноўвалі са «Споведдзю» французскага асветніка Жан Жака Русо.

Для нас асаблівую цікавасць мае першы том аўтабіяграфіі С. Маймона, паколькі ў ім гутарка ідзе аб тагачасным грамадскім жыцці ў Беларусі, даецца апісанне некаторых беларускіх гарадоў і сёл. Тут С. Маймон апавядае таксама аб тым, як Радзівілы і іх упраўляючыя здзекваліся з мясцовых жыхароў, як пагарджалі яны яўрэем арандатарам. Вось некалькі прыкладаў.

Праз вёску, дзе жыў дзед і бацька С. Маймона, праходзіў вялікі гасцінец. Абавязкі па рамонту маста ўскладаліся на арандатара. Здаралася, што які-небудзь польскі вяльможа, праязджаючы цераз мост са сваёй світай, знаходзіў якія-небудзь непаладкі. Тады хапалі арандатара, прыгонных сялян і тут жа білі іх лазой. Аднойчы, расказвае С. Маймон, калі дарослыя ўцяклі, панскія слугі злавілі яго бацьку, якому тады было 8 год, і, здзекуючыся з яго, прымусілі выпіць вядро вады.

У біяграфіі С. Маймона можна знайсці цікавыя прыклады таго, як паводзілі сябе тады царкоўнікі. У вёсцы Жукаў Барок жыў поп. Гэта быў малапісьменны чалавек, які заўсёды сядзеў у карчме і піў гарэлку ў доўг, але ніколі за яе не плаціў. А калі, нарэшце, карчмар перастаў даваць яму гарэлку без грошай, поп жорстка яму адплаціў. Здарылася гэта так. У Нёмане ў той час вадзіліся бабры, якія лічыліся ўласнасцю Радзівілаў. Нягледзячы на забарону, сяляне ўпотай ноччу лавілі іх і збывалі карчмару. Аднойчы ў час начнога «палявання» адзін селянін замест бабра вылавіў тапельца. Калі ён прышоў да папа, каб тапельца пахаваць, поп прыстрашыў яго, што данясе аб гэтым Радзівілу, і прапанаваў аднесці тапельца карчмару пад выглядам бабра. Селянін так і зрабіў, як параіў яму «святы айцец». Тым часам поп уварваўся ў дом карчмара і пачаў абшукваць яго. Знайшоўшы мяшок з трупам чалавека, ён абвінаваціў яго ў тым, што ён быццам бы забіў чалавека на «мацу». Карчмара закавалі ў ланцугі і кінулі ў падзямелле Мірскага замка. Калі справа нарэшце высветлілася, яго вызвалілі, селяніна пабілі лозамі, але, як кажа С. Маймон, «поп застаўся папом».

Усе гэтыя прыклады С. Маймон падае на шырокім сацыяльным фоне, паказваючы цяжкае становішча працоўных мас пры феадалізме і бестурботнае, разгульнае жыццё пануючых класаў. Разам з тым ён апавядае чытачу аб тым, як у гэтых умовах фармаваліся яго філасофскія і грамадскія погляды.

С. Маймон памёр у 1800 г. у Сілезіі, калі яму было 46 гадоў.

**М. АЛЕКСАНДРОВІЧ,**
**кандыдат філасофскіх навук,**
**Ул. УРБАНОВІЧ,**
**настаўнік Райчанскай сярэдняй школы Карэліцкага раёна.**




# Чэрвень

На гербе старадаўняга Ігумена (так раней называўся Чэрвень) было намалявана пяць пчол вакол куста кветак. Гэта азначала, што пчалярства з'яўлялася галоўным заняткам насельніцтва Чэрвеньшчыны.

Паданне звязвае ўзнікненне горада з грэчаскай ігуменняй, якая нібыта хрысціла мясцовых жыхароў у XII стагоддзі.

Да XIV стагоддзя Чэрвеньшчына належала да Полацкага княства, а ў 1387 г. літоўскі князь Ягайла перадаў Ігумен у ліку іншых беларускіх паселішчаў свайму брату Скіргайлу. Пасля Ігумен належаў літоўскім магнатам Кязгайлам, адзін з якіх у 1447 годзе падараваў яго віленскім біскупам. У дакументах 1594 года Ігумен ужо завецца мястэчкам.

Не раз паўставалі сяляне Ігуменшчыны супраць сваіх прыгнятальнікаў.

У пачатку 1649 года яны разам з казакамі разбілі пад Ігуменам атрад пана Паца. На палях цяперашняй Чэрвеньшчыны распраўляліся з панамі казакі Нябабы.

Чэрвеньшчыну неаднаразова тапталі чужынцы, але кожны раз яны адыходзілі адсюль з ганьбай. Праз Ігумен ішоў Карл XII да Палтавы. Тут ён ледзь не ўтапіўся ў возеры, якое цяпер перасохла. У 1812 годзе цераз раку Ігуменку пераправўлялася французская артылерыя. Тут у 1863 годзе дзейнічалі супраць царскай улады атрады Эсьмона і Свентаржэцкага.

Доўгія гады Ігумен знаходзіўся ў руках літоўскіх і польскіх феадалаў. Далучаны да Расіі ён у 1795 годзе. Горад у XIX—пачатку XX стагоддзя быў вельмі бедны. У даведніку 1866 года гаворыцца: «уся прамысловая дзейнасць горада самая нязначная». Школ у 1866 годзе было дзве — на 67 вучняў, а цэркваў і малітоўных дамоў — 7. У 1878 годзе ў Ігуменскім павеце, які перавышаў сучасны Чэрвеньскі раён у некалькі разоў, быў адзін урач і адзін фельчар. Павет па сяўбе азімых і бульбы быў на апошнім месцы ў Мінскай губерні, якая наогул не вызначалася высокай ураджайнасцю.

Калісьці ігуменскія мяды не ўступалі лепшым мядам Літвы і Польшчы. Але к канцу XIX стагоддзя і пчалярства на Чэрвеньшчыне занялала. Вёска галела. Беднякі пакідалі свае гаспадаркі і ішлі на заработкі. У 1891 годзе на лясныя промыслы з павету пайшло 8 тысяч сялян.

Не дзіва, што змучаныя галечай сяляне ў 1905 годзе падняліся на паноў. У вёсках Клінок і Волма яны адмовіліся плаціць грошы за пасьбу жывёлы, за збор ягад і грыбоў у казённым лесе. У Кліноцкай воласці яны секлі панскі лес. У кастрычніку сяляне вёсак Гудавічы і Вярхменне пасвілі жывёлу на зямлі пана Ельскага. Калі той паспрабаваў сагнаць жывёлу, сяляне збілі яго. У павеце дзейнічала група бальшавіка Парамона. У кастрычніку ў Ігумене дэманстрацыя насельніцтва супраць цара перарасла ва ўзброеную сутычку з паліцыяй. Дэманстранты падпілавалі тэлеграфныя слупы і перарвалі сувязь з Мінскам. Рух быў задушаны пры дапамозе казакаў. У студзені 1906 года мінскі губернатар паведамляў у Пецярбург: «становішча горада Ігумена і павета... небяспечнае, і хваляванне сярод сялян працягваецца і ў сучасны момант». Улады арыштоўвалі «агітатараў» і «зачыншчыкаў» сялянскіх непарадкаў.

Першая сусветная вайна пагоршыла становішча працоўных. Насельніцтва адкрыта праяўляла сваю незадаволенасць. У жніўні 1914 года мабілізаваныя ў войска сяляне разграмілі Ігумен, Буду і іншыя маёнткі і забілі паліцмайстара.

Калі ў лютым 1917 года цар быў звергнуты, на першую дэманстрацыю рабочыя Іванаўскай калодачнай фабрыкі (цяпер Калодзежскі сельсавет) выйшлі з чырвонымі сцягамі і патрабаваннем 8-гадзіннага рабочага дня. У пачатку мая рабочыя лесапільнага завода ў Градзенцы дамагліся ўвядзення 8-гадзіннага рабочага дня. 7 мая і 16 чэрвеня ў Ігумене адбыліся павятовыя з'езды сялянскіх і рабочых дэпутатаў. Яны пастанавілі лічыць зямлю ўсенароднай уласнасцю без права продажу яе. Быў створаны павятовы Савет рабочых і сялянскіх дэпутатаў. Хутка пачаў працаваць камітэт партыі бальшавікоў, які дабіўся таго, што на выбарах ва Устаноўчы сход пераважную большасць атрымаў бальшавіцкі спіс.

З перамогай Кастрычніцкай рэвалюцыі ўся ўлада ў павеце перайшла да Саветаў. Але напад контррэвалюцыйных сіл перашкодзіў мірнаму жыццю Савецкай рэспублікі. Польскія легіянеры Доўбар-Мусніцкага, кайзераўскія салдаты і белапольскія войскі рабавалі насельніцтва, палілі вёскі, расстрэльвалі членаў камітэтаў бедняты, матросаў, сялян. Жыхары супраціўляліся ворагу. Партыйныя арганізацыі вялі падпольную барацьбу, узначальвалі партызанскія атрады. Летам 1920 года Чырвоная Армія ачысціла Чэрвеньшчыну ад ворага. 16 ліпеня пачаў сваю працу Ігуменскі рэўком. Сяляне горача віталі вызваліцеляў, ішлі добраахвотна ў Чырвоную Армію. У 1921 годзе Ігумен быў перайменаваны ў Чэрвень у памяць вызвалення яго ад белапалякаў у чэрвені 1920 года.

За гады савецкай улады Чэрвеньшчына непазнавальна змянілася. Раён быў поўнасцю калектывізаваны. Да 1941 года ў ім было 108 школ, 132 дзіцячыя яслі і сады, 23 бальніцы і медпункты.

Мірная праца савецкіх людзей была перапынена зверскім нападам фашыстаў. Гітлераўцы палілі вёскі, расстрэльвалі тысячы мірных жыхароў. У адказ на здзекі ворага на Чэрвеньшчыне рос партызанскі рух. Атрады імя «Праўды», імя Панамарэнкі, імя Калініна, «Перамога», брыгада Флегантава і іншыя не давалі ворагу дыхнуць, узрывалі эшалоны і масты, знішчалі воінскую сілу гітлераўцаў. Сярод партызан было шмат моладзі. У атрадзе імя «Праўды», якім камандаваў камсамолец Ул. Таболін, было 130 камсамольцаў. Шмат з іх загінула ў баях супраць чужынцаў. Студэнт сельскагаспадарчага тэхнікума Іван Чычэрын, прывязаўшы да спіны ўзрыўчатку, кінуўся пад бронецягнік і ўзарваў яго. Аб гэтым партызаны даведаліся ад палонных.



Камсамольцы 1-й Мінскай брыгады стварылі групы сувязі паміж райкомам партыі і яго друкарняй і брыгадамі, якія рэгулярна перадавалі газеты ў іншыя брыгады.

3 ліпеня 1944 года Чэрвень быў вызвалены ад фашыстаў. Пасля вайны ў раёне адноўлена электрастанцыя, пабудаваны механізаваны маслазавод, райхарчкамбінат, швейная і мэблевая арцелі.

Расце культура раёна. Цяпер тут працуе раённая бальніца на 175 ложкаў, 4 сельскія бальніцы і 14 фельчарска-акушэрскіх пунктаў. Побач з дзённымі, працуюць тры вячэрнія школы, школа медсясцёр, музычная школа, дзіцячая спартыўная школа.

Моладзь Чэрвеньшчыны прымае актыўны ўдзел у працы. На асваенне цалінных зямель паехала 157 маладых чэрвеньцаў. Высокіх паказчыкаў у працы дабіліся маладыя рабочыя промарцелі «Працаўнік», саўгаса «Будзёнавец», даярка якога І. Ліпніцкая атрымала ў 1957 годзе ад кожнай каровы 3 530 кілаграмаў малака, калгаснікі калгасаў імя Энгельса, «Бальшавік» і інш. Некалькі маладых калгаснікаў узнагароджаны ордэнамі і медалямі за поспехі ў развіцці сельскай гаспадаркі.

**В. ГРЫЦКЕВІЧ.**




# Музей юных краязнаўцаў

Заходзіш у гэты невялікі пакой і адразу спыняешся ўражаны. Проста перад табой сядзіць на камені першабытны чалавек. На плячах у чалавека — мядзведжая скура. Не вельмі цёпла ў ёй. І таму чалавек расклаў вогнішча. Побач — прымітыўны станок для здабычы агню. Яго чалавек нядаўна вынес з пячоры, што чарнее за ягонай спіной.

Глядзіш на ўсё гэта і міжволі прыгадваеш: дзе ўсё гэта я ўжо бачыў? Ну, канешне, у падручніку па старажытнай гісторыі. Толькі там — невялічкі малюнак. А тут — даволі ёмкі макет.

Гэты макет — праца членаў школьнага гуртка лепкі камсамольцаў М. Гайдука, В. Мазалеўскай і Я. Сянкевіча. Праўда, цяпер яны ўжо не вучацца ў школе, скончылі яе. Але памяць пра сваю вучобу пакінулі добрую. З іхняга макета і пачынаецца першы аддзел школьнага краязнаўчага музея — «Наш край у старажытныя часы». Воддаль, у спецыяльных стэндах пад шклом, захоўваюцца разнастайныя прылады працы першабытнага чалавека. Тут і крамнёвыя наканечнікі стрэл, і нажы, і шкрабкі для апрацоўкі скур, і каменная сякера. Усё гэта — знаходкі дапытлівых юных краязнаўцаў. Дзе б ні былі яны— у паходзе, на калгаснай працы ці на звычайнай пагулянцы — усюды ўважліва прыглядаюцца да ўсяго, што іх акружае. І вось вынік — некалькі дзесяткаў вельмі каштоўных экспанатаў.

Але не толькі прадметы старажытнасці цікавяць школьных гісторыкаў.

Шмат каштоўных матэрыялаў і рэдкіх дакументаў сабралі яны ў мясцовых старажылаў аб тым, якімі былі родная вёска і раён да рэвалюцыі, як тут жылі людзі. Паводле гэтых матэрыялаў юныя мастакі-лепшчыкі зрабілі макет хлебароба тых часоў. Выдатна выкананы ён І худы конь, і прымітыўная саха, і змардаваны селянін у лыкавых лапцях— усё нагадвае цяжкую мінуўшчыну. Непадалёк ад гэтага макета — сялянская хата з саламянай страхой.

А насупраць — новенькі шырокааконны дом. Унутры лямпачкі Ільіча, прыгожая мэбля. Ва ўсім адчуваецца багацце, культура. Так жывуць тутэйшыя калгаснікі зараз.

Але мы забеглі наперад. Перад аддзелам, які апавядае аб сучаснасці, ідуць аддзелы, прысвечаныя радаснай падзеі ў жыцці беларускага народа — уз'яднанню заходніх абласцей у адзінай Савецкай дзяржаве. Тут таксама — запісы расказаў людзей старэйшага пакалення, выразкі з газет, фотаздымкі тых часоў.

Далей — аддзел, які апавядае аб Вялікай Айчыннай вайне. Побач з іншымі экспанатамі гэтага аддзела асаблі-

ва красамоўны адзін — кавалак бляхі з даху Брэсцкай крэпасці. Кавалак гэты памерам з вучнёўскі сшытак, а ў ім мноства прабоін ад куль і асколкаў.

Не забыліся юныя гісторыкі-краязнаўцы і аб флоры і фауне роднага краю, яго карысных выкапнях, аб росце сеткі прамысловых прадпрыемстваў. На гэтыя тэмы аформлены спецыяльныя стэнды, карты, фотаальбомы.

Кіраўнік гуртка юных гісторыкаў-краязнаўцаў Васіль Піліпавіч Ускоў расказвае:

— Наш музей створаны па ініцыятыве камсамольцаў школы. Яму трэці год. Паспелі зрабіць за гэты час не так ужо многа. Але асноўныя аддзелы афармілі. Зараз перад намі стаіць задача — пашырыць іх і папаўняць новымі экспанатамі. Чым больш іх будзе, тым лепш вучні змогуць вывучыць гісторыю роднага краю ды і наогул гісторыю. Ну, а наколькі гэта важна, гаварыць, думаю, няма патрэбы.

**Я. КУРТО.**

Гродзенская вобласць,
Карэліцкі раён,
в. Валеўка.

## ЗМЕСТ



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «Зрабі сам!»**

# ДА ЎВАГІ ПАДПІСЧЫКАЎ!

З 1 кастрычніка
адкрыта падпіска на часопіс „Маладосць“
на 1959 год

Падпісная цана:

| на год | на 6 м-цаў | на 3 м-цы |
|---|---|---|
| **48-00** | **24-00** | **12-00** |

Падпіска прымаецца ва ўсіх канторах, аддзяленнях сувязі, аддзелах «Саюздруку», у пунктах прыёму падпіскі, грамадскімі распаўсюджвальнікамі друку на фабрыках, заводах, будоўлях, у калгасах, саўгасах, РТС, МТС, навучальных установах, ва ўстановах, а таксама калгаснымі паштальёнамі.

Своечасова афармляйце падпіску на часопіс «Маладосць» на ўвесь 1959 год.

Доўгатэрміновая падпіска гарантуе бесперабойнае атрыманне часопіса на працягу ўсяго года.

**Газетна-часопіснае выдавецтва.**



**Пачатак восені.** Фота А. Дзітлава.